ПРОЛЕТАРЫ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЕВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б
ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 5—6

30-е САКАВІКА 1935 г.

ЗМЕСТ

Стар.
**Перадавы**—Партыйнай рабоце — большэвіцкі размах . . . 2
**Л. Хейфец**—Барацьба за выкананне промфінплана—важнейшая задача . . . . 9
**І. Бенькові**ч—Работа сістэмы Белкаапромсовета і яго задачы . . . . . 20
**Ф. Дмітрыеў і Е. Залескі**—Правільна арганізаваць работу калгаснай брыгады на веснавой сяўбе . . 31
**А. Гарэлікаў**—Узняць жывёлагадоўлю на вышэйшую ступень . . . . . . 45
**А. Іваноў**—За далейшы ўздым дарожнай гаспадаркі БССР . . . . . . . 65

ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЕ

К чытачам „Большэвіка Беларусі" . . . . 75
**Г. Рубінштэйн**—Вышэй узровень партыйнай работы. 76
**І. Лейзер**—Парткалегія ў барацьбе за чыстату партыйных радоў, за здаровы стан партарганізацый . . 86
**П. Пасюкевіч**—Партгабінет—вашнейшае звяно ў арганізацыі партыйнай вучобы . . . . 95
**М. Эльнін**—Як партарганізацыя камбіната „Комінтэрн" рыхтуе і праводзіць партыйныя дні . . 104
**Б. Перачынскі**—Вопыт партыйнай работы на заводзе „Большэвік" . . . . . . . 108
**А. Канопік**—Аб перабудове партыйнай работы на фабрыцы „Окцябр" . . . . . . 111
**Х. Сухаліцкі**—Некаторы вопыт перабудовы партмасавай работы на швейнай фабрыцы „КІМ" (Менск) . 113

КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

**А. Любовіч**—Апалітычнасць і гнілы лібералізм . . 116
**Кніжная паліца** . . . . . . . 121
**Пастановы пленума і Бюро ЦК КП(б)Б** . . . 123

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.



# Партыйнай рабоце—большэвіцкі размах

Совецкая краіна пад геніяльным кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), пад кіраўніцтвам правадыра партыі і працоўных мас—тав. Сталіна, дабілася нябачаных поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай, справа соцыялізма перамагла канчаткова і беспаваротна.

Пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, пры пастаяннай дапамозе працоўных Совецкага саюза—БССР мае велізарнейшыя поспехі ў эканамічна-культурным будаўніцтве, якія знашлі сваё адлюстраванне ў атрыманні нашай рэспублікай вышэйшай узнагароды—ордэна Леніна.

Але толькі апартуністы могуць супакойвацца на дасягнутых поспехах. Яшчэ больш грандыёзныя задачы стаяць перад намі ўперадзе. У нас ёсць рад адстаючых участкаў, якія неабходна падцягнуць да ўзроўню перадавых; дасягнутыя поспехі мы яшчэ павінны замацаваць, каб рухацца ўперад ў справе пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Нельга забываць, што не выкарчаваны яшчэ да канца рэшткі эксплаататарскіх класаў, што працэс нараджэння новых капіталістычных элементаў канчаткова не спыніўся, што нашы поспехі выклікаюць яшчэ больш абвостраную і лютую барацьбу класавага ворага супроць партыі, супроць справы соцыялізма.

Зладзейскае забойства тав. Кірава белабандытамі-фашыстамі з ленінградскага і маскоўскага цэнтраў, актывізацыя трацкісцкіх, буржуазна-нацыяналістычных элементаў—яркі паказчык той контррэволюцыйнай работы, якую вядзе класавы вораг супроць партыі, супроць дыктатуры пролетарыята.

Контррэволюцыйнай рабоце класавага ворага дапамагае прытупленне пільнасці ў радзе партыйных арганізацый, сур'ёзныя заганы, якія яшчэ маюць месца ў нашай партыйнай рабоце. Павышэнне рэволюцыйнай пільнасці, разгортванне партыйнай работы—неабходнейшая і рашаючая ўмова поўнай расправы з класавым ворагам, выкрыцця яго шкодніцкай работы на кожным участку нашага будаўніцтва.

Рашаючымі прычынамі аслаблення партыйнай работы, як зусім правільна ўказвае орган ЦК ВКП(б)—«Правда», з'яўляюцца:

> «Неразуменне многімі партыйнымі кіраўнікамі ўсёй вострасці класавай барацьбы ў сучасны перыяд... і адсутнасць у сістэме партыйнага апарата, у гаркомах і райкомах, такога важнейшага інструмента, як аддзел партыйных кадраў, што пагоршыла работу партвыхавання, падбору і размеркавання партыйных кадраў, парушыла штодзенную сувязь гаркомаў і райкомаў

з пярвічнымі арганізацыямі, пагоршыла работу з масай комуністаў».

Рад партыйных арганізацый усё яшчэ не перабудавалі сваю работу адпаведна з рашэннямі XVII з'езда, не ўзнялі арганізацыйнага кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага, па-большэвіцку не разгарнулі палітычна-выхаваўчую работу, пусцілі на самацёк справу вырошчвання і падбору партыйных кадраў. На радзе ўчасткаў нашай работы не было іменна большэвіцкай пільнасці.

Пленум ленінградскага гаркома, красавіковы пленум ЦК КП(б)Б зусім правільна ўказалі, што многія партыйныя арганізацыі, замест глыбокай арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы, на першы план высоўвалі гаспадарчыя і совецкія пытанні, практыкавалі, замест большэвіцкай крапатлівай работы ў галіне палітычнага выхавання членаў партыі, папяровае кіраўніцтва, адміністраванне, аказёньваючы, такім чынам, гэту агромнай важнасці справу.

Той факт, што за апошні час рад партыйных арганізацый, райкомаў партыі не абгаварвалі пытанняў партработы, сведчыць аб тым, што яны не зрабілі ўсіх неабходных практычных вывадаў з рашэнняў XVII з'езда і ўказанняў т. Сталіна аб павышэнні арганізацыйна-партыйнай работы і ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў.

Гэта акалічнасць не магла не садзейнічаць аслабленню работы раду партыйных арганізацый, не магла не прывесці к таму, што пытанні выхавання комуністаў у значнай сваёй частцы былі пушчаны на самацёк, што ў сваю чаргу не магло не выклікаць у некаторых арганізацыях (Гарадок, Ельск, Мсціслаўль, Шклоў, завод імя Сталіна) паніжэння іх боездольнасці і аслабіць іх ролю, як баявых арганізатараў рабочых і калгасных мас. Тым часам іменна зараз з усёй вострасцю стаіць пытанне перад кожнай партыйнай арганізацыяй, перад кожным членам партыі аб павышэнні рэволюцыйнай пільнасці, узмацненні авангарднай ролі комуністаў, павышэнні адказнасці комуністаў, якія стаяць на перадавых пазіцыях барацьбы з класавым ворагам, арганізуюць мільёны мас у барацьбе за справу комунізма.

Партыйныя арганізацыі абавязаны зрабіць рашучы паварот да пытанняў партыйнай работы, большэвіцкага выхавання кадраў, павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню кожнага члена і кандыдата партыі.

У БССР, як пагранічнай рэспубліцы, пытанне пастаноўкі партыйнай работы на патрэбную ступень, ліквідацыі адставання арганізацыйна-партыйнай работы ад палітычнага кіраўніцтва, пытанні рэволюцыйнай пільнасці набываць выключна важнае палітычнае значэнне.

БССР, як ордэнаносная рэспубліка, як фарпост соцыялізма на мяжы з капіталістычным светам, павінна стаць узорнай у галіне партыйна-выхаваўчай работы, павінна быць кузняй большэвіцкіх кадраў, каб ператварыць на справе кожнага комуніста ў большэвіцкага арганізатара беспартыйных мас—рабочых і калгаснікаў.

Пленум ЦК КП(б)Б даў разгорнутую праграму арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ўсёй КП(б)Б. Барацьба за большэвіцкую рэалізацыю рашэнняў пленума ЦК КП(б)Б павінна быць у цэнтры ўвагі кожнай партыйнай арганізацыі.

Партыя выхавала і загартавала дзесяткі тысяч дасканалых, правераных у барацьбе за пабудову бясkласавага соцыялістычнага грамадства большэвікоў. За гэты перыяд узрос і загартаваўся наш партыйны актыў.

Аднак, не гледзячы на агромны рост нашых партыйных кадраў, пытанне аб іх застаецца і на сёння вельмі вострай і важнай праблемай.

Сутнасць большэвіцкага кіраўніцтва заключаецца іменна ў тым, каб здолець на кожным новым этапе соцыялістычнага будаўніцтва, у адпаведнасці са зменай абстаноўкі, у адпаведнасці з новымі задачамі, якія стаяць перад партыяй, забяспечыць правільную расстаноўку партыйных сіл, падбор іменна такіх кадраў, якія здолелі-б быстра, аперацыйна забяспечыць выкананне рашэнняў партыі, здолелі-б арганізаваць масы працоўных на выкананне пастаўленых партыяй задач. Усё наша будаўніцтва—справа рук жывых людзей, справа рук у першую чаргу большэвікоў—арганізатараў мас, актыўных удзельнікаў нашай соцыялістычнай будоўлі. Партыі ўсё больш і больш патрэбны кадры кіраўнікоў, якія ў новай абстаноўцы маглі-б забяспечыць выкананне яе задач.

Зусім натуральна, што пытанне партыйных кадраў мае рашаючае значэнне ў справе забяспечання выканання рашэнняў партыі. Зусім натуральна, што падрыхтоўка і вылучэнне партыйных кадраў павінны быць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных арганізацый. Партыйныя кадры трэба ўважліва вывучаць, своечасова вылучаць, вырошчваць, «як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва». Вырошчванне партыйных кадраў—вялікае мастацтва. Партыйныя кадры вырошчваюцца не ў цяплічнай абстаноўцы, а ў барацьбе з класавым ворагам, у канкрэтнай дзелавой большэвіцкай рабоце па будаўніцтву соцыялістычнага грамадства.

Задача вырошчвання партыйных кадраў набывае асабліва важнае значэнне ва ўмовах Беларусі, дзе склад партыйнай арганізацыі параўнаўча малады па свайму партстажу, а значыць і пытанні выхавання і вырошчвання нацыянальных партыйных кадраў патрабуюць упорнай, настойлівай, штодзеннай работы ўсіх партыйных арганізацый.

Для таго, каб вырошчваць кадры, вылучаць іх, перасоўваць, трэба ў першую чаргу ведаць людзей, вывучаць іх, а гэта вывучэнне партыйных кадраў пастаўлена ў нас вельмі дрэнна.

Даволі прывесці такі факт, што калі інструктарам менскага гаркома партыі прышлося назваць растучых людзей на менскіх прадпрыемствах, людзей, якіх можна было-б вылучыць на кіруючую работу, інструктарскі апарат гаркома з гэтай задачай справіўся дрэнна. Многія таварышы залічваліся ў актыў толькі на падставе таго, што яны часта выступаюць, тым часам як сапраўдны актыў, які на справе змагаецца за лінію партыі, быў мала вядомы інструктарам.

Выключна дрэнна наладжана ў нас справа падбору і вылучэння людзей. Возьмем рад фактаў з работы менскай і гомельскай партарганізацый.

Гомельская партыйная арганізацыя, якая налічвае да 2.000 членаў партыі, здавалася-б мела магчымасць выхаваць і вылучыць на кіруючую партыйную работу праверанья большэвіцкія кадры, сапраўды сур'ёзных і моцных большэвікоў, якім можна даверыць важнейшы ўчастак работы—партыйную заводскую арганізацыю.

А што аказалася на справе? Пры самым павярховым вывучэнні людзей інструктарам ЦК выяўлена, што сакратары раду партыйных арганізацый буйнейшых прадпрыемстваў, дзе мы павінны забяспечыць максімальную вытрыманасць і партыйнасць у рабоце, па сутнасці з'яўляюцца выхадцамі з чужога асяроддзя, людзьмі, якія значны час знаходзіліся ў бундаўскай арганізацыі.

Хіба нельга было вылучыць туды людзей моцных, праверапых, якія прашлі сур'ёзную большэвіцкую школу? Безумоўна можна было гэта зрабіць. Але бяда ў тым, што гомельскі гарком партыі не ведаў каго вылучае, а выяўленыя факты аказаліся для яго навіною.

Большэвіцкае вывучэнне чалавека павінна абавязкова спалучацца з пытаннямі класавай пільнасці.

Пытанне класавай пільнасці мы не можам ставіць абстрактна, як гэта зрабіў цэлы рад нашых партыйных арганізацый у сувязі з падзеямі, звязанымі з забойствам тав. Кірава.

Калі прагледзець прынятыя радам партыйных арганізацый рашэнні ў сувязі з падзеямі, выкліканымі забойствам тав. Кірава, то трэба прызнаць, што гэта—зусім правільныя, большэвіцкія рашэнні, але, калі пацікавіцца, якія-ж канкрэтныя захады прыняты для іх ажыццяўлення, то прыдзецца сказаць, што справа тут пастаўлена нездавальняюча.

Партарганізацыя Палесдруку ў сувязі з падзеямі, выклікапымі забойствам тав. Кірава, выносіць правільныя рашэнні, у якіх з усёй вострасцю і рэзкасцю ставіць пытанне аб класавай пільнасці, аб неабходнасці вывучаць і вырошчваць кадры, аднак праз тры дні пасля таго прымае на завод двух выключаных з партыі трацкістаў і дачку папа. І гэта пасля вострага рашэння наконт пільнасці і ведання людзей! Зусім ясна, што гэтыя партыйныя арганізацыі не зрабілі адпаведных вывадаў з падзей, якія звязаны з забойствам тав. Кірава. Па сутнасці дэкларацыйна паставілі пытанне аб пільнасці. Хіба не ясна, што такія метады работы нічога агульнага не маюць з ленінска-сталінскім стылем большэвіцкай работы.

Для большэвікоў пытанне вывучэння і ведання людзей не можа быць адарвана ад класавай пільнасці. На гэтым участку нам трэба зрабіць яшчэ вельмі і вельмі многа.

Як-жа на сёння пастаўлена ў нас справа вывучэння людзей? У вельмі многіх выпадках чалавека мы пазнаем толькі тады, калі ён правальваецца.

Былы сакратар Ельскага райкома партыі Аўласенко мае шэсць партыйных спагнанняў, пачынаючы з 1925 года. Калі-б гэтага Аўласенко своечасова перасунуць, даць меншую работу, можна было-б не дапусціць, каб ён атрымаў шэсць партыйных спагнанняў.

Адсутнасцю канкрэтнага падыходу да жывога комуніста, адміністраваннем, адсутнасцю выхаваўчай работы можна вытлумачыць такія факты, што ў сенненскай арганізацыі 43 проц. усіх комуністаў былі падвергнуты партыйным спагнанням. Паасобныя комуністы маюць 5—6 спагнанняў. Трэба рашуча пакончыць з практыкай падмены крапатлівай работы па вывучэнню і выхаванню людзей, з практыкай голага адміністравання, вынясення па любому повадў, а часам і без усякага сур'ёзнага повада партыйных спагнанняў. Няведанне людзей, канцэлярска-бюракратычныя метады работы—рэзультат забыцця партыйнай работы, рэзультат забыцця палітычнага выхавання комуністаў, рэзультат адставання арганізацыйнай работы ад палітычных задач.

Сакратары райкомаў і гаркомаў партыі, як указаў пленум ЦК КП(б)Б, павінны асабіста ведаць, не толькі на падставе ўліковых даных, а па канкрэтнай практычнай рабоце, сакратароў пярвічных партарганізацый, усіх парторгаў партыйна-комсамольскіх груп, а сакратары пярвічных партарганізацый і парторгі—кожнага комуніста

данай партарганізацыі. Партыйныя арганізацыі павінны дабіцца такой сістэмы вывучэння членаў партыі, якая-б забяспечыла штодзеннае кіраўніцтва справай ідэйна-палітычнага росту кожнага комуніста.

Партыйныя арганізацыі павінны сур'ёзна паставіць работу з кожным членам і кандыдатам партыі. Праз разгортванне партыйнай работы, праз арганізацыю комуністаў дабіцца таго, каб кожны комуніст стаў сапраўдным арганізатарам беспартыйнага актыва шырокіх беспартыйных мас на выкананне гаспадарчых задач.

На адным з сваіх выступленняў тав. Кагановіч паказаў, як трэба разумець трыкутнік і суадносіны розных яго бакоў. Агульная мэта—выкананне гаспадарчых і палітычных задач. І вось кожны па сваёй «лінеечцы»—партыйнай, гаспадарчай, профсаюзнай работы—накіроўвае свае намаганні да гэтага адзінага пункта. Разварот партыйнай работы, разварот палітычна-выхаваўчай работы сярод комуністаў—неабходная і рашаючая ўмова выканання задач, якія стаяць перад намі ў другой пяцігодцы.

Праблема разгортвання партыйнай работы, праблема выхавання і вырошчвання партыйных кадраў набывае для ўсёй КП(б)Б выключна агромнае палітычнае значэнне ў справе далейшых поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва, у справе новых перамог ордэнаноснай БССР.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на вырошчванне нацыянальных кадраў. Пытанне вылучэння—больш смелага вылучэння, як вучыць нас тав. Сталін,—нацыянальных кадраў павінна сёння стаць у цэнтры ўвагі аддзела партыйных кадраў.

У нас выраслі новыя беларускія кадры, правераныя партыяй, паказаўшыя сябе ў барацьбе і з нацдэмакратамі і з контррэволюцыйнымі зіноўеўцамі-троцкістамі. Гэтыя кадры трэба выхоўваць, над імі трэба працаваць, больш смела іх вылучаць. Гэтую важнейшую праблему—выхаванне, вылучэнне, вырошчванне партыйных кадраў беларусаў—павінны сур'ёзна, па-большэвіцку паставіць арганізуемыя аддзелы парткадраў.

Выключнае значэнне для выхавання партыйных кадраў, ідэйна-палітычнага росту комуністаў набываюць агульныя сходы. Сход—гэта важнейшае палітычнае мерапрыемства ў жыцці арганізацыі, гэта школа росту комуністаў, школа выхавання. Правесці сход—вялікая справа. Партыйны сход трэба так падрыхтаваць і правесці, каб ён узымаў кожнага члена партыі на вышэйшую ступень, узбройваў на выкананне чарговых задач, якія стаяць перад партыйнай арганізацыяй.

Таксама агромнае значэнне маюць для нас сістэматычныя і ўзорна падрыхтаваныя сходы комуністаў-адзіночак, улічваючы наяўнасць значнага проціанта членаў партыі ў сельскіх арганізацыях адзіночак. Адзіночкі ў нашых сельскіх арганізацыях выконваюць выключнай важнасці справу—арганізацыі калгаснага актыва, вырошчвання новых калгасных кадраў. Яны з'яўляюцца застрэльшчыкамі ў барацьбе за ператварэнне калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў—у заможных. Але гэтую задачу адзіночкі-комуністы з поспехам здолеюць выканаць, калі будуць узнімацца на вышэйшую ступень у сваім палітычным росце, калі будуць расці, як арганізатары мас. Трэба ўвесці ў практыку асабістае штодзеннае азнаямленне і вывучэнне работы кожнага комуніста-адзіночкі, даваць яму канкрэтныя заданні і дапамагаць як у рабоце з беспартыйным актывам, так і ў рабоце над сабой.

Для забяспечання большэвіцкай барацьбы з папяровымі метадамі кіраўніцтва ў цэнтры ўвагі інструктароў партыйных арганізацый павінен стаць кантроль за правядзеннем партыйных рашэнняў у жыццё. Забяспечыць сувязь і штодзенную дапамогу члену партыі, дапамагчы нізавой партыйнай арганізацыі ў разгортванні партыйна-масавай работы і палітычнага выхавання членаў партыі—непасрэдная задача інструктара.

Трэба шырэй практыкаваць самасправаздачу комуністаў як на пярвічных арганізацыях, так і на бюро ГК і РК, паклаўшы ў аснову самасправаздачы праверку ролі комуністаў як арганізатараў мас, іх ідэйна-палітычны рост.

Адной з важнейшых форм партыйна-масавай работы і сувязі партарганізацыі з беспартыйнымі рабочымі павінен стаць палітдзень, які паказаў сваю станоўчую ролю ў справе прапаганды палітыкі партыі ў разнастайнейшых галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

У значнай колькасці партыйных арганізацый Беларусі слаба пастаўлена работа з групамі спачуваючых, а часта такія групы і зусім не арганізаваны.

Слабая работа са спачуваючымі ярка адлюстроўвае агульную слабасць работы партыйных арганізацый у справе вырошчвання людзей, палітычнага выхавання комуністаў, умення падыходзіць канкрэтна да жывога чалавека, улічваючы ўсе яго асаблівасці, яго ўзровень, запросы і інш.

Групы спачуваючых, побач з комсамолам, з'яўляюцца важнейшымі каналамі росту нашай партыі за лік лепшых прадстаўнікоў рабочага класа і калгаснікаў. Работа са спачуваючымі—важнейшая задача партыйных арганізацый. Да спачуваючых трэба прымацоўваць моцных большэвікоў, ствараць школы для павышэння іх палітычнага узроўню, вывучэння гісторыі нашай партыі, уцягваць іх у актыўную работу, даваць партыйныя даручэнні, кіраваць іх работай, дапамагаць у засваенні асноў гісторыі большэвіцкай партыі.

Класавы вораг робіць сваю галоўную стаўку на моладзь. Трэба памятаць, што адказнасць за палітычны стан моладзі, за работу комсамола ляжыць цалкам на партыйнай арганізацыі. Партыйныя арганізацыі павінны максімальна дапамагаць комсамолу ў разгортванні работы сярод моладзі, у палітычным выхаванні комсамольцаў. Трэба прымацаваць да комсамола моцных большэвікоў і сістэматычна кантраляваць, як яны выконваюць важнейшае і пачэснае даручэнне партыі—выхаванне новага большэвіцкага пакалення барацьбітоў за будаўніцтва соцыялізма.

Сіла і магутнасць нашай партыі ў тым, што яна ўзброена перадавой тэорыяй—тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Без рэволюцыйнай тэорыі няма рэволюцыйнай практыкі.

Без вывучэння-ж гісторыі партыі нельга аўладаць тэорыяй марксізма-ленінізма.

Вывучэнне гісторыі партыі, вывучэнне марксізма-ленінізма членамі і кандыдатамі партыі—рашаючая ўмова павышэння большэвіцкай боездольнасці партыйнай арганізацыі, авангарднай ролі комуніста, яго рэволюцыйнай пільнасці, пастаноўкі партыйнай работы на больш высокі ўзровень, ліквідацыі дабрадушша і самасупакоенасці ў паасобных звеннях партыйнай арганізацыі.

Кожны комуніст павінен у першую чаргу ведаць гісторыю сваёй партыі, яе большэвіцкія традыцыі. У цэнтр увагі трэба паставіць

вывучэнне пасляокцябрскага перыяда нашай партыі, спосабаў барацьбы ўсякіх антыпартыйных груповак з лініяй партыі і тактыкі нашай партыі ў барацьбе з імі, якая дала магчымасць перамагчы, разбіць на-галаву гэтыя групоўкі. Члены партыі павінны быць знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў-анархістаў, але і з тым, як яна змагалася і перамагала трацкістаў, «дэмакратычных цэнтрыстаў», правых ухілістаў, правалявацкіх уродаў і зіноўеўцаў—гэтай беспрыкладнай у гісторыі нашай партыі групы, якая зрабіла двурушніцтва сваёй запаведдзю і скацілася ў балота контррэволюцыйнага тэрарызма.

Райкомы партыі павінны прыцягнуць да прапагандысцкай работы кіруючы партыйны актыў, умацаваўшы склад прапагандысцкіх кадраў праверанымі, кваліфікаванымі партыйнымі сіламі. Неабходна наладзіць сістэматычны інструктаж прапагандыстаў, арганізаваць пропсемінары, кансультацыі, палепшыць работу партгабінетаў.

Трэба дабіцца глыбокага вывучэння гісторыі партыі, павесці рашучую барацьбу супроць гастралёрства і верхаглядства, са спробамі аказёньвання, акадэмізма, шаблона і спрашчэнцтва ў партыйнай вучобе, забяспечыць цяснейшую ўвязку бягучых важнейшых мерапрыемстваў партыі з вывучэннем яе гісторыі.

Вылучэнне і ідэйна-палітычны рост комуністаў з нацыянальных беларускіх кадраў ва ўсю шырыню ставіць перад партыйнай арганізацыяй задачу беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання гэтых кадраў, павелічэння беларускіх школ, а таксама ўкаранення ў партыйную асвету гісторыі, экономікі і культуры Беларусі.

На аснове разгортвання арганізацыйна-партыйнай і палітычна-выхаваўчай работы сярод членаў і кандыдатаў партыі, на аснове разгортвання большэвіцкай самакрытыкі, павышэння рэволюцыйнай пільнасці, большэвіцкага размаху ў партыйнай рабоце, перамагаючы элементы дабрадушша і самасупакоенасці, КП(б)Б даб'ецца яшчэ большых дасягненняў у справе ператварэння БССР у квітнеючую рэспубліку Савецкага саюза, якая з'яўляецца фарпостам соцыялізма на мяжы з капіталістычным светам.

Рашэнні пленума ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб перабудове партыйнай работы—баявая праграма барацьбы за рэалізацыю гістарычных рашэнняў XVII з'езда аб уздыме арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, большэвіцкага палітычнага выхавання комуністаў, узмацнення боездольнасці партыйнай арганізацыі, яшчэ большага ўмацавання аўтарытэта партыі сярод мільёнаў працоўных мас, яшчэ большага ўмацавання дыктатуры пролетарыята.

Задача ўсіх партыйных арганізацый—забяспечыць прапрацоўку ўсіх важнейшых рашэнняў пленума ЦК КП(б)Б, дабіцца сапраўднай перабудовы партыйнай работы і на гэтай аснове павысіць якасць работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало забяспечым рэалізацыю гэтых важнейшых рашэнняў партыі, забяспечым на справе большэвіцкі размах партыйнай работы.

---

Л. Хейфец

# Барацьба за выкананне промфінплана—важнейшая задача

Закончыўся першы квартал, паказальны для нашай прамысловасці. Упершыню за многа год уся прамысловасць Беларусі—саюзная, рэспубліканская і мясцовая—выканала квартальны промфінплан на 102,8 проц.

У параўнанні з першым кварталам мінулага года наша прамысловасць дала рост на 17,4 проц. пры гадавым плане—14 проц. Звыш плана атрымана прадукцыі амаль на шэсць мільёнаў рублёў. Замест планавых намётак у 225.674,8 тыс. рублёў прамысловасць БССР дала прадукцыі, разам з лесанарыхтоўкамі, на 231.918,9 тыс. руб. У першым квартале наша прамысловасць выканала гадавы план на 24,1 проц., а з лесанарыхтоўкамі—на 27,6.

Асаблівасць першага квартала ў тым, што ўся прамысловасць БССР, за выключэннем нязначнай колькасці прадпрыемстваў (гомельскі шклозавод імя Сталіна, рад швейных фабрык—«Комінтэрн», імя Дзержынскага, Крычаўскі цэментны завод і інш.), працавала больш арганізавана, без рыўкоў, што само па сабе з'яўляецца сур'ёзным дасягненнем.

Праўда, не ўсё яшчэ зроблена і ў гэтых адносінах, асабліва ў галіне якасных паказчыкаў выкарыстання рэзерваў прамысловасці, у прыватнасці загрузкі рабочага дня і перагляду застарэлых норм. Але ў асноўным усе галіны прамысловасці, за выключэннем швейнай, перавыканалі квартальны промфінплан.

Прамысловасць Наркамцяжпрома выканала квартальны план на 109 проц., г. зн. на 24,9 проц. больш першага квартала мінулага года. Прамысловасць Наркамлегпрома выканала квартальны план на 101,1 проц.,—адпаведны рост на 39,3 проц. Прамысловасць Наркамлеса выканала план на 102,4 проц., рост—11,9 проц. Прамысловасць Наркамхарчпрома выканала квартальны план на 103,2 проц., рост—19,4 проц. Рэспубліканская прамысловасць Наркаммясцпрома выканала квартальны план на 101,9 проц., рост—14,2 проц.

Гэтыя лічбы гавораць, што прамысловасць БССР, як і ўсяго Савецкага саюза, паказала, што яна авалодвае тэхнікай, што адміністрацыйна-тэхнічнае кіраўніцтва прамысловасцю значна ўзрасло і ўзмацнілася. Райкомы партыі сталі больш аперацыйна кіраваць прамысловасцю.



**Прыводзім табліцу выканання плана выпуску валавой прадукцыі саюзнай і рэспубліканскай прамысловасцю за першы квартал 1935 года па буйнейшых прамысловых раёнах** (цэны 1925—27 г. у тыс. руб.):

| Назва раёнаў | Квартальны план | Фактычн. выканан. за 1 кв. | Процант выканан. плана. | Перавык. або недавык. супр. плана |
|---|---|---|---|---|
| Менскі . . . . . | 33.893,9 | 34.977,2 | 103,2 | +1.023,3 |
| Віцебскі. . . . . | 47.890,2 | 43.724,2 | 104,4 | +1.834,0 |
| Гомельскі . . . . . | 24.111,8 | 23.987,9 | 99,5 | — 123,9 |
| Оршанскі . . . . | 7.072,7 | 8.041,8 | 113,7 | + 969,1 |
| Магілеўскі . . . . | 21 627,1 | 23.560.7 | 108,9 | +1.933,6 |
| Бабруйскі . . . . | 11.138,9 | 11.630,7 | 104,4 | + 491,8 |
| Барысаўскі . . . . | 5 839,6 | 5.771,5 | 98,8 | — 68,1 |
| Рэчыцкі . . . . . | 3.819,2 | 4.001,9 | 104,8 | + 182,7 |
| Мазырскі . . . . | 1.865,5 | 1.747,8 | 93,7 | — 117,7 |
| Осіповіцкі . . . . | 718,9 | 761,7 | 106,0 | + 42,8 |
| Суражскі . . . . | 520,2 | 567,4 | 109,1 | + 47,2 |
| Быхаўскі . . . | 481,6 | 516,0 | 107,1 | + 34,2 |
| Рагачоўскі . . . . | 585,6 | 642,2 | 109,7 | + 57,2 |
| Нараўлянскі . . . | 1.075,0 | 1.067,4 | 99,3 | — 7,6 |
| Крычаўскі . . . . | 824,0 | 827,1 | 100,4 | + 3,1 |
| Дубровенскі . . . | 11.159,7 | 1.178,5 | 101,6 | + 18,8 |

За ўсімі гэтымі дасягненнямі нельга не бачыць і недахопаў, тармазіўшых работу многіх нашых прадпрыемстваў у першым квартале. У нас няма ніякіх падстаў для самасупакаення.

На фоне агульных поспехаў асабліва рэльефна выступаюць недахопы работы гомельскага шклозавода, крычаўскага цэментнага завода, швейнай прамысловасці і рэспубліканскай хімічнай. Швейная прамысловасць выканала квартальны план на 98,7 проц., недадаўшы больш як на паўтара мільёна рублёў прадукцыі. Рэспубліканская хімічная прамысловасць выканала квартальны план толькі на 68 проц. Тут сказалася і дрэннае планаванне, адсутнасць рашучай барацьбы за сыравіну і няўменне выкарыстаць унутраныя рэсурсы і рэзервы.

Швейная прамысловасць займае вялікую ўдзельную вагу ў рэспубліканскай прамысловасці Наркаммясцпрома.

У першым квартале Наркаммясцпром і Белшвейтрэст не праявілі належнай настойлівасці і ўпартасці ў барацьбе за сыравіну, не забяспечылі паступлення гэтай сыравіны так, каб забяспечыць у першую чаргу беспераапынную работу перадавых прадпрыемстваў «Сцяг

індустрыялізацыі» і «Окцябр». У выніку фабрыка «Окцябр» не выканала свайго квартальнага плана, з вялікімі перабоямі працавала фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі». Гэта абавязвае Наркаммясцпром, Белшвейтрэст і ЦП саюза швейнікаў рашуча палепшыць кіраўніцтва і планаванне прадпрыемствамі.

Трэба пакончыць з усякімі апартуністычнымі размовамі, што наша швейная прамысловасць не мае ніякіх перспектыў для свайго росту. Наадварот, як лішні раз паказала партыйная нарада швейнікаў, якая адбылася 10 красавіка пры ЦК КП(б)Б,—вырабы швейнай прамысловасці БССР карыстаюцца вялікім попытам у радзе месц СССР. Асабліва вялікі попыт на паліто фабрыкі «Окцябр».

Швейнікі павінны асабліва ўлічыць апошнія ўказанні тав. Гікало адносна лепшай арганізацыі працы і правільнай расстаноўкі рабочай сілы, лепш выкарыстаць свае ўнутраныя рэсурсы і канчаткова ліквідаваць сваё адставанне.

Аналіз першага квартала паказвае, што наша прамысловасць мае ўсе магчымасці не толькі выканаць, але і перавыканаць промфінплан. Усё залежыць ад людзей, ад кіраўніцтва прамысловасцю.

Возьмем к прыкладу гомельскі дрэвакамбінат імя Гікало. Камбінат сістэматычна не выконвае план. Былое кіраўніцтва камбіната не раз спрабавала вытлумачыць гэта нерэальнасцю плана, спасылаючыся на ўсякія апартуністычныя, так званыя «аб'ектыўныя» прычыны. Пасля аднаўлення кіраўніцтва камбіната, палепшання адміністрацыйна-тэхнічнага кіраўніцтва вытворчасцю і ўмацавання партмасавай работы камбінат імя Гікало перавыканаў план першага квартала. Аказалася, што справа не ў аб'ектыўных прычынах, а ва ўменні правільна арганізаваць вытворчасць і кіраваць людзьмі.

Значна лепш пачала працаваць таксама фабрыка «Герой працы» (Добруш) і рад іншых прадпрыемстваў (імя Фрунзе, «Беларусь»), якія ў мінулым сістэматычна не выконвалі свой план, а сёлетні квартальны перавыканалі.

На паспяховай рабоце нашай прамысловасці ў першым квартале з асобаю сілай сказалася канкрэтнае, аперацыйнае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало, які ўважліва ўнікае ва ўсе поры работы кожнага прадпрыемства, дапамагаючы яму лепш змагацца за выкананне сваіх заданняў.

Рашэнне майскага пленума ЦК КП(б)Б «Аб рабоце прамысловасці», непасрэднае аперацыйнае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б і СНК БССР, разгортванне соцспаборніцтва паміж раёнамі, фабрыкамі і заводамі—усё гэта ўзняло адказнасць дырэктара, партыйных і прафсаюзных арганізацый за работу прамысловасці і садзейнічала значнаму ўздыму ўсёй народнай гаспадаркі БССР. Ужо ў мінулым годзе, і асабліва ў чацвертым квартале, у рабоце нашай прамысловасці вызначыўся пэўны перелом. План чацвертага квартала быў датэрмінова выканан.

Рэзультаты работы прамысловасці ў першым квартале гэтага года сведчаць аб тым, што прадаўжаецца высокі гаспадарчы ўздым, які забяспечвае нам не толькі выкананне, але і перавыкананне гадавога промфінплана.

Задача другога квартала—падцягнуць работу адстаючых прадпрыемстваў і дабіцца каб упэўнена, без рыўкоў, працавалі ўсе фабрыкі і заводы БССР. У другім квартале не павінна быць адстаючых прадпрыемстваў.



* * *

Уся прамысловасць Беларусі павінна даць у гэтым годзе прадукцыі на 1,5 мільярда рублёў—амаль на 250 мільёнаў больш мінулага года. З гэтай сумы на дзяржаўную прамысловасць прыпадае 1.306 млн. рублёў і на промкааперацыю—250,4 млн. руб.

Саюзная прамысловасць павінна даць прадукцыі на 572,7 млн. руб., г. зн. на 12,6 проц. больш мінулага года; рэспубліканская—на 733,8 млн., г. зн. на 16,7 проц. больш.

Значна ўзрастае прамысловасць групы «А», якая павінна даць прадукцыі на 487,7 млн. руб.—на 10 проц. больш мінулага года.

Лёгкая прамысловасць дае прадукцыі на 476,8 млн. (рост па саюзнай прамысловасці на 40 проц. і па мясцовай на 8,5 проц.).

У цяжкай прамысловасці асабліва ўзрастае здабыча торфу: амаль на 22 проц. супроць 1934 года.

На XVII з'ездзе тав. Сталін указаў, што мясцовыя віды паліва трэба ўсямерна разгортваць і павялічваць. Гэта ўказанне тав. Сталіна бальшэвікі БССР пад кіраўніцтвам тав. Гікало штодзённа праводзяць у жыццё.

Сёлета мы павінны здабыць 1.687 тыс. тон торфу. Упершыню ў нас будуць працаваць вялікі і малы гідраторфы, што павялічвае здабычу фрэзернага торфу. Па Белторфу ўдзельная вага фрэзернага торфу складзе 27,4 проц., вялікага гідраторфу 9,1 проц., малога—7,2 проц., машынафармовачнага—56,3 проц. Гэта гаворыць аб узросшай тэхнічнай узброенасці нашых торфзаводаў. Капіталаўкладанні ў торфпрамысловасць складуць сёлета больш 13 млн. рублёў, з іх па аднаму Белторфу—7.684 тыс. рублёў.

Мы павінны дабіцца не толькі поўнага выканання плана торфздабычы, але і зніжэння сабекошту. У мінулым годзе пры выкананні Белторфам плана торфздабычы сабекошт торфу быў вышэй плана, перавыдаткі на здабычу і сушку торфу складалі каля двух мільёнаў руб.

У далейшым гэтага ні ў якім разе нельга дапусціць. Барацьба за зніжэнне сабекошту ў торфпрамысловасці павінна стаць у цэнтр увагі ўсіх торфаздабываючых арганізацый.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР у сваёй пастанове аб падрыхтаванасці торфпрамысловасці да торфсезона 1935 года абавязваюць усіх сакратароў ГК і РК КП(б)Б і старшынь РВК аказваць практычную дапамогу торфзаводам у завяршэнні падрыхтоўчых работ, асабліва ў галіне ўкамплектавання торфзаводаў рабочаю сілай, праверанымі кадрамі, стварэння адпаведных матар'яльных і бытавых умоў для рабочых і разгортвання партмасавай работы. Устанавіць сістэматычны кантроль і аперацыйную дапамогу рабоце торфзаводаў.

Металапрамысловасць БССР павінна даць прадукцыі ў 1935 годзе на 95,2 млн. руб. (на 12,8 проц. больш 1934 года). Найбольшы рост падае на Гомсельмаш—23 проц. і магілеўскі трубаліцейны завод—120 проц. Трубаліцейны завод павінен у 1935 годзе даць 10 тысяч тон труб.

Нашы металзаводы асвойваюць у гэтым годзе рад новых станкоў і машын. Удзельная вага БССР у агульнасаюзным станкабудаўніцтве ўзрастае з кожным годам. К канцу другой пяцігодкі з 40.000 станкоў, якія будуць выпушчаны па Савецкаму саюзу, 6.700 прыпадае на БССР або 18%. Ужо зараз нашы заводы асвойваюць

16 тыпаў станкоў. Завод імя Варашылава (Менск) выпускае новыя прадольна-стругальныя станкі. Завод імя Кірава (Віцебск) асвойвае рэзьба-нарэзны станок «ЦІЛЬ». Завод імя Кірава (Гомель) асвойвае абдзірачны станок «Калава». Менскі завод імя Кірава пачынае выпускаць гаечна-нарэзныя станкі. Агульны выпуск па заводу імя Кірава дасягае 5 тыс. станкоў на суму каля 7 млн. руб. Акрамя таго, нашымі металзаводамі будзе выпушчана 10 торфабагераў, супроць пяці леташніх, 17 дрэвабрыкетных супроць чатырох і 36 торфарасціральных трох размераў. У першым квартале металапрамысловасць выканала промфінплан на 109 проц. Але трэба сказаць, што выпускаемыя нашымі металазаводамі станкі вельмі груба аддзеланы. На аддзелку станкоў, на іх якасць павінна быць звернута значна больш увагі.

Хімічная прамысловасць у 1935 годзе мае далейшыя перспектывы росту на аснове лепшага выкарыстання мясцовых хімічных рэсурсаў. Магілеўская шоўкавая фабрыка павінна даць прадукцыі больш як на 60 млн. руб., крычаўскі фасфарытны завод—20 тыс. тон фасфарытнай мукі, супроць леташніх 6,7 тыс. тон. У гэтым годзе будзе асвоен быхаўскі ацэтонавы завод. У Бабруйску прыступлена да будаўніцтва гідролізнага завода драўніны на 5 млн. літраў спірту. У Менску будуецца завод гідроліза торфу. Прыступлена да канкрэтнай распрацоўкі праектаў прапойскага торфахімічнага камбіната, на што адпушчана 400 тыс. руб.

Узрастае і наша будаўнічая прамысловасць. Мы ў гэтым годзе павінны канчаткова асвоіць крычаўскі цэментны завод на 88,9 тыс. тон цэменту (рост—на 252,8 проц. супроць 1934 года). Аднак, у першым квартале завод не выканаў свайго плана, што ставіць пад пагрозу будаўніцтва многіх нашых аб'ектаў. Завод мае ўсе магчымасці выканаць свой план. Партыйная арганізацыя і кіраўніцтва завода павінны неадкладна прыняць канкрэтныя меры, каб ліквідаваць нецярпімае адставанне. Трэба мабілізаваць усю масу рабочых і інжынерна-тэхнічныя кадры на выкананне плана як па кольвасных, так і якасных паказчыках і вывесці завод у рады перадавых прадпрыемстваў рэспублікі.

З галін лёгкай прамысловасці трыкатажная сёлета павінна даць 62,25 млн. панчох, і больш як на 15 млн. руб. іншых вырабаў (рост на 44 проц.) Прадукцыя фабрыкі «КІМ» узрастае да 54.300 тыс. руб. супроць 36.600 тыс. у 1934 годзе.

Значны рост дае і шкляная прамысловасць, асабліва вялікі рост Гомшкла, якое павінна даць 5.180 тыс. кв. метраў шкла, супроць 3,021 тыс. у мінулым годзе. Абутковая прамысловасць павінна даць 3.257 тыс. пар абутку, швейная прамысловасць—на 152 млн. руб. прадукцыі і асвоіць 44 новыя фасоны. Мы павінны даць 47 тыс. тон. паперы, 2205 тыс. скрынак запалак, 30 тыс. тон кандзіцерскіх вырабаў. Прадукцыя ўсёй харчовай прамысловасці—180 млн. руб.

Ужо адны гэтыя лічбы паказваюць, якія велізарныя задачы стаяць перад нашай прамысловасцю.

1935 год ставіць перад нашай прамысловасцю вялікія задачы ў справе пашырэння выпуску тавараў шырокага спажывання.

Мы павінны здаць прадукцыі шырспажыву на 446,5 млн. руб. супроць 388,4 млн. руб. у мінулым годзе.

Рэсурсы, якімі распалагаюць усе галіны нашай прамысловасці, даюць магчымасць не толькі выканаць, але і перавыканаць гэта заданне. Тым не менш рад прадпрыемстваў не выканалі ў першым

квартале промфінплан выпуску тавараў шырспажыву. Асабліва адстае промкааперацыя, якая не здолела рэалізаваць усе свае ўнутраныя рэсурсы. Так, менскія арцелі промкааперацыі выканалі план першага квартала толькі на 92 проц.

Вялікія капіталаўкладанні накіроўваюцца ў прамысловасць БССР. Ва ўсю народную гаспадарку рэспублікі ў гэтым годзе ўкладаецца 223 млн. руб., з іх—97 млн. (43 проц.) у прамысловасць, 31 млн. у транспарт, 31 млн. ў сельскую гаспадарку, 52,2 на культурна-бытавое будаўніцтва.

Асаблівасцю плана капітальных работ у гэтым годзе з'яўляецца канцэнтрацыя сродкаў на важнейшых аб'ектах будаўніцтва, якія маюць першаступеннае народна-гаспадарчае значэнне. Пры ўкладанні ў рэспубліканскую прамысловасць 97 млн. руб. павінны быць пушчаны ў эксплаатацыю аб'екты агульнаю сумай на 137 млн. руб. Мы павінны закончыць рад даўно ужо пачатых пабудоў. Капітальныя работы па групе «А» (цяжкая прамысловасць) узрастаюць да 72,5 проц. супроць 61,5 проц., што сведчыць аб далейшым росце цяжкай прамысловасці БССР.

З усёй вострасцю паўстае праблема таннага і хуткага будаўніцтва. Многія нашы пабудовы зацягваюцца на цэлыя гады (менскі завод імя Кірава, шклозавод «Окцябр» і інш.). Ліквідацыя беспраектнага і бескаштарыснага будаўніцтва, зніжэнне кошту будаўніцтва, барацьба з рвацтвам і раздутымі каштарысамі—вось у чым галоўная зарука паспяховага выканання будаўнічага плана.

> «Трэба па-большэвіцку змагацца за механізацыю будаўнічых работ, за эканомію будматар'ялаў, за лепшае выкарыстанне мясцовых будматар'ялаў, за ўкараненне планавасці ва ўсёй арганізацыі будаўнічай справы. Пара пакончыць з адставаннем у гэтай важнейшай галіне нашай народнай гаспадаркі і навучыцца будаваць хутка, танна і добра» («Большэвік» № 5).

* * *

Асаблівае значэнне набывае ў гэтым годзе барацьба за якасныя паказчыкі выканання промфінплана. Значная частка прадукцыі (трыкатаж, абутак, швейныя і металічныя вырабы, папера і інш.) ідуць ва ўсе канцы Савецкага саюза. Марка прамысловасці ордэнаноснай рэспублікі павінна карыстацца ўсеагульнай павагай і давер'ем. Рост прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошту і ўсямернае палепшанне якасці прадукцыі—вось тры бакі адной задачы: працаваць лепш, танней і прадукцыйней.

Прадукцыйнасць працы па ўсёй нашай прамысловасці павінна ўзрасці на 3,9 проц., у тым ліку цяжкай—на 7,3 проц., лёгкай—на 2,2 і харчовай—на 4,4 проц. У паасобных галінах павінен быць яшчэ большы рост. Прадукцыйнасць працы тарфяной прамысловасці павінна ўзрасці на 18,3 проц., горнахімічнай—28,3 проц., трыкатажнай—22,5 проц., паліграфічнай—17,7 проц.

Тэхнічная ўзброенасць нашых прадпрыемстваў за мінулыя гады значна павялічылася. Дзесяткі тысяч рабочых асвойваюць новую тэхніку. У Беларусі звыш 10 тысяч рабочых, здаўшых тэхнічны экзамен на выдатна і добра. Але гэта не можа задаволіць нас. Трэба з падвоенай энергіяй змагацца за далейшае аўладанне тэхнікай, эканомію матар'ялаў, усямернае выкарыстанне велізарных рэзерваў, па-

вышэнне кваліфікацыі, укараненне соцыялістычных метадаў працы, каб выканаць якасныя паказчыкі, дабіцца далейшага росту прадукцыйнасці працы і знізіць сабекошт прадукцыі.

Сабекошт па Наркаммясцпрому павінен быць зніжан на 1,7 проц., прычым па цяжкай прамысловасці—больш як на 10 проц.

Важным рычагом далейшай барацьбы за рост прадукцыйнасці працы і зніжэнне сабекошту з'яўляецца перагляд застарэлых тэхнічных норм, лепшая арганізацыя працы і заработнай платы на вытворчасці.

> «Устраненне застарэлых і яўна няправільных норм, планамерны перагляд новых у адпаведнасці з сучасным арганізацыйна-тэхнічным узроўнем прамысловасці—вось фактар сталай мабілізацыі ўнутраных рэзерваў для сістэматычнага павышэння прадукцыйнасці працы» («Большэвік № 5).

Заработную плату трэба пабудаваць так, каб не знікла розніца паміж дрэнным, сярэднім і добрым работнікам і не пагашаўся стымул павышэння кваліфікацыі.

Сістэма зарплаты цяснейшым чынам павінна быць звязана з палепшаннем якасці работы і павышэннем прадукцыйнасці працы. Праводзячы прынцып аплаты па якасці і колькасці працы, укараняючы прагрэсіўную здзельшчыну, мы канчаткова даб'ем ураўнілаўку ў заработнай плаце. Невычэрпныя магчымасці ў гэтых адносінах паказаў пачаты перагляд паасобных застарэлых норм на нашых прадпрыемствах. На заводзе імя Варашылава (Менск) павінны быць перагледжаны 3264 нормы, на заводзе імя Кірава—звыш 2000, на «Комунарцы»—37, звыш 1000 на шоўкавай фабрыцы, 198 на «Ударніку» і т. д.

Партыйныя, гаспадарчыя і прафесіянальныя арганізацыі дабіваюцца ў гэтай справе значных поспехаў, калі падыходзяць да яе ўдумчыва і сур'ёзна. Павышаючы нормы выпрацоўкі і прадукцыйнасць працы, рабочыя не трацяць на сваёй заработнай плаце. Вось, што з гэтага поваду гаворыць рабочы завода імя Варашылава тав. Шмідт:

> «Добра вывучыўшы сваю работу і ўважліва праверыўшы сябе, я ўпэўніўся, што пры поўнай ушчыльненасці рабочага дня магу выпусціць значна больш прадукцыі, чым да гэтага часу. Прапаную павялічыць сваю норму на 15—20 проц.».

Аб гэтым заяўляюць і рабочыя іншых заводаў.

Перагляд застарэлых норм—вялікая палітычная і гаспадарчая справа. Ён садзейнічае далейшаму росту прадукцыйнасці працы, палепшанню матар'яльнага становішча рабочага класа і рашучай барацьбе з усякімі адсталымі, рвацкімі настроямі.

Цэлы рад гаспадарнікаў, не ўсвядоміўшы ўсёй палітычнай важнасці гэтага мерапрыемства, падыходзяць да яго фармальна. Так, дырэктар шклозавода «Окцябр» аддаў загад аб ушчыльненні норм без ведама заводскіх арганізацый і рабочых. У механічным цэху менскага завода імя Кірава 7 красавіка былі вывешаны 40 новых норм, пры чым у загадзе ўказвалася, што яны павінны быць уведзены з першага красавіка. На фабрыцы імя Кагановіча новыя нормы ўнесены былі ў ведамасць, і рабочым прапанавана было проста распісацца. Такі бюракратычна-фармальны падыход не-

можа садзейнічаць мабілізацыі рабочых на правядзенне гэтага важнейшага гаспадарча-палітычнага мерапрыемства.

Новая, тэхнічна абгрунтаваная норма, павінна быць устаноўлена з разліку поўнай загрузкі рабочага дня. Фатаграфіі паказалі, што рабочы дзень на цэлым радзе прадпрыемстваў загружан карыснай работай не больш як 5—6 гадзін. Самы кароткі ў свеце рабочы дзень павінен быць загружан карыснай работай на ўсе 420 мінут. Для гэтага патрэбна лепшая арганізацыя працы і высокая прадукцыйнасць.

Трэба цесна звязаць заработную плату з выпрацоўкай і якасцю прадукцыі, з добрым інструктажам, яшчэ вышэй узняць прадукцыйнасць працы, цалкам выкарыстаць вялікія рэзервы кожнага цэха і, на аснове шырокага ўкаранення соцыялістычных метадаў працы, забяспечыць выкананне плана трэцяга года другой пяцігодкі.

* * *

Барацьба за аўладанне тэхнікай, за поўнае выяўленне рэзерваў у галіне прадукцыйнасці працы, за далейшае ўшчыльненне рабочага дня, за правільную арганізацыю зарплаты патрабуе агромнага арганізатарскага таленту, ініцыятыўнасці і культурнага кіравання фабрыкай, заводам.

Кадры кіраўнікоў нашых прадпрыемстваў за апошнія гады значна ўзраслі і ўзмацніліся. У нас не мала ініцыятыўных і здольных дырэктароў фабрык і заводаў, начальнікаў цэхаў, брыгадзіраў (у Менску: Шэлкоў—завод імя Варашылава, Драбышэўскі—завод імя Кірава, Любін—«Комунарка», Бандарчык—«Большэвік»; у Віцебску: Калабкоў—фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», Марушкін—«КІМ», Ханіна—імя Клары Цэткін, Галузо—акулярная, Сліозберг—«Чырвоны металіст», Чолах—Могвалакно, Гейсін—«Герой працы» і т. д.).

А якія дасканалыя людзі выраслі ў нашай прамысловасці там, дзе іх зусім не было тры-чатыры гады таму назад.

Брыгадзір Доўнар (завод імя Варашылава) асвоіў новы правільна-стругальны станок, унёс рад удасканаленняў (змяніў каробку скорасці). Гэты станок значна лепшы замежнага. Тав. Доўнар на VII з'ездзе советаў СССР выбран ў члены ЦВК СССР.

Або Норкіна—беларуска, былая беспрытульная—зараз адна з лепшых брыгадзіраў фабрыкі «КІМ». Яе брыгада сістэматычна перавыконвае план і не ведае, што такое брак. Норкіна—член ЦВК БССР. Або Матвеева—адна з лепшых брыгадзіраў, ударніца Могвалакно (член ЦВК БССР). Шыфрына—брыгадзір-зотавец завода «Большэвік», член прэзідыума ЦВК БССР. Канапацкі—лепшы брыгадзір завода «Большэвік». Самцова—брыгадзір акулярнай фабрыкі. Бажынаў—обер-майстар Могвалакно, Бабылёў і Банюк—лепшыя брыгадзіры завода імя Кірава ў Гомелі. Маладыя спецыялісты з рабочых, начальнікі цэхаў завода імя Варашылава Мінькоў, Айзман і сотні тысяч іншых.

Рабочыя ахоплены жаданнем павысіць свой тэхнічны ўзровень, што з'яўляецца заканамерным працэсам соцыялістычнага будаўніцтва.

Але нельга тэхніку адарваць ад людзей, якія прыводзяць яе ў рух. Тэхніка без людзей мёртва.

**«Галоўнае** цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай. Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы

і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва».

Гэтыя ўказанні нашага вялікага правадыра—т. Сталіна—усяляюць дух бадзёрасці і энтузіязма ў людзей нашай краіны. Кожны ўдарнік павінен яшчэ глыбей адчуць, наколькі ён дораг сваёй соцыялістычнай радзіме і разам з тым яшчэ больш усвядоміць свой доўг—безупынна і крапатліва працаваць над сабой, над павышэннем сваёй кваліфікацыі, каб заслужана карыстацца тымі клопатамі, якія яго акружаюць.

Адміністрацыйна-гаспадарчае кіраўніцтва на нашых прадпрыемствах стала лепшым. Але ўсё-ж мы павінны прад'явіць большыя патрабаванні да нашых гаспадарнікаў і ў першую чаргу Наркаммясцпрома, Упоўнаркамлеса, Упоўнаркамцяжпрома, Наркамхарчпрома, да ўсіх трэстаў і гаспадарчых аб'яднанняў.

Планаванне прамысловасці ў першым квартале паказала, што пасобныя гаспадарнікі павярхоўна адносяцца да сваіх трэстаў і прадпрыемстваў, слаба кіруюць імі. Асабліва праяўлялася гэта ў рабоце Белшвейтрэста, хімічнага кіраўніцтва Наркаммясцпрома, дзе план першага квартала перацярпеў рад змен.

Наркаматы і гаспадарчыя аб'яднанні павінны штодзенна канкрэтна дапамагаць прадпрыемствам у ліквідацыі вузкіх месц, у планавай і чоткай арганізацыі вытворчасці.

* *
*

Далейшая задача ўсёй нашай прамысловасці—падцягнуць адстаючыя прадпрыемствы (гомельскі шклозавод, крычаўскі цэментны і інш.); замацаваць тэмпы першага квартала, укараніць вытворчую культуру, адпавядаючую высокаму ўзроўню тэхнічнай узброенасці нашых прадпрыемстваў; па-большэвіцку на справе змагацца за высокую якасць прадукцыі, за далейшы рост прадукцыйнасці працы, за зніжэнне сабекошту, ліквідаваць недахопы ў арганізацыі вытворчасці.

Каля 25 проц. прадукцыі нашай прамысловасці падае на параўнаўча дробныя прадпрыемствы, якія маюць не больш 250 рабочых. Асабліва многа ў нас дробных прадпрыемстваў харчовай прамысловасці і ільназаводаў.

Не гледзячы на тое, што харчовая прамысловасць выканала квартальны план, на многіх дробных прадпрыемствах вялікая некультурнасць, страшэнная неахайнасць.

За апошні час выяўлена засмечанасць многіх дробных прадпрыемстваў класава-варожымі элементамі (Талачынскі вінакурны завод, Вераніхінскі ільназавод у Полацкім раёне, шклозавод «Ільіч» у Быхаўскім раёне і т. д.). Многія райкомы партыі (Быхаўскі, Талачынскі і інш.), якія маюць на сваёй тэрыторыі адзін завод (вінакурны, ільназавод або шклозавод), лічаць ніжэй свайго гонару звярнуць хоць якую-небудзь увагу на наладжванне там работы. А класавы вораг, карыстаючыся аслабленнем большэвіцкай пільнасці і адсутнасцю партыйна-масавай работы, не мала там шкодзіць.

У Вераніхінскім ільназаводзе доўгі час пад носам Полацкага райкома партыі арудваў цэлы букет з былых паліцэйскіх. Такое-ж становішча мы мелі і на Быхаўскім шклозаводзе «Ільіч».

Горрайкомы партыі нясуць поўную адказнасць за работу любога прадпрыемства свайго раёна і абавязаны павярнуцца тварам да дроб-

ных прадпрыемстваў, аказваючы ім канкрэтную аперацыйную дапамогу.

Неймаверная колькасць браку і бою на гомельскім шклозаводзе «Ільіч» і інш., адхіленні ад гатунковасці на абутковых прадпрыемствах, частая патрэба ў дадатковых пераробках тысяч паліто і касцюмаў (адна толькі гомельская швейная фабрыка «Комінтэрн» страціла ў першым квартале на штрафы і пераробкі да 50.000 руб.)—у далейшым безумоўна нецярпімы.

Гэты спіс можна было-б прадоўжыць. Сотні тысяч рублёў трацяць нашы прадпрыемствы на браку, на пераробках і т. д. У наяўнасці вялікай колькасці браку, як у люстры, адлюстроўваецца ў значнай меры дрэннае гаспадарчае і тэхнічнае кіраўніцтва прадпрыемствам. Барацьба з бракам застаецца буйнейшай народна-гаспадарчай праблемай.

Зараз па ўсёй нашай рэспубліцы паміж прадпрыемствамі разгарнуўся арганізаваны ЦСПСБ, Наркаммясцпромам і рэдакцыяй газеты «Рабочий» конкурс на ператварэнне к 1 мая ўсёй прамысловасці БССР у прамысловасць суцэльнай тэхнічнай граматнасці. Конкурс выклікаў новую хвалю соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Рад прадпрыемстваў дабіўся ўжо не малых поспехаў. Віцебская акулярная фабрыка «Клары Цэткін», гомельская фабрыка «Праца», мснскі завод «Варашылава» і гомельскі завод імя Кірава—сталі ўжо прадпрыемствамі суцэльнай тэхнічнай граматнасці. Сотні і тысячы рабочых-ударнікаў здалі соцтэх- і дзяржтэхэкзамен на выдатна, асвоілі тэхніку і павышаюць прадукцыйнасць працы. Разам з давядзеннем браку ніжэй нормы і палепшаннем якасці прадукцыі расце іх заработная плата.

Выдатнік Врублеўскі (Гомсельмаш) значна ўшчыльніў свой рабочы дзень на станку «Рыдэра» і дае рэкордную выпрацоўку: 670 дэталей у змену замест 280—300 да экзамена. На гомельскім заводзе імя Кірава рабочы Маршоў да здачы экзамена выпрацоўваў 90 руб., а пасля—145—160; Трафімаў—раней 75 зараз 135; Даронін—раней 70 зараз 145; Цырульнікаў 190—241. Такі-ж малюнак і на іншых нашых фабрыках.

Асваенне новай тэхнікі, высокая якасць прадукцыі, сапраўды культурны парадак у рабоце—вось баявыя задачы кожнага прадпрыемства, кожнага рабочага.

Мы павінны максімальна выкарыстаць магутнасць усіх прадпрыемстваў, агрэгатаў, механізмаў, каб кожная машына, кожны станок далі максімум таго, што яны могуць даць, лепш выкарыстаць абсталяванне, эканомней выдаткоўваць сыравіну, паліва, электра-энергію, прадукцыйна выкарыстаць рабочы час, бязлітасна змагацца з бракаробамі. Высокая якасць—вось найбольш дакладнае і правільнае выражэнне сапраўднага асваення новай тэхнікі.

Ударнікам-зотаўцам павінен лічыцца той, як гэта сказана ў адозве зотаўцаў цяжкай прамысловасці БССР, хто не толькі выконвае план, але і дае прадукцыю высокай якасці, аддзелваючы яе з усёй стараннасцю.

Зотаўскі рух за аўладанне кожным станком сугучны лозунгу «наша марка павінна стаць лепшай у свеце» і насіць на сябе яўную адзнаку пераходу нашай прамысловасці ў вышэйшы клас. І дрэнны той гаспадарнік, той профсаюзнік, які не можа ўдумчыва падыйсці і актыўна ўзначаліць новую хвалю соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, які не вядзе ніякай работы з выдатнікамі.

* * *

Барацьба за выкананне промфінплана трэцяга года другой пяцігодкі патрабуе далейшага разгортвання і ўзмацнення партыйна-масавай работы. Пленум ЦК КП(б)Б, які нядаўна закончыўся, адзначыў буйныя недахопы ў партрабоце і даў праграму яе палепшання. Рашэнні пленума ЦК, рашэнні ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў парткадраў пры гаркомах партыі і ўказанні тав. Сталіна аб павышэнні партыйнай пільнасці з'яўляюцца дакументамі першаступеннай палітычнай важнасці для ўсёй КП(б)Б. Яны даюць нам у рукі разгорнутую праграму работы.

Пленум ЦК КП(б)Б даў канкрэтныя ўказанні, як арганізаваць унутрыпартыйную работу на прадпрыемствах. У цэнтры ўвагі партыйнай работы павінен стаяць член партыі, яго ідэйнае ўзбраенне і палітычны рост. Нашы партыйныя арганізацыі павінны падыходзіць да вырашэння любога гаспадарчага пытання перш за ўсё праз разгортванне партыйна-масавай работы, арганізуючы комуністаў і беспартыйны актыў на выкананне тых ці іншых задач.

Мы перамаглі ворагаў, але гэта не значыць, што класавая барацьба закончана. Нельга паддавацца дабрадушшу і спачыць на лаўрах, бо гэта будзе поўным забыццём указання тав. Сталіна аб тым, што чым большыя нашы поспехі, тым больш шалее класавы вораг, тым адчайней супраціўляецца. Адчуваючы набліжэнне сваёй пагібелі, ён хапаецца за самыя крайнія сродкі барацьбы супроць партыі і савецкай улады—за фашысцкі тэрор.

Толькі стратай класавай пільнасці, аслабленнем работы раду партыйных арганізацый тлумачыцца той факт, што класаваму ворагу яшчэ ўдаецца шкодзіць на паасобных участках соцбудаўніцтва. Карыстаючыся стратай класавай пільнасці, вораг арудваў на гомельскім шклозаводзе імя Сталіна, на шклозаводзе «Ільіч» і радзе іншых прадпрыемстваў. Партыйныя арганізацыі гэтых заводаў адвялі партрабоце другараднае месца, што прывяло да зніжэння іх боездольнасці і аслаблення ролі, як баявых арганізатараў рабочых мас.

Рэалізацыя рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б—абавязковая ўмова паспяховага выканання плана трэцяга года другой пяцігодкі, ператварэння БССР у несакрушальную крэпасць абароны Савецкага саюза.

Ключ к паспяховаму і датэрміноваму выкананню промфінплана на кожным прадпрыемстве—гэта шырокае разгортванне і ўмацаванне партыйна-масавай і комсамольскай работы.

Трэба вышэй узняць авангардную ролю комуніста на прадпрыемстве. Нашы парткомы павінны ведаць кожнага комуніста, падняць яго ідэйна-палітычны ўзровень і бязлітасна змагацца з усімі адхіленнямі ад генеральнай лініі партыі.

ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало ўдзяляюць выключную ўвагу рабоце нашай прамысловасці. Дырэктары, парткомы, наркаматы павінны выкарыстаць гэтую дапамогу і забяспечыць поўнае выкананне і перавыкананне промфінплана па ўсіх колькасных і якасных паказчыках.



**І. Бенькові́ч**

# Работа сістэмы Белкаапромсовета і яго задачы

На сістэму промкааперацыі рашэннем XVII партз'езда ўскладзены велізарнейшыя задачы павелічэння і пашырэння выпуску тавараў шырспажыву.

У рашэннях з'езда сказана:

«Выходзячы з таго, што мясцовая прамысловасць можа з'явіцца сур'ёзным дадатковым фактарам у справе ўсебаковага задавальнення хутка растучых запатрабаванняў рабочых і калгаснікаў, з'езд вызначае рост вытворчасці прадметаў шырокага спажывання мясцовай прамысловасці ў другой пяцігодцы ў тры разы і абавязвае мясцовыя органы к праяўленню максімальнай ініцыятывы ў справе мясцовай прамысловасці і вышукання новых відаў сыравіны».

Ажыццяўляючы на практыцы гэту дырэктыву, промкааперацыя БССР павінна даць краіне ў 1937 годзе прадукцыі на 248. 061 тыс. руб., што складае супроць 1933 года 249,4 проц.

Па асобных відах вытворчасці гэта сума размяркоўваецца наступным чынам:

| Назва групы | 1933 г. (у тыс. руб.) | План 1937 г. (у тыс. руб.) | % |
|---|---|---|---|
| Металічная | 9 963 | 20 900 | 216,3 |
| Ганчарная пасуда | 1 274 | 3 500 | 275,0 |
| Мыла | 1 175 | 3 700 | 315,0 |
| Хімічн. вырабы | 868 | 1 800 | 207,4 |
| Новы абутак | 6 057 | 16 500 | 327,0 |
| Рамонт абутку | 8 745 | 22 500 | 257,3 |
| Утыль-абутак | 3 642 | 7 500 | 206,0 |
| Шорныя вырабы | 2 072 | 4 905 | 236,8 |
| Валёнкі | 1 662 | 3 532 | 212,7 |
| Ткацтва | 3 334 | 8 800 | 264,0 |
| Вяровачн. вырабы | 7 563 | 14 000 | 185,2 |
| Швейныя | 35 798 | 91 000 | 254,3 |
| Чулочна-трыкатаж. | 7 477 | 16 200 | 216,7 |
| Галантарэя | 1 814 | 6 350 | 350,0 |
| Харчовыя вырабы | 9 291 | 25 974 | 279,6 |
| Культпром | 30 | 900 | |
| Разам | 100765 | 248 061 | 246,2 |

Сістэма промкааперацыі БССР павінна мець у 1937 г. 44. 450 кааперараваных членаў, што складае к 1932 г. 146 проц.

Такавы тыя асноўныя канкрэтныя абавязацельствы, якія сістэма промкааперацыі БССР узяла на сябе ў другой пяцігодцы. Іх выкананне залежыць ад таго, як будзе працаваць сістэма, якія тэмпы набіраць у кожным годзе другой пяцігодкі.

Прыводзім табліцу, якая паказвае размер таварнай валавой прадукцыі, выпушчанай у 1933 г. (без транспарта і працзаняткаў) і размер прадукцыі, выпушчанай за 1934 г. (па індэксу):

| | 1933 г. | Выканание за 1934 г. | 1934 год (у процант. да 1933 г.) |
|---|---|---|---|
| Торф | 2 877,4 | 4 083,2 | 141,9 |
| Будматар'ялы | 2 885,7 | 3 605,6 | 124,9 |
| Машынбуд | 5 838,2 | 6 439,3 | 110.3 |
| Метызы | 3 825,0 | 5 211,9 | 136,3 |
| Сілікатна-гасп. | 1 390,9 | 2 064,1 | 148,4 |
| Хімія | 2 043,4 | 3 501,2 | 171,3 |
| Скураная | 20 879,7 | 26 800,1 | 128,4 |
| Мехавая | 1 516,1 | 3 744.8 | 247,0 |
| Вал-войл. | 2 588,7 | 3 171.6 | 122,5 |
| Тэкст.-ткацк. | 11 747,2 | 15 867,2 | 135,1 |
| Швейная | 35 798,6 | 41 878,4 | 117,0 |
| Трыкатажн. | 7 476,9 | 10 063,6 | 134.6 |
| Галантар. | 1 814,6 | 2 182,3 | 120,3 |
| Харчовая | 9,297,8 | 15 481,1 | 166,5 |
| Агул.-харчов. | 3 357,9 | 2 476,9 | 73,8 |
| Паліграфія | 561,7 | 734,2 | 130,7 |
| Навук.-маст. | 30,3 | 72,0 | 237,6 |
| Утылізац. | 4 197,0 | 5 299,8 | 126,3 |
| Разам па вытворчасці | 118 127,1 | 152 677,3 | 129,2 |

Не гледзячы аднак на тое, што ў параўнанні з мінулым годам сістэма промкааперацыі БССР дала прадукцыі на 34.550,2 тыс. руб. больш (рост на 29,2%), агульны план 1934 года выканан толькі на 97,9 проц. Краіне недадана прадукцыі на 3.838,5 тыс. руб.

З гэтых даных відаць, што сістэма працуе нездавальняюча і з вялікім прарывам.

Самы адсталы ўчастак—сістэма Белкерамсаюза, якая выканала план на 68,9 проц. Металсаюз—77,7 проц. Утыльсаюз—93 проц.

У чым прычына таго, што сістэма Белпромсовета, не гледзячы на агромную ўвагу і дапамогу ЦК КП(б)Б, усё яшчэ дрэнна працуе, не выконвае задач, пастаўленых перад ёю партыяй і ўрадам?

Бюро ЦК КП(б)Б у пастанове ад 2 верасня 1934 года дало промкааперацыі канкрэтныя ўказанні:

> «Замест большэвіцкага выканання рашэнняў майскага пленума ЦК КП(б)Б і мабілізацыі арцельных мас на аснове гэтых рашэнняў на выкананне заданняў партыі і ўрада, замест барацьбы з буйнейшымі недахопамі ў рабоце сістэмы і аперацыйнага, канкрэтнага кіраўніцтва арцельнымі масамі—паасобныя кіруючыя работнікі совета, саюзаў і арцелей дэмабілізаваліся, дапусцілі самацёк у рабоце, тлумачачы ўсе правалы і сваё няўменне працаваць аб'ектыўнымі прычынамі (адсутнасцю сыравіны, недахопам рабочай сілы, перакідкай работнікаў і т. д.)»

Гэта суровая большэвіцкая крытыка папярэджвала ўсю сістэму, асабліва комуністаў, што далей так працаваць нельга. Дзякуючы гэтай крытыцы, канкрэтным указанням і дапамозе ЦК, у сістэме за апошні час намеціўся пералом.

Калі ў жніўні 1934 года план быў выканан на 80,4%, даўшы

рост супроць ліпеня на 101,6%, калі ў верасні план выканан на 84% і супроць жніўня даў 106,1%, то ў кастрычніку план быў выканан на 99,3% з ростам супроць верасня на 115,6%, у лістападзе план выканан на 102,9%, а ў снежні на 121,8%. Увесь план 4-га квартала выканан на 108,5%.

Гэта гаворыць аб тым, што планавыя заданні рэальны, што няма ніякіх аб'ектыўных прычын, а справа залежыць выключна ад жывых людзей, ад умення правільна арганізаваць работу на вытворчасці, ад штодзённага, канкрэтнага, аперацыйнага кіраўніцтва вытворчасцю.

Прыведзеныя даныя паказваюць, што прамысловая кааперацыя ў апошнім квартале 1934 года дабілася значнага пераломy ў сваёй рабоце. Аднак неабходнага зруху ўсё яшчэ няма. За агульнымі паказчыкамі крыецца адставанне Керамсаюза, Металсаюза і інш., не гаворачы ўжо аб зусім нездавальняючай якасці прадукцыі.

Неабходна праверыць работу паасобных промыслаў і саюзаў, ускрыць іх недахопы, мабілізаваць усю масу арцельшчыкаў на поўнае выкананне і перавыкананне плана 1935 года, каб па-большэвіцку выканаць рашэнні XVII партз'езда, майскага пленума ЦК КП(б)Б і пастанову бюро ЦК КП(б)Б ад 2 верасня.

* *
*

Найлепшай ілюстрацыяй таму, як перабудавалася сістэма пасля XVII з'езда партыі, якую ўвагу ўдзялялі арцелі—асноўнай вытворчай адзінцы—цэнтральныя і раённыя саюзы, служаць вынікі выканання плана 1934 года.

Толькі 31 проц. арцелей выканалі план. Яшчэ больш уразлівы паказчыкі па асобных саюзах. 76 проц. арцелей віцебскага скурсаюза плана не выканалі і 24 проц. павінны былі пакрыць прарывы. Толькі 20—25 проц. арцелей оршанскага швейсаюза, Белхарчсаюза выканалі свае планы і перакрылі прарывы адстаючых. Планы выкананы пераважна буйнымі арцелямі, якія знаходзяцца ў гарадскіх цэнтрах—Менску, Віцебску, Гомелі, Оршы, Бабруйску, Магілеве, Рэчыцы, Мазыры. Гэта гаворыць аб тым, што ў нас няма яшчэ канкрэтнага кіраўніцтва, прыстасоўна да спецыфічных асаблівасцей таго раёна, дзе працуе арцель, што слаба наладжана оргмасавая работа, недастаткова жывы інструктаж і арганізацыя работы на вытворчасці.

За апошні час выезды ў нізоўку павялічыліся, але яны носяць характар мітынгавання: склікаюць сходы, вядуць размовы аб небходнасці выканаць план. Аднак няма таго, каб канкрэтна дапамагчы арцелі ў арганізацыі вытворчасці, указаць як выканаць план.

Промкааперацыі ў гэтых адносінах трэба перабудавацца. Да кожнага кіраўніка, да кожнага інструктара павінны быць прымацаваны паасобныя арцелі, за работу якіх ён нясе адказнасць.

Неабходна вывучыць тэхніку вытворчасці, каб мець магчымасць непасрэдна ў майстэрні, у цэху выпраўляць памылкі, дапамагчы правільна арганізаваць работу. Оргінструктары саюзаў не толькі ў сваіх выступленнях павінны гаварыць аб якасці прадукцыі, прадукцыйнасці працы, зніжэнні сабекошту, але на справе паказаць і навучыць, якімі спосабамі можна гэтага дасягнуць. Вытворчыя інструктары саюзаў абавязаны наведваць арцелі, цікавіцца не толькі вытворчасцю, але і дапамагчы ў арганізацыі тэхучобы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, наладзіць работу ўдарных брыгад, тэхгурткоў і інш. Неадкладна трэба паклапаціцца аб тым, каб стварыць кадры інструктароў-спецыялістаў, якія добра ведаюць вытворчасць.

* * *

Асноўны матыў, які прыводзяць у сваё апраўданне адстаючыя з месяца ў месяц звенні сістэмы,—адсутнасць рабочай сілы. На самай справе гэта не так.

1934 год паказаў, што сістэма яшчэ не падышла канкрэтна да вырашэння пастаўленай 17 партканферэнцыяй і XVII партз'ездам задачы аб поўным кааператаванні ўсіх саматужнікаў. Промсаюзы і арцелі самі пусцілі гэту справу на самацёк, і ў сістэме наглядаецца адліў кааператаваных саматужнікаў.

Табліца дае малюнак становішча членскага складу па сістэме ў 1934 годзе:

| Назва саюзаў | Членскі склад | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1/I | 1/IV | 1/VI | 1/X | 1/1-35 |
| Менскі швейсаюз. . . | 1 835 | 1 975 | 1 873 | 1 747 | 1 853 |
| Віцебскі. . . . . . | 1 076 | 1 076 | 1 137 | 1 154 | 1 319 |
| Гомельскі . . . . . | 2 090 | 1 867 | 2 301 | 1 544 | 1 544 |
| Бабруйскі . . . . . | 1 112 | 1 109 | 1 126 | 1 082 | 1 183 |
| Оршанскі . . . . . | 2 319 | 2 550 | 2 589 | 2 434 | 2 785 |
| Разам. . . | 8 432 | 8 577 | 9 026 | 7 096 | 8 684 |
| Менскі скурсаюз. . . | 2 232 | 2 089 | 2 126 | 1 931 | 2 132 |
| Віцебскі „ . . . | 1 156 | 973 | 1 084 | 1 033 | 1 033 |
| Гомельскі „ . . . | 1 285 | 1 280 | 1 294 | 1 254 | 1 254 |
| Магілеўскі „ . . . | 1 114 | 1 040 | 1 032 | 1 010 | 1 010 |
| Разам. . . | 5 787 | 5 382 | 5 536 | 5 228 | 5 429 |
| Будкерамсаюз . . . . | 2 782 | 2 696 | 3 108 | 1 833 | 1 868 |
| Металсаюз . . . . . | 1 633 | 1 677 | 1 547 | 1 396 | 1 635 |
| Бытсаюз. . . . . . | 1 354 | 1 357 | 1 310 | 1 336 | 1 316 |
| Харчсаюз . . . . . | 1 143 | 1 093 | 1 221 | 1 226 | 1 221 |
| Утыльсаюз . . . . . | 1 049 | 1 020 | 932 | 936 | 897 |
| Транспартны . . . . | 1 131 | 1 196 | 1 107 | 1 188 | 1 340 |
| Разам. . . | 23 312 | 22 998 | 23 787 | 21 104 | 22 390 |

Асноўная прычына зменшання колькасці кааператыўных у тым, што не ўсе саюзы ўдзяляюць патрэбную ўвагу матар'яльна-бытавому абслугоўванню сваіх членаў, тым часам як усе ўмовы для гэтага ёсць. Узрасла колькасць прыгарадных гаспадарак. У 1933 годзе сістэма мела 222 падсобныя гаспадаркі на плошчы ў 2 147 га, у 1934 г.—413 з плошчай 4 388 га.

Як-жа клапаціліся паасобныя арцелі аб падсобных гаспадарках?

Арцель «Свая праца» Меншвейпромсаюза і «Звязда» Менскурпромсаюза займаліся папяровай валакітай, паведамляючы, што ім не адводзяць зямлі. Пры праверцы аказалася, што яны самі не стараліся атрымаць прыгарадную гаспадарку.

Асабліва недапушчальна аднесліся гомельскія швейны і скураны саюзы да размеркавання ўраджаю гародніны. Калі настаў момант збіраць ураджай, ні адна арцель не падрыхтавала тару і адмовілася ад прыёмкі прадуктаў («Яднанне», «Каапершлях» і «Горхарчавік»). Каапгас вымушан быў прадаць частку ўраджаю іншым арганізацыям і нават на рынку.

Нельга не адзначыць, што рад РВК не заўсёды дапамагаў арцелям. Барысаўскі РКВ адмовіў прадаставіць арцелі «Серп і молат» зямельны ўчастак. Такія-ж клопаты праявілі Быхаўскі, Уздзенскі і іншыя райвыканкомы.

Невыкананне рашэнняў XVII партз'езда аб уцягненні ў прамкааперацыю саматужнікаў-адзіночак, якіх нямала ва ўсіх гарадах і мястэчках БССР, таксама тлумачыцца няўважлівым падыходам да іх матар'яльна-бытавых патрэб.

Паводле даных, па БССР налічваецца 6 571 саматужнік-адзіночка, з якіх у Менскім раёне—635 чал., Магілеўскім—369 чал., Віцебскім—635 чал., Мазырскім—198 чал., Гомельскім—805 чал. і т. д.

Гэта агромная крыніца рабочай сілы не скарыстана яшчэ сістэмай промкааперацыі. Найбольшая віна саюзаў у тым, што яны гэтага пытання канкрэтна не ставілі перад прэзідыумамі мясцовых советаў, вельмі часта недаацэньвалі іх ролю і значэнне, тым часам як мясцовыя советы з'яўляюцца той арганізацыяй, якая мае частае і блізкае дачыненне да саматужнікаў-адзіночак. Толькі пры садзейнасці мясцовых советаў з дапамогай мясцовага друку промкааперацыя здолее ўцягнуць усіх саматужнікаў-адзіночак.

Трэба таксама адзначыць, што рад РВК дрэнна кіруюць гэтай справай. Часта заслухоўваюць даклады арцелей і саюзаў промкааперацыі аб выкананні плана, аб барацьбе за якасць, але не абгаварваюць пытання аб кааператаванні, якое цяпер мае асаблівае значэнне ў сувязі з рашэннем лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і іншыя прадукты.

Уся маса арцельшчыкаў з агромным энтузіязмам сустрэла гэта рашэнне. У выніку 4-ты квартал 1934 года даў 31,5 проц. гадавога плана. Стварыліся спрыяючыя ўмовы для таго, каб значна палепшыць матар'яльна-бытавое становішча членаў арцелі, што з'яўляецца вялікім стымулам у кааператаванні саматужнікаў-адзіночак. Колькасць арцельшчыкаў у гэтым квартале павялічылася супроць 3 квартала на 1311 чал. у асноўным за кошт швейных саюзаў (628 чал.), скураных (200 чал.) і Металсаюза (240 чал.).

У далейшым гэта цяга безумоўна яшчэ больш узмацніцца. Аднак нельга забываць пры гэтым аб павышэнні класавай пільнасці і прыняць неабходныя меры, каб арцелі не засмечваліся варожымі класава-

чуждымі элементамі. Выяўлены і выгнаны з нашых фабрык, заводаў, выключаны з калгасаў класавы вораг будзе старацца пралезці туды, дзе лягчэй прыстроіцца, і будзе імкнуцца ў кааперацыйнае таварыства—у арцель.

* *
*

Культмасавая работа—усё яшчэ вельмі слабы ўчастак, а адсюль арцельшчыкі слаба мабілізаваны на выкананне плана. Паход за палепшанне культмасавай работы, які зараз праводзіцца па сістэме промкааперацыі, паказвае, наколькі гэта работа недаацэньваецца (фармальныя адносіны да соцспаборніцтва і ўдарніцтва, недастатковы ахоп тэхвучобай і т. д.).

Да культпаходу сістэма мела 4 025 ударнікаў, соцспаборніцтвам было ахоплена 2 570 чал. Пасля паходу намеціўся пэўны зрух. Цяпер мы маем 4 391 ударніка, з якіх 3 255 ахоплена соцспаборніцтвам, працуюць 756 гурткоў тэхвучобы. Ажывілася работа палітгурткоў, вырасла колькасць насценгазет, палепшыўся іх змест і рэгулярнасць выхаду. Пры дапамозе культактыва ўдалося арганізаваць ячэйкі МОПР'а, АСО, ОЗЕТ'а. Але гэтага яшчэ недастаткова. Перавыхаванне нашых арцельшчыкаў, былых рамеснікаў, у масе сваёй даволі адсталых, з рэшткамі старых традыцый і ператварэнне іх у актыўных і свядомых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства патрабуе шырока разгорнутай масавай паліт-выхаваўчай работы.

Неабходна арганізаваць шырокую сець чырвоных куткоў, бібліятэк, умацаваць культпалітсоветы лепшымі перадавымі ўдарнікамі, праверыць склад культработнікаў і загадчыкаў клубамі, ператварыць клубы ў цэнтры кіраўніцтва ўсёй культмасавай работай для перавыхавання арцельшчыкаў і мабілізацыі іх на выкананне рашэнняў партыі і ўрада аб якасных і колькасных паказчыках плана. Трэба перагледзець змест нашых бібліятэк, папоўніць іх новымі кнігамі, а самае галоўнае—самім павярнуцца да культработы.

Вельмі важная прычына невыканання плана—слабая дысцыпліна. У швейным і скураным саюзах прагулы па няўважлівых прычынах павялічыліся. Менскі швейсаюз у жніўні мінулага года меў 225 прагулаў, у верасні—262; віцебскі ў жніўні—112, у верасні—163; гомельскі скурзавод у жніўні меў 139 прагулаў, у верасні—239. За жнівень усе скураныя саюзы мелі прагулаў па няўважлівых прычынах 1 112, а ў верасні 1 870. Гэтыя даныя сведчаць аб тым, што ў арцелях не разгорнута яшчэ сапраўдная барацьба за працдысцыпліну, што супроць лодыраў і прагульшчыкаў не мабілізавана грамадская думка арцельшчыкаў, што кульгае культмасавая работа.

* *
*

Па сістэме промкааперацыі сярэдняя выпрацоўка на адзін чалавека-дзень складала ў 1933 годзе 23 р. 88 кап.; у 1934 г.: 1 квартал—28 р. 20 к., II квартал—27 р. 87 к., III квартал—34 р. 75 к. і IV квартал—44 р. 92 коп.

Рост сярэдняй выпрацоўкі тлумачыцца цэлым радам прычын, з якіх асноўныя: павелічэнне колькасці фактычна адпрацаваных чалавека-дзён, лепшае выкананне плана.

Зніжэнне сабекошту прадукцыі па сістэме ў 1934 годзе, у параўнанні з 1933 годам, наступнае: I квартал—6,2 проц., II квар. 6,9 проц.,

III квартал—6,3%. Агульны процант зніжэння за 1934 год супроць 1933 года—6,1.

Якасць прадукцыі ўсё яшчэ не на высокім узроўні. Арганізаваная ў верасні 1934 г. усебеларуская выстаўка промкааперацыі паказала, што арцелі пры ўмелай пастаноўцы работы і ўмелым кіраўніцтве могуць даць прадукцыю высокай якасці.

Трэба аднак сказаць, што вялікая колькасць арцелей усё яшчэ злачынна-неахайна адносяцца да якасці выпускаемай прадукцыі.

Прадукцыя дрысенскай арцелі імя Тэльмана, бабруйскай шавецкай арцелі «Праца», віцебскай арцелі «Чырвоны Октябр» гаворыць аб тым, што кіраўнікі арцелей і саюзаў забылі дырэктывы партыі і ўрада аб палепшанні якасці і пашырэнні асартымента тавараў шырспажыву.

Амаль у кожнай арцелі ўведзен бракераж і кляйменне прадукцыі, аднак замест кляйма можна заўсёды знайсці на выпускаемай рэчы нейкую пляму, і ніяк нельга разабраць ні назвы арцелі, ні месца яе знаходжання.

Нядбайна, няўважліва адносіцца сістэма і да асартымента сваёй прадукцыі. Усё яшчэ працуе па-старому, не заўважваючы, што запатрабаванні спажыўца—рабочага і калгасніка—сталі зусім іншыя. У пытаннях асартымента нашы арцелі кіруюцца не запросамі спажыўца, а ў першую чаргу меркаваннямі хутчэйшага выканання плана і прыбытковасці.

З гэтай прычыны многія арцелі, асабліва гомельскага скурсаюза, затаварапы лодачкамі, але вельмі мала выпускаюць дзіцячага і школьнага абутку. Трыкатажныя арцелі выпускаюць шмат жаночых панчох, але няма панчох дзіцячых, наскоў і інш. Гандлюючыя арганізацыі пры заключэнні дагавароў з арцелямі павінны патрабаваць ад іх разнастайнага і патрэбнага спажыўцу асартымента.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на работу арцелей, якія займаюцца індывідуальным пашывам, бо яны зусім не клапоцяцца аб культурным абслугоўванні заказчыка. У гэтым лёгка можна пераканацца, пабываўшы ў менскай арцелі «Новы шлях», у гомельскай арцелі «Яднанне» і паглядзеўшы, як у іх абсталяваны пакоі, дзе прымаюцца заказы, дзе робіцца прымерка. Кідаецца ў вочы няўважлівасць і фармальна-чыноўніцкія адносіны да заказчыка, няўменне, а часта проста нежаданне падабраць адпаведны фасон.

Вельмі слаба, па-кампанейску, праводзіцца барацьба за якасць, за павышэнне кваліфікацыі арцельшчыкаў. Не ўсе арцелі маюць тэхгурткі. Зотаўскі рух можна адзначыць толькі ў некаторых буйных арцелях: «Гомтэкстыль», імя Крупскай і інш. Мала практыкуецца скліканне канферэнцый па якасці.

Ва ўсім гэтым вінаваты таксама і гандлюючыя арганізацыі, якія ні разу не прыцягнулі да адказнасці арцель ці саюз за дрэнную якасць прадукцыі або адмовіліся прыняць яе. У магазінах Белпромгандля заляжалася даволі значная колькасць нядобраякаснай прадукцыі. Гэта сведчыць аб тым, што Белпромгандаль вельмі дрэнна змагаецца за якасць тавараў промкааперацыі, што прыводзіць да ігнаравання дырэктыў партыі аб разгортванні гандлю і палепшанні абслугоўвання спажыўца.

Белкааппромсовет павінен уздзейнічаць на гэта мерамі выхаваўчымі і адміністрацыйнымі, знімаць з кіруючай работы і прыцягваць да адказнасці тых старшынь арцелей, якія не звяртаюць увагі на якасць прадукцыі і псуюць тавары.

Для барацьбы з бракам, для мабілізацыі ўсіх чэсных арцельшчыкаў супроць бракаробаў, неабходна адначасова павесці масава-растлумачальную работу, ствараць гурткі тэхвучобы па павышэнню кваліфікацыі, прапагандаваць зотаўскі рух, прэміюючы і вылучаючы лепшых зотаўцаў.

У арцелях вельмі слаба практыкуюцца вытворчыя нарады, тым часам як яны вельмі дапамагаюць выяўляць недахопы, павышаць прадукцыйнасць працы, узнімаць ініцыятыву, абменьвацца вопытам і паляпшаць якасць прадукцыі. Скліканне вытворчых нарад павінна ўвайсці ў практыку кожнай арцелі.

Не ўсё добра і з цэнамі. Неабходна прама сказаць, што сістэма забыла ўрокі 1932 года і пастанову СНК БССР па гэтаму пытанню. Цэлы рад арцелей парушае пастановы совецкіх органаў аб парадку ўстанаўлення цэн на прадукцыю промкааперацыі.

Яркім прыкладам парушэння палітыкі цэн служыць гарадоцкая ганчарная арцель, якая ўстанавіла цэны на пасуду вышэй зацверджаных саюзам. Гарадоцкая металёвая арцель, віцебская вяровачная арцель «Канатчык» і дрысенская шавецкая арцель імя Тэльмана прадавалі сваю прадукцыю па незацверджаных канвенцбюро і промсаюзамі цэнах.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што совет і саюзы мала ўважлівы да палітыкі цэн. Неабходна тэрмінова па ўсёй сістэме праверыць калькуляцыю выпрацоўваемых тавараў, забараніць арцелям устанаўляць самавольна, без зацверджання саюзамі або канвенцбюро цэн на свае вырабы. Злосныя парушальнікі совецкай палітыкі цэн павінны быць прыцягнуты да адказнасці.

Гандлюючыя арганізацыі абавязаны ўзмацніць кантроль і не толькі не прымаць прадукцыю без праверкі ўстаноўленых цэн, але і прыцягваць арцелі да адказнасці за спекуляцыю, за зрыў совецкай палітыкі цэн.

* * *

Перад промкааперацыяй, акрамя выпуску прадметаў шырспажыву, пастаўлена таксама задача—разгарнуць уласную сець культурнага совецкага гандлю.

Рознічны гандаль сістэмы промкааперацыі БССР характарызуецца наступнымі данымі таваразвароту (у тыс. руб.):

| 1932 год | | | 1933 год | | | 1934 год | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| План | Выкан. | Проц. | План | Выкан. | Проц. | План. | Выкан. | Проц. |
| 35640,1 | 1899,5 | 53 | 40018 | 21214,05 | 53 | 266000 | 25617 | 96 |

Колькасць гандлюючых кропак:

| На 1/І-33 г. | На 1/І-34 г. | На 1/І-35 г. |
|---|---|---|
| 241<br>У тым ліку на вёсцы<br>146 | 371<br><br>137 | 449<br><br>151 |

Рознічны гандаль не выканаў свой план не толькі ў выніку невыканання вытворчага плана па шырспажыву, але галоўным чынам у выніку таго, чаго саюзы і арцелі недаацанілі ўсёй важнасці разгортвання рознічнага гандлю, накіроўвалі ў рознічную сець тавары нізкай якасці і дрэннага асартымента, не лічачыся з узросшымі запатрабаваннямі спажыўца.

Усё гэта мела ўплыў на выкананне гандлёвых планаў, замаруджвала тавараразварот.

Асабліва ганебна адстаюць віцебскі швейсаюз (старшыня т. Сорын), які план выканаў на 74%, Бытпромсаюз (старшыня т. Гапонаў)—выканаў план на 32,2%.

Слабы рост гандлёвых кропак на вёсцы ярка ілюструе нежаданне большасці нашых саюзаў і арцелей гандляваць, боязнь адказнасці, боязнь сустракацца непасрэдна са спажыўцом. Тым часам пастанова партыі і ўрада аб гандлі арцелей у асноўным выходзіла іменна з таго, каб звязаць спажыўца з вытворцам, каб вытворца ведаў запатрабаванні спажыўца, яго густ.

Кожнаму саюзу і арцелі неабходна дабіцца, каб выкананне гандлёвага плана стала такім-жа адказным участкам, як і выкананне плана вытворчага. Трэба прымаць самыя рашучыя меры супроць ігнаравання дырэктыў партыі і ўказанняў тав. Сталіна на XVII партз'ездзе:

«Разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца наперад».

* * *

Сістэма промкааперацыі дасягнула пэўнага зруху, дзякуючы велізарнай увазе і штодзеннай дапамозе ЦК КП(б)Б. Аднак трэба сказаць, што калі-б мясцовыя раённыя арганізацыі ўдзялілі хоць частку гэтай увагі нашым арцелям, мы мелі-б яшчэ большыя вынікі.

У пастанове бюро ЦК КП(б)Б ад 2/IX-34 г. указана:

«Да гэтага часу прадаўжае мець месца недаацэнка гэтага важнейшага ўчастка і факты абураючых пагардліва-панскіх адносін да промкааперацыі з боку паасобных работнікаў раённых і сельскіх, партыйных, совецкіх і іншых арганізацый (незаконнае адбіранне памяшканняў, прыарцельных гаспадарак і інш.) і да кіруючых работнікаў промкааперацыі (зняцце старшынь міжрайсаюзаў і старшынь арцелей без узгаднення з кіруючым цэнтрам, без адпаведнай замены, частая перакідка іх і працяглае скарыстанне на розных кампаніях, не звязаных з іх асноўнай работай».

Не гледзячы на гэта ўказанне, многія раёны вельмі мала дапамагаюць у нашай рабоце.

Свіслацкі сельсовет закрыў швейную арцель і мабілізаваў усіх арцельшчыкаў на рэзку дроў і ачыстку снегу. Сіроцінскі РВК выдаў пастанову, якою забараняе промкааперацыі нарыхтоўваць свіныя скуры ў аднаасобнікаў. Бабруйскі горсовет хацеў выселіць цырульню Бытсаюза з памяшкання, але дзякуючы прынятым мерам справа была прыпынена.

Без дапамогі мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый промкааперацыі—гэтай у асноўным сугуба мясцовай прамысловасці—цяжка будзе справіцца з агромнымі задачамі, пастаўленымі перад ёю партыяй і ўрадам.

* * *

Пастаноўка справы ў рамонтных майстэрнях арцелей мае агромнае значэнне для здавальнення патрэб працоўных, таму пра гэты ўчастак трэба сказаць асобна.

Азнаёмімся з тым, як выконваўся план рамонту за 1934 г.

| | План 1934 года | Выкананне за 1934 г. Сума | % |
|---|---|---|---|
| Рамонт абутку . . | 17500,0 | 7888,3 | 44,8 |
| „ швейны . . | 5200,0 | 1085,8 | 20,9 |
| „ трыкатажа . | 400,0 | 152,7 | 38,2 |
| Бытавы рамонт . . | 1290,0 | 421,0 | 32,6 |

Асноўная прычына невыканання плана рамонту—слабое развіццё рамонтных пунктаў, недастатковасць кваліфікаваных кадраў, няўважлівасць адпаведных саюзаў і арцелей у кіраўніцтве гэтай справай.

Асабліва ярка відаць гэта на рамонце абутку. У той час, калі план пашыўкі новага абутку ў 1934 годзе выканан на 386%—план рамонту за гэты час выканан на 44,8%. Значыць асноўная ўвага ўдзялялася вытворчасці новага абутку, рамонт-жа быў у загоне. Адсюль выцякае і камплектаванне рабочай сілы. Так, менскі скурсаюз выканаў план камплектавання рабочай сілай па новаму абутку на 197%, а па рамонту на 42,9%; гомельскі скурсаюз—адпаведна: 382%, 43,6%; віцебскі—136% і 39,8%.

Агульны малюнак забяспечанасці рабсілай па ўсіх відах рамонту дае наступная табліца:

| | Колькасць рабочых: ма 1/I-34 г. | на 1/XI-34 г. |
|---|---|---|
| Рамонт абутку . . | 3037 | 2245 |
| „ швейны . | 92 | 75 |
| „ трыкатажа. | 32 | 26 |
| Бытавы рамонт. . | 82 | 53 |

Гэты прарыў у абслугоўванні спажыўца рамонтам меў уплыў і на павелічэнне колькасці саматужнікаў-адзіночак. Як відаць з даных па Віцебску, на 1/IV 1934 года было 97 саматужнікаў-адзіночак, на 1/IX—114; па Магілеву—89 і 107; па Менску—130 і 160. Характэрна, што ў той час, як колькасць саматужнікаў-адзіночак у Менску павялічылася, у рамонтнай арцелі «Чырвоны абутнік» яна зменшылася са 152 на 1/I 1934 года да 70.

Большасць рамонтных арцелей здаюць работу вельмі нізкай якасці, што таксама ўплывае на выкананне плана.

Для лепшага абслугоўвання насельніцтва арганізаваны самастойныя

рамонтныя арцелі ў Менску, Гомелі і Віцебску. Акрамя таго павялічваецца сецъ рамонтных пунктаў: у Менску на 5, Гомелі—3, Віцебску—3, Магілеве—2, Бабруйску—2 і Барысаве—1.

Сістэма Белкааппромсовета яшчэ не карыстаецца новымі метадамі рамонту, даўно ўжо ўведзенымі ў Маскве, Ленінградзе і інш. гарадах: мацаванне гумовай падэшвы, рамонт пастай, пераафарбоўка абутку і рэгенерацыя. Адсталасць сістэмы сказалася і тут. Усе гэтыя мерапрыемствы неабходна безадкладна ўкараніць у нашу сістэму. Яны павінны ўзняць прадукцыйнасць працы, палепшыць якасць рамонту.

* * *

За апошні час у рабоце сістэмы промкааперацыі намеціўся пэўны перелом.

У разгорнутым паходзе імя VII і XI з'ездаў советаў прыняла ўдзел агромная маса арцельшчыкаў. Небывалы ўздым адчуваецца не толькі ў лічбах выканання плана, але і ва ўсёй рабоце сістэмы, у тэмпах работы, у настроі арцельшчыкаў.

Выкананне плана за IV квартал 1934 года гаворыць аб тым, што сістэма сур'ёзна ўзялася за работу па-новаму, што рашэнне ЦК КП(б)Б аб промкааперацыі даведзена да масы арцельшчыкаў, што масы мабілізаваны вакол гэтых рашэнняў.

1935 год ставіць перад промкааперацыяй велізарныя задачы. Неабходна павялічыць выпуск прадукцыі на 16 процантаў супроць фактычнага выканання 1934 года. Рыначны фонд у плануемай на 1935 год прадукцыі павінен быць даведзен да 73,8%, а па асобных промыслах будзе яшчэ больш (скураны—89,7%, трыкатажны—95%).

План 1935 года па ўсіх паказчыках можа быць выканан пры ўмове росту тэмпаў работы, поўнага скарыстання абсталявання, рабочай сілы, пры ўмове аперацыйнага і канкрэтнага кіраўніцтва нізоўкай.

Неабходна сур'ёзна ўзяцца не толькі за выкананне плана па якасных і колькасных паказчыках, але і скарыстанне мясцовай недэфіцытнай сыравіны.

Сістэма промкааперацыі БССР мае для гэтага вялікія магчымасці. На мясцовай сыравіне, як паказалі вопыты, мы можам рабіць аблііцовачныя пліты, розныя віды пасуды, з пірафілітаў—сажавыя гарэлкі, якія замяняюць імпартныя, робяцца вопыты па арганізацыі ў сістэме вытворчасці дэкстрына, неабходнага ў скурпрамысловасці.

У 1935 годзе сістэма Белкааппромсовета павінна даць прадукцыі больш як на 215 млн. руб., якая ў асноўным будзе выражацца ў 500 тыс. пар абутку, 850 тыс. метраў ткані, на 300 тыс. руб. патэфонаў, на 350 тыс. руб. цацак, на 280 тыс. руб. музычных інструментаў, 417,5 тыс. тон торфу і інш.

Гэта праграма можа быць выканана толькі пры мабілізацыі ўсёй масы арцельшчыкаў на барацьбу за план 1935 года, пры шырокім укараненні сярод іх соцыялістычных метадаў працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва, тэхнічных ведаў, пры ўзмацненні класавай пільнасці, разгортванні ініцыятывы і самадзейнасці, узмацненні арганізацыйнай, палітмасавай і культасветнай работы, на што раённыя, партыйныя і совецкія арганізацыі павінны звярнуць належную ўвагу.

Наша задача—падняць тэхнічны ўзровень арцелей, ужыць новыя спосабы і метады работы, якія даўно ўжо прымяняюцца промкааперацыяй у іншых рэспубліках і абласцях, выканаць дырэктыву сакратара ЦК КП(б)Б тав. Гікало аб ліквідацыі адсталасці і закінутасці промкааперацыі Беларусі.

Ф. Дмітрыеў і Е. Залескі

# Правільна арганізаваць работу калгаснай брыгады на веснавой сяўбе

Сельская гаспадарка ў нашай краіне прыходзіць да веснавой сяўбы, як самая буйная, перадавая і механізаваная ў свеце.

У калгасах аб'яднана чатыры пятых усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак СССР і тры чверткі па БССР.

Перамогшы соцыялізм адкрыў шырокія магчымасці росквіту ўсёй нашай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Створаны ўсе ўмовы для безупыннага і расшыранага ўзнаўлення ў калгасах.

У галіне сельскай гаспадаркі БССР за апошнія 2—3 гады дасягнула велізарнейшых поспехаў.

У справе арганізацыі працы, як састаўной часткі ўсяго арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, БССР дабілася значных поспехаў.

Бурнае прасоўванне соцыялістычнай сельскай гаспадаркі да ўзроўню перадавых ордэнаносных краін і абласцей Саюза непарыўна звязана з пераходам ад работы скопам да сталых брыгад з акрэсленымі вытворчымі заданнямі.

Ужо ў 1933 г. з 6172 калгасаў рэспублікі 5659 або 91,5 проц. працавала на аснове брыгад. 1934 год даў яшчэ большыя вынікі ад укаранення брыгаднага спосабу арганізацыі работ.

Тав. Якаўлеў, гаворачы аб прыкладным статуце сельскагаспадарчай арцелі, адзначыў:

«Цяпер уся справа ў тым, каб услед за дзесяткамі тысяч перадавых, па ўзору перадавых арганізаваць работу ўсёй масы калгасаў і калгаснікаў».

Адною з рашаючых умоў уздыму адстаючых калгасаў да ўзроўню перадавых з'яўляецца сталая вытворчая брыгада, правільная арганізацыя працы ўнутры брыгады, бо справу рашаюць людзі, аўладаўшыя тэхнікай і агратэхнікай буйнай соцыялістычнай вытворчасці.

Як відаць з гадавых справаздач калгасаў за 1934 г. па 331 калгасу не мелі паляводчых брыгад толькі 12 калгасаў або 3,6 проц. Аднак, у арганізацыі працы і вытворчых брыгад ёсць яшчэ рад буйных недахопаў, бо не мала калгасаў хаваюць пад выглядам адной паляводчай брыгады, работу скопам.

Паводле тых-жа матар'ялаў, у 61 калгасах або 18,4 проц. ёсць па адной брыгадзе, пры гэтым склад брыгад большасці гэтых калгасаў перавышае 80 працаздольных.

Разглядзім **даныя ўдзельнай вагі гэтых калгасаў з адной паляводчай брыгадай і наяўнасцю больш 60 працаздольных:**

| Колькі даследав. калгасаў | | Колькасць працаздольных у брыгадзе | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 60—80 чал. | | 81—120 чал | | 120 і больш | | Разам | |
| | | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % |
| К-сы зоны МТС . | 191 | 13 | 6,8 | 13 | 6,8 | 5 | 2,6 | 31 | 16,2 |
| К-сы не МТС . . | 140 | 5 | 3,6 | 16 | 11,4 | 9 | 6,4 | 30 | 21,4 |
| Разам. . . | 331 | 18 | 5,4 | 29 | 8,8 | 14 | 4,2 | 61 | 18,4 |

З табліцы відаць, што найбольш адстаюць у арганізацыі працы калгасы не зоны МТС, якія займаюць у гэтай групе 21,4 проц., тым часам як калгасы зоны—16,2 проц.

Арганізацыя працы ў калгасах з адною брыгадай, якая мае больш 60—80 працаздольных, пастаўлена дрэнна. Брыгадзір не можа ахапіць канкрэтным кіраўніцтвам і кантролем «брыгаду» у 85 чалавек з 456 га ворыва, як гэта практыкуецца калгасам «16 партз'езд» Оршанскай МТС, Веравейшанскага сельсовета. У калгасе нізкая працоўная дысцыпліна (35 проц. усіх калгаснікаў за 1934 г. выпрацавалі менш 150 працадзён), горш як у 1933 г., калі гэтую групу складалі 22,8 проц. калгаснікаў, нізкая ўраджайнасць (жыта—6,3 ц. з га, авёс—5,3, лён—1,1) і нізкая ацэнка працадня (менш 2 кгр. зернавых, 2,712 кгр. бульбы і ні капейкі грашыма).

Довадам лепшай прадукцыйнасці брыгады ў 30—40 чалавек могуць служыць **паказчыкі ўраджаю і кошту працадня па асобных калгасах:**

| Назва калгаса | Ураджай (у *цнт* з *га*) | | Прыпадае на 1 працадзень (у *кгр*) | |
|---|---|---|---|---|
| | зернавых | бульбы | зернавых | бульбы |
| I. Без брыгад. | | | | |
| „Серп і молат“ . . . . . | 4,1 | 57,0 | 1,280 | 3,600 |
| „За соц. буд.“ . . . . . | 5,2 | 62,5 | 0,420 | 2,261 |
| II. З 1 брыгадай (больш 60 чал.) | | | | |
| „Большэвік“ . . . . . . | 5,5 | 58,9 | 0,982 | 4,000 |
| „Чырвоны рольнік“ . . . . | 4,7 | 46,7 | 0,950 | 1,633 |
| Імя Сталіна . . . . . . | 4,8 | 69,5 | 1,121 | 2,916 |
| „Ударнік“ . . . . . . . | 3,5 | 100 | 0,660 | 2,775 |
| III. З сярэднімі брыгадамі (30—40 чал.). | | | | |
| „Чырвоны ўдарнік“ . . . . | 10,5 | 128,5 | 3.250 | 12,000 |
| „Чырвоны партызан“ . . . | 14,7 | 138,7 | 4.460 | 16,000 |
| „Камбайн“ . . . . . . . | 13,7 | 155,0 | 3 062 | 11,500 |
| „Чырвоны вартавы . . . . | 13,2 | 89,4 | 4.102 | 5,600 |
| „Звязда“ . . . . . . . | 10,1 | 104,5 | 3,002 | 8,000 |

Як правіла, празмерна вялікія брыгады адстаюць у выкананні ўсіх работ. У іх нізкая працоўная дысцыпліна, неарганізаванасць у рабоце, дрэнна разгорнута соцспаборніцтва. Звычайна такія грамоздкія брыгады арганізуюцца на падставе тэрытарыяльнага прынцыпа.

Побач з гэтым паасобныя калгасы маюць зусім карлікавыя брыгады (15—20 чалавек), якія не могуць праіснаваць увесь сельскагаспадарчы год і бываюць вымушаны «спарыцца». Такая брыгада не можа працаваць на малацьбе, бо для абслугоўвання машыны патрэбна не менш 24 чалавек. Усё гэта, бясспрэчна, садзейнічае абязлічцы і дробна-буржуазнай ураўнілаўцы. Прадукцыйнасць працы ў дробных брыгадах звычайна нізкая.

Довадам гэтых могуць служыць **паказчыкі ўраджайнасці з 1 га і кошту працадня ў паасобных калгасах з дробнымі брыгадамі:**

| Назва калгасаў | Ураджайнасць (у *цнт* з *га*) | | Прыпадае на адзін працадзень | |
|---|---|---|---|---|
| | зернавых | бульбы | зернавых | бульбы |
| „Шлях Леніна" (Полацкі р.) . | 6,2 | 86,0 | 1,621 | 3,585 |
| „Ч. Мядзведзева" (Лепельскі р.) | 3,7 | 56,0 | 0,710 | 2,490 |
| „Чырв. урад" (Лёзненскі р) . | 4,8 | 58.5 | 0,645 | 2,920 |
| „Ленінскі шлях" (Клімавіцкі р.) | 4,8 | 44,7 | 1,030 | 1,750 |
| „Пролетарый" (Расонскі р.) . | 6,1 | 68,4 | 1,950 | 2,300 |

Як бачым, паказчыкі ўраджайнасці і кошту працадня ў дробных брыгадах у 2 і 3 разы ніжэй, чым у брыгадах сярэдніх размераў, разгледжаных у папярэдняй табліцы.

Такім чынам, вопыт паказаў, што на даным арганізацыйна-гаспадарчым узроўні калгасаў Беларусі брыгада з 30—40 чалавек найбольш мэтазгодна. Такія брыгады мае асноўная маса калгасаў БССР (каля 70 проц.).

Брыгада ў 30—40 чал. забяспечвае правільную, найбольш рацыянальную расстаноўку людзей па звеннях, а значыць і правільную, найбольш прадукцыйную арганізацыю вытворчага працэса. Яна забяспечвае дакладнасць і канкрэтнасць кіраўніцтва людзьмі ў самым працэсе вытворчасці, высокапрадукцыйную работу складаных сельскагаспадарчых машын, агрэгатаў і комплекснага выканання працы на працягу ўсяго сельскагаспадарчага года, бесперапынную працу малацільнага агрэгата (малацьба, падвозка снапоў, укладка саломы), прычым у гэты-ж час адно звяно працуе на сяўбе азімых.

Наша задача—на аснове даных вопыту ўстанавіць ва ўсіх калгасах найбольш рацыянальны размер брыгад, унікаючы, аднак, шаблону. Трэба добра ўлічыць усе асаблівасці кожнага канкрэтнага калгаса (яго размер, энергаўзброенасць, арганізаванасць, ступень падрыхтаванасці кадраў, у прыватнасці брыгадзіраў).

У радзе калгасаў брыгады арганізаваны няправільна. У аснову арганізацыі брыгад паложан не вытворчы прынцып, а тэрытарыяльны, выходзячы толькі з наяўнасці хутароў, вуліц, сямей,—г. зн. брыгады-дворкі. У брыгадах-дворак, як правіла, нізкая працоўная дысцыпліна,

нізкая ўраджайнасць, дрэннае кіраўніцтва і кантроль за якасцю работы, вялікія страты і раскрадванне ўраджаю, нізкая аплата працадня.

**Для ілюстрацыі возьмем даныя выпрацоўкі за 1934 год па калгасу імя Дзержынскага (Менскі раён), дзе брыгада арганізавана па вытворчаму прынцыпу, і калгасы «1 Мая», «Інтэрнацыянал» (Лёзненскага р.), дзе брыгады складзены па прынцыпу дворак:**

| Калгасы | Колькасць калгаснікаў і выпрацаваных працадзён (у процантах) | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | да 25 | да 50 | да 100 | да 150 | да 200 | да 250 | да 300 | звыш 300 |
| „Дзержынскага" (Менскі р.) | 2,2 | 2,9 | 11,6 | 24,0 | 16,6 | 11,6 | 13,7 | 17,4 |
| „1 Мая" (Лёзненскі р.) . . | 8,0 | 14,4 | 12,3 | 26,3 | 22,9 | 16,1 | — | — |
| „Інтэрнацыянал" (Лёзненскі р.) . . . . . . . . . | 10,6 | 12,2 | 14,6 | 15,4 | 19,5 | 16,3 | 7,3 | 4,1 |

У калгасах «1 Мая», «Інтэрнацыянал», дзе брыгады арганізаваны па прынцыпу дворак, у першым 34,7 проц., у другім 37,4 проц. усіх калгаснікаў выпрацавала менш 100 працадзён, у калгасе-ж імя Дзержынскага, дзе брыгады арганізаваны па вытворчаму прынцыпу, гэты процант складае ўсяго 16,7.

У брыгадах-дворках дрэнна выконваюцца нормы выпрацоўкі.

Прыводзім **параўнаўчыя даныя фактычнага выканання норм у калгасах «Інтэрнацыянал» і імя Дзержынскага.**

| Від работы | Норма НКЗБ | Норма калгаса „Інтэрнацыянал" | Фактычна выканана | |
|---|---|---|---|---|
| | | | К-с „Інтэрнацыянал" | К-с імя Дзержынскага |
| Ворыва сярэдніх зямель . | 0,60 | 0,40 | 0,13—0,30 | 0,50—0,65 |
| Баранаванне ў 3 сляды . | 3,00 | 1,75 | 1,00—1,50 | 2,50—3,00 |
| Касьба ручная . . . . | 0,35 | 0,35 | 0,15—0,30 | 0,35—0,40 |
| Касьба касілкай . . . . | 3,50 | 2,50 | 1,25—2,00 | 3,50 — |
| Подка лёну . . . . . . | 0,12 | 0,10 | 0,07—0,08 | — — |
| Цярабленне лёну . . . . | 0,10 | 0,10 | 0,04—0,08 | — — |
| Уборка зерневых самаскідкай . . . . . . | 3,50 | 2,50 | 1,00—2,00 | 3,50 — |

Пры нізкай прадукцыйнасці працы ў брыгадах-дворках дрэнна скарыстоўваюцца як сродкі вытворчасці, так і рабочая сіла. Напрыклад, у калгасе «Інтэрнацыянал» жнейкі-самаскідкі заняты былі на ўборцы толькі 60 проц. рабочага часу, з сямі касілак штодзённа

было ў рабоце не больш 3—4, рабочая сіла скарыстоўвалася толькі на 45—63 проц.

Значныя дасягненні маюць калгасы, якія арганізавалі брыгады па вытворчаму прынцыпу.

Для прыкладу прыводзім **табліцу скарыстання рабочай сілы** (у рабочых днях) **па брыгадах калгаса імя Дзержынскага:**

| | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Брыгада № 1 | | | | | | |
| Запас у рабочых днях . | 1066 | 1107 | 1066 | 1107 | 1107 | 1066 |
| Фактычна затрач. . . | 659 | 924 | 923 | 903 | 948 | 930 |
| У проц. да запасу . | 61,5 | 63,4 | 86,5 | 81,6 | 85,6 | 87,2 |
| Брыгада № 2 | | | | | | |
| Запас у рабочых днях . | 1066 | 1107 | 1066 | 1107 | 1107 | 1066 |
| Фактычна затрач. . . | 722 | 952 | 951 | 904 | 969 | 944 |
| У проц. да запасу . | 67,7 | 86,0 | 89,2 | 81,7 | 87,0 | 88,6 |

Аналагічныя поспехі мае калгас і ў галіне ўраджайнасці і кошту працадня. Няправільны падыход да арганізацыі брыгад прыводзіць к таму, што адны з іх недагружаны зямлёй, другія перагружаны, г. зн. вытворчае заданне не адпавядае размеру брыгады. Пацверджаннем гэтага могуць служыць **даныя нагрузкі ворыва на аднаго працаздольнага ў брыгадах паасобных калгасаў:**

| Калгасы | Усяго па калгасу | | | На аднаго працаздольнага прыпадае ворыва | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | У брыгадах | | | |
| | Ворыва (у га) | Працаздольных | Не аднаго працаздол. ворыва | № 1 | № 2 | № 3 | № 4 |
| Імя К. Маркса (Сенненскі р.) бр.-дворкі . . . . . . . | 713 | 187 | 3,81 | 4,1 | 3,0 | 2,9 | 3,6 |
| „Чырв. Окцябр“ (Сенненскі р.) бр.-дворкі . . . . . . | 414 | 85 | 4,9 | 10.0 | 3,5 | 5,3 | 4,9 |
| „Чырв. ніва“ (Оршанскі р.) вытв. брыгады . . . . . . | 328 | 145 | 3,3 | 2,3 | 2,3 | 2,2 | — |

Калгас «Чырвоны Окцябр» з-за няправільнай арганізацыі брыгад хранічна адстае па ўсіх кампаніях. 1-я брыгада не спраўлялася з работай і мела страты, якія зацягнулі ўборку, другая брыгада была недагружана, працавала вяла, выходзіла на работу позна. У 1934 годзе калгас сабраў з аднаго га: жыта 5,2 цэнт., пшаніцы яравой 6 цэнт., ячменю 3,9 цэнт., аўса 3,8 цэнт., ільнавалакна 1,1 цэнт., і

бульбы 28,7 цэнт. Дрэнная якасць апрацоўкі зямлі даходзіла да таго, што 15 га бульбы не баранавалі і не акучавалі.

Арганізацыя такіх брыгад ідзе ў разрэз з дырэктывамі партыі і ўрада аб сталай вытворчай брыгадзе. Ва ўсіх калгасах брыгады павінны быць арганізаваны, выходзячы з вытворчай мэтазгоднасці, максімальнага і рацыянальнага скарыстання закладзеных у соцыялістычнай прыродзе калгасаў агромных магчымасцей росту прадукцыйнасці працы, чоткага і акуратнага выканання вытворчага плана ў цэлым, своечасовага і добраякаснага правядзення ўсіх сельскагаспадарчых работ, выканання абавязацельстваў перад дзяржавай і ўзмацнення тэмпаў расшыранага ўзнаўлення.

Пры арганізацыі сталых вытворчых брыгад трэба выходзіць з канкрэтных умоў калгаса, замацоўваючы за кожнай брыгадай участак у кожным полі севазвароту.

У новым прыкладным статуце сказана: «Паляводчай брыгадзе адводзяцца вытворчыя ўчасткі ў палях севазвароту на тэрмін севазвароту». Статут-жа ў калгасе з'яўляецца законам. Брыгадныя ўчасткі павінны быць размешчаны не вакол пасёлкаў брыгады, а ў кожным полі севазвароту. Вытворчыя ўчасткі трэба замацаваць на больш-менш аднолькавай адлегласці для ўсіх брыгад.

Пры прапрацоўцы і прыёме новага статута ў кожным калгасе трэба добра праверыць, ці правільна арганізавана брыгада. Трэба пры гэтым праявіць асаблівую пільнасць, памятаючы, што класавая барацьба не аслабла, а абвастраецца. Былі факты, калі класавы вораг выступаў супроць брыгаднай работы, агітуючы за абязлічку, ураўнілаўку і цякучасць калгаснікаў, каб палегчыць раскрадванне соцыялістычнай уласнасці (калгас «Інтэрнацыянал», Лёзненскага раёна, «Чырвоны Окцябр», Сенненскага раёна, імя Сталіна, Оршанскага раёна і інш.).

Бязлітасная барацьба з разгромленым, але яшчэ не дабітым ворагам—неабходная ўмова далейшых перамог на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

Пры ўстанаўленні колькасці брыгад, а значыць і колькасці вытворчых участкаў у палях севазвароту, трэба прадугледзець найбольш прадукцыйнае і поўнае скарыстанне навейшай тэхнікі—трактароў, сельскагаспадарчых машын МТС і калгасаў.

Брыгадныя ўчасткі ў палях севазвароту трэба наразаць так, каб яны па магчымасці прымыкалі адзін да другога і былі размешчаны для кожнай брыгады не больш як у двух-трох месцах, што скароціць да мінімума непрадукцыйную трату часу на лішнія пераходы і пераезды з участка на ўчастак і дасць магчымасць найбольш прадукцыйна скарыстаць сродкі вытворчасці.

У практыцы ўвядзення севазваротаў мы сустракаем факты распыленасці брыгадных участкаў па ўсёй тэрыторыі калгаса, на шматлікіх кавалках зямлі.

Так, у калгасе «1 Мая», Чашніцкага раёна, брыгада № 2 атрымала ў другім полі севазвароту ўчастак з 22,6 га ў 4-х кавалках, з якіх адзін менш 1 га. І так амаль у кожным полі. Брыгада № 3 у чацвертым полі мае свой участак у пяці кавалках, агульным размерам 22,81 га. 3-я брыгада мае 45 кавалкаў агульнай плошчай 133,71 га, або ў сярэднім па 2,97 га кожны. Безумоўна, што пры такой нарэзцы брыгадных участкаў не можа быць і гутаркі аб прадукцыйным скарыстанні ўсіх сродкаў вытворчасці і правільнай арганізацыі працы ўнутры брыгады.

Вытворчыя ўчасткі трэба наразаць у кожным полі севазвароту больш-менш аднолькавых размераў.

Пры вялікіх адхіленнях размеру брыгаднага ўчастка ў палях севазвароту брыгады ў паасобныя гады могуць аказацца перагружанымі працаёмкімі культурамі (лён, бульба і інш.), з апрацоўкаю якіх не справіцца наяўны склад брыгады. Такое становішча пацягне за сабой перасоўкі людзей з адной брыгады ў другую, што прывядзе да парушэння прынцыпа сталай вытворчай брыгады і выкліча абязлічку вытворчых працэсаў.

**Хістанні размераў брыгад у радзе калгасаў** вельмі вялікія:

| Калгасы | Усяго працуе у палямоластве | З іх у брыгадах | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | № 1 | № 2 | № 3 | № 4 |
| „Чырвоная ніва" (Оршанскага р-на) . . | 145 | 48 | 47 | 50 | — |
| Імя К. Маркса (Сенненскага р-на). . . | 187 | 67 | 39 | 45 | 36 |
| „Чырв Окцябр" (Сенненскага р-на) . | 85 | 17 | 44 | 16 | 8 |

Табліца паказвае, што калгас «Чырвоная ніва» мае больш-менш аднолькавы размер брыгад (калгас паспяхова асвойвае ўведзены севазварот), у другіх-жа двух калгасах брыгады створаны няправільна: размер іх хістаецца ў першым калгасе ад 36 да 67 асоб,— розніца амаль у два разы, і ў другім—ад 8 да 44, розніца ў 5,5 раз. Зусім зразумела, чаму чацвертая брыгада калгаса «Чырвоны Окцябр» вымушана была зліцца з першай, а другая буксаваць трэцюю. Тое-ж самае і ў калгасе імя Карла Маркса.

Арганізацыя брыгад з такой вялікай розніцай у складзе ёсць ні што іншае, як прыстасаванне іх размеру да хутарскога, пасёлкавага рассялення калгаснікаў. Вытворчы ўчастак у брыгадзе з'яўляецца не проста тэрыторыяй, месцам работы, а вызначае сабой і адпаведны аб'ём работы ў паасобныя перыяды і за цэлы год і адпаведную агратэхніку.

Брыгады ўкамплектоўваюцца канчаткова, на падставе вытворчых заданняў, у адпаведнасці з аб'ёмам работы на вытворчым участку, людзьмі, цяглавай сілай і іншымі патрэбнымі для работ сродкамі вытворчасці. Для дакладнай праверкі таго, ці адпавядае склад брыгады аб'ёму работ на вытворчым участку, карысна скласці гадавы графік патрэбнасці ў людзях і цяглавай сіле па асобных месяцах.

Вытворчы прынцып арганізацыі брыгад азначае не толькі адпаведнасць іх сіл і сродкаў вытворчасці аб'ёму заданых работ, але і адпаведнасць кваліфікацыі кожнага калгасніка таму ці іншаму месцу ў вытворчасці.

У нашых калгасах здараецца, што ў адной брыгадзе многа мужчын, а ў другой пераважаюць жанчыны, у адной шэсць сеяльшчыкаў, у другой толькі два. Трэба адразу забяспечыць кожную брыгаду кваліфікаванымі калгаснікамі, праверанымі ўдарнікамі і партыйна-камсамольскім ядром.

Вытворчая брыгада—аснова калгаса. Пад кіраўніцтвам брыгадзіра, які прызначаецца праўленнем не менш як на два гады, яна працуе ў сталым складзе летам і зімою.

Добры прыклад паказвае калгас «Чырвоная зорка», Барысаўскага раёна. Пры ўвядзенні 8-польнага севазвароту ў 1934 годзе, ён арганізаваў чатыры паляводчыя брыгады па 35—37 чалавек у кожнай. Брыгадам адведзены ўчасткі ў кожным полі севазвароту, пры чым вытворчы ўчастак кожнай брыгады знаходзіцца не больш як у чатырох масівах. Склад брыгад застаецца непарушным таксама і на 1935 год. Пакончана з цякучасцю людзей і павышана зацікаўленасць кожнай брыгады ў лепшай апрацоўцы зямлі, з якой яна будзе знімаць ураджай не толькі ў гэтым годзе, але і ў наступныя гады, бо вытворчыя ўчасткі і склад брыгад мяняцца не будуць. У залежнасці ад ураджаю, брыгада атрымлівае і прыбытак за працадні.

* * *

Сталая вытворчая брыгада—асноўнае звяно арганізацыі працы сельскагаспадарчай арцелі. Трэба ўважліва падыйсці да расстаноўкі сіл унутры брыгады на кожным вытворчым участку ў розныя перыяды сельскагаспадарчага года. Важнейшымі пытаннямі ўнутрыбрыгаднай арганізацыі працы з'яўляюцца: укараненне здзельшчыны праз правільнае нармаванне, аплата і ўлік працы, планаванне работы брыгады, разбіўка брыгады на звенні, ушчыльненне рабочага дня пры правільным спалучэнні працы з адпачынкам людзей і цягавай сілы, разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва паміж калгаснікамі на высокую якасць усіх работ.

Арганізаванасць работы характарызуецца перш за ўсё тым, што кожны калгаснік своечасова павінен ведаць, дзе ён будзе працаваць, з якімі сродкамі вытворчасці, якую прыйдзецца выконваць норму выпрацоўкі і якасці, колькі яму за гэта будзе налічана працадзён.

У прыкладным статуце сельскагаспадарчай арцелі сказана, што на кожную работу ўстанаўляюцца нормы выпрацоўкі, даступныя добрасумленна працуючаму калгасніку, з улікам стану рабочай жывёлы, машын і глебы. Але на практыцы пры ўстанаўленні норм выпрацоўкі гэтыя асаблівасці не ўлічваліся радам калгасаў, а ў выніку нормы атрымаліся вельмі нізкія. Нізкія нормы выпрацоўкі не мабілізуюць калгаснікаў на высокія тэмпы работы. Складзены па такіх нормах рабочы план будзе нежыццёвы.

Нормы выпрацоўкі трэба разлічваць на падставе таго аб'ёму работы, які можа выканаць добрасумленны калгаснік за ўшчыльнены рабочы дзень, за фактычны дзень работы ў адпаведны сельскагаспадарчы перыяд.

Па кожнаму з асноўных відаў работы (ворыва, прапалка, возка гною, жніво, касьба і інш.) неабходна ўстанавіць невялікую дыферэнцыяцыю: 2—3 нормы выпрацоўкі ў залежнасці ад цягавай сілы, глебы, адлегласці, засмечанасці палёў, густаты травастою. Не трэба прымяняць іх да ўсіх работ, каб не стварыць дробнасці норм, што заблытае калгаснікаў і затрудніць улік працы брыгадзірамі.

Пры распрацоўцы норм адразу-ж устанаўляюцца і неабходныя якасныя паказчыкі, бо працадні паводле расцэнак ўстанаўляюцца толькі пры добрай якасці работы. Для бягучага года трэба ўлічыць станоўчы вопыт выканання норм выпрацоўкі за мінулыя гады.

Рост арганізаванасці, лепшы догляд каня, масавае разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва—ўмовы для сістэматычнага выканання і перавыканання норм выпрацоўкі і росту прадукцыйнасці працы ў калгасах.

Правільнае нармаванне працы—аснова планавання вытворчага

працэса. Норма з'яўляецца па сутнасці планам, даведзеным да рабочага месца, да кожнага ўдзельніка вытворчасці. Таму кожны калгаснік павінен ведаць норму на кожную работу. Нармаванне складаецца з устанаўлення нормы выпрацоўкі на тыя ці іншыя віды работ і ацэнкі іх у працаднях.

Уся работа па нармаванню патрабуе пільнасці, каб не дапусціць працягвання рэшткамі кулацтва шкодных як занадта нізкіх, так і праз меру высокіх норм.

Так, у мінулым годзе калгас імя XVI партз'езда, Веравейчанскага сельсовета, Оршанскага раёна, за выкананне норм выпрацоўкі па ўсіх відах работ налічыў па аднаму працадню, калі большасць работ можна было выканаць за палову дня. Такое «нармаванне» на руку толькі кулаку, бо сціраецца розніца паміж кваліфікаванай і простай працай, шырока дапускаецца ўраўнілаўка і падзёншчына замест здзельшчыны.

Правільна ўстанавіўшы нормы, трэба адносіць іх да пэўных груп аплаты працадня, з улікам складанасці, труднасці, важнасці работ і патрэбнай для іх выканання кваліфікацыі. Пры гэтым трэба карыстацца сяміразраднай сеткай аплаты працы ў калгасах, згодна пастанове НКЗ СССР ад 28-II 1933 г.

Нармаваннем працы трэба ахапіць усе галіны калгаснай вытворчасці, звярнуўшы асаблівую ўвагу на ўкараненне здзельшчыны ў жывёлагадоўлі. Без сапраўднай здзельшчыны нельга размяркоўваць даходы і ўраджай па соцыялістычнаму прынцыпу: кожнаму—па колькасці і якасці затрачанай працы.

У сталінскім статуце сельскагаспадарчай арцелі запісана, як закон для ўсіх брыгадзіраў і старшынь калгасаў, што ў працоўную кніжку калгасніка павінны заносіцца выпрацаваныя ім працадні не радзей аднаго разу ў тыдзен. Але важна яшчэ як запісаць. У некаторых калгасах працадні за тыдзень запісваюцца ў адзін радок, нібы «для эканоміі месца» ў працоўнай кніжцы. Пры такім запісе калгаснік не можа праверыць правільнасць налічэння яму працадзён. Брыгадзір абавязан запісаць не толькі колькасць працадзён, але назву і аб'ём кожнай работы за тыдзень.

Пры такім чоткім і своечасовым уліку работы ў працоўнай кніжцы калгасніка—павышаецца аўтарытэт працадня, для кожнага члена арцелі робіцца справай гонару стаць адным з першых па колькасці выпрацаваных працадзён.

Узорна арганізаваная соцыялістычная здзельшчына ў калгасах—магутны сродак агульнага ўздыму прадукцыйнасці працы на базе ўдарніцтва і павышэння вытворчай магутнасці калектыўнай гаспадаркі.

* * *

Усім вядомы ўказанні тав. Сталіна аб тым, што буйная гаспадарка не можа працаваць без плана. У практыцы калгасаў БССР мы маем толькі гадавое планаванне гаспадарчай дзейнасці, калі складаюцца вытворчыя планы. Але план, не даведзены да людзей, да выканаўцаў, не адыгрывае сваёй ролі. Ва многіх калгасах вытворчы гадавы план спакойна ляжыць у праўленні.

Першым крокам к таму, каб вытворчы план стаў кіраўніцтвам у дзеянні, з'яўляецца выдача складзеных на яго аснове гадавых вытворчых заданняў сталым калгасным вытворчым брыгадам.

Паколькі брыгада ведае свае ўчасткі ў палях севазвароту, у такім

гадавым заданні ўказваецца плошча пасеву кожнай культуры, якога ўраджаю з гектара павінна дабіцца брыгада і асноўная прадукцыя ў цэнтнерах за год.

Атрымаўшы гадавое заданне, брыгада ставіць сваёй асноўнай задачай—выканаць усе работы ва ўстаноўленыя партыяй і ўрадам агратэхнічныя тэрміны. Гэтай мэце падпарадкуецца ўся арганізацыя працы ў брыгадзе, вызначаецца арганічная сувязь брыгаднага плана з планам усяго калгаса, з планам развіцця сельскай гаспадаркі ўсёй рэспублікі.

Чоткай работы брыгада дасягае тым, што складае брыгадныя рабочыя планы на паасобныя перыяды. Рабочы план пасеўнай можа скласці кожны брыгадзір пры ўдзеле актыва калгаснікаў сваёй брыгады. У плане трэба ўстанавіць, якія работы і ў якой паслядоўнасці правесці на кожным участку, а пасля падлічыць, у які тэрмін брыгада выканае ўвесь пасеўны план.

Брыгадзір Механічэўскі (калгас «Чырв. ніва») складае свой план без усякай формы і проста запісвае работы ў такой паслядоўнасці, як яны выконваюцца ўвесну на палях. Брыгадзір Дакука (калгас «Чырв. зорка») складае свой план у невялічкую табліцу з такімі графамі:

1. Від работы; 2. Штодзенна: а) людзей, б) пар коней; 3. Каторы дзень пяцідзёнкі; 4. Аб'ём работы; 5. У якім полі і 6. Якое звяно.

Друкаваных форм рабочага плана брыгады цяпер няма. Гэту справу нельга бюракратызаваць. Але бясспрэчна адно—рабочы план патрэбен кожнай брыгадзе.

* *
*

Асноўнае ў веснавым плане брыгады—гэта расстаноўка людзей і скарыстанне цяглавай сілы, арганізацыя звенневай работы.

Звяно—гэта група калгаснікаў, якая выконвае пэўны від работы, або некалькі відаў, паслядоўна звязаных паміж сабою для павышэння прадукцыйнасці працы.

Работа звеннямі надае брыгадзе гібкасць, манеўранасць, аблягчае брыгадзіру ўлік колькасці і якасці працы кожнага члена арцелі, павышае яго адказнасць за даручаную яму справу, стварае ўмовы для пашырэння соцыялістычных форм і метадаў працы, для ўзаемнага кантроля і выхавання ў калгаснікаў сапраўды соцыялістычных адносін да працы і калгаснай маемасці. А ўсё гэта разам узятае значна павышае тэмп і прадукцыйнасць працы.

Пры веснавой сяўбе важна не дапусціць разрыву паміж падрыхтоўкай глебы і пасевам. У мінулым годзе гэты разрыў у радзе раёнаў быў значны. Так, Суражскі раён з 7.452 узвораных га на 26/IV засеяў толькі 274, Гарадоцкі з 16.732 га на 26/IV засеяў 706, Сіроцінскі з 8.896—530 га і т. д. Такі разрыў шкодна ўплывае на агульны тэмп сяўбы, узораная глеба траціць шмат вільгаці, перасыхае і пры баранаванні распыляецца.

Арганізацыя работы па прынцыпу камбінаваных звенняў у значнай меры дапамагае знізіць гэты разрыў адзінага працэса пасеўных работ і адначасова павысіць адказнасць кожнага калгасніка за даручаную яму справу.

Камбінаванае звяно планава і рацыянальна спалучае розныя прылады вытворчасці, якімі калгаснікі выконваюць рад паслядоўна паміж сабою звязаных работ: баранаванне і сяўба; ворыва, баранаванне і сяўба і т. д.

Прыкладам правільнай арганізацыі брыгад і расстаноўкі людзей на веснавой сяўбе можа служыць калгас «Чырвоная зорка», Барысаўскага раёна.

Першая брыгада мае 16 коней, замацаваных па адной пары за 8 калгаснікамі. Для машыннай сяўбы вылучаны 2 чалавекі, якія добра ведаюць сваю справу. Ранняе баранаванне зябліва на ўсіх участках, акрамя нізінных, праводзіцца звеннямі па чатыры пары коней і чатыры чалавекі ў кожным, у першыя чатыры дні выхаду ў поле. Барануюць у адзін, два або тры сляды, у залежнасці ад глебавых умоў. У рабочым плане брыгады ўказана дакладна, на якім участку і як апрацоўваць зямлю.

У першую пару дзён ворыва (мяшання) пад пшаніцу ўсе звенні выконваюць адзін від работы. Пасля адно звяно працягвае ворыва, а другое—прадпасеўнае баранаванне і пасеў пшаніцы. Працуе гэта звяно такім чынам:

1. Прадпасеўнае баранаванне ў чатыры сляды: тры чалавекі, 6 коней—3,7 га.

2. Пасеў сашніковай 11-радковай сеялкай: 2 чалавекі, 2 коней—3,7 га. Разам: 5 чал., 8 коней—3,7 га.

Пасля пасеву яравой пшаніцы брыгадзір Дакука дае звяну заданне апрацаваць і засеяць аўсом участак 8,12 га ў 8-м полі.

Два дні ўсе аруць (мяшаюць). Узараўшы 5,2 га, звяно разбіваецца на дзве часткі: два чалавекі на 4-х конях працягваюць ворыва, 2 чалавекі ў гэты час засяваюць увесь участак уручную (машына даецца брыгадзе толькі для пасеву пшаніцы) і два чалавекі на 4-х конях задзелваюць насенне ў тры сляды.

Такім чынам, звяно з 6-ці чалавек на 8-мі конях за чатыры дні засявае 8,12 га аўса.

Другому звяну брыгадзір дае заданне за тры дні пасеяць 4,6 га лён ў першым полі. Два дні на 8 конях 4 калгаснікі аруць, а ў трэці дзень 2 чалавекі рыхтуюць глебу пад пасеў, барануюць «Зіг-загамі» у 2 сляды, 2 чал. сеюць за імі ўслед і апошнія 2 чал. на 4 конях задзелваюць ільнанасенне ў 2 сляды дзяравянай бараною з жалезнымі зуб'ямі.

Такім чынам, гэта звяно з 6 чал. на 8 конях за тры дні засявае 4,6 га лёну.

Першае звяно з пасеву аўса ў 8 полі пераключаецца на пасеў аўса ў 5 полі. А другое звяно з пасеву лёну пераключаецца на пасеў гароху і ячменю.

Тут акрэслена адказнасць за якасць працы, наладжваецца ўзаемакантроль; разгортванне соцспаборніцтва з другім звяном забяспечвае перавыкананне норм выпрацоўкі. Такое камбінаванае звяно не пакіне 20—30 сотак гектара на наступны дзень, а напружанай працай абавязкова давядзе да канца даручаную справу.

Нельга думаць, што звяно (у нашым прыкладзе—з 4 чал. пры 8 конях) не будзе змяняцца ў сваім складзе. Умовы вытворчасці могуць патрабаваць змен, і іх трэба ўнесці.

Напрыклад, на пасеў бульбы патрэбна звяно: двое аратых пры 4 конях, 1 заграбальшчык гною ў баразну і 4 чал. на пасадцы бульбы, а разам—7 чалавек пры 4 конях з двума плугамі. Значыць, на пасадку 22,7 га бульбы брыгада Дакукі будзе мець 4 звяны: адно на ворыве і разбіўцы гною (4 коней і 10 чалавек) і тры звяны па 4 коней і 7 чалавек у кожным на пасеве бульбы.

Толькі пры такой арганізацыі работы ўнутры брыгады будзе забяспечана выкананне абавязковых аграправіл. Гной, напрыклад, пасля

раструскі больш аднаго дня ляжаць не будзе. Спажыўныя матэрыі амаль цалкам будуць скарыстаны раслінамі для нармальнага росту і добрага ўраджаю.

Многа непаразуменняў выклікае пытанне аб велічыні звяна. Яно павінна быць такім, каб забяспечыць максімальную прадукцыйнасць сельскагаспадарчых машын. Пры пасеве сеялкай трэба падлічыць, колькі сіл неабходна на баранаванне, каб машына не мела прастояў з прычыны непадрыхтаванасці глебы.

Паводле матар'ялаў даследвання, лепшыя паказчыкі даюць дробныя звенні. Так, напрыклад, на ворыве ў адным загоне большую прадукцыйнасць даюць 3—4 плугі, пры баранаванні—2—3 упражкі, пры сяўбе—адна сеялка.

Такім чынам на веснавой сяўбе больш рацыянальны склад звяна ў 8 коней і 4—5 калгаснікаў.

Побач з гэтым, трэба рашуча змагацца супроць камплектавання звенняў па семейнаму прызнаку, як гэта было ў калгасах «Чырвоны маяк» і «Чырвоная кветка» (Слуцк) і інш. Звяно-сям'я ідзе ў разрэз з соцыялістычнай арганізацыяй працы, у разрэз з інтарэсамі калгаса, зніжаючы прадукцыйнасць працы.

Трэба весці рашучую барацьбу з усякімі спробамі ўнесці ў брыгаду неарганізаванасць, расхлябанасць і разгільдзяйства. Арганізацыю працы ў калгасах трэба падняць на яшчэ больш высокую ступень, адпаведную вялікім задачам, пастаўленым перад сельскай гаспадаркай; узняць ураджайнасць, асабліва тэхнічных культур; павялічыць прадукцыю сельскай гаспадаркі ў 1935 годзе на 16,4%, у тым ліку тэхкультур на 21,8 проц.; ліквідаваць адставанне росту сельскагаспадарчай прадукцыі ад прадукцыі соцыялістычнай прамысловасці.

Новы сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі ўстанавіў спагнанні за парушэнне статута і правіл унутранага распарадку па калгасам. Асноўная мэта ўказаных спагнанняў—выхаваць з несвядомых яшчэ людзей актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства, а да шкоднікаў і зладзеяў прымяніць самыя суровыя пакаранні, як да ворагаў калгасаў.

Паставіць узорна працоўную дысцыпліну—значыць ліквідаваць прагулы і спазненні на работу, хутка і дакладна выконваць заданні брыгадзіра, падпарадквацца ўстаноўленаму распарадку рабочага дня, даць высокую якасць усіх работ. Трэба змагацца за рацыянальнае скарыстанне рабочага часу, на што рад калгаснікаў не звяртаў належнай увагі.

Прыводзім даныя за мінулы год па калгасу «Перамога» Шклоўскага раёна:

| Віды работы | Колькасць людзей у звяне | Працяглась рабочага часу за дзень | Асноўная работа | | Прастоі на рабоце | | Затрата часу на абед і падкормку | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | абсал. | проц. | абсал. | проц. | абсал. | проц. |
| Ворыва параконнымі плугамі . | 3 | 12 г. 30 м. | 6 г. 2 м. | 47,8 | 1 г. 53 м. | 16,1 | 3 г. 44 м. | 29,2 |
| Баранаванне. Зігзагамі . . . . | 4 | 13 г. 08 м. | 6 г. 20 м. | 49,4 | 1 г. 21 м. | 10,1 | 4 г. 20 м. | 32,9 |
| Пружыноўка . | 3 | 13 г. 21 м. | 4 г. 31 м. | 35,2 | 3 г. 20 м. | 22,5 | 4 г. 53 м. | 37,5 |

Гэтыя лічбы паказваюць, што нават і палова рабочага часу не ідзе на асноўную, прадукцыйную работу.

Галоўная прычына ў тым, што ўсе перапынкі ў рабоце робяцца без цвёрда ўстаноўленага парадку. Абедаюць замест 3-х гадзін па 4 і больш. Многа траціцца часу на збор звяна, брыгады, на запражку і пераезд да месца работы.

Кожная брыгада павінна мець дакладны распарадак рабочага часу, з указаннем чаргавання работы і адпачынку на ўвесь перыяд веснавых работ.

Да мінімума трэба скараціць затраты часу на збор брыгады і пераезды да ўчастка. Калі работа выконваецца больш як за кілометр ад вёскі, то зусім немэтазгодна ехаць дамоў на абедзены перапынак. Трэба зранку ўзяць з сабою корм і харчы і адпачываць абедзены час у полі, асабліва ў дні спрыяючага надвор'я.

Барацьба за ўшчыльнены рабочы дзень ёсць барацьба за кароткія і раннія тэрміны сяўбы, за скарыстанне вялікіх магчымасцей калектыўнай працы.

* *
*

Вынікі работы калгаснай брыгады залежаць ад пастаноўкі палітыка-выхаваўчай работы сярод калгаснікаў, ад бальшэвіцкай мабілізацыі ўсіх членаў арцелі на своечасовае і высокаякаснае выкананне пасеўнага плана. Партыйна-масавая работа згуртоўвае ўсіх чэсных калгаснікаў супроць кулакоў, лодыраў і зладзеяў.

Лепшая форма масавай работы ў брыгадзе—рэгулярнае правядзенне палітгутарак і вытворчых нарад. На такіх брыгадных нарадах растлумачваюцца важнейшыя рашэнні партыі і ўрада, абмяркоўваюцца планы работы брыгады і ход іх выканання, заключаюцца ўмовы на соцспаборніцтва з іншымі брыгадамі і паміж калгаснікамі ў брыгадзе і правяраецца выкананне дагавароў. Улічыўшы выкананне норм і якасць работы, брыгадзір выносіць на абмеркаванне нарады работы лепшых калгаснікаў-ударнікаў і падвяргае грамадскаму ганьбаванню лодыраў і бракаробаў. Брыгадзіру ў правядзенні вытворчых нарад актыўна дапамагаюць комуністы і комсамольцы.

Другая форма масавай работы на веснавой сяўбе—чытка газет непасрэдна на полі ў час перапынку, выпуск насценгазет, чорнай і чырвонай дошкі, паводле вынікаў спаборніцтва—выдача ўдарнікам значкоў або чырвоных флажкоў і т. д.

Комуністы павінны праявіць вялікую пільнасць супроць усіх вылазак класавага ворага і мабілізаваць супроць іх ненавісць усіх членаў арцелі.

«Працаваць чэсна і берагчы калгаснае дабро» **(Сталін)**—вось аснова, вакол якое трэба разгортваць масавую палітработу. Шырокай базай масавай агітацыі з'яўляецца новы сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі. Ён указвае, як у хутчэйшы час зрабіць калгасы бальшэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі, культурнымі і палітычна свядомымі людзьмі.

Асаблівую ўвагу партыйныя арганізацыі павінны ўдзяліць выхаванню брыгадзіраў—цэнтральнай фігуры калгасных кадраў, якая ў значнай меры вырашае вынік работы ў брыгадзе. Трэба павышаць аўтарытэт брыгадзіраў, замацоўваць іх на пасту на тэрмін не менш 2-х год.

Брыгадзір, сам у першую чаргу авалодваючы тэхнікай, павінен

арганізаваць калгасныя масы на барацьбу за аўладанне перадавою тэхнікай, на барацьбу за высокі ўраджай.

«Цяпер самай важнай задачай сельскай гаспадаркі, акрамя ўздыму жывёлагадоўлі, трэба прызнаць павышэнне ўраджайнасці зернавых і тэхнічных культур» **(Молатаў).**

У барацьбе за павышэнне ўраджайнасці пры правільнай арганізацыі працы ў брыгадзе вялікую ролю адыгрывае інспектар якасці. Ён адказвае за грамадскі кантроль і па кожнаму выпадку нядобрасумленнай работы мабілізуе ўсіх калгаснікаў супроць бракаробаў.

Дрэнна аднак, калі брыгадзіры і старшыні калгасаў клапоцяцца толькі аб тэрмінах сяўбы, а праверку якасці перакладаюць цалкам на інспектароў у брыгадах. Трэба памятаць, што работу ад звяна прымае брыгадзір, а старшыня калгаса абавязан прымаць ад брыгад кожны ўчастак, на якім сяўба скончана. Грамадскі кантроль інспектароў— справа важная, але за ўсю гаспадарчую дзейнасць персанальна адказвае кіраўнік.

Праводзячы ў жыццё новы статут арцелі, трэба арганізаваць жанчын на актыўны ўдзел у вытворчасці.

Дзейсная форма праверкі выканання ўзятых абавязацельстваў па соцспаборніцтву—гэта ўзаемная пасылка дэлегатаў уступіўшых у спаборніцтва калгасаў і брыгад з абмеркаваннем яе вынікаў на агульным сходзе членаў арцелі.

Узорная арганізацыя працы ў брыгадзе—важнейшы сродак павышэння ўраджайнасці калгасных палёў, бо ўсё залежыць ад людзей, ад іх арганізаванасці і цвёрдай рашучасці высокаякасна выканаць дадзены пролетарскаю дзяржавай план.

БССР і яе кіраўнікі т. т. **Гікало** і **Галадзед** за выдатныя поспехі на працягу раду год ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва рашэннем урада атрымалі вялікую ўзнагароду—ордэн Леніна.

Але высокая ўзнагарода не павінна нас супакойваць. Ордэн Леніна ўскладае на нас вялікія задачы. Ордэн Леніна абавязвае нас яшчэ з большай энергіяй, з большым энтузіязмам, па-ўдарнаму працаваць, каб апраўдаць назву ордэнаноснай рэспублікі.

Наша задача—па-большэвіцку правесці веснавую сяўбу, падцягнуць адстаючыя калгасы да ўзроўню перадавых, дабіцца рэкордна-высокага ўраджаю, мабілізаваць і найбольш поўна скарыстаць усе сродкі і велізарнейшыя магчымасці, закладзеныя ў прыродзе соцыялістычнай вытворчасці для росту заможнасці калгаснікаў, для ажыццяўлення вялікага плана пабудовы бясккласавага соцыялістычнага грамадства.

---

А. Гарэлікаў

# Узняць жывёлагадоўлю на вышэйшую ступень

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVII партз'ездзе ўказаў: «1934 год павінен і можа стаць годам пералому к уздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы».

Тав. Сталін мабілізаваў усю партыю і ўсіх працоўных на большэвіцкае вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі:

> «Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такою-ж першачарговаю праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая».

Паводле папярэдніх даных перапісу жывёлы, на I/I-35 г. у параўнанні з адпаведнымі данымі 1934 года, колькасць пагалоўя жывёлы ў СССР павялічылася: стада буйнай рагатай жывёлы па калгасна-сялянскаму сектару ўзрасло на 21 проц., а па калгасах на 30 проц., авечак і коз—адпаведна: на 11 проц. і 18 проц., свіней на 118 проц. і на 27 проц.

Заслухаўшы даклад Наркамзема і НКСоўгасаў, VII усесаюзны з'езд советаў адзначыў:

> «Жывёлагадоўчыя соўгасы і калгасныя таварныя фермы сталі асноўнаю базай уздыму жывёлагадоўлі, палепшання якасці жывёлы і росту таварнай прадукцыі».

На I/I 1935 года ў СССР арганізавана 194 тысячы жывёлагадоўчых калгасных таварных ферм з пагалоўем: 7,4 мільёна буйнай рагатай жывёлы, 10,2 мільёна авечак і 3,5 мільёна свіней. Акрамя таго, створаны 4.700 конеферм з пагалоўем у 276 тысяч коней. К гэтаму-ж часу ў БССР арганізавана каля 15 тысяч калгасных таварных ферм з пагалоўем: буйнай рагатай жывёлы 513.200 галоў, свіней 186.900 і авечак 134.800. Разам з тым у СССР арганізавана каля 2.000 жывёлагадоўчых соўгасаў, з пагалоўем буйнай рагатай жывёлы 3,5 мільёна, свіней 2,6 мільёна, авечак і коз 7,8 мільёна. У тым ліку ў БССР арганізавана каля 250 жывёлагадоўчых соўгасаў з пагалоўем буйнай рагатай жывёлы 75.600 галоў, свіней 161.800 і авечак 3.400.

За апошнія два гады па СССР прадана калгаснікам з калгасных ферм 500 тысяч цёлак, 2 мільёны парасят, 200 тыс. ягнят. Звыш мільёна калгаснікаў за 1933-34 год пры дапамозе дзяржавы абзавяліся каровамі і цёлкамі. У 1934-35 гг., згодна пастанове чэрвеньскага

пленума ЦК ВКП(б), соўгасамі будзе прадана для калгасных таварных ферм 430 тыс. галоў буйнай рагатай жывёлы, 600 тысяч авечак і 250 тысяч парасят і для калгаснікаў 300 тыс. цялят, 1200 тысяч парасят і 200 тысяч ягнят. Соўгасамі БССР у гэтым-жа годзе будзе прадана для калгасных ферм 1.000 галоў буйнай рагатай жывёлы і 10.000 парасят, а для калгаснікаў 600 цялят і 58.500 парасят. З калгасных таварных ферм будзе прадана бескароўным калгаснікам 2 мільёны цёлак па ўсяму Саюзу, у тым ліку 26.000 цёлак па БССР. З іх за кошт пакупкі і кантрактацыі ў калгаснікаў і аднаасобнікаў—1.600 тыс. цёлак, у тым ліку па БССР 16 тысяч.

У БССР дасягнуты таксама некаторыя зрухі ў палепшанні жывёлагадоўлі. Так, у 1934 годзе, у параўнанні з 1933 годам, адыход цялят скараціўся з 14,7 да 10,8 проц., адыход парасят—з 36,7 да 17,9 проц. Захаванне цялят на 100 кароў у калгасах павялічылася з 59 да 98. Захаванне дзелавых парасят на свінаматку павялічылася з 2,8 да 4,3.

Цэлы рад раёнаў БССР, як Заслаўскі, Менскі, Чырвонаслабодскі, Парыцкі і інш., дзякуючы бальшэвіцкай барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, планавасці ў рабоце і аперацыйнаму, канкрэтнаму кіраўніцтву калгасамі і сельсоветамі, дабіліся за 1934 год значных поспехаў і ў павелічэнні пагалоўя жывёлы. Напрыклад, у Заслаўскім раёне за 1934 год пагалоўе буйнай рагатай жывёлы ўзрасло на 20,8 проц., свіней на 88,0 проц., авечак на 35,6 проц. Па Менскаму раёну за гэты-ж час пагалоўе буйнай рагатай жывёлы павялічылася на 15,4 проц. і свіней на 20,4 проц.

Не меншых вынікаў дабіліся сотні калгасных таварных ферм і ў іншых раёнах БССР. Напрыклад, Ветрынскі сельсовет, Полацкага раёна, за 10 месяцаў 1934 года выканаў план камплектавання пагалоўя жывёлы па ўсяму сельсовету: буйнай рагатай жывёлы на 102,1 проц., коней на 100,1 проц., авечак на 108,3 проц., свіней на 96,7 проц. Гэты-ж сельсовет датэрмінова выканаў малакопастаўкі (на 103 проц.) і мясапастаўкі.

Аднак у цэлым жывёлагадоўчая справа ў БССР пастаўлена ўсё яшчэ нездавальняюча: у параўнанні з 1933 годам, у 1934* годзе ў нас адбылося скарачэнне пагалоўя коней на 9,2 проц., свіней на 2,0 проц. і авечак на 33,7 проц., і толькі пагалоўе буйнай рагатай жывёлы ўзрасло за гэты час на 2,1 проц. Сярод іншых рэспублік, краёў і абласцей Савецкага саюза—БССР па тэмпах развіцця жывёлагадоўлі займае адно з апошніх месц.

XVII з'езд ВКП(б) з усёй рашучасцю патрабаваў ад партыйных арганізацый «падняць арганізацыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва».

Аднак многія раённыя арганізацыі і сельсоветы яшчэ і дагэтуль не перабудавалі сваёй работы на аснове пастаноў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б. У рабоце многіх раённых арганізацый і сельсоветаў усё яшчэ пануе канцэлярска-бюракратычны метад кіраўніцтва справай жывёлагадоўлі. Спецыялісты завалены канцэлярскай работай, замест таго каб большасць свайго часу аддаваць непасрэднай дапамозе калгасам у палепшанні работы ферм.

Многія раённыя арганізацыі і сельсоветы адарваны ад ферм, не ведаюць аб стане жывёлагадоўлі ў кожным калгасе, не аказваюць

*) На 1 ліпеня.

дастатковай і своечасовай дапамогі, асабліва адстаючым калгасам, не мабілізуюць як след калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на выкананне дырэктыў партыі і ўрада аб жывёлагадоўлі і часта не даюць належнага адпору класаваму ворагу ў яго шкодніцкай падрыўной рабоце.

Чым-жа як не канцэлярска-бюракратычным метадам кіраўніцтва тлумачыцца тое, што райза Петрыкаўскага раёна перагрузіў фермамі параўнаўча малазямельны і з дрэннымі натуральнымі выпасамі калгас «Большэвік», арганізаваўшы ў ім конеферму на 33 кабылы, МТФ на 76 кароў, СТФ на 35 свінаматак і АТФ на 63 галавы авечак, а суседні калгас «Класы», з лепшай кармавой базай, зусім пакінуў без абагуленага пагалоўя свіней; што ў Шклоўскім раёне райза даведў на 1934 год абсалютна аднолькавыя заданні па ўдою, жывой вазе і выхаду маладняка для ўсіх калгасаў раёна, а ў Пухавіцкім і Петрыкаўскім раёнах гэтыя паказчыкі па лініі райза і зусім не планаваліся.

Чым, як не тымі-ж канцэлярска-бюракратычнымі метадамі кіраўніцтва паасобных раённых работнікаў да аўцагадоўлі, можна тлумачыць тое, што Петрыкаўскі райза нават і не ведаў аб ліквідацыі ў калгасе «XIII Окцябр» АТФ, меўшай больш 60 галоў авечак, а райза Пухавіцкага раёна даў заданне калгасу «Окцябр», які меў на працягу двух апошніх год па 12—20 авечак, завесці ў 1934 годзе толькі 9 авечак.

Што датычыць індывідуальнай жывёлагадоўлі, то рад раённых арганізацый і сельсоветаў прытрымліваліся палітыкі неўмяшання і вельмі мала змагаліся за гадоўлю маладняка і захаванне пагалоўя жывёлы калгаснікаў і аднаасобнікаў. Індывідуальная жывёлагадоўля, якая займае ў нас вялікае месца, аддавалася такім чынам у радзе раёнаў на самацёк. А гэтым карыстаўся кулак у сваёй падрыўной рабоце па знішчэнню пагалоўя.

Толькі адсутнасцю чоткага большэвіцкага кіраўніцтва жывёлагадоўляй з боку многіх раённых арганізацый і сельсоветаў можна тлумачыць тое, што такія раёны, як Сенненскі, Бешанковіцкі, Крупскі, Чырвонапольскі, Прапойскі, Клімавіцкі, Лельчыцкі, Тэрахаўскі, Чэрыкаўскі і інш., аказаліся ў прарыве і цягнуць уніз усю рэспубліку.

Напрыклад, у Бешанковіцкім раёне пагалоўе коней за 1934 год скарацілася на 19,6 проц., пагалоўе буйнай рагатай жывёлы— на 5,1 проц. і авечак—на 33,4 проц. А такія раёны як Чэрыкаўскі і Сенненскі, нават пасля пастановы бюро ЦК КП(б)Б аб фактах разбазарвання жывёлы ў Чаускім раёне, прадаўжаюць злачыннае разбазарванне пагалоўя прадукцыйнай жывёлы і драпежніцкае знішчэнне коней.

* *
*

Для забяспечання хутчэйшага ўздыму жывёлагадоўлі чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) і ліпеньскі ЦК КП(б)Б пастанавілі:

> «Ужыць, па прыкладу дзяржаўнага пасеўнага плана, метад дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі з устанаўленнем планавых заданняў па росту пагалоўя жывёлы ў соўгасах і таварных калгасных фермах, плана гадоўлі маладняка соўгасамі, калгасамі, калгаснікамі і аднаасобнікамі і плана вытворчасці кармоў, з давядзеннем гэтых планаў да соўгасаў, калгасаў і сельсоветаў».

Дзяржаўны план—магутны рычаг у руках пролетарскай дзяржавы. У 1935 годзе мы павінны дабіцца яшчэ большага росту пагалоўя жывёлы, палепшання яе якасці, павышэння прадукцыйнасці і забяспечыць паспяховае вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі.

Маладняк—асноўная ўмова ўзнаўлення пагалоўя жывёлы. Раённыя арганізацыі, сельсоветы і праўленні калгасаў павінны асаблівую ўвагу звярнуць на захаванне і вырошчванне маладняка. Пры гэтым трэба памятаць, што зацверджанае з'ездам советаў і даведзенае да соўгасаў, калгасаў і сельсоветаў планавае заданне па вырошчванню маладняка павінна быць абавязкова выканана кожным раёнам і сельсоветам, калгасам і соўгасам, калгаснікам і аднаасобнікам.

Вопыт перадавых раёнаў, калгасаў і соўгасаў паказвае, што ў нас ёсць усе магчымасці не толькі выканаць, але і перавыканаць заданне па вырошчванню маладняка і ўвесь план развіцця жывёлагадоўлі.

> «У барацьбе за далейшы ўздым жывёлагадоўлі цэнтральным месцам у працы зямельных, соўгасных і совецкіх арганізацый павінна быць разгортванне і ўмацаванне жывёлагадоўчых калгасных таварных ферм і ўмацаванне жывёлагадоўчых соўгасаў» (з рэзалюцыі VII усесаюзнага з'езда советаў).

БССР дабілася значных поспехаў у арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні жывёлагадоўчых соўгасаў. Але разам з тым у іх рабоце яшчэ нямала буйнейшых недахопаў: дрэнная арганізацыя працы, адсутнасць жорсткага гаспадарчага разліку і бальшэвіцкай барацьбы за павышэнне ўраджайнасці, палепшанне і пашырэнне кармавой базы, за правільнае кармленне жывёлы, канчатковае знішчэнне адыходу і правільнае вырошчванне маладняка, за найбольш рацыянальнае скарыстанне кармавых рэсурсаў і т. д. Усе гэтыя недахопы тармозяць паспяховае выкананне дзяржаўнага плана жывёлагадоўлі і далейшае палепшанне работы жывёлагадоўчых соўгасаў і калгасаў.

Жывёлагадоўчыя соўгасы павінны заняць вядучую ролю ў справе ўздыму і развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі і паказваць навакольным калгасам прыклад, як трэба паставіць жывёлагадоўлю, каб палепшыць развіццё племянной справы, узняць прадукцыйнасць ферм і т. д.

З'езд советаў у сваіх рашэннях абавязвае зямельныя органы, соўгасныя трэсты, раённыя арганізацыі, сельсоветы і рабочых соўгасаў карэнным чынам палепшыць работу жывёлагадоўчых соўгасаў, зрабіць іх узорнымі, рэнтабельнымі прадпрыемствамі і сапраўднымі рассаднікамі племяннай жывёлы; дабіцца, каб соўгасы аказвалі яшчэ большую дапамогу калгасным таварным фермам і калгаснікам у продажы ім дарослай жывёлы і маладняка.

Неабходна, каб кожны соўгас меў жывёлу розных відаў і быў забяспечан у размеры поўнай патрэбнасці сваімі ўласнымі грубымі і сакавітымі кармамі і канцэнтратамі. Для гэтага трэба расставіць пагалоўе буйнай рагатай жывёлы і свіней у адпаведнасці з кармавою базай кожнага соўгаса. Неабходна канчаткова знішчыць ігнараванне севазвароту і агратэхнікі, што наглядаецца яшчэ ва многіх соўгасах, і ўжо з гэтай вясны ўвесці ў кожным соўгасе, адпаведна з яго спецыялізацыяй, кармавы севазварот, рэзка павялічыўшы пасевы кармавых траў, караняплодаў і бульбы. На аснове далейшага палепшання арганізацыі працы, скарыстання машын і коней, пра-

вільнага выкарыстання мінеральных угнаенняў, гною, торфу і іншых мясцовых рэсурсаў угнаення, трэба максімальна павысіць ураджайнасць паляводства і гародніцтва.

Адначасова трэба рашуча ўзмацніць работу па палепшанню натуральных лугоў і выпасаў і павышэнню іх ураджайнасці, карэнным чынам палепшыць арганізацыю працы на фермах, арганізаваць у соўгасах першапачатковыя ўстаноўкі (кухні) па перапрацоўцы кармоў, дабіцца строгай планавасці ў кармленні жывёлы, забяспечыць правільны догляд і ўтрыманне яе і т. д. Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на рашучае палепшанне племяннoй справы і дабіцца, каб у кожным соўгасе, ОРС'е і каапгасе было створана гняздо племяннoй і палепшанай жывёлы.

Разам з соўгасамі рашаючую ролю ва ўздыме і развіцці жывёлагадоўлі адыгрываюць калгасныя таварныя фермы, у арганізацыі якіх БССР дабілася вялікіх поспехаў. Аднак, разам з тым, у нас яшчэ больш як дзве трэці калгасаў не маюць аўцагадоўчых ферм, больш паловы не маюць свінагадоўчых і каля адной трэці—малочна-таварных ферм. Задача раённых арганізацый, сельсаветаў і калгасаў—дабіцца, каб ужо ў 1935 годзе не засталося ніводнага калгаса без жывёлагадоўчай таварнай фермы.

З'езд саветаў пастанавіў давесці к канцу 1935 года пагалоўе буйнай рагатай жывёлы на фермах БССР да 686 тысяч (з іх 220 тысяч кароў), пагалоўе свіней—да 245 тысяч (з іх 60 тысяч свінаматак) і пагалоўе авечак да 150 тысяч. Ажыццяўленне гэтага задання абавязвае нас поўнасцю выканаць план закупкі і кантрактацыі для калгасных ферм 85 тысяч цёлак у калгаснікаў і аднаасобнікаў і ні ў якім разе не дапускаць разбазарвання стада таварных ферм.

Калгасная ферма—важнейшы ўчастак калгаснай гаспадаркі, адзін з важнейшых сродкаў умацавання калгасаў, павышэння іх багацця і ажыццяўлення лозунга т. Сталіна аб тым, каб усе калгаснікі сталі заможнымі. Таму неабходна падцягнуць адстаючыя фермы да ўзроўню перадавых, максімальна ўзмацніць арганізацыйна-гаспадарчае становішча ўсіх калгасных жывёлагадоўчых ферм і рашуча палепшыць якасць іх работы. Кожную ферму трэба забяспечыць сталымі жывёлагадоўчымі брыгадамі, уласнай моцнай і ўстойлівай кармавою базай і культурна абсталяванымі будынкамі. Трэба максімальна палепшыць пароду жывёлы, у работу кожнай фермы ўкараніць вышэйшую жывёлагадоўчую тэхніку, канчаткова знішчыць адыход маладняка, падвоіць удоі кароў на калгасных фермах і павысіць усю прадукцыю жывёлагадоўлі, дабіцца яшчэ больш акуратнага выканання фермамі абавязкаў перад дзяржавай.

Рашуча трэба палепшыць ветэрынарна-заатэхнічнае абслугоўванне жывёлы ва ўсіх калгасах і соўгасах, увесці абавязковыя правілы па догляду і ўтрыманню жывёлы і дабіцца, каб яны няўхільна выконваліся.

Аўцагадоўля панесла найбольшыя страты за рэарганізацыйны перыяд. Задача раённых арганізацый, сельсаветаў і калгасаў—ужо ў гэтым годзе канчаткова ліквідаваць адставанне аўцагадоўлі. Адначасова трэба максімальна пашырыць гадоўлю у калгасах трусоў, птушак і пчол.

Паспяховае ажыццяўленне ўсіх задач, пастаўленых XVII партз'ездам, чэрвеньскім пленумам ЦК ВКП(б) і з'ездамі саветаў у галіне жывёлагадоўлі можа быць забяспечана толькі на аснове соцыялістычнага спаборніцтва паміж раёнамі і соўгаснымі трэстамі.

Не павінна быць ні аднаго раёна і соўгаснага трэста, які-б не прыняў удзелу ва ўстаноўленым XI усебеларускім з'ездам советаў конкурсе-спаборніцтве на лепшы раён і трэст па жывёлагадоўлі. Справа гонару партыйных і совецкіх арганізацый кожнага раёна і трэста—заваяваць у гэтым конкурсе пераходны сцяг імя XI усебеларускага з'езда советаў.

* * *

З ростам механізацыі нашай гаспадаркі ні ў якім разе не зніжаецца значэнне каня. У сваім выступленні на XVII партз'ездзе тав. Варашылаў падкрэсліў:

> «Конь не толькі не процістаіць трактару, не канкуруе з ім, але, наадварот, яго ва многім дапаўняе, яму дапамагае... Конь у нашай краіне цяпер і ў далейшым будзе надта неабходны і патрэбны, як ён быў патрэбны і раней, калі ў нас было мала трактароў... І цяпер і ў будучым нашай Чырвонай арміі конь патрэбны ў вялікай колькасці, прычым конь добры, конь, які будзе поўнасцю адпавядаць таму ўзроўню развіцця нашых узброеных сіл, на якім мы ў сучасны момант знаходзімся».

Гэта значыць, што конегадоўлю мы павінны не толькі паляпшаць, але і пашыраць. Партыя і ўрад далі канкрэтную праграму барацьбы за соцыялістычную конегадоўлю. Аднак, ва многіх раёнах і калгасах, як адзначыў у сваім дакладзе VII усесаюзнаму з'езду советаў наркамзем СССР тав. Чэрноў, усё яшчэ прадаўжаецца «злачынная неахайнасць, нядбайнасць, адсутнасць увагі к каню, фармальныя адносіны к пастановам партыі і ўрада» аб конегадоўлі. Чым-жа іншым вытлумачыць тое, што яшчэ і ў 1934 годзе, пры росце конскага пагалоў'я ў калгасах на 8 проц., у калгасна-сялянскім сектары колькасць коней скарацілася па СССР на 3 проц., па БССР на 9,2 проц.

Рашаючае значэнне ў пытаннях конегадоўлі, як і ў іншых галінах гаспадаркі, мае падбор людзей і правільная іх расстаноўка. Возьмем прыклады з двух калгасаў Петрыкаўскага раёна.

У калгасе «Большэвік»—конеферма на 33 кабылы. Праўленне павінна было асабліва ўзорна паставіць работу гэтай фермы, каб паспяхова выканаць адказнейшую задачу гадоўлі для совецкай краіны племянных коней. Што-ж зроблена на справе? Большасць канюхоў мянялася па некалькі раз у год, прычым на ферму браліся выпадковыя людзі, якія зусім не цікавіліся справай і нават варожа адносіліся да калгаснага будаўніцтва. У доглядзе за коньмі панавала поўная абязлічка, кармы разбазарваліся і раскрадваліся. Коні за калгаснікамі былі замацаваны фармальна. Калгаснікі нярэдка выязджалі на работу позна і, каб выканаць норму, недапушчальна хутка ганялі коней, пры гэтым некалькіх пакалечылі. Адна з лепшых племянных кабыл фермы з-за недагляду старшага конюха—сапсавана жарабком пры злучцы і зусім загінула. Кабыл да злучкі не падрыхтоўвалі, а пускалі к вытворніку часта проста з хамута, пасля цяжкай работы. Такім чынам «злучалі» кабыл па 4—5 раз за сезон. Рапартавалі Наркамзему аб поўным выкананні плана злучкі, а ўрэшце ажарабілася толькі адна кабыла. На весну коні вышлі вельмі худыя. Калгас ледзь-ледзь справіўся з пасеўнай пры дапамозе валоў.

Калгас «XIII Окцябр» на догляд коней звярнуў больш увагі. Там ужо тры гады нязменна працуе старшым конюхам Паўтаран Прахор, 4 канюхі працавалі па дзве зімы і адзін—адну зіму. Тав. Паўтаран душой хварэе за даручаных яму коней. Ён добра ўцяпліў стайню,

адвёў радзільнае аддзяленне для жаробных кабыл, замацаваў коней за канюхамі, увёў абавязковыя начныя дзяжурствы канюхоў і сам бываў на стайні па некалькі раз за ноч, а пры жарабленні кабыл дзяжурыў на стайні ўсе ночы. Па настаянню Паўтарана і пры садзейнічанні брыгадзіраў паляводчых брыгад злучаемыя кабылы вызваляліся ад цяжкіх работ на адзін-два дні да і пасля злучкі, з другой паловы жаробнасці аслабаняліся ад цяжкіх, а пазней і ад усякіх работ. У выніку не было ніводнага аборта. Атрымаўшы такую-ж колькасць кармоў, як і ў «Большэвіку», Паўтаран арганізаваў рэзку і запарванне саломы, эканомна расходваў канцэнтраты. На весну коні Паўтарана вышлі ў добрым целе.

У 1935 годзе, згодна пастанове VII усесаюзнага з'езда советаў, неабходна абавязкова забяспечыць карэнны пералом у развіцці конегадоўлі. Гэта значыць, што дзяржаўны план конегадоўлі безумоўна павінен быць выканан поўнасцю, прычым колькасць конеферм павінна быць даведзена па БССР да 280 з агульным пагалоўем 13 тыс., з іх конематак 5 900 і вытворнікаў 300. Неабходна арганізаваць пакупку і кантрактацыю жарабят прыплоду 1935 года ў аднаасобнікаў і давесці план вырошчвання жарабят да дзяржаўных і іншых установ раёна, якія маюць кабыл.

Каб забяспечыць паспяховае выкананне дзяржаўнага плана, раённыя арганізацыі, сельсоветы і калгасы павінны карэнным чынам палепшыць арганізацыю працы, кармлення, догляду і ўтрымання коней. У кожным раёне і калгасе цяпер-жа неабходна праверыць працаздольнасць коней, забяспечанасць іх грубымі і моцнымі кармамі да канца стойлавага перыяда. На час пасеўнай значна палепшыць кармленне коней і ўзмацніць кармавы фонд. Слабасільных коней выдзеліць у асобую групу, аслабаніць іх ад цяжкіх работ і ўзмоцненым кармленнем прывесці іх у поўную працаздольнасць к пачатку пасеўнай.

Усіх жаробных кабыл пасля 6-ці месяцаў жаробнасці аслабаніць ад цяжкіх работ, а за два месяцы да жараблення і на 15 дзён пасля—ад усіх работ. Ні аднаго аборта кабыл—вось задача кожнага калгаса і сельсовета.

Кожная калгасная брыгада і калгас у цэлым безадкладна павінны скласці план выкарыстання конепагалоўя на час вясенне-летніх работ. У гэтым плане абавязкова прадугледзець аслабаненне жаробных кабыл на ўказаны вышэй тэрмін, размеркаванне коней па групах, у залежнасці ад працаздольнасці кожнага, устанавіць час адпачынку кожнага каня і выдзеліць некалькіх коней для абслугоўвання за плату асабовых патрэб калгаснікаў.

Змагаючыся за палепшанне і пашырэнне конегадоўлі, раённыя арганізацыі, сельсоветы і калгасы, галоўным чынам палескіх раёнаў, павінны разгарнуць шырокую работу па вырошчванню ў калгасах і соўгасах рабочых валоў, якія значна ўзмоцняць не толькі запас цягавай сілы, але і нашы мясныя рэсурсы.

* *
*

У барацьбе за ўсямернае пашырэнне і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасных таварных ферм, нельга ні на мінуту забываць індывідуальнай жывёлагадоўлі калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў. Індывідуальная жывёлагадоўля яшчэ займае ў БССР вялікае месца: звыш 60 проц. буйнай рагатай жывёлы, 75 проц.—свіней і 85 проц. авечак.

БССР, як і ўвесь Совецкі саюз, дабілася сур'ёзных поспехаў у забяспечанні калгаснікаў каровамі і дробнай жывёлай. Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі адчыняе новыя велізарныя магчымасці для развіцця індывідуальнай жывёлагадоўлі калгаснікаў. Згодна статуту, калгасны двор у ільнаводчых, канопляводчых і бульбяна-гародных раёнах можа мець у асабістым карыстанні карову, да 2-х галоў маладняка буйнай рагатай жывёлы, адну свінаматку з прыплодам (а калі праўленне знойдзе неабходным, то і 2 свінаматкі з прыплодам), да 10-ці авечак і коз разам, неабмежаваную колькасць птушак і трусоў і да 20 вулляў пчол. Калгасны двор у палескіх раёнах БССР можа мець у асабістым карыстанні 2—3 каровы, акрамя маладняка, ад 2 да 3 свінаматак з прыплодам, ад 20 да 25 авечак і коз разам, а таксама неабмежаваную колькасць птушак і трусоў і да 20 вулляў пчол.

Ужо на 1935 г. чэрвеньскі пленум устанавіў для калгаснікаў рад ільгот, каб павысіць зацікаўленасць іх у развіцці соцыялістычнай жывёлагадоўлі. Згодна пастанове чэрвеньскага пленума, 25 проц. ад здаваемага дзяржаве кожнаю фермай мяса, 15 проц. малака і 20 проц. шэрсці павінна пералічвацца ў выкананне асабовых абавязкаў калгаснікаў па пастаўцы дзяржаве жывёлагадоўчай прадукцыі. Кожнаму калгасніку, акрамя ўстаноўленай платы, дадаткова налічваецца 10—15 працадзён за кожную выгадаваную і зданую на ферму ў парадку кантрактацыі цёлку (не менш 4 месяцаў). Кожны калгаснік, які выгадуе ў сваёй гаспадарцы і здасць на ферму па дзяржаўнай цане нецеля ці карову, аслабаняецца на два гады ад паставак дзяржаве мяса і малака.

Пастанова пленума і новы калгасны статут адкрываюць перад раённымі арганізацыямі агромныя магчымасці для ўцягнення шырокіх мас калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў у барацьбу за соцыялістычную жывёлагадоўлю, за ператварэнне калгасных ферм у адну з асноўных крыніц калгасных даходаў.

З'езд советаў патрабуе ад раённых арганізацый, сельсоветаў і праўленняў калгасаў давесці ўстаноўленыя партыяй і ўрадам ільготы па развіццю жывёлагадоўлі да кожнага калгасніка і аднаасобніка і арганізаваць справу дапамогі бескароўным калгаснікам такім чынам, каб к пачатку 1936 года не засталося ні аднаго калгасніка без каровы або цёлкі.

Неабходна таксама разгарнуць шырокую работу па заключэнню з калгаснікамі і аднаасобнікамі дагавароў на вырошчванне і продажу калгасам кароў ці нецелей.

Вялікае значэнне ў нашай народнай гаспадарцы мае птушкагадоўля і трусагадоўля. Раённым арганізацыям, сельсоветам і праўленням калгасаў неабходна аказваць усялякую дапамогу калгаснікам і працоўным аднаасобнікам у развіцці гэтых галін гаспадаркі. Задача птушка-інкубатарных станцый і птушка-трусаводных соўгасаў аказаць дапамогу ў забяспечанні калгаснікаў маладняком птушак і трусоў.

* * *

«Галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай... Трэба берагчы кожнага здольнага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Выхоўваць, дапамагаць расці, даць перспектыву, своечасова вылучаць, своечасова пераводзіць на другую работу, калі чалавек не спраўляецца са сваёй справай, не чакаючы таго, калі ён канчаткова праваліцца» **(Сталін).**

Гэтым гістарычным указаннем мы павінны няўхільна кіравацца і ў справе жывёлагадоўлі. Толькі на аснове яго мы зможам стварыць і выхаваць сталыя кадры моцных, высокакваліфікаваных майстроў жывёлагадоўлі—загадчыкаў ферм і брыгадзіраў, даярак, цялятніц, свінарак, канюхоў, пастухоў, добра ведаючых тэхніку сваёй справы. Без сталых кадраў, без аўладання зоатэхнікай нельга правільна, на належную вышыню паставіць кармленне жывёлы, выхаванне маладняка, племянную і малочную справу. У нашай соцыялістычнай прамысловасці на аснове 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна створаны выдатныя кадры рабочых і спецыялістаў, аўладаўшых вышынямі сусветнай тэхнікі. Задача жывёлагадоўчых соўгасаў і калгасных таварных ферм—таксама перабудавацца на аснове 6-ці ўмоў тав. Сталіна.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) і ліпеньскі—ЦК КП(б)Б пастанавілі:

> «Стварыць на фермах сталыя жывёлагадоўчыя брыгады, устанавіўшы налічэнне працадзён калгаснікам у жывёлагадоўчай брыгадзе на аснове здзельшчыны па колькасці абслугоўваемай жывёлы, вырошчваемага прыплоду і выхаду прадукцыі».

Тэрмін работы брыгады—не менш 3 год.

Аб значэнні гэтай пастановы яскравей за ўсё сведчаць прыклады лепшых ферм, дзе, як правіла, створаны сталыя жывёлагадоўчыя брыгады на чале з вопытнымі загадчыкамі ферм, якія паспелі добра аўладаць зоатэхнікай і з поспехам яе скарыстоўваць у рабоце.

Сталая жывёлагадоўчая брыгада племфермы калгаса «Сейбіт», Петрыкаўскага раёна, заключыла дагавор па соцспаборніцтву і ўдарніцтву і ўдзельнічала ва ўсебеларускім конкурсе на лепшую ферму. Нязменны загадчык фермы т. Беластоцкі скончыў толькі 4 групы пачатковай школы і кароткатэрміновыя курсы па свінагадоўлі, але за чатыры гады работы на ферме дабіўся глыбокіх ведаў у галіне жывёлагадоўлі і перадае іх усёй брыгадзе ў зоатэхнічным гуртку фермы. Заняткі гуртка ператвараюцца ў вытворчыя нарады, на якіх т. Беластоцкі ўважліва абмяркоўвае і вывучае разам з брыгадай кожную змену ў доглядзе і кармленні свіней.

Больш года на ферме існуе індывідуальная здзельшчына. Свінаматкі строга замацаваны за свінаркамі. Кармленне і догляд свіней пастаўлены добра. Са 156 нарадзіўшыхся ў 1934 годзе парасят не пала ні аднаго. Ад 25 свінаматак атрымана ў сярэднім 6,4 парасяці на апарос.

Гадоўля парасят таксама пастаўлена даволі добра, што відаць з даных жывой вагі парасяці (у кгр.): пры нараджэнні—1,0, аднамесячнага—4,7, двухмесячнага—10,0, трохмесячнага—16,3.

Жывая вага парасяці ў калгасе «Сейбіт» пры ад'ёме—у паўтара-два разы вышэй, чым ва многіх нашых калгасах. І гэта пры нязначным фондзе выдзеленых для фермы канцэнтратаў. Зусім заслужана калгас некалькі раз прэміяваў усю брыгаду і асабіста т. Беластоцкага. Беластоцкіх—дзесяткі ў калгасах. Ад іх вельмі многае залежыць як у палепшанні жывёлагадоўчых кадраў, так і ўсёй жывёлагадоўлі. Раённым арганізацыям, сельсоветам і праўленням калгасаў трэба толькі знайсці іх і арганізаваць з іх моцныя брыгады.

Многія калгасы на аснове пастановы чэрвеньскага пленума ўжо рэарганізавалі работу на фермах і дабіліся значнага палепшання яе.

Аднак на вельмі многіх фермах і зараз пануе цякучасць, абязлічка і ўраўнілаўка, што ў далейшым абсалютна нецярпіма.

Раённыя арганізацыі, сельсоветы і праўленні калгасаў павінны безадкладна стварыць на кожнай ферме сталыя жывёлагадоўчыя брыгады.

«На фермы павінны быць вылучаны лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы, якія любяць справу жывёлагадоўлі... Работа на калгаснай ферме павінна стаць справай гонару ў калгасах» (з рэзалюцыі XI усебеларускага з'езда советаў).

Перавод ферм і арганізацыі працы ў іх на новы статут сельскагаспадарчай арцелі—адна з важнейшых першачарговых гаспадарчапалітычных задач раённых арганізацый, сельсоветаў і праўленняў калгасаў.

Іменна лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы, якія любяць справу жывёлагадоўлі, павінны быць выдзелены ў жывёлагадоўчыя брыгады. Ураўнілаўскі падыход да аплаты **працы, цякучасць** і частая змена складу жывёлагадоўчых брыгад—нецярпімы, бо могуць прывесці да развалу фермы.

Пры арганізацыі брыгад з асаблівай увагай трэба падабраць загадчыкаў ферм і старшых канюхоў. Гэта—важнейшыя фігуры нашай жывёлагадоўлі. Загадчык фермы і старшы конюх прызначаецца праўленнем на тэрмін не менш 2-х год. Кожнаму загадчыку трэба даць больш самастойнасці ў гаспадарчых справах фермы, выдзеліўшы ў яго распараджэнне пэўную колькасць сродкаў. Бо куды гэта варта, калі загадчык фермы месяцамі клянчыць у праўлення кавалак мыла для брыгады і не атрымлівае. А гэта факт. У калгасе «3-ці рашаючы», Пухавіцкага раёна, загадчык фермы т. Гайдучонак некалькі месяцаў прасіў у праўлення кавалак мыла і не мог атрымаць, хоць яно ляжала ў кладовай. Даяркі і цялятніцы ўсё лета былі без мыла. Або ў калгасе «Перамога», Шклоўскага раёна. Загадчык фермы т. Дуйноў купіў для брыгады «Даведнік брыгадзіра МТФ» і прасіў члена праўлення—рахункавода т. Куляшова—звярнуць яму заплочаны за кніжку 1 руб. Куляшоў адказаў: «З якой рацыі? Ты карыстаешся кніжкай, ты і плаці».

Загадчыка фермы ва многіх калгасах зрабілі возчыкам малака. І ездзіць ён увесь папасны перыяд па 2 разы на дзень, раніцай і ўвечары, на злівачны пункт, трацячы на гэта большую частку свайго працоўнага дня. Праверыць-жа як пасецца жывёла і заняцца іншымі непасрэднымі справамі застаецца мала часу.

Аплата працы павінна праводзіцца выключна на аснове здзельшчыны. Ураўнілаўка—вораг соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Яна не задавальняе добрасумленных працаўнікоў. Ураўнілаўка на руку толькі лодырам і ворагам, прысмактаўшымся да фермы з мэтай разваліць яе. Напрыклад, на ферме калгаса «Калектыўная праца», Шклоўскага раёна, пад прыкрыццём ураўнілаўкі прыходвалі не ўсё надоенае малако, а астатак пасля паення цялят, выдачы малака на грамадскае харчаванне і т. д.

На МТФ індывідуальная здзельшчына павінна быць уведзена ў абслугоўванні ўсяго пагалоўя, пры чым кожны калгаснік павінен атрымліваць працадні ў залежнасці ад абслугоўваемага ім пагалоўя, выхаду прадукцыі (надоенага малака, прыросту жывой вагі жывёлы) і захавання маладняка.

За кожным свінаром замацоўваецца 6—7 свінаматак з прыплодам ад іх да 2,5 месяца, за брыгадзірам—кныры і некалькі матак; астатняе пагалоўе абслугоўваецца ўсёй брыгадай у цэлым. Але ў брыгадзе трэба размеркаваць абавязкі па абслугоўванню гэтага астатняга пагалоўя так, каб ні ў якім разе не было абязлічкі і безадказнасці ў доглядзе.

У буйных аўцаводных фермах таксама павінна быць створана сталая жывёлагадоўчая брыгада на аснове здзельшчыны па колькасці абслугоўваемага пагалоўя авечак, выгадаванага прыплоду, настрыгу шэрсці і інш. Размер брыгады вызначаецца праўленнем калгаса ў залежнасці ад колькасці пагалоўя і інш. У невялікіх фермах догляд авечак павінен быць даручан 1—2 калгаснікам.

У змешаных фермах для догляду жывёлы арганізуецца адзіная жывёлагадоўчая брыгада. Кожнаму калгасніку даручаецца пры гэтым абслужыць пэўную колькасць жывёлы, не дапускаючы абязлічкі і безадказнасці ў доглядзе.

Асаблівую ўвагу раённыя арганізацыі, сельсоветы і праўленні калгасаў павінны звярнуць на правільную арганізацыю працы ў конегадоўлі. Для догляду за коньмі ў кожным калгасе вылучыць і замацаваць не менш як на 3 гады лепшых калгаснікаў-ударнікаў. Штодзеннае кіраўніцтва работай канюхоў ускласці на брыгадзіраў сталых вытворчых паляводчых брыгад, якія адказваюць за стан і ўкормленасць замацаваных за брыгадамі коней, за поўную і своечасовую злучку кабыл, вырошчванне маладняка, правільны догляд, утрыманне, кармленне і скарыстанне коней.

Для работы на конях іх неабходна строга замацаваць за калгаснікамі (ездавымі), якія нароўні з канюхамі адказваюць за стан, укормленасць і правільнае скарыстанне замацаваных за імі коней, своечасовую злучку замацаваных за імі кабыл і за вырошчванне жарабят.

Раённыя арганізацыі і праўленні калгасаў, на аснове прыведзеных у новым палажэнні НКЗ СССР аб арганізацыі працы на фермах прыкладных норм нагрузак і расцэнак у кожным калгасе, выходзячы з размераў фермы, якасці пагалоўя, забяспечанасці жывёлы будынкамі і т. д., павінны ўстанавіць свае нормы нагрузкі і расцэнкі, зацвердзіць іх на паседжанні праўлення і агульным сходзе калгаснікаў і зрабіць іх абавязковымі для штодзеннага кіраўніцтва.

Адначасова на аснове дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі неабходна распрацаваць гадавыя і месячныя вытворчыя заданні для кожнай фермы і брыгады. У вытворчым заданні абавязкова ўказаць, колькі кожная брыгада павінна за кожны месяц і на працягу ўсяго года надаіць малака, атрымаць і захаваць прыплоду, злучыць матак, здаць прадукцыі дзяржаве і т. д.

Чоткае вытворчае заданне—адна з лепшых умоў для шырокага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Кожная перадавая брыгада, якая лепшай пастаноўкаю работы забяспечыць удой кароў большы планавага, лепшую ўкормленасць жывёлы і поўнае захаванне маладняка, павінна атрымаць ад калгаса ў якасці прэміі да 10 проц. ад усёй колькасці выпрацаваных ёю працадзён, з якіх асабліва выдатным ударнікам налічваецца да 15 і загадчыку фермы да 20 проц. ад выпрацаваных імі працадзён. І наадварот—з дрэнна працаваўшай брыгады, якая дала ўдой малака меншы сярэдняга, укормленасць жывёлы ніжэй плана і няпоўнае выхаванне маладняка, калгас вылічвае да 10 проц. усіх выпрацаваных брыгадай працадзён.

Наша задача—дабіцца, каб у нас зусім не было дрэнна працую-

чых і адстаючых брыгад. Шырокае ўкараненне калгаснага вопытніцтва, арганізацыя хат-лабараторый, зоатэхнічна-ветэрынарных курсаў і сталых зоаветгурткоў у кожным калгасе, арганізацыя калгасных і раённых музеяў па жывёлагадоўлі і перыядычных жывёлагадоўчых выставак і т. д.—вось шляхі аўладання зоатэхнікай і палепшання работы ферм.

Каб выканаць усе пастаўленыя з'ездамі советаў задачы па развіццю жывёлагадоўлі, трэба асабліва правільна выкарыстоўваць наяўных зоаветспецыялістаў.

Раённыя арганізацыі павінны прымацаваць кожнага зоатэхніка і ветэрынара да пэўнай групы калгасаў і дабіцца, каб спецыялісты сапраўды дапамагалі калгасам правільна паставіць работу ферм, павысіць кваліфікацыю брыгад. Трэба пакончыць з гастралёрствам і безадказнасцю спецыялістаў за работу даручаных ім ферм. Толькі пры дэталёвым азнаямленні з работай ферм і брыгад можна аказаць калгасам найлепшую дапамогу.

Зоатэхнікі і ветработнікі павінны добра ведаць, у якім стане знаходзіцца кожная ферма і брыгада, не менш аднаго раза ў 10—15 дзён дэталёва правяраць іх і разам з праўленнем калгаса і брыгадай намячаць і дабівацца ажыццяўлення канкрэтных мерапрыемстваў для ліквідацыі знойдзеных недахопаў і далейшага палепшання работы ферм і брыгад.

На кожным зоатэхнічным участку выдзеліць некалькі апорных ферм і арганізаваць на іх паглыбленае вывучэнне асноўных пытанняў іх работы. Лепшыя дасягненні гэтых і ўсіх найбольш перадавых ферм безадкладна пераносіць у практыку астатніх ферм раёна.

Разам з тым раённыя арганізацыі і праўленні калгасаў павінны забяспечыць шырокую сістэматычную падрыхтоўку жывёлагадоўчых кадраў масавай кваліфікацыі. Ужо ў 1936 годзе ўсе загадчыкі ферм і асноўныя работнікі брыгад павінны быць прапушчаны праз раённыя калгасныя школы і спецыяльныя курсы. Работа брыгадзіраў і загадчыкаў ферм, скончыўшых шасцімесячныя курсы ці раённыя калгасныя школы, павінна ацэньвацца на 15 проц. вышэй тых, якія не маюць названай падрыхтоўкі.

Для максімальнага павышэння прадукцыйнасці працы на фермах і ў стайнях ужо ў 1935 г. неабходна рашуча прыступіць да механізацыі асноўных вытворчых працэсаў (падвозка, падрыхтоўка і раздача кармоў, паенне жывёлы і т. д.).

* * *

Асноўная ўмова развіцця соцыялістычнай жывёлагадоўлі—моцная і ўстойлівая кармавая база і арганізацыя правільнага кармлення. БССР дабілася значных поспехаў ва ўмацаванні кармавой базы. Так, у 1933 годзе калгасы і аднаасобнікі скасілі 1.574.000 га лугу, у 1934 г. 1.700.000 га і, акрамя таго, знялі 254.000 га другога ўкосу. Засіласавана ў 1933 г. 319 тыс. тон, у 1934 г.—617 тыс. тон.

БССР—адна з найбольш забяспечаных натуральнымі кармавымі ўгоддзямі частак Саюза. У нас на 100 га ворыва—каля 75 га натуральных лугоў і выпасаў. Зямельныя органы абавязаны былі арганізаваць правільнае выкарыстанне гэтых лугоў і выпасаў і ні ў якім разе не самасупакойвацца ў адносінах кармавой базы.

Тым часам ва многіх раёнах і калгасах існавала думка, што палепшанне і пашырэнне кармавой базы—не першачарговая справа, бо кармоў і так хопіць. Даведзены ў 1934 г. план мерапрыемстваў

па палепшанню кармавой базы разглядаўся ў гэтых раёнах як справа другарадная, якая не падлягае выкананню нароўні з іншымі дзяржаўнымі заданнямі, а толькі «па магчымасці». Райза пераклалі ўсю гэту работу выключна на раённых меліяратараў і культуртэхнікаў, не даўшы ім амаль ніякай дапамогі.

Напрыклад, у Крычаўскім раёне, нават пасля пастаноў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага ЦК КП(б)Б аб жывёлагадоўлі, прэзідыум РВК толькі 20 снежня 34 г. заслухаў справаздачу раённага меліяратара аб ходзе работ і пастанавіў: «Прапанаваць меліяратару безадкладна выехаць у калгасы і забяспечыць выкананне плана (каля 50 проц.!), у праціўным выпадку зняць яго з работы і аддаць пад суд». А дзе-ж быў Крычаўскі райза ўлетку? Што перашкодзіла яму своечасова выканаць план?

Праверкі выканання і бракеражу культуртэхнічных работ амаль не было. Некаторыя райза не ведалі і не ведаюць аб колькасці і якасці праведзеных у раёне мерапрыемстваў. Напрыклад: Сіроцінскі і Суражскі райза на працягу некалькіх месяцаў уключалі ў зводку для Наркамзема пасевы канюшыны ў палявым севазвароце пад відам плошчаў залужэння на лугах і выпасах. А ў Пухавіцкім раёне дагэтуль не ведаюць, колькі скошана было насеннікаў канюшыны і колькі можна было атрымаць уласнага насення ў 1934 г.

І не дзіўна пасля гэтага, што да 40 проц. нашых лугоў і выпасаў—мокрыя, пры чым 23 проц. лугоў і 74 проц. выпасаў пакрыта кустамі; што рэспубліканскі план культуртэхнічных работ на 1934 год выканан менш як на палову, а па такіх раёнах як Веткаўскі, Крупскі, Тераҳаўскі і інш. зусім сарваны; што пасевы сеяных траў, коранеплодаў і сілосных рэзка скараціліся, а такіх важнейшых кармавых культур як тапінамбур і кармавая капуста зусім закінуты; што дагэтуль у нас не арганізавана правільнае скарыстанне адыходаў харчовай прамысловасці і т. д.

Сытнае кармленне абагуленай і неабагуленай жывёлы павінна быць забяспечана на працягу ўсяго года. Згодна новаму сталінскаму статуту калгаснага жыцця, кожны год арцель «засыпае насенне для пасеву і фураж для пракорму жывёлы на ўсю гадавую патрэбнасць, а таксама для страхоўкі ад неўраджаю і бяскорміцы, стварае недатыкальныя, аднаўляемыя штогодна насенны і кармавы фонды ў памеры 10—15 процантаў гадавой патрэбнасці».

Усё гэта патрабуе рашуча палепшыць і ўзмацніць кармавую базу, пакончыць з наплявацельскімі адносінамі да яе, знішчыць абязлічку ў карыстанні лугамі і выпасамі і ў кожным калгасе навесці строгі бальшэвіцкі парадак не толькі на палях, але і на лугах і выпасах.

Мерапрыемствы па палепшанню лугоў і выпасаў павінны заняць важнейшае месца ў вытворчым плане работы раённых арганізацый, МТС, калгасаў і соўгасаў. Колькаснае і якаснае выкананне ўсіх работ павінна сістэматычна правярацца ў раёнах і калгасах з такою-ж строгасцю, як і пасеўныя планы. Вінаватых у зрыве ці нядобраякасным выкананні гэтых работ—прыцягваць да суровай адказнасці.

Пачынаючы з 1935 года, усе сенажатныя і выпасныя ўгоддзі павінны быць замацаваны за калгасам і групамі аднаасобнікаў. Райза і МТС сумесна са старшынямі сельсоветаў і калгасаў павінны безадкладна дасканальна ўлічыць усе сенажатныя і выпасныя ўгоддзі раёна (натуральны луг і выпас, плошчы лясоў дзяржаўнага і мясцовага значэння, якія па ўмовах вядзення лясной гаспадаркі могуць

быць скарыстаны для пашы, нескарыстоўваемыя соўгасамі ўчасткі лугоў і выпасаў і т. д.). На аснове дзяржаўнага плана і перспектыў развіцця жывёлагадоўлі ў кожным калгасе і сельсовеце, наяўных натуральных кармавых угоддзяў і магчымасцей іх палепшання і пашырэння трэба праверыць забяспечанасць кармавою базай кожнага калгаса і сельсовета. Калгасы з недастатковай колькасцю сваіх натуральных лугоў і выпасаў павінны быць данадзелены за кошт выяўленых плошчаў лясоў дзяржаўнага і мясцовага значэння, нескарыстоўваемых выпасных і сенажатных участкаў і інш.

Адначасова ў кожным раёне неабходна ўстанавіць абавязковыя правілы па догляду і палепшанню кожнага віду сенажатных і выпасных угоддзяў для ўсіх, хто імі карыстаецца. Гэтыя правілы павінны прадугледжваць асушку забалочаных лугоў і выпасаў, ачыстку лугоў і выпасаў ад кустоў і куп'я, угнаенне іх і падсеў траў, парадак пасьбы жывёлы, тэрмін уборкі лугоў і т. д. Правільнае ажыццяўленне гэтых мерапрыемстваў ужо ў першыя гады павысіць ураджайнасць нашых кармавых угоддзяў на 20—50 проц. і дасць магчымасць усе так званыя бросавыя землі ператварыць у высокапрадукцыйныя лугі і выпасы. А для гэтага ў нас ёсць усе магчымасці.

Паводле даных Ленінградскай сельскагаспадарчай даследчай станцыі, угнаенне выпасаў гноеваю жыжай з разліку 25 тон на 1 га (да 40 саракавядзёрных бочак) павысіла ўраджайнасць травы з 36,8 да 101,4 цэнт. з га. Ураджайнасць таго-ж выпасу па поўнаму калі-фасфатнаму ўгнаенню—101,3 цэнт. з га. Паводле даных Энгельгартаўскай сельскагаспадарчай станцыі, унясенне 15 цэнт. попелу на 1 га лугу дало дабаўку ўраджаю: на сухадольных лугах 14,5 цэнт. з га, на балотных—19,5 цэнт., на заліўных—38 цэнт., або, інакш кажучы,—больш як падвоіла ўраджай сена. Угнойваючы нашы лугі кампостам, можна павысіць іх ураджайнасць да 50 цэнт. з га.

Наша хімічная прамысловасць расце з кожным годам. Ужо на 1935 год дзяржавай адпушчаны мінеральныя ўгнаенні для карэннага палепшання лугоў і выпасаў. Разам з правільным выкарыстаннем гэтых угнаенняў, асноўны ўпор мы, аднак, павінны зрабіць, як гэта падкрэсліў у сваім дакладзе VII усесаюзнаму з'езду советаў тав. Чэрноў, на поўнае скарыстанне для лугаводства мясцовых угнаенняў.

Неабходна поўнасцю выканаць план збору попелу і выдзеліць патрэбную колькасць яго для ўгнаення лугоў і выпасаў. За вясеннелетні перыяд кожны калгас павінен таксама закласці максімальную колькасць кампосных куч і сабраць насенне дзікарастучых лугапашавых траў, прыцягнуўшы да гэтага не толькі паляводчыя, але і жывёлагадоўчыя брыгады.

Раённым арганізацыям неабходна цяпер-жа разгарнуць сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў шырокую растлумачальную работу аб важнасці палепшання лугоў і выпасаў для справы жывёлагадоўлі. Кожны калгас і сельсовет абавязаны давесці дзяржаўны план палепшання лугоў і выпасаў і правілы догляду за імі да кожнай паляводчай брыгады і групы аднаасобнікаў, добра азнаёміць брыгадзіраў і калгаснікаў з тэхнікай правядзення кожнага мерапрыемства.

Але хіба ў адных толькі натуральных кармавых угоддзях справа? Ні ў якім разе. Палявое травасеянне для многіх нашых раёнаў, асабліва цэнтральнай часткі рэспублікі, слаба забяспечаных натуральнымі лугамі і выпасамі, павінна стаць адною з асноўных крыніц грубых і зялёных кармоў.

Сеяныя травы, нават і ў раёнах, больш-менш забяспечаных натуральнымі кармавымі ўгоддзямі, абавязкова патрэбны, як сродак палепшання кармавога фонда і павышэння ўраджайнасці лёну і іншых культур. Наша задача—выканаць зацверджаны XI усебеларускім з'ездам советаў план пасеву кармавых культур: 163 тыс. га аднагадовых траў, 157.800 га падсеву канюшыны, 20 тыс. га караньплодаў і 15 тыс. га сілосных культур.

Пачынаючы з гэтага года, трэба рашуча ўзмацніць рассаднікі насення кармавых палявых культур і лугапашавых траў, з тым каб у бліжэйшыя 3—4 гады стварыць уласную насенную базу кармавых культур для забяспечання ўсіх патрэбнасцей социялістычнай гаспадаркі.

Для павышэння прадукцыйнасці нашых кармавых угоддзяў многа значыць парадак іх скарыстання. Напрыклад, калі ў травастоі пераважае цімафейка, мятлік і іншыя коласавыя травы, то найбольш мэтазгодна скошваць луг у перыяд ад поўнага калашэння да поўнага цвіцення вядучых коласавых траў. У нас-жа часта косяць ужо зусім пасохлую на корані траву. Позняя сенаўборка перашкаджае атрымаць другі ўкос і, такім чынам, процантаў на 30 зніжае агульны збор сена і процантаў на 30—40 якасць самаго сена (асабліва ў адносінах колькасці бялка, якога ў нас і так не хапае да 30 проц. ад патрэбнасці). Акрамя таго, позняя сенаўборка дазваляе абсемяніцца смяццёвай расліннасці нашых лугоў і штогод падтрымлівае іх засмечанасць. А колькі страт бывае ад нядбайнай касьбы, несвоечасовай і няправільнай кладкі стагоў і т. д. Канчаткова знішчыць усе гэтыя недахопы ў сенаўборцы, касіць у строга вызначаныя партыяй і ўрадам тэрміны—важнейшая задача ў барацьбе за кармавую базу.

Не меншае значэнне для выпасаў мае парадак спасвання іх. Паводле даных Усесаюзнага інстытута кармоў, пры правільным парадку спасвання выпасаў, ураджайнасць травы з гектара павысілася на 24 проц., ступень скарыстання травастою жывёлай—з 64,0 да 78,1 проц. Разам з тым рэзка павысілася кармавая якасць травы: колькасць крахмальных эквівалентаў у зборы травы з гектара павысілася на 33 і бялка на 53 проц.

Як-жа наладжана гэта справа ў нас? У большасці калгасаў, замест арганізацыі правільнай пасьбы жывёлы, як гэтага патрабуе калгасная гаспадарка, выкарыстоўваюць выпасы па метаду дробнай сялянскай гаспадаркі. Усе віды жывёлы пасуцца адразу на ўсіх выпасах, што перашкаджае нармальнаму адрастанню травы і вядзе да вытаптвання значнай яе часткі. І не дзіва, што травы на такіх выпасах вельмі мала, што значную частку выпаснага перыяда поўгалодную жывёлу мардуюць і ў папары і па сцёрне (іржышчу), падрываючы тым самым ураджайнасць палявых культур, што каровы як след не напасваюцца і даюць нізкія ўдоі.

Мала таго, неўпарадкваная пасьба не дае магчымасці забяспечыць лепшымі выпасамі больш прадукцыйныя групы жывёлы і маладняк. У калгасах, нават пры наяўнасці добрых выпасаў, цялят пасуць часта на забалочаных участках, што спрыяе захворванню глiснымі хваробамі і падзежу цялят. Так, у 1934 годзе калгас «Калектыўная праца», Шклоўскага раёна, выдзеліў для пасьбы цялят два ўзвышаныя і сухія ўчасткі з добрай травой і распрацаваў правільны парадак пасьбы ўсёй іншай жывёлы. Аднак, з-за нядбайнасці праўлення і загадчыка фермы Куляшова, парадак гэты не выконваўся, цялята пасвіліся па

ўсіх выпасах, у тым ліку і па балотах. У выніку 10 цялят пала ад глісных хвароб.

З дзедаўскімі парадкамі пасьбы жывёлы трэба рашуча пакончыць. У кожным калгасе неабходна цвёрда ўстанавіць правільны парадак пасьбы жывёлы, прадугледзеўшы ў ім замацаванне паасобных участкаў за кожным відам і асноўнаю групай жывёлы, парадак спасвання кожнага ўчастка, абсталяванне выпасаў вадапоямі і павецямі, сістэматычныя ветэрынарна-заатэхнічныя назіранні за санітарным станам выпасаў, мерапрыемствы па догляду за імі і т. д.

Зразумела, што моцная кармавая база нямысліма без далейшага максімальнага павышэння ўраджайнасці зарнавых, бульбы і іншых культур. Раённыя арганізацыі, МТС, сельсоветы і калгасы павінны дабіцца высокага ўраджаю і па ўсіх палявых культурах. Для гэтага, адначасова з далейшым палепшаннем апрацоўкі глебы, пасеву і догляду за культурамі, неабходна карэнным чынам палепшыць хаванне і выкарыстанне гною, будаваць для яго спецыяльныя гноехавальнікі, своечасова вывозіць і заворваць, а таксама максімальна пашырыць скарыстанне торфу і іншых мясцовых рэсурсаў угнаення.

Але без жорсткай планавасці ў кармленні, без нармавання корму адпаведна з жывой вагой і прадукцыйнасцю жывёлы, самая багатая кармавая база не дасць належнай карысці.

Аб гэтым ясна гаворыць прыклад калгаса «Калектыўная праца»— амаль самага багатага ў Шклоўскім раёне па забяспечанасці натуральнымі кармавымі ўгоддзямі. На 100 га ворыва ў калгасе 108 га даволі добрага лугу і выпасу. Калгас меў усе магчымасці ўзорна арганізаваць кармленне жывёлы. Аднак праўленне калгаса і загадчык фермы, замест таго каб у пачатку стойлавага перыяда дакладна размеркаваць усе кармы і замацаваць іх за паасобнымі відамі жывёлы, абмежаваліся складаннем акта аб перадачы кармоў. Старшыня праўлення Назараў і заатэхнік райза Завадка распісаліся ў здачы кармоў загадчыку фермы Куляшову, а апошні распісаўся ў прыёме. На справе-ж ніякай здачы і прыёмкі кармоў не было. Зімою кармы як след не ахоўваліся; частку бульбы раскралі. Грубыя кармы даваліся жывёле як папала. Спачатку аддалі самае лепшае сена. Пад вясну перашлі на балотнае і нарэшце—на яравую салому. Такім чынам, паводле прыблізных падлікаў, у сярэднім на карову «скормлена» да 40 цэнт. грубых кармоў, з іх каля 19 цэнт. сена. А што атрымалі на фуражную карову? Толькі 600 літраў малака ў год. Мала таго, частку кароў вясною 1934 года прышлося нават падымаць.

Падобная безадказная пастаноўка кармлення жывёлы і разбазарванне кармоў былі таксама і ў калгасе «Чырвоная Аўчаса»—Шклоўскага раёна, «Окцябр»—Пухавіцкага раёна, «ХІІІ Окцябр» і «Большэвік»—Петрыкаўскага раёна. Не дзіва, што ўсе яны атрымалі надта нізкія ўдоі: «Чырвоная Аўчаса» з добрым стадам—945 літраў на фуражную карову, «Окцябр»—477літраў, «Большэвік»—476 літраў.

Прычына падобных безадказных адносін да кармлення жывёлы не толькі ў дрэннай арганізацыі працы, а і ў няжжытых яшчэ на некаторых фермах поглядах дробнай сялянскай гаспадаркі на карову толькі як на гноевую машыну. Напрыклад загадчык МТФ калгаса «Сейбіт», Петрыкаўскага раёна, нават пасля VII з'езда советаў, заявіў: «Якое можа быць малако ад нашых кароў у зімовы перыяд? Нам абы пратрымаць іх да вясны, ды выпусціць у лес на пашу». Ці не пад уплывам гэтых разважанняў калгас «Сейбіт» у 1933 г. на 130 кароў МТФ не выдзеліў канцэнтратаў, а ў 1934 г. не скасіў ніводнага гекта-

ра другога ўкосу, хоць пра недахоп кармоў, асабліва для жывёлы калгаснікаў, праўленню вядома было яшчэ ў жніўні? Ці не гэтыя разважанні—адна з прычын таго, што вось ужо 2 гады падрад калгас за стойлавы перыяд атрымлівае толькі 30 проц. усяго гадавога ўдою малака?

З'езд советаў паставіў перад краінай важнейшую задачу—к канцу другой пяцігодкі падвоіць удой кароў. Каб забяспечыць гэту ўпаўне пасільную задачу, трэба разам з палепшаннем догляду жывёлы арганізаваць правільнае прыгатаванне кармоў (рэзка саломы і караньплодаў, запарванне рэзкі і мякіны і т. д.), дабіцца высокай якасці сілосу і правільнага кармлення жывёлы на працягу ўсяго года.

Доследы з практыкі перадавых соўгасаў і калгасаў паказваюць, што пры беспарадкавым, ненармаваным кармленні буйная рагатая жывёла затрачвае на 1 кгр. прыросту 14 кгр. кармавых адзінак, а пры нармаваным—10 кгр. Адкармліваемыя свінні пры ненармаваным кармленні затрачваюць на 1 кгр. прыросту 6 кгр. кармавых адзінак, а пры нармаваным—да 4-х кгр. Інакш кажучы, пры правільным скарыстанні кармоў мы можам на многа павысіць прадукцыйнасць нашай жывёлы.

Рад раёнаў і зараз не ўдзяляе належнай увагі кармленню жывёлы. Важнейшая крыніца палепшання кармлення—прадукцыя з аслабанёных згодна пастанове чэрвеньскага пленума плошчаў (па БССР—80 тыс. га зернавых і 22 тыс. га бульбы)—у многіх калгасах не перадана жывёлагадоўчым фермам і пашла ў агульны фонд размеркавання. Пастановы ЦК КП(б)Б, СНК і НКЗ аб падрыхтоўцы жывёлы да зімоўкі не выкананы. Кармавыя планы ва многіх калгасах або зусім не складаліся, або складзены фармальна. Як планы, так і выкананне іх не правяраюцца. Кармы ва многіх калгасах разбазарваюцца, што пагражае правільнаму кармленню жывёлы, правільнаму пераводу яе на пашу і паспяховаму выкананню пасеўнай.

Усебеларускі з'езд советаў патрабуе ад НКЗема, РВК, МТС, сельсоветаў, старшынь калгасаў і загадчыкаў ферм мабілізаваць усе ўнутраныя рэсурсы і ўстанавіць эканомнае выдаткаванне кармоў з такім разлікам, каб поўнасцю забяспечыць жывёлу да новага ўраджаю.

* * *

У нас не мала жывёлагадоўчых соўгасаў і калгасных таварных ферм, якія за некалькі год свайго існавання дабіліся высокай прадукцыйнасці жывёлагадоўчай гаспадаркі. Але ўвогуле ўзровень нашай жывёлагадоўлі яшчэ невысокі.

Пагалоўе жывёлы калгасных ферм, асабліва буйнай рагатай і авечак, у сваёй масе нізка прадукцыйнае. Тым часам ужо выведзены пароды ў некалькі раз больш прадукцыйныя, чым наша непалепшаная жывёла. Жывая вага парадзістых кароў дасягае 500—600 і больш кгр., тады як наша звычайная карова важыць 225—250 кгр. Гадавы ўдой чыстапародных кароў дасягае 3500, а паасобных рэкардыстак 6—7 і нават 10 тыс. літраў, удой-жа нашай звычайнай каровы—пакуль што 800—1000 літраў.

Цяпер, калі калгасы сталі моцнай, неперамажнай сілай, калі створана асноўная база соцыялістычнай жывёлагадоўлі, мы маем усе магчымасці і павінны ўкараніць ва ўсю работу калгасных таварных ферм вышэйшую жывёлагадоўчую тэхніку, каб падцягнуць прадукцыйнасць нашай жывёлагадоўлі да ўзроўню, адпавядаючага запатрабаванням соцыялістычнай гаспадаркі.

У гэтых адносінах асноўная задача—палепшыць пароду жывёлы шляхам яе метызацыі, правільнага кармлення, догляду і ўтрымання. У БССР да апошняга часу фактычна не было навукова абгрунтаванага плана палепшання жывёлы і нават больш-менш здавальняючага ўліку племяннога стада.

Перапіс жывёлагадоўлі паказаў, што мы маем вялікія магчымасці найхутчэйшай метызацыі. На 1 снежня 1934 года ў БССР было 67 племянных ферм буйнай рагатай жывёлы, 64 свінаводчыя, 25 аўцагадоўчых і 233 конегадоўчыя. Паводле няпоўных даных, у БССР выяўлена летась больш 8 тыс. племянных коней, каля 47 тыс. галоў буйнай рагатай жывёлы, да 14 тыс. племянных свіней і да 4 тысяч племянных авечак.

З мэтай палепшання пагалоўя і павышэння прадукцыйнасці жывёлы з'езд саветаў абавязаў НКЗ і райвыканкомы ўстанавіць параённы план метызацыі з тым, каб к канцу другой пяцігодкі ахапіць метызацыяй усё матачнае пагалоўе калгасных ферм і соўгасаў і значна пашырыць метызацыю стада калгаснікаў і аднаасобнікаў. Калгасы павінны забяспечыць кармленне, догляд і ўтрыманне племяннй жывёлы ў строгай адпаведнасці з устаноўленымі саюзным Наркамземам запатрабаваннямі. Без гэтага немагчыма захаваць племянную жывёлу ў здаровым целе і атрымаць ад яе высокаякасны кандыцыйны маладняк.

У палепшанні жывёлагадоўлі даволі вялікую ролю павінны адыграць палепшаныя маткі і вытворнікі. Амаль у кожным калгасе можна знайсці 5—10 кароў, якія часам пры дрэнным кармленні і доглядзе даюць 1500—2000 літраў малака ў год. Аднак, акрамя даярак і загадчыка фермы ніхто гэтых кароў не ведае. Падзелены яны між паасобнымі даяркамі, кормяцца і даглядаюцца не лепш, а часам нават і горш, астатніх кароў. Трэба пакончыць з падобнымі адносінамі да палепшанай жывёлы. У кожным калгасе неабходна стварыць з яе так званыя племянныя групы, уключыўшы ў іх чыстапародную жывёлу, і зрабіць іх асноўным ядром палепшання жывёлагадоўлі

Важнейшае значэнне для палепшання жывёлагадоўлі мае правільнае выкарыстанне матачнага пагалоўя і вытворнікаў. Раённым арганізацыям, сельсоветам і праўленням калгасаў неабходна арганізаваць своечасовую і добраякасную падрыхтоўку да злучак матак і вытворнікаў і своечасова злучыць кожную матку ў адпаведнасці з устаноўленым планам метызацыі. Ні адной прыгоднай у расплод маткі не павінна застацца неабсемененай—вось адна з важнейшых задач барацьбы за выкананне дзяржаўнага плана па жывёлагадоўлі.

Правільная гадоўля маладняка—адна з асноўных задач. У гэтым годзе гадоўля маладняка ў калгасах БССР значна палепшылася, але адыход усё яшчэ вельмі высокі. У пераважнай большасці калгасаў пытанні гадоўлі маладняка не абмяркоўваюцца праўленнем і агульным сходам калгаснікаў. Для цялят і парасят своечасова не выдзяляецца неабходная колькасць малака і канцэнтратаў, кормяць іх нерэгулярна і часта недастаткова. Маладняк марудна развіваецца, лёгка паддаецца захворванням і часта гніе.

З дзевяці абследаваных калгасаў цвёрды парадак кармлення цялят заведзен быў толькі ў двух. У калгасе «Перамога», Шклоўскага раёна, цялё 21 кгр. жывой вагі пры нараджэнні атрымлівала за 10 тыдняў малочнага перыяда 174 літры цэльнага і 235 літраў знятага малака і толькі 10 кгр. канцэнтратаў.

Сярэдне-сутачны прырост цялят ў калгасе «Перамога» (у грамах):

| I мес. | II мес. | III мес. | У сярэд. за 3 мес. | IV мес. | V мес. | У сярэд. за 5 мес. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 349 | 369 | 314 | 344 | 292 | 267 | 318 |

Недастатковая колькасць канцэнтратаў прывяла к таму, што значная частка малочнага бялка трацілася цялём у якасці падтрымліваючага корму, таму прырост ішоў марудна. Ярослаўская даследчая станцыя за той-жа 70-дзённы малочны перыяд, скармліваючы цяляці ў 20—25 кгр. жывой вагі пры нараджэнні 100—120 літраў цэльнага і 238—250 літраў знятага малака і да 25 кгр. канцэнтратаў, мела сярэдне-сутачны прырост 475—500 грам.

Яшчэ меншы прырост цялят у паслямалочны перыяд, калі рацыён зводзіцца ў большасці к сену. Паводле даных узважвання 27 цялят паслямалочнага перыяда ў калгасе «3-ці рашаючы», Пухавіцкага раёна, сярэдне-сутачны прырост за час з 3-Х—33 года па 3-V—34 года. раўняўся толькі 91 граму; з другой паловы стойлавага перыяда кармленне настолькі пагоршылася, што з 31-XII—33 г. па 3-V—34 года 13 цялят прыбаўляліся ў сярэднім менш як на 40 грам у суткі, а 12 нават страцілі каля 40 грам у суткі.

У гэтым-жа годзе неабходна рашуча палепшыць гадоўлю маладняка. Своечасова і правільна прымаць яго пры нараджэнні, добра карміць і даглядаць, весці сістэматычны нагляд за яго становішчам. Па кожнаму выпадку захворвання і падзежу маладняка ці іншага пагалоўя жывёлы абавязкова трэба выяўляць і ліквідаваць прычыны, а канкрэтных віноўнікаў прыцягваць да адказнасці.

Для канчатковага знішчэння адзначаных недахопаў з'езд советаў пастанавіў увесці ў кожным калгасе і соўгасе абавязковыя правілы догляду і ўтрымання жывёлы. Задача раённых арганізацый, сельсоветаў і праўленняў калгасаў—уцягнуць у гэту работу масу калгаснікаў і рабочых соўгасаў, каб забяспечыць найбольш паспяховае выкананне пастановы з'езда советаў.

* * *

Мы дабіліся значных поспехаў у стварэнні калгасных кадраў рахункаводаў, больш-менш здавальняючага ўліку працадзён і прадукцыі палявой гаспадаркі. А вось з улікам у жывёлагадоўлі справа пакуль што дрэнная. Старшыні калгасаў і рахункаводы лічаць улік у жывёлагадоўлі справай адных загадчыкаў ферм. У большасці калгасаў фактычна не наладжаны больш-менш правільны ўлік удояў малака і амаль ніякага ўліку кармлення. Колькасць даіўшыхся кароў не ўлічвалася нават на племферме «Калініна», Пухавіцкага раёна. Таксама не ўлічваецца і ў калгасе «Сейбіт», Петрыкаўскага раёна, дзе на МТФ—спецыяльны ўчотчык.

Тым часам без гэтых даных нельга вывесці асноўных паказчыкаў прадукцыйнасці стада. Кантрольныя ўдоі ад кожнай каровы з 9 абследваных калгасаў вялі толькі два: «Перамога» і «Чырвоная Аўчаса», Шклоўскага раёна. Сутачных, месячных і гадавых удояў на карову праўленні не выводзяць. А хіба можна без гэтых даных правільна весці работу фермы, ведаць якасць кожнай каровы і ўсяго стада ў цэлым?

Раённыя арганізацыі, МТС, сельсоветы і старшыні калгасаў

павінны ва што-б там ні стала дабіцца карэннага палепшання ўліку. За ўлік маладняка, кармлення, удою і прыросту жывёлы рахункавод, загадчык фермы, старшыня праўлення і рэўкамісіі павінны адказваць у такой-жа меры, як і за ўлік працадзён. Трэба таксама максімальна павысіць адказнасць зоаветперсанала за гэтую справу. У кожным калгасе і на ферме павінен вісець спіс кароў з указаннем месячнага ўдою кожнай з іх, а таксама спіс свінаматак і цялят з указаннем месячнага прыросту кожнага цяляці і кожнага апаросу. Гэта—адзін з лепшых шляхоў уцягнуць у жыццё ферм масы калгаснікаў, дабіцца іх большай актыўнасці і кантроля за работай ферм.

На аснове новага статута сельскагаспадарчай арцелі неабходна далейшае пашырэнне калгаснага актыва, палепшанне палітвыхаваўчай работы сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў і яшчэ большае павышэнне іх класавай пільнасці. На кожным участку работы трэба штодзенна вывучаць людзей, правільна падбіраць і расстаўляць іх на вытворчасці і клапаціцца аб палепшанні іх добрабыту. Кожны работнік павінен глыбока аўладаць тэхнікай і экономікай даручанай яму справы, бо без гэтага нельга забяспечыць правільнае вядзенне буйнай соцыялістычнай гаспадаркі.

Канкрэтнае і аперацыйнае кіраўніцтва можна забяспечыць не загадамі і папяровымі дырэктывамі, не гастралёрствам і камандваннем, а шляхам дэталёвага і ўважлівага вывучэння работы кожнага соўгаса і калгаса, кожнай брыгады і фермы, жывой канкрэтнай дапамогай праўленням калгасаў і загадчыкам ферм і мабілізацыяй брыгад, калгаснага актыва і ўсёй калгаснай масы на зжыванне тых ці іншых недахопаў у іх рабоце.

Ні на мінуту нельга забываць, што класавая барацьба з ростам нашых поспехаў яшчэ больш абвастраецца, што недабітыя рэшткі кулацтва і іншых варожых элементаў спрабуюць усімі сіламі затрымаць пераможны рух СССР па шляху к соцыялізму. Карыстаючыся недастатковай пільнасцю паасобных мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый, класавы вораг яшчэ імкнецца праводзіць падрыўную работу на многіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Прыкладам гэтага служыць арганізаванае агіднымі агентамі класавага ворага, подлымі падонкамі былой трацкісцка-зіноўеўскай антысовецкай групы забойства т. Кірава—адданейшага барацьбіта за справу комунізма і лепшага саратніка тав. Сталіна.

Яшчэ вышэй узняць класавую пільнасць працоўных, каб як найхутчэй і канчаткова знішчыць рэшткі класавага ворага і забяспечыць найбольш паспяховае і безупыннае развіццё нашай жывёлагадоўлі.

Праблема жывёлагадоўлі—складанейшая справа. Але Совецкі саюз за час свайго існавання вырашыў не адну складанейшую і труднейшую праблему. Заклік правадыра партыі і ўсіх працоўных—т. Сталіна—з усёй большэвіцкай упартасцю ўзяцца за вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі ўскалыхнуў мільённыя масы рабочых, калгаснікаў і спецыялістаў.

> «Няма чаго і даводзіць, што совецкія людзі, браўшыя не адну сур'ёзную перашкоду на шляху да мэты, змогуць узяць і гэтую перашкоду» **(Сталін).**

Ордэнаносная БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ЦК на чале з т. Гікало, даб'ецца такіх поспехаў, якія выведуць яе ў рады перадавых рэспублік і абласцей Совецкага саюза і ў галіне жывёлагадоўлі.

A. Іваноў

# За далейшы ўздым дарожнай гаспадаркі БССР

Старая Расія была краінай «класічнага» бездарожжа. Царскай Расіі выгадна было трымаць на адрыве ад горада цёмную, глухую, забітую вёску, бо толькі з такой вёскі яна магла бесперашкодна выкалачваць апошнія працоўныя грашы.

Становішча дарог былой каланіяльнай Беларусі можна характарызаваць словамі віднага земскага дзеяча Віцебшчыны—фон-Рентэльна: «Хто цягнуўся чарапашым крокам па агідна траскім бруку з поўзгніўшых паленняў і палак, пакрытых аршынным пластом цягучага кіселя-гразі, якая чаплялася пад уплывам наступаючых марозаў тоўстым слоем за колы, толькі той, хто паспытаў гэтыя нязносныя мукі...—ведае, што такое нашы захалусныя беларускія дарогі».

І сапраўды, Беларусь—да рэволюцыі прыгнечаная царызмам калонія, з адсталай сялянскай гаспадаркай і выключна жорсткай эксплаатацыяй сялянства памешчыкамі, са слаба развітай прамысловасцю—зусім не мела праезжых дарог, за выключэннем двух шасэ, якія праходзілі праз яе тэрыторыю.

У час імперыялістычнай і грамадзянскай вайны па дарогах Беларусі дзень і ноч цягнуліся бясконцыя вайсковыя часці з абозамі, артылерыяй і т. д. і ператваралі іх у непраезжыя «напрамкі» з глыбокімі каляінамі і ямамі, разбуранымі і спаленымі мастамі.

Ад совецкай улады патрабавалася выключнае напружанне сіл і сродкаў, каб аднавіць зруйнаваную дарожную гаспадарку краіны.

Але і пасля грамадзянскай вайны краіна Советаў не магла адразу-ж прыступіць да гэтай работы і выдзеліць неабходныя сродкі, бо найперш трэба было аднавіць і рэканструяваць цяжкую прамысловасць, сельскую гаспадарку, а на будаўніцтва і ўтрыманне дарог пролетарская дзяржава магла адпусціць невялікія сродкі.

Да разгорнутага будаўніцтва новых дарог у БССР прыступлена было толькі ў пачатку першай пяцігодкі. З 1928 года да будаўніцтва і рамонту дарог і мастоў прыцягваецца сельскае насельніцтва. У рашэннях урада па гэтаму пытанню прама сказана:

> «Агромнейшая задача ліквідацыі бездарожжа на вёсцы можа быць вырашана толькі пры ўмове масавага ўдзелу працоўных сельскіх мясцовасцей у дарожным будаўніцтве».

За гады першай пяцігодкі дарожная сетка БССР расла наступным чынам:

| Гады | Усяго будаўніцтва дарог і земпалатна | У тым ліку з цвёрд. пакрыц. |
|---|---|---|
| 1928—29 . . | 769,5 *клм* | 17,1 *клм* |
| 1930 . . . . . | 1457,4 „ | 303,4 „ |
| 1931 . . . . . | 2051,8 „ | 625,2 „ |
| 1932 . . . . . | 1701,7 „ | 704,8 „ |
| Разам . | 5880,4 *клм* | 1650,5 *клм.* |

За гэты перыяд усю рэспубліку прарэзалі шасэйныя і гравійныя магістралі, якія прашлі па балотных масівах, праз сотні рэк і аўрагаў, па такіх месцах, адкуль можна было выбрацца толькі зімою, калі трасіну скоўваў мароз.

На дарогах раённага і сельскага значэння пабудавана 39,5 клм. новых і адрамантавана каля 25 клм. мастоў, прыведзена ў праезжы стан 15340 клм. дарог нізавой сеці. Амаль усе работы на дарогах раённага і сельскага значэння праводзіліся працоўным удзелам насельніцтва, які ўзрастаў з кожным годам:

| Гады | Прыцягнута працоўных рэсурсаў насельніцтва у грашовым вылічэнні |
|---|---|
| 1928—29 . . . | 1.423.000 |
| 1929—30 . . . . | 2.990.000 |
| 1931 . . . . . | 4.136.000 |
| 1932 . . . . . | 8.679.000 |
| Разам | 16.228.000 |

Прыцягненне насельніцтва да ўдзелу ў дарожных работах было зусім новым мерапрыемствам. Патрэбна была вялікая растлумачальная работа для таго, каб насельніцтва зразумела ўсю важнасць закона аб працудзеле і настойлівую неабходнасць паходу на бездарожжа.

Зразумела, што працоўны ўдзел насельніцтва ў дарожным будаўніцтве, якім ахоплены мільёны калгасаў і аднаасобнікаў, увесь час з'яўляецца арэнай жорсткай класавай барацьбы. Кулацка-шкодніцкія элементы ў радзе выпадкаў зрывалі дарожныя работы, нормы выпрацоўкі, псавалі механізмы і інш. Дарожныя органы нярэдка засмечаны былі класава-варожымі элементамі, якія свядома зрывалі выкананне планаў працоўнага ўдзелу насельніцтва і дарожнага будаўніцтва наогул.

Характэрным для першай пяцігодкі з'яўляецца ўздым грамадскасці на барацьбу з бездарожжам, разгортванне сеці арганізацый і

нізавых ячэек Аўтадора, актывізацыі работы комсамольскіх арганізацый у дарожным будаўніцтве. У сувязі з гэтым, дарожная справа вышла з вузка-ведамственых рамак і пры грамадскай актыўнасці, пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый стала кроўнаю справай шырокіх працоўных мас.

Гэта спрыяла ўмацаванню дарожных арганізацый, ачышчэнню іх ад класава-варожых элементаў і шкоднікаў, папаўненню актывістамі комсамольцамі і аўтадораўцамі.

* * *

У другую пяцігодку дарожныя арганізацыі ўступілі больш арганізаванымі, са значным вопытам будаўніцтва, узросшай колькасцю дарожных механізмаў і інш. Аўтадарожныя навучальныя ўстановы ўлілі ў дарожную гаспадарку БССР новыя кадры інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі.

Совецкая Беларусь з адсталай у эканамічных і культурных адносінах былой царскай калоніі ператварылася за гады першай пяцігодкі ў перадавую індустрыяльна-аграрную совецкую рэспубліку. Гіганцкая дапамога Саюза саветаў забяспечыла пад кіраўніцтвам КП(б)Б агромнейшы ўздым народнай гаспадаркі.

Індустрыялізацыя краіны, калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў значнай ступені павялічылі грузазварот нашых бязрэйкавых шляхоў і па-новаму, ва ўвесь рост, паставілі пытанне аб рэканструкцыі дарожнай гаспадаркі рэспублікі. Інтарэсы соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі—соўгасаў, калгасаў—не церпяць вузкіх сцежак, ухабістых дарог, звілістых напрамкаў. Яны патрабуюць прамой, упарадкаванай дарогі, якая з найменшымі стратамі звязала-б іх з горадам, раённым цэнтрам, МТС, хлебаздатачным пунктам, чыгуначнай станцыяй, воднай прыстанню.

Рост аўтамабілізацыі Совецкай Беларусі з усёй вострасцю паставіў пытанне аб неадкладнай ліквідацыі прасёлка.

«На працягу 1934-35 гг. у асноўным ліквідаваць на тэрыторыі рэспублікі прасёлкі на міжраённых шляхах, па ўсіх адказных унутрыраённых напрамках і на пад'ездных шляхах да станцый чыгункі, прыстаней, элеватараў, калгасаў, соўгасаў, МТС, ільназаводаў, заводаў будматар'ялаў і т. д., пабудаваўшы замест іх прафіляваныя палепшаныя дарогі, а на найбольш грузанапружаных участках—пакрытыя цвёрдай адзежай».

Гэту задачу з усёй жорсткасцю паставілі перад сабой рэспублікі, краі і вобласці, падпісаўшыя ў Чувашскай АССР дагавор на ліквідацыю бездарожжа ў краіне Саветаў.

Адпаведна гэтаму, у плане другой пяцігодкі вызначаюцца яшчэ большыя тэмпы развіцця дарожнай гаспадаркі. Па дарогах саюзнага і рэспубліканскага значэння намечана пабудаваць 3589 клм. новых пакрыццяў, з якіх: грунтова-прафіляваных 88,2 клм., грунтова-палепшаных 483,8, гравійных дарог 1127,0, гравійных на пакеляжы 394,2, брукаваных булыжных 811,3, шасэ шчабёначнага 350,8, гудранаванага шасэ 305,0, клінкернага бруку 29,0.

У новае будаўніцтва дарог вышэйшых класаў намечана ўкласці звыш 255 мільёнаў рублёў, з іх бюджэтных асігнаванняў—234 мільёны рублёў.

К канцу 1937 года ў выніку выканання праграмы 2-й пяцігодкі па будаўніцтву дарог саюзнага і рэспубліканскага значэння, БССР будзе мець наступную эксплаатацыйную сець дарог вышэйшых класаў:

| | На 1 студзеня 1933 г. | На 1 студзеня 1938 г. |
|---|---|---|
| Грунтова-натуральных . . | 2.778 *клм.* | 1.513 *клм.* |
| Грунтова-прафіляваных . | 861 „ | 687 „ |
| Грунтова-палепшаных . . . | — | 484 „ |
| Гравійных . . . . . . | 271 „ | 1.774 „ |
| Бруку булыжнага . . . | 1.027 „ | 1.833 „ |
| Чорнага шасэ. . . . . . | 4 „ | 309 „ |
| Белага шасэ . . . . . | 1.421 „ | 1.435 „ |
| Бруку клінкернага . . . . | 17 „ | 46 „ |
| Разам . . . | 6.339 *клм.* | 8.111 *клм* |

Як відаць, колькасць грунтавых дарог змяншаецца за кошт будаўніцтва па гэтых напрамках больш дасканалых тыпаў пакрыцця. Акрамя таго, за кошт рэканструкцыі дарожнай гаспадаркі частка існуючых пакрыццяў пераводзіцца ў вышэйшыя тыпы, напрыклад: белае шасэ—у гудранаванае, грунтова-натуральнае—у палепшанае і гравійнае і т. д.

Па дарогах нізавой сеці аб'ём намечанага будаўніцтва складае 6959 клм. з наступным размеркаваннем па тыпах: грунтова-прафіляваных дарог—3703 клм, грунтова-палепшаных—2164, гравійных—924, бруку булыжнага—168 клм.

Акрамя таго, павінна быць прыведзена ў праезжы стан сець дарог працягласцю ў 50.367 клм.

Аб'ём укладанняў у будаўніцтва і рамонт новай сеці ніжэйшых класаў дарог у другой пяцігодцы складае 89,4 млн. руб., з якіх грашыма—28,8 млн., працоўным удзелам насельніцтва—57,1 млн. і 3,5 млн. руб. бясплатным лесам, адпускаемым для будаўніцтва і рамонту мастоў. Такім чынам, працоўны ўдзел насельніцтва ў будаўніцтве дарог раённага і сельскага значэння з'яўляецца асноўнай крыніцай выдаткаў на ліквідацыю бездарожжа і павялічваецца параўнаўча з першай пяцігодкай амаль у чатыры разы.

У выніку новага будаўніцтва і прывядзення дарог у праезжы стан, эксплаатацыйная сець дарог раённага значэння к канцу другой пяцігодкі замест 18,133 клм. павінна дасягнуць 21.690 клм.

Паводле відаў пакрыцця гэтая сець на 1 студзеня 1938 года размяркоўваецца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Грунтова-натуральных дарог . . . . . | 11.448 *клм.* | —52,7% |
| грунтова-прафіляваных . . . . . . . | 5 895 „ | —27,2% |
| грунтова-палепшаных . . . . . . . . | 3.028 „ | —13,9% |
| гравійных. . . . . . . . . . . . . . | 997 „ | — 1,6% |
| бруку . . . . . . . . . . . . . . . | 307 „ | — 1,6% |
| Разам: . . . . . | 21.675 „ | —100,0% |

Планам другой пяцігодкі па мясцовых дарогах прадугледжана, з аднаго боку, некаторае скарачэнне даўжыні дарожнай сеці за кошт выпрамлення звілістых трас пры пабудове новых дарог (4 проц.), а, з другога боку,—павелічэнне працягласці сеці за кошт пабудовы дарог па новых напрамках, ахопу новых вытворчых і эканамічных пунктаў і інш. Гэты прырост нізавой сеці складае 12,6 проц. ад яе агульнага працягу. Пры гэтым трэба ўлічыць, што з ростам калектывізацыі і новым адміністрацыйным дзяленнем БССР, у сувязі з арганізацыяй новых раённых цэнтраў, наспявае крайняя неабходнасць у будаўніцтве новых напрамкаў да раённых цэнтраў, элеватараў, хлебаздатачных пунктаў і інш.

Агульны аб'ём укладанняў у дарожную гаспадарку за другую пяцігодку пакідае далёка ззаду маштабы мінулых гадоў і складае 442,6 млн. рублёў, з якіх бюджэтных асігнаванняў 355,5 млн. руб.

Акрамя колькаснага росту дарожнай сеці, у другую пяцігодку паўстаюць задачы палепшання якасці як будаўніцтва, так і эксплаатацыі ўжо пабудаваных дарог. Утрыманню дарог у спраўнасці да другой пяцігодкі ўдзялялася недастатковая ўвага. Мы вельмі многа будавалі, але недапушчальна дрэнна сачылі за станам дарожнай гаспадаркі. У выніку нямала дарог, асабліва нізавой сеці, праз кароткі час патрабавалі паўторнай перабудовы.

У плане другой пяцігодкі, разам са значным узмацненнем утрымання ў спраўным стане дарог вышэйшых класаў, прадугледжана таксама арганізацыя рэгулярнага ўтрымання і дарог нізавой сеці. Асігнаванні на эксплаатацыю з кожным годам павялічваюцца, і гэта дае магчымасць забяспечыць палепшанне якасці рамонту і ўтрымання дарог, а таксама прыступіць да арганізацыі культурнага абслугоўвання дарожнай гаспадаркі.

Задачы, як відаць з праграмы 2-й пяцігодкі, пастаўлены перад дарожнымі органамі і грамадскасцю (Аўтадор) надта вялікія.

Як-жа яны выконваюцца?

Зараз зданы ў эксплаатацыю пабудаваныя за 1933-34 гг. па БССР каля 1.000 клм. новых дарог з цвёрдым пакрыццём і добрай ацэнкай якасці будаўніцтва.

Разам з гэтым дасягнут пэўны пералом у справе арганізацыі нармальнага ўтрымання дарог вышэйшых класаў. Упершыню ў 1934 г. эксплаатацыйныя ўчасткі БССР поўнасцю і датэрмінова выканалі гадавую праграму работ. Значна палепшылася культурнае абслугоўванне нашых дарог: устаноўлены кіламетравыя паказальнікі і між-

народныя аўтамабільныя знакі, закончаны недадзелкі на паасобных дарогах; рэгулярна праводзіцца пабелка знакаў, мастоў і банкетных слупоў; на многіх перасячэннях дарог разбіты клумбы з кветкамі; праведзена вялікая работа па азеляненню дарог; будуюцца домікі для рамонтнай службы; на абочынах дарог устаноўлены скамейкі для адпачынку і т. д.

Старшыня СНК БССР тав. Галадзед на XI усебеларускім з'ездзе советаў заявіў:

«Цяпер мы можам смела сказаць, што БССР з'яўляецца рэспублікай высокакультурных шасэйных дарог»...

* * *

Вузкім месцам дарожна-эксплаатацыйных участкаў застаюцца грунтовыя дарогі, якія па праязджаемасці часта горш прасёлачных. Учдоры не маюць эксплаатацыйнага запасу каменю, гравія і лесу, рад трактаў не мае жылых будынкаў для рамонтнай службы, слаба ўкамплектаваны сталыя рамонтныя брыгады, нават і ў 1934 г. не выканан план працудзелу насельніцтва і т. д.

Гэтыя недахопы выкліканы ў асноўным той акалічнасцю, што учдоры абслугоўвалі ўчасткі значнай працягласці і, натуральна, галоўную ўвагу ўдзялялі шасэйным магістралям. Для палепшання ў далейшым эксплаатацыі дарог, колькасць учдораў зараз павялічваецца з 17 да 22, пры чым сярэдняя працягласць абслугоўваемых імі дарог памяншаецца да 265 клм. супроць 378 клм. Умацаваныя учдоры павінны ліквідаваць адзначаныя вышэй недахопы.

З ліку паасобных мерапрыемстваў у галіне палепшання эксплаатацыі нашай дарожнай сеці ўкажам наступныя:

Увядзенне сістэматычнага зімовага догляду дарог. Сталыя аўтамабільныя зносіны на значнай колькасці магістральных трактаў выклікаюць вострую неабходнасць аховы іх ад снежных заносаў. К канцу пяцігодкі намячалася ахапіць сістэматычнай снегаачысткай да 2.000 клм. дарог, тым часам ужо ў зімовы перыяд 1934-35 г. ахоўвалася ад снегазаносаў 2.577 клм.

З гэтага года павінна пачацца нарыхтоўка шчытоў, устаноўка сталых платоў для аховы ад снегу і інш. Адначасова павінны быць мабілізаваны актыўныя сродкі барацьбы з завеямі праз узмацненне машыннага парка учдораў снегаачышчальнікамі і трактарнай цягай.

Азеляненне дарог і пабудова жывых парканаў ахоўвае дарогу ад завеі і надае ім культурны выгляд. Намечана поўнае азеляненне 1734 клм. За адзін 1934 г. азеленена 1.079 клм. У Віцебску і Магілеве будуюцца аранжэрэі для пашырэння колькасці кветкавых клумб на скрыжаваннях дарог. Закладваюцца пітомнікі для вырошчвання пасадачнага матар'ялу.

Магістральныя дарогі намечана абсталяваць светлавымі сігнальнымі знакамі, каб забяспечыць безапаснасць руху на скрыжаваннях і крывых. У 1935 годзе гэтымі знакамі абсталёўваюцца шасэ Менск—Магілеў і Менск—Орша. Устанаўляюцца бензараздатачныя калонкі.

Каб палепшыць сувязь з дарожнымі майстрамі і рамотнымі рабочымі, прадугледжана тэлефанізаваць асноўныя тракты на працягу 500 клм., з іх тракты Менск—Магілеў і Менск—Орша мяркуецца тэлефанізаваць ужо ў гэтым годзе.

Для новага будаўніцтва дарог прадугледжана максімальна скарыстаць мясцовыя будматар'ялы: гравій, камень і інш. У раёнах паўднёвай часткі БССР зусім няма каменю і амаль поўнасцю адсутнічае гравій. Для замены гэтых дэфіцытных матар'ялаў і стварэння базы мясцовых будматар'ялаў планам другой пяцігодкі прадугледжана пабудова клінкернага завода ў Доўску. Усе геалагічныя доследы ўжо закончаны. Вытворчасць завода разлічана на 4,5 мільёна цэглы ў год.

Беларускі аўтадарожны навукова-даследчы інстытут за апошнія гады правёў вялікую работу па вышукванню мясцовых матар'ялаў для замены нафтавых бітумаў. Часткова гэта праблема ўжо вырашана. Пабудаваны вопытныя ўчасткі дарог, прапітаныя тарфянай смалою і пекам, якія здабываюцца пры газіфікацыі і каксаванні торфу з адпаведнай апрацоўкаю тарфянай смалы.

Сабекошт будаўніцтва новых дарог прадугледжваецца знізіць на 15 проц. Аднак, паводле даных за 1934 г., гэту лічбу мы нават перавыканалі (маршрут № 3, 4 і інш.).

* * *

Дарогі мясцовага значэння, як мы ўжо адзначалі, будуюцца ў асноўным за кошт працоўнага ўдзелу насельніцтва. К 1 студзеня 1935 года БССР упершыню выканала план прыцягнення працоўных рэсурсаў насельніцтва на 104,0 проц. Усё-ж рад раёнаў моцна адстаў у дарожным будаўніцтве. Чэрыкаўскі выканаў план на 60 проц., Сіроцінскі — 60,7 проц., Плешчаніцкі — 74,7 проц., Талачынскі — 65,1 проц., Бялыніцкі—72,4 проц., Дзержынскі—78,7 проц., Нараўлянскі—75,3 проц. і Тураўскі—77,9 проц. У асноўным гэта раёны выключнага бездарожжа, аднак справа дарожнага будаўніцтва не стала яшчэ важнейшай гаспадарча-палітычнай задачай райарганізацый.

У будаўніцтве нізавой сеці ёсць рад буйнейшых недахопаў.

У большасці раёнаў пабудаваныя летась дарогі расстроены з-за ніскай якасці будаўніцтва і адсутнасці рэгулярнага ўтрымання іх. Фармальна праведзенае прымацаванне дарог да калгасаў, соўгасаў і вёсак дагэтуль не дало станоўчых вынікаў. На 1 студзеня 1935 года было прымацавана 16.438 клм. Ліквідацыя беспрытульнасці нізавой сеці дарог не суправаджалася разгортваннем арганізацыйна-масавай работы і практычным паказам вынікаў ліквідацыі абязлічкі.

Несканцэнтраванасць сродкаў—грашовых і працудзелу—пры будаўніцтве і рамонце вялікай колькасці кілометраў, прыводзіць к таму, што часта работы не даводзяцца да канца, дарогі не пакрываюцца і не паляпшаюцца мясцовымі будматар'яламі і хутка разбураюцца.

Нізавая сець дарог вельмі слаба насычана механізмамі і прасцейшымі прыладамі, а грэйдэры, прасавалкі і канавакапалкі мала выкарыстоўваюцца.

Райдораддзелы не маюць патрэбнай колькасці інжынерна-тэхнічных кадраў, а наяўныя кадры слаба ўзброены тэхнічнымі ведамі. У гэтым годзе для ўмацавання райдораддзелаў накіроўваюцца ў 40 раёнаў інжынеры-дарожнікі.

У дарожным будаўніцтве вельмі слабы ўдзел прымаюць соўгасы і МТС, не выконваючы заданняў па працоўнаму ўдзелу.

* * *

Вынікі будаўніцтва мясцовых дарог у 1934 годзе:

| | План | Выкананне |
|---|---|---|
| Вывазка каменю . . . . . . | 45 799 *куб.м* | 52 371 *куб.м* |
| „ гравія . . . . . . | 187 866 „ | 276 291 „ |
| „ пяску . . . . . . | 452 469 „ | 417 567 „ |
| „ лесу . . . . . . | 106 990 „ | 113 863 „ |
| Земработы па новаму будаўніцтву і капітальнаму рамонту . . . . | 7 978 560 „ | 8 880 118 „ |
| Пабудова грунт.-праф. дарог . . . | 201,5 *клм* | 546 *клм* |
| „ грунт.-палепш. дарог . . . | 231 „ | 145 „ |
| „ гравійных дарог . . . | 122 „ | 97 „ |
| Пабудова булыжных дарог . . . . | 33 „ | 35,8 „ |
| Рамонт грунт.-праф. дарог . . . | 1605 „ | 2385 „ |
| „ палепшаных дарог . . . | 326 „ | 451 „ |
| „ гравійных дарог . . . | 129 „ | 156 „ |
| Пабудова і рамонт мастоў . . . | 24 636 *п/м* | 32 629 *п/м* |
| Бягучы рамонт дарог . . . . | 6378 *клм* | 6810 *клм* |
| Азеляненне . . . . . . | 455 „ | 765 „ |
| Пабудова труб . . . . . . | 208 *шт.* | 473 *шт.* |

Такім чынам, пры агульна здавальняючых паказчыках выканання плана будаўніцтва і рамонту дарог ніэавой сеці, асноўным недахопам, пры ацэнцы вынікаў 1934 года, з'яўляецца невыкананне плана будаўніцтва палепшаных і гравійных дарог. Для раёнаў гэтыя тыпы дарог фактычна новыя, і 1934 г. быў пераломным у справе павароту раёнаў да палепшання дарог мясцовымі будматар'яламі.

Разгортванне работ 1934 года ў большасці раёнаў БССР ішло пад знакам выканання соцыялістычнага дагавору па дарожнаму будаўніцтву з Чувашыяй і конкурса советаў. Не лічачы паасобных раёнаў, аб якіх гаварылася вышэй, большасць раёнаў БССР здавальняюча выканала свой план работ. Значна ўзнялася эфектыўнасць работ з працоўным удзелам насельніцтва. 1935 год ставіць перад раённымі і дарожнымі арганізацыямі яшчэ большыя задачы:

— Асноўную ўвагу ўдзяліць асваенню пабудаваных дарог, палепшыць утрыманне і рамонт існуючай сеці, цвёрда ўстанавіць, што ўсе пабудаваныя пад'язныя шляхі і дарогі, у залежнасці ад грузанапружанасці, павінны быць пакрыты мясцовымі будматар'яламі ці палепшаны грунтовымі дабаўкамі (гравій, пясок, камень).

— На ўсіх дарогах і пад'ездах, зданых у эксплаатацыю, наладзіць пастаянную рамонтную службу на важнейшых напрамках, шляхам арганізацыі акалодкаў з дормайстрамі, а на астатніх участках— у парадку прымацавання дарог да калгасаў, соўгасаў, МТС і вёсак, а таксама—прадпрыемстваў, фабрык і заводаў.

— Па прыкладу Маскоўскай вобласці ўвесці ва ўсіх сельскіх советах пасаду загадчыка дарожнай гаспадаркі сельсовета. Гэта ўпарадкуе будаўніцтва і рамонт дарог, эфектыўнасць скарыстання працудзелу. Адначасова належыць максімальна разгарнуць работу дарожных секцый сельсоветаў, ператварыўшы іх у асноўны дарожны актыў паходу на бездарожжа.

Улічваючы слабасць нізавога тэхнічнага апарата, падрыхтаваць не менш 300 дарожных дзесятнікаў і правесці перападрыхтоўку ўсіх дарожных работнікаў лініі ў духу сучасных задач дарожных арганізацый. Зараз ужо навучаецца на курсах 236 дарожных дзесятнікаў, праведзены курсы на 70 тэхнікаў, праводзяцца курсы-канферэнцыі па павышэнню кваліфікацыі дзесятнікаў і дарожных арганізатараў у раёнах. Акрамя таго, па загаду НКЗ БССР, зямельныя органы і МТС, згодна рашэнню XV з'езда КП(б)Б, павінны падрыхтаваць 3.000 калгасных дарожных брыгадзіраў. Фактычна гэта справа ў большасці раёнаў правальваецца: падрыхтавана толькі 943 брыгадзіры.

Прымацаванне дарог трэба ператварыць у вялікую грамадска-палітычную работу. Пытанне ўтрымання прымацаваных дарог абмяркоўваць не толькі на вузкіх паседжаннях сельсоветаў ці калгасаў, а ставіць таксама на агульных сходах калгаснікаў.

Кожны калгаснік і аднаасобнік павінен ведаць, за якую дарогу ён адказвае і што патрэбна на ёй рабіць. Прымацаванне праводзіць не толькі фармальна,—на кожным участку павінен быць устаноўлен слуп з указаннем, хто за даную дарогу адказвае, а таксама наладжан сталы кантроль за ходам работ.

У 1934 г. дарожныя органы, райвыканкомы і сельсоветы дапусцілі вялікую палітычную памылку ў справе прыцягнення кулацкай часткі насельніцтва да працудзелу. Згодна пастанове ўрада, кулакі свае заданне павінны былі выканаць за першы квартал. Камісія совецкага кантроля ўстанавіла, пры праверцы, што кулакі ва многіх раёнах да работы фактычна не прыцягваліся. Гэта памылка ў другой палове года большасцю раёнаў была часткова выпраўлена. У Краснапольскім, Старобінскім, Жлобінскім, Рагачоўскім раёнах райарганізацыі прадаўжаюць і сёлета палітычна недаацэньваць гэту справу.

Вельмі дрэнна наладжана прыцягненне да працудзелу аднаасобнікаў. У той час, калі калгасы свае заданні перавыконваюць, некаторыя аднаасобнікі, пад уплывам кулацкай агітацыі, сабатуюць і на работы не выязджаюць. Так, у Оршанскім раёне калгасы адпрацавалі 114, проц. плана, а аднаасобнікі толькі 66,6 проц. Такі-ж малюнак у Лагойскім, Чэрыкаўскім, Талачынскім і радзе іншых раёнаў. У 1935 годзе аднаасобнікі павінны прыцягвацца да работы з першых-жа месяцаў.

Дарожная справа ў радзе раёнаў пачала станавіцца адною з важнейшых палітычных задач, да абслугоўвання дарожных работ прыцягнута шырокая совецкая грамадскасць. Аднак Аўтадор—гэта асноўная грамадская арганізацыя, якая павінна была сваім удзелам забяспечыць выкананне праграмы дарожнага будаўніцтва—садзейнічала работам вельмі слаба. Прычына ў тым, што значная колькасць

раёнаў не мае арганізацый Аўтадора. У гарадах аўтадораўскія арганізацыі больш займаліся аўтамабільнаю справай і вельмі малы ўдзел прымалі ў дарожным будаўніцтве (Віцебск, Магілеў). Выключэннем з'яўляецца менская, мазырская, бабруйская і полацкая аўтадораўскія арганізацыі, якія непасрэдна ўдзельнічалі ў рабоце і значна дапамаглі выкананню плана.

Дагэтуль аўтадораўскія арганізацыі лічылі, што яны павінны самі будаваць дарогі, а дарожныя органы думалі, што дапамога Аўтадору—не іх справа. Падобныя адносіны патрэбна ў корані змяніць. Дарожныя работнікі павінны ўліцца ў аўтадораўскія арганізацыі і стварыць іх асноўны актыў. Толькі сумеснай работай аўтадораўскія і дарожныя арганізацыі могуць забяспечыць выкананне праграмы 1935 года.

Ад ступені скарыстання зімовага перыяда для нарыхтоўкі і вывазкі будаўнічых матар'ялаў—каменю, гравія, пяску, лесу—залежыць паспяховы разварот работы ў летні час. Аднак, гэта справа, за выключэннем паасобных раёнаў, пастаўлена была зімой нездавальняюча.

Полацкі раён, які ў 1933 годзе заваяваў першынства па рэспубліцы ў справе зімовай нарыхтоўкі і вывазкі матар'ялаў, і цяпер не здаў сваіх пазіцый. Таксама не адстаюць Хойніцкі, Расонскі і інш. раёны.

Мы толькі тады здолеем выканаць ускладзеныя задачы па дарожнаму будаўніцтву, калі яно стане кроўнаю справай усіх партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый. Дарожныя работы павінны весціся не рыўкамі, а сістэматычна, планава і штодзенна, стаяць у цэнтры ўвагі мясцовых раённых арганізацый. Соцдагавор з Чувашыяй ставіць гэту ўмову адною з асноўных перад усімі рэспублікамі, краямі і абласцямі.

Мабілізуючы шырокія масы калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на барацьбу за выкананне плана дорбудаўніцтва ў 1935 годзе, укараняючы веды дарожнай справы ў шырокія масы працоўных горада і вёскі, праводзячы жорсткую барацьбу са спробамі кулацкашкодніцкіх элементаў сарваць праграму дарожнага будаўніцтва, якая садзейнічае ўмацаванню абароназдольнасці краіны,—БССР павінна з гонарам выканаць пастаўленую XVII партз'ездам задачу ліквідацыі бездарожжа ў краіне Советаў.

Узнагароджанне БССР і яе кіраўнікоў ордэнам Леніна абавязвае ўсе партыйныя, савецкія, прафесіянальныя і грамадскія арганізацыі яшчэ лепш працаваць ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку дарожнага. Усёй далейшай барацьбою за выкананне плана трэцяга года другой пяцігодкі, за выкананне рашэнняў XVII партз'езда, VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў советаў апраўдаем вялікую ўзнагароду, якую атрымала наша рэспубліка пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, пры штодзенным кіраўніцтве ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало.

# ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

## К ЧЫТАЧАМ „БОЛЬШЭВІКА БЕЛАРУСІ“

*Красавіковы пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў:*

*«У мэтах шырокай пастаноўкі абмену вопытам партыйнай работы і дапамогі кіруючым партыйным кадрам, пленум даручае бюро ЦК перабудаваць часопіс «Большэвік Беларусі» у напрамку максімальнага асвятлення партыйнай работы і абмену вопытам з тым, каб не менш паловы часопіса было аддана пытанням партбудаўніцтва».*

*З мэтай рэалізацыі гэтай пастановы час. «Большэвік Беларусі» з гэтага нумара арганізуе на сваіх старонках аддзел «ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ».*

*У аддзеле «ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ» будзе шырока асвятляцца работа партарганізацый па рэалізацыі рашэнняў XVII партз'езда, рашэнняў ЦК ВКП(б), пленума ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб уздыме арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, пытанні партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, абмен вопытам партыйнай работы ГК, РК, інструктароў і нізавых партарганізацый.*

*Аддзел «ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ» будзе асвятляць пытанні вырошчвання, падбору і вылучэння партыйных кадраў, вопыт і практыку арганізацыі і правядзення партыйных сходаў, работу з комуністамі-адзіночкамі і спачуваючымі, работу парткомаў і інструктароў, пытанні пастаноўкі інфармацыі і праверкі выканання рашэнняў партыі, палітычна-выхаваўчай работы, пастаноўку справы беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання і рад іншых пытанняў унутрыпартыйнай і партмасавай работы ў КП(б)Б.*

*Задача аддзела «ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ»—шырока папулярызаваць станоўчы вопыт і практыку партыйнай работы партарганізацый, ведучы барацьбу з недаацэнкаю ўнутрыпартыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, выкрываючы недахопы ў пастаноўцы партыйнай работы ў паасобных партарганізацыях.*

*Рэдакцыя «Большэвіка Беларусі» звяртаецца да шырокіх колаў партыйнага актыва прыняць удзел у рабоце часопіса, асвятляючы на яго старонках барацьбу партарганізацыі за рэалізацыю рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б.*

*РЭДАКЦЫЯ.*

Г. Рубінштэйн

# Вышэй узровень партыйнай работы

Перажываемы намі этап соцыялістычнага будаўніцтва характэрны яшчэ большым ускладненнем задач, яшчэ большым павышэннем латрабаванняў да якасці кіраўніцтва, паколькі партыя практычна вырашае складанейшую задачу перамагання перажыткаў капіталізма не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей.

У рэзультаце перамогі генеральнай лініі партыі, разгрому капіталістычных элементаў горада і вёскі, у барацьбу за пабудову бясласавага соцыялістычнага грамадства аказаліся ўцягнутымі новыя мільёны актыўных будаўнікоў соцыялізма, беззаветна адданых справе партыі, справе рабочага класа.

Зусім зразумела, што арганізацыя гэтых мільёнаў, накіраванне іх волі і энергіі на паспяховае вырашэнне задачы пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, асваенне новай тэхнікі, машынізацыю сельскай гаспадаркі,—патрабуюць канкрэтнага палепшання метадаў нашага кіраўніцтва, «ставяць з усёй вострасцю пытанне аб павышэнні якасці нашай работы ва ўсіх галінах і ў першую чаргу якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва».

Гэта асабліва адносіцца да павышэння якасці партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы сярод членаў партыі, паколькі партыя, як авангард, павінна забяспечыць мабілізацыю мільённых мас працоўных на паспяховае завяршэнне пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Тым часам становішча партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы сярод членаў партыі значна адстае ад ўзроўню палітычных задач, значна адстае ад ўзрослых запатрабаванняў, прад'яўляемых да кіраўніцтва як партыйнымі, так і беспартыйнымі масамі. Такім чынам, важнейшая задача, якая стаіць перад ўсёй партыяй,—гэта хутчэйшая ліквідацыя наяўнай неадпаведнасці, хутчэйшае падцягванне партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы. Выкананне гэтай задачы патрабуе такой перабудовы партыйнай работы, каб у цэнтры ўвагі партыйнай арганізацыі стаў член партыі—яго ідэйнае ўзбраенне, яго палітычны рост.

Неабходна хутка і рашуча пакончыць з пераважаўшым да гэтага часу ў радзе партарганізацый неканкрэтным агульным кіраўніцтвам. Замест кіраўніцтва «наогул», партыйныя арганізацыі павінны заняцца штодзенным крапатлівым вывучэннем, вырошчваннем і выхаваннем партыйных кадраў. Уся сістэма партыйнай работы павінна быць накіравана к таму, каб яна садзейнічала палітычнаму росту і ідэйнаму ўзбраенню комуністаў, дапамагала кожнаму ко-

муністу стаць сапраўдным арганізатарам і важаком беспартыйных мас. Для гэтага неабходна, перш за ўсё, узброіць комуніста тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна. Толькі ўзброіўшы гэтай тэорыяй комуністаў, мы здолеем паспяхова змагацца з чуждымі антыленінскімі тэорыямі, павысіць пільнасць і з поспехам выкрываць манеўры класавага ворага. Іменна гэты ўчастак работы па ідэйнаму ўзбраенню комуніста выключна адстаў ад тых важнейшых палітычных задач, якія стаяць зараз перад нашай партыяй.

Неабходна зразумець, што асноўным зместам большэвіцкай пільнасці з'яўляецца ідэйнае ўзбраенне комуніста, яго палітычны рост, веданне комуністам гісторыі барацьбы нашай партыі з антыленінскімі ўхіламі, веданне стратэгіі і тактыкі нашай партыі на ўсіх этапах барацьбы. Гэта асабліва важна іменна зараз, калі разгромлены класавы вораг узмацняе сваё супраціўленне, не пагарджаючы ніякімі метадамі, мяняе тактыку барацьбы, калі рэшткі разгромленай партыяй контррэволюцыйнай зіноўеўскай групы сталі на фашысцкі шлях барацьбы з партыяй, калі двурушніцтва зрабілася асноўным метадам барацьбы антыпартыйных элементаў супроць партыі. На гэтым этапе пытанне павышэння большэвіцкай пільнасці з'яўляецца важнейшай задачай, а неабходным сродкам для паспяховага выканання гэтай задачы з'яўляецца ідэйнае ўзбраенне комуніста, забяспечанне яго палітычнага росту.

Тым часам прапрацоўка нашай партыйнай арганізацыяй урокаў падзей, звязаных са зладзейскім забойствам тав. Кірава падонкамі зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы, ўскрыла, што ў радзе арганізацый КП(б)Б не зразумелі таго, што новыя ўскладненыя задачы патрабуюць карэннага палепшання партыйна-арганізацыйнай работы, штодзённай крапатлівай работы па вывучэнню, вырошчванню і выхаванню большэвіцкіх кадраў, патрабуюць таго, каб асновай сваёй работы партыйныя арганізацыі зрабілі разгортванне партыйна-выхаваўчай работы.

Рад партыйных арганізацый не зразумелі таго, што выкананне гаспадарчых задач яны павінны забяспечыць праз разгортванне партыйнай работы, праз шырокую пастаноўку выхавання комуністаў, забяспечання за комуністам авангарднай ролі ў выкананні гаспадарчых задач, забяспечання за комуністам ролі большэвіцкага арганізатара беспартыйных мас. Замест гэтага, рад партыйных арганізацый сталі на шлях падмены ў рабоце совецкіх і гаспадарчых органаў, закінуўшы па сутнасці партыйную работу. Забыццё таго, што новыя ўскладненыя задачы патрабуюць карэннага палепшання партыйна-арганізацыйнай работы, самасупакоенасць і забыццё радам партыйных арганізацый таго, што класавы вораг актывізуецца, што ён у смяротных сударгах імкнецца ўсімі спосабамі сарваць справу будаўніцтва соцыялізма, што наяўнасць капіталістычных перажыткаў ў экономіцы і свядомасці людзей патрабуе яшчэ большага павышэння пільнасці і работы па ідэйнаму ўзбраенню комуніста, прывяло да агульнага адставання партыйна-арганізацыйнай і выхаваўчай работы, а гэта ў сваю чаргу—да аслаблення боездольнасці пасобных партыйных арганізацый.

Пленум ЦК КП(б)Б распрацаваў канкрэтную праграму разгортвання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы і абавязаў ГК і РК і пярвічныя партыйныя арганізацыі асноўным зместам іх работы зрабіць пытанне павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню комуніста, пытанні вырошчвання, выхавання і вылучэння партый-

ных кадраў, пытанні ўзбраення комуніста марксісцка-ленінскай тэорыяй.

На аснове рашэнняў пленума ЦК КП(б)Б партыйныя арганізацыі прыступілі да перабудовы сваёй работы. Аднак, ужо на першым этапе выявілася, што некаторыя партарганізацыі не могуць адмовіцца ад старых шаблонаў у партыйнай рабоце. Замест таго, каб на падставе рашэння пленума ЦК КП(б)Б і пленума ленінградскага ГК распрацаваць канкрэтную праграму разгортвання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы для кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі і прыступіць да канкрэтнага ажыццяўлення рашэнняў, прынятых пленумамі ЦК КП(б)Б і ленінградскага гаркома, прапрацоўка гэтых рашэнняў ў радзе арганізацый носіць агульны неканкрэтны характар. Ёсць такім чынам небяспека, што жывая канкрэтная справа выхавання, вырошчвання, вылучэння партыйных кадраў, пытанне вывучэння людзей, палепшання марксісцка-ленінскага выхавання можа ў радзе арганізацый патануць у агульнай «прапрацоўцы», у патоку агульных рашэнняў.

Выхаванне людзей—гэта вялікае мастацтва. Неабходна, каб партыйныя арганізацыі пад гэтым пунктам погляду крытычна пераглядзелі ўсю сістэму сваёй работы. Тое, што да гэтага часу радам партыйных арганізацый разглядалася як «дробязі», становіцца зараз рашаючымі пытаннямі выхавання і вырошчвання большэвіцкіх кадраў.

Да гэтага часу пытанне аб партыйнай нагрузцы комуніста лічылася «дробяззю», якой рад партыйных арганізацый пагарджалі. Тым часам правільнае выкарыстанне комуніста, прадуманы падыход да яго партыйнай нагрузкі з'яўляецца зараз адным з важнейшых момантаў выхавання.

Рад фактаў гаворыць аб тым, што няўважлівасць да нагрузкі комуніста прыводзіць часам к таму, што актыўны, растучы таварыш, будучы загружан дзесяткам партыйных нагрузак, пазбаўляецца магчымасці працаваць над сабой. Ён не паспявае прачытаць газеты, ў яго не застаецца часу для знаёмства з палітычнай і мастацкай літаратурай; нарэшце перагрузка прыводзіць у радзе выпадкаў к таму, што радавы адданы партыі таварыш, хварэючы за даручаную справу, проста фізічна не здолен давесці яе да канца. Калі такому таварышу хутка не дапамагчы, не аслабаніць ад перагрузкі, не забяспечыць ўмовы для работы над сабой, ён немінуча адстане ад агульнага росту масы і з актыўнага ператворыцца ў адстаючага. Але для таго, каб своечасова дапамагчы, трэба ведаць кожнага члена партыі, заняцца кожным, асабліва растучым комуністам. Трэба зразумець, што такая «дробязь», як партыйная нагрузка, часам вырашае пытанне росту комуніста.

З другога боку, няведанне людзей, адсутнасць канкрэтнасці ў падыходзе да кожнага чалавека прыводзіць іншы раз к таму, што комуніст даўно перарос нагрузку, якую выконвае, а яго ўсё трымаюць, скажам, на рабоце зборшчыка членскіх узносаў. Калі гэтага таварыша прыцягнуць да работы парткома, гаркома, даць яму даручэнне падрыхтаваць да парткома або гаркома адно з сур'ёзнейшых пытанняў, звязаных з пастаноўкай партыйнай работы не толькі свайго цэха, але і ўсяго прадпрыемства або калгаса, дапамагчы яму ў гэтай справе, мы гэтым забяспечваем яму рост, уздымаем яго да ўзроўню разумення задач усёй партыйнай арганізацыі, уключаем у актыўную партыйную работу, узнімаем інтарэс да яе і стымулюем узмацненне работы над сабой.

Але для гэтага зноў-такі патрэбна веданне людзей, канкрэтны падыход да кожнага чалавека, неабходна зразумець, што правільнае выкарыстанне комуніста і своечасовая дапамога—важнейшы і рашаючы момант у справе выхавання і вырошчвання партыйных кадраў.

Да тэтага часу рад таварышоў спрабуюць абмежаваць выхаванне комуністаў партыйнай вучобай. Партыйная вучоба бясспрэчна важнейшая частка выхавання і вырошчвання партыйных кадраў, аднак было-б няправільна ўсю праблему выхавання комуністаў зводзіць толькі к партыйнай вучобе. Партыйная вучоба, з'яўляючыся складанаю часткай пытання выхавання комуніста, застаецца, хоць і важнейшай, аднак толькі часткай пытання. Калі мы не здолеем, побач з разгортваннем партыйнай вучобы, забяспечыць агульны ўздым партыйнай работы, уцягненне комуністаў у актыўны ўдзел у партыйным жыцці, ператварэнне партыйнага сходу ў важнейшы элемент выхавання комуніста, мы пастаўленай задачы выхавання і вырошчвання партыйных кадраў не выканаем.

Выхаванне большэвіцкіх кадраў прадпалагае—разам з уцягваннем комуніста ў партыйную вучобу, забяспечаннем глыбокага зместу і партыйнай ваяўнічасці ў аўладанні марксісцка-ленінскай тэорыяй, пранізваннем вывучэння марксісцкай тэорыі практыкай соцыялістычнага будаўніцтва—яшчэ і такую пастаноўку партыйнай работы, каб кожны комуніст, які актыўна ўдзельнічае ў партыйным жыцці, на партыйным сходзе, у выкананні партыйных даручэнняў, у рабоце з беспартыйнымі і т. д., палітычна рос, па-большэвіцку загартоўваўся, засвойваў большэвіцкія традыцыі і быў сапраўдным арганізатарам беспартыйных працоўных мас.

Адсюль асаблівую важнасць у выхаванні комуніста набывае арганізацыя падрыхтоўкі і правядзення партыйнага сходу. Кожны партыйны сход павінен ўзнімаць яго ўдзельніка на пэўную ступень, садзейнічаць палітычнаму росту, большэвіцкай загартаванасці комуніста.

Некаторыя партыйныя арганізацыі адносяцца да пытання выбару часу і месца партыйнага сходу як да дробязі, якая не заслугоўвае ўвагі. Тым часам, ад правільнага і прадуманага выбару дня, гадзіны і месца правядзення партыйнага сходу залежыць часта яго паспяховасць, залежыць актыўнасць комуністаў на партыйным сходзе. Няўдала выбраны дзень і гадзіна для партыйнага сходу прыводзіць нярэдка к таму, што комуніст не паспявае падрыхтавацца, бо павінен ісці на сход зараз-жа пасля работы, што не можа стымуляваць актыўнасці. Няўдалы выбар месца для правядзення партыйнага сходу, недастатковы размер памяшкання, адсутнасць вады, слабое асвятленне, непрыбранае памяшканне—усё гэта затрудняе правядзенне партыйнага сходу і, безумоўна, не стымулюе актыўнасці. «Дробязі», такім чынам, часта вырашаюць пытанне паспяховага правядзення партыйнага сходу і трэба з адносінамі да гэтых пытанняў як да дробязей пакончыць.

Рашаючае значэнне ў правядзенні партыйнага сходу на высокім палітычным узроўні мае выбар пытанняў, якія ставяцца на абгаварэнне партыйнага сходу, і прыцягненне комуністаў да падрыхтоўкі гэтых пытанняў. Забяспечыць актыўнасць партыйнага сходу, яго высокі палітычны ўзровень—значыць выбраць такое пытанне, якое цікавіла-б партыйную масу, на якім комуніст выхоўваўся-б. Гэта патрабуе дыферэнцыяванага падыходу да кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі, да кожнай групы комуністаў-адзіночак.

Аднак, недастаткова толькі выбраць пытанне, неабходна забяспечыць, каб у падрыхтоўку пытання да партыйнага сходу быў уцягнут актыў, каб да партыйнага сходу рыхтавалася ўся партыйная арганізацыя.

Практыка паасобных партыйных арганізацый гаворыць аб тым, што партыйны сход праходзіць тым актыўней, чым большая колькасць комуністаў уцягнута ў яго падрыхтоўку. Праведзеная ў некаторых пярвічных партарганізацыях папярэдняя гутарка цэхпарторга з комуністамі аб тым, якія пытанні яны лічаць неабходным уключыць у абвестку дня партыйнага сходу, паказала, што комуністы праяўляюць выключны інтарэс да пытанняў, якія ставяцца на абгаварэнне партыйных сходаў.

На адным з прадпрыемстваў цэхпарторг у працэсе гутаркі сабраў да 30-ці пытанняў, унесеных комуністамі для абгаварэння на партыйным сходзе. Зусім зразумела, што ўсе гэтыя пытанні не маглі быць абгавораны, ды акрамя таго рад пытанняў патрабавалі не абгаварэння, а практычнага вырашэння. Цэхпарторг узяўся за практычнае вырашэнне такіх пытанняў, а найбольш вострыя і важныя былі пастаўлены на партсходзе.

Паколькі пытанні былі высунуты комуністамі, даклады на сходах рабілі комуністы, унёсшыя гэтыя пытанні. Гэта патрабавала сур'ёзнай дапамогі комуністу ў падрыхтоўцы яго к дакладу па ўнесенаму пытанню, але гэта-ж дае добрыя рэзультаты з пункту погляду актывізацыі комуніста, гэта ў значнай меры садзейнічае выхаванню і росту комуніста, паколькі пастаноўкай яго даклада па пытанню, ім самім унесеным на партыйным сходзе, яго адпаведнай падрыхтоўкай, мы ўзнімаем комуніста да разумення задач не толькі сваёй цэхавай, але і заводскай партыйнай арганізацыі.

Гэта практыка не знашла яшчэ дастаткова шырокага прымянення ў нашых партыйных арганізацыях, тым часам, як гэта адзін са шляхоў, які забяспечвае шырокую актыўнасць партыйнага сходу, актыўны ўдзел ў падрыхтоўцы да сходу ўсяго партыйнага калектыва, забяспечвае правядзенне партыйнага сходу на высокім палітычным узроўні, што асабліва важна пры правядзенні партдня з комуністамі-адзіночкамі.

Існуючая да гэтага часу практыка склікання агульна-партыйных сходаў комуністаў-адзіночак па тэрытарыяльнаму прызнаку не садзейнічала актывізацыі комуніста-адзіночкі. Паколькі комуністы, працуючыя ў калгасах, соўгасах, сельсоветах, школах і т. д., яднаціся разам для правядзення партыйнага сходу, на гэтых сходах магчыма было ставіць толькі агульныя пытанні. Пытанні-ж партыйнай работы ў калгасе, соўгасе, пытанні работы паасобнага комуніста не маглі зацікавіць усіх комуністаў, удзельнічаючых на даным сходзе.

Трэба ліквідаваць практыку склікання сходаў комуністаў-адзіночак па тэрытарыяльнаму прызнаку, арганізаваўшы скліканне сходаў комуністаў па вытворчаму прызнаку (комуністы, працуючыя ў сельсоветах, калгасах і т. д.). Падрыхтоўка да гэтых сходаў павінна быць праведзена асабліва ўважліва, улічаны запатрабаванні комуніста. Комуністы-адзіночкі павінны быць уцягнуты ў падрыхтоўку пытанняў да склікаемага сходу. Партыйныя арганізацыі павінны да кожнага партыйнага сходу разгарнуць збор прапаноў комуністаў па пытаннях, якія абгаварваюцца на партыйным сходзе. У рашэнні партыйнага сходу павінны быць улічаны ўсе прапановы комуністаў.

Важнейшай справай з'яўляецца кантроль за выкананнем партый-

ных рашэнняў. Кантроль і арганізацыя выканання прынятых рашэнняў—рашаючыя ўмовы актывізацыі партыйнай масы. Комуніст будзе сур'ёзна рыхтавацца да партыйнага сходу і прадумваць усе пытанні, актыўна дабівацца прыняцця яго прапаноў толькі пры той абавязковай умове, калі будзе ўпэўнен, што ўнесеная ім і прынятая на партыйным сходзе прапанова праводзіцца ў жыццё. Неабходна забяспечыць, каб першым пунктам абвесткі кожнага партыйнага сходу была інфармацыя кіраўніка партыйнай арганізацыі аб тым, як рэалізавана рашэнне, прынятае на папярэднім партыйным сходзе.

Большэвіцкі кантроль выканання азначае, што партыйная арганізацыя павінна ўзяцца за кантроль прынятага рашэння зараз-жа пасля таго, як яно прынята. Не чакаць, як гэта ў нас часта практыкуецца, што вось, моў, падыйдзе тэрмін, устаноўлены рашэннем, тады і праверым, як гэта рашэнне выканана. Стаць на такі шлях, значыць палажыцца на самацёк, значыць праваліць справу. Кантроль выканання павінен быць адначасова і арганізацыяй выканання. Толькі ў такім выпадку ён будзе дзейсны, толькі ў такім выпадку мы даб'емся, што прынятыя намі рашэнні будуць выконвацца своечасова, толькі ў такім выпадку мы зможам папярэдзіць правалы і вытруціць з карэннем бюракратызм і валакіту.

Тав. Сталін ў сваім выступленні на XVII з'ездзе партыі з выключнай яскравасцю паказаў, якое рашаючае значэнне мае правільна пастаўлены кантроль выканання. У сваім дакладзе тав. Сталін падкрэсліў:

> ...«Добра пастаўленая праверка выканання—гэта той пражэктар, які дапамагае асвятляць стан работы апарата ў любы час і выводзіць на свет божы бюракратаў і канцэлярыстаў. Можна з ўпэўненасцю сказаць, што дзевяць дзесятых нашых прарэх і прарываў тлумачыцца адсутнасцю правільна пастаўленай праверкі выканання. Не можа быць сумнення, што пры наяўнасці такой праверкі выканання прарэхі і прарывы былі-б напэўна папярэджаны».

Гэта ўказанне тав. Сталіна павінна стаць стрыжнем ва ўсёй нашай рабоце па кантролю за выкананнем прынятых намі рашэнняў.

Важнейшым элементам выхавання і вырошчвання комуністаў з'яўляецца правільна арганізаваныя і падрыхтаваныя самасправаздачы комуністаў. Недаацэнка гэтай формы выхавання комуніста радам партыйных арганізацый прыводзіць часам к таму, што гэтыя справаздачы ставяцца фармальна, без усякай падрыхтоўкі і зводзяцца да прыняцця агульнага, нічога не даючага рашэння. Такая самасправаздача не толькі не дапамагае комуністу ў яго росце, але, наадварот, прыводзіць часам да дэмабілізацыі комуністаў.

Асноўная задача самасправаздачы—гэта праверка таго, як комуніст працуе над сабой, як комуніст выконвае авангардную ролю на вытворчасці. Таму самасправаздача комуніста павінна быць сур'ёзна падрыхтавана, а яе вынікам павінна быць канкрэтнае ўказанне і дапамога комуністу ў павышэнні яго палітычнага ўзроўню.

Перад самасправаздачай комуніста павінна правярацца яго работа. Да гэтай праверкі павінны быць прыцягнуты члены данай партыйнай арганізацыі, каб у працэсе праверкі дапамагчы комуністу ў яго рабоце. Самае-ж прыцягненне комуністаў да праверкі таго, як даны член партыі працуе над сабой, будзе садзейнічаць таму, што самі правяраючыя больш ўзмоцнена пачнуць працаваць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню.

Пастаноўка самасправаздачы комуніста павінна мець сваім вынікам уясненне комуністам важнасці штодзеннай работы над сабой, канкрэтная дапамога і ўказанне комуністу як узняць свой палітычны ўзровень і, нарэшце, штодзенная праверка таго, як комуніст выконвае ўказанні партыйнай арганізацыі.

Неабходна дабіцца, каб лепшы вопыт работы комуніста над сваім палітычным ростам стаў вядомы ўсёй партыйнай арганізацыі. Калі ўдарнік вытворчасці карыстаецца заслужанай пашанай і яго ведае ўсё прадпрыемства, дык такім-жа вядомым партыйнай арганізацыі чалавекам павінен стаць комуніст, які ўпарта працуе над сваім палітычным ростам. Разам з тым партыйная арганізацыя павінна падвергнуць рэзкай крытыцы комуністаў, якія не хочуць працаваць над сабой, прыкрываючыся аб'ектыўнымі прычынамі. Папулярызацыі лепшых, шырокай дапамозе і грамадскаму ўздзеянню на адстаючых павінна садзейнічаць самасправаздача комуніста.

Да гэтага часу сістэматычная работа над выхаваннем нашага партыйнага актыва не была разгорнута. Даволі ўказаць на той факт, што ў большасці РК і ГК, ў большасці пярвічных партыйных арганізацый пытаннямі прыцягнення да партыйнай работы членаў пленумаў гаркома і райкома, членаў партыйных камітэтаў амаль не займаліся. Не гледзячы на тое, што ў гэтыя органы намі выбіраецца ўсё лепшае, што ёсць у партыйнай арганізацыі, мы забылі аб тым, што іменна ў гэтай групе таварышоў трэба паставіць сур'ёзную работу, трэба забяспечыць іх актыўны ўдзел і прыцягненне да партыйнай работы, клапатліва заняцца іх палітычным выхаваннем і ростам, дабіўшыся таго, каб на практычнай партыйнай рабоце гэтыя таварышы палітычна раслі і дапамагалі-б гаркому ў разгортванні партыйнай работы.

Да гэтага часу, як правіла, члены пленума ГК і РК і значная колькасць членаў парткомаў ўдзельнічаюць у рабоце гаркомаў і райкомаў толькі прысутнічаючы на паседжаннях. Іх, як правіла, не прыцягваюць да практычнай работы гаркома, райкома, парткома. Варта толькі прыцягнуць гэтых таварышоў да практычнай работы, сістэматычна даручаць ім паасобныя заданні, арганізаваць іх вучобу, забяспечыць іх інфармацыяй аб рабоце партыйнай арганізацыі, як партыйная арганізацыя атрымае значны рэзерв моцных, праверaных таварышоў для вылучэння на кіруючую партыйную работу. Але для гэтага патрэбна, каб гаркомы, райкомы і парткомы падышлі канкрэтна да кожнага члена гаркома, райкома і паставілі з ім індывідуальную работу, дапамаглі кожнаму ў выкананні даручанага яму задання, кантралявалі яго. У гэтым сёння галоўнае, і гэтага галоўнага яшчэ не ўсе партарганізацыі зразумелі.

Рад арганізацый замест клапатлівай работы над выхаваннем комуніста ідуць па лініі найменшага супраціўлення. Гэта з асаблівай яскравасцю можна прадэманстраваць на фактах зусім няправільнай арганізацыйнай пабудовы партыйных арганізацый у радзе гарадоў і раёнаў. Жадаючы адмахнуцца ад работы з комуністамі-адзіночкамі, рад партыйных арганізацый пашлі па зусім няправільным шляху, які супярэчыць рашэнням XVII з'езда партыі, аб'яднаўшы комуністаў-адзіночак у партыйную арганізацыю. Падобныя факты былі і ў Менску, калі ўсіх комуністаў на пабудовах аб'ядналі ў партком пры Белдзяржбудзе, былі яны і ў Менбудзе, калі комуністаў-адзіночак раду лекавых устаноў аб'ядналі ў адзін партком. Тое-ж самае было і па кааперацыйных і гандлёвых арганізацыях.

З чаго выходзілі гэтыя партыйныя арганізацыі ў такой няправільнай пабудове партыйнай сеці? Адпраўным пунктам з'яўляецца тое, што, моў, цяжка працаваць гаркому, райкому з вялікай колькасцю комуністаў-адзіночак, што, моў, кіраваць комуністамі-адзіночкамі праз штучна створаныя парткомы лягчэй. У гэтым па сутнасці і сказваецца тое, што рад партыйных работнікаў не зразумелі сутнасці перабудовы партыйнай работы, не зразумелі таго, што цэнтрам перабудовы з'яўляецца работа з кожным комуністам.

Партыйныя арганізацыі павінны зараз-жа выправіць дапушчаныя пры пабудове арганізацыйныя няправільнасці, зараз-жа наладзіць работу з комуністамі-адзіночкамі. Гэты ўчастак работы для нас набывае асаблівую важнасць у сувязі з тым, што вясковая партарганізацыя складзена на 50 проц. з комуністаў-адзіночак.

Разгортванне партыйнай работы на вёсцы з'яўляецца ў значнай меры пытаннем разгортвання партыйнай работы з комуністамі-адзіночкамі. Тым часам работа з комуністамі-адзіночкамі найбольш запушчана. У лепшым выпадку работа з комуністамі-адзіночкамі абмяжоўваецца ўключэннем іх ў сецы партыйнай асветы, скліканнем ад выпадку да выпадку сходаў комуністаў-адзіночак.

Партыйныя арганізацыі да гэтага часу не зразумелі таго, што раскіданасць комуністаў-адзіночак на вялікай тэрыторыі, аддалёнасць ад раённага цэнтра, адсутнасць пярвічнай партыйнай арганізацыі, дзе комуніст штодзенна знаходзіцца пад уплывам партыйнага калектыва, патрабуе ад РК і ГК штодзеннага кіраўніцтва наладжваннем сувязі і канкрэтнай дапамогі комуністу-адзіночцы. Аднак сувязь райкома з комуністамі-адзіночкамі, як правіла, усё яшчэ выпадковая. Райком ўспамінае аб іх тады, калі комуніст правальваецца на рабоце. Тады ўстанаўляецца «сувязь»: выклікаюць на бюро і выносяць партыйнае спагнанне. Пасля аб такім комунісце забываюць ізноў да наступнага правалу.

Найбольш яркую характарыстыку дрэннага кіраўніцтва раду райкомаў работай комуністаў-адзіночак даў тав. Ціхановіч—Старшыня калгаса імя Чарвякова, Дзержынскага раёна:

«Калі пасылаюць на работу, то ў райкоме абяцаюць прыязджаць і дапамагаць у рабоце. А пашлюць, дык забудуць. Успомняць аб табе толькі тады, калі наробіш якіх-небудзь памылак. Вось тут і пачынаецца жывая сувязь. Выклічуць на бюро, пакрычаць, папругаюць, вынесуць партыйнае спагнанне і паедзеш з гэтай зарадкай. Месяцаў 5—6 ніхто да цябе і не загляне. А аб тым, каб дапамагчы комуністу-адзіночцы, не дапусціць яго да таго ці іншага партучынка—у нас гэтага не пытайся».

Падобную характарыстыку кіраўніцтва работай комуністаў-адзіночак мы хоць і не можам аднесці да ўсіх РК і ГК, аднак, гэта палажэнне характэрна не толькі для Дзержынскага РК, але і для раду гаркомаў і райкомаў.

Трэба рашуча пакончыць з падобнымі фактамі. За работу з комуністамі-адзіночкамі адказваюць у першую чаргу інструктары РК, якія абавязаны аказаць канкрэтную дапамогу комуністу-адзіночцы ў складанні плана заданняў на 5—7 дзён, навучыць комуніста як працаваць з беспартыйным актывам, выхоўваць комуніста-адзіночку, растлумачваць яму рашэнні партыі, дапамагчы ў чытанні газет, літаратуры і т. д.

Калі комуніст-адзіночка адстае, не расце, за гэта ў першую чаргу нясе адказнасць інструктар РК і ГК. Неабходна шырока ўвесці ў практыку прыцягванне комуністаў-адзіночак да работы РК і ГК, пастаноўку самасправаздачы адзіночак на бюро РК, сістэматычнае скліканне куставых партыйных сходаў адзіночак па вытворчаму прызнаку.

Райкомы і гаркомы павінны зараз-жа дабіцца рашучага пералому ў рабоце з комуністамі-адзіночкамі для паспяховага выканання гаспадарча-палітычных кампаній на вёсцы і ў прыватнасці веснавой сяўбы.

Пленум ЦК КП(б)Б з асаблівай рэзкасцю падкрэсліў, што работа са спачуваючымі ў нас пастаўлена з рук вон дрэнна. Мы не змаглі да гэтага часу ўцягнуць у актыўную грамадскую работу, заняцца сур'ёзным выхаваннем масы новага, вырасшага ў барацьбе за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства актыва. Прыём ў спачуваючыя, арганізацыя груп спачуваючых і работа з імі патрабуе карэннага палепшання.

Вырасшы актыў мае сільную цягу да ўступлення ў спачуваючыя, да актыўнага ўдзелу ў партыйна-грамадскай рабоце, мы-ж не здолелі гэтую актыўнасць поўнасцю скарыстаць, арганізавана яе накіраваць. Асноўнае патрабаванне, прад'яўляемае зараз да партыйнага кіраўніцтва,—гэта ўважлівы, сур'ёзны падыход да прыёму ў спачуваючыя. Работа гэта павінна быць пастаўлена такім чынам, каб быў забяспечан прыём сапраўды праверaных, сапраўды актыўных беспартыйных таварышоў.

З прынятымі таварышамі павінна быць пастаўлена сур'ёзная работа, забяспечан дыферэнцыяваны падыход да кожнага спачуваючага. Трэба ліквідаваць факты абязлічкі ў падыходзе да спачуваючага, калі падрыхтаванага таварыша садзяць у гурток па вывучэнню статута партыі разам з зусім непадрыхтаваным комуністам, выходзячы з фармальнага прызнака, што абодва яны спачуваючыя, і абодва павінны вывучаць статут партыі.

Для работы са спачуваючымі павінны быць вылучаны лепшыя комуністы, якія-б забяспечылі 'большэвіцкае выхаванне спачуваючага.

Пастаўленая перад усёй партыяй праблема—шчыльна заняцца пытаннямі выхавання, вырошчвання і вылучэння партыйных кадраў—набывае выключнае значэнне, паколькі за апошні рад гадоў вырас новы, правераны ў барацьбе актыў, які патрабуе з нашага боку выключнай увагі, крапатлівай работы над яго выхаваннем і далейшым прасоўваннем.

За апошнія гады партыяй вылучаны і прасунуты тысячы новых, правераных беларускіх нацыянальных кадраў, якія на практычнай рабоце ў барацьбе за бяскласавае грамадства, за ператварэнне БССР ва ўзорную рэспубліку паказалі сваю адданасць справе партыі, справе рабочага класа.

Аднак мы не можам супакойвацца на дасягнутых рэзультатах. Партыйныя арганізацыі павінны сур'ёзна заняцца выхаваннем вырасшага актыва з беларусаў, смялей высоўваць правераных на рабоце таварышоў, аказваць ім усямерную дапамогу.

Тым часам гэтым важнейшым праблемам рад партыйных арганізацый удзяляе зусім недастаткова ўвагі. Трэба з усёй рашучасцю падкрэсліць, што пры наяўнасці дасягненняў па вырошчванню, выхоўванню, вылучэнню і прасоўванню беларускіх нацыянальных кад-

раў у такіх буйнейшых цэнтрах як Менск, Гомель, Віцебск, Магілёў і інш., тут яшчэ не ўсё зроблена.

На прадпрыемствах, ў калгасах мы маем правераныя вырасшыя кадры, выхаваннем і вырошчваннем якіх мы павінны заняцца больш сістэматычна, узмоцнена, чым да гэтага часу.

Створаныя ў буйнейшых гарадскіх партарганізацыях аддзелы партыйных кадраў прызваны паказаць ўзоры большэвіцкай работы па разгортванню і палепшанню партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, па вырошчванню, выхаванню і вылучэнню партыйных кадраў.

У Менску і Гомелі гэтыя аддзелы ўжо практычна приступілі да работы, і няма сумнення ў тым, што яны з ўскладзенымі задачамі справяцца паспяхова, што гэтыя цэнтры ператворацца ў кузню большэвіцкіх кадраў, у важнейшую крыніцу падрыхтоўкі партыйных кадраў для БССР.

Паспяховае выкананне пастаўленых пленумамі ЦК КП(б)Б і ленінградскага гаркома буйнейшых задач будзе залежаць ад таго, як партыйныя арганізацыі возьмуцца за іх ажыццяўленне, як змогуць мабілізаваць партыйныя масы вакол гэтых задач, як забяспечаць большэвіцкі размах у партыйнай рабоце.

Няма сумнення ў тым, што КП(б)Б, дабіўшыся велізарнейшых поспехаў у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, дабіўшыся таго, што БССР вышла ў рады перадавых рэспублік і атрымала вышэйшую ўзнагароду—ордэн Леніна,—забяспечыць рашучы паварот і карэнпае палепшанне партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

---

**І. Лейзер**
Сакратар парткалегіі
КПК Беларусі

# Парткалегія ў барацьбе за чыстату партыйных радоў, за здаровы стан партарганізацыі

XVII партыйны з'езд, падводзячы вынікі дасягнутым поспехам і намячаючы далейшыя задачы пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, вынес рашэнне і аб арганізацыйнай перабудове ўсіх звенняў партыйных і совецкіх арганізацый, у тым ліку і аб перабудове органаў кантроля—РСІ, якая адыграла сваю станоўчую ролю і ўжо не магла забяспечыць выканання задач, паўстаўшых перад органамі кантроля ў новых умовах работы.

Рашэннем XVII партз'езда была створана пры ЦК ВКП(б) Камісія партыйнага кантроля са сталымі прадстаўнікамі пры крайкомах, абкомах і ЦК нацкомпартый.

На Камісію партыйнага кантроля рашэннем з'езда ўскладзена задача:

> «...узмацнення кантроля над выкананнем рашэнняў партыі і ЦК ВКП(б), узмацнення партыйнай дысцыпліны і барацьбы з парушэннямі партыйнай этыкі» *).

Камісія партыйнага кантроля заклікана дапамагаць Цэнтральнаму Камітэту ленінскай комуністычнай партыі ў ажыццяўленні тых велізарных задач, якія высунуты з'ездам перад усёй партыяй, перад усім рабочым класам і працоўнымі нашай краіны, у ажыццяўленні плана другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Побач з гэтым, Камісія партыйнага кантроля заклікана весці штодзенную работу па ачыстцы радоў нашай партыі ад усіх прымазаўшыхся, разлажыўшыхся, перарадзіўшыхся, класава-чуждых і двурушніцкіх элементаў, змагацца за ўмацаванне партыйнай дысцыпліны і адзінства радоў нашай партыі.

Функцыі раённых парткалегій перашлі пасля XVII з'езда партыі да раённых і гарадскіх партыйных камітэтаў.

> «Пытанні, звязаныя з парушэннем партыйнай дысцыпліны і партыйнай этыкі членамі партыі, разглядаюцца непасрэдна... у адпаведнай партыйнай арганізацыі, або ў гаркоме ці райкоме партыі» **).

*) З рэзалюцыі XVII партз'езда па дакладу тав. Кагановіча.
**) З палажэння аб Камісіі партыйнага кантроля.

У сувязі з гэтым, у спецыяльным рашэнні ЦК ВКП(б) ад 12 кастрычніка 1934 года сказана:

«У райкомах партыі справы аб налажэнні партыйных спагнанняў на членаў партыі, паступаючыя ад пярвічных партыйных арганізацый, перадаюцца для папярэдняга разгляду інструктарам райкомаў, прымацаваным да адпаведных груп пярвічных партарганізацый, або членам раённага камітэта партыі (абавязкова з выклікам падвяргаемага спагнанню) і пасля гэтага выносяцца на зацверджанне бюро РК партыі».

* * *

Разбіраючы апеляцыі на рашэнні райкомаў і гаркомаў, Парткалегія рознымі метадамі аказвае партыйнае ўздзеянне на комуністаў, якія зрабілі паасобныя партучынкі, або памылкі ў сваёй рабоце ці паводзінах.

Парткалегія ўжывае ў сваёй штодзенай рабоце меры выхаваўчага характару, якія садзейнічаюць выпраўленню памылак і ўчынкаў, дапушчаных паасобнымі комуністамі.

Побач з тым, што парткалегія выключае чуждых і непапраўных членаў партыі, яна за 10 месяцаў з 894 апеляцый на рашэнні гаркомаў і райкомаў адмяніла 500 або 62,7 проц. З іх, як неабгрунтаваныя рашэнні, адменены поўнасцю 180 або 20,1 проц.

Гэтыя лічбы сведчаць аб тым, што не ўсе райкомы ўважліва разбіраюць справы, што часта не расследуюць іх па сутнасці.

Не ўсе раённыя партыйныя камітэты ўдзяляюць дастаткова ўвагі правільнай пастаноўцы разбору спраў, падыходзяць часам паверхоўна, недастаткова глыбока правяраюць сутнасць справы. У рэзультаце вельмі часта высунутыя абвінавачанні ніякімі матар'яламі не пацвярджаюцца, і апеляцыі комуністаў на рашэнні райкомаў і гаркомаў парткалегія ва многіх выпадках вымушана адмяніць.

Возьмем некалькі фактаў.

Дырэктар аднаго з соўгасаў Дзержынскага раёна, член партыі з 1927 года, быў выключан з партыі райкомам за зрыў падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, за заціск самакрытыкі, грубае адміністраванне і п'янку. На паверку аказалася, што сяўба ранніх закончана поўнасцю, а астатнія абвінавачанні нічым не абгрунтаваны.

Таксама конюх аднаго з соўгасаў Парыцкага раёна—рабочы, кандыдат партыі—быў выключан райкомам з кандыдатаў партыі за самавольны ўход з работы і сімуляцыю. На праверку аказалася, што гэты таварыш сур'ёзна хварэў і доўгі час знаходзіўся ў бальніцы. Такім чынам райком завочна выключыў яго з кандыдатаў партыі.

Або яшчэ прыклад таго, як некаторыя нізавыя партыйныя арганізацыі часам неабгрунтавана падыходзяць да пытання аб выключэнні з партыі. Дырэктар аднаго з соўгасаў выехаў на свята ў гор. Гомель. Партыйная арганізацыя абвінавацілa яго за паездку на свята ў страце класавай пільнасці і выключыла з партыі.

Каб паказаць, што некаторыя раённыя камітэты не толькі часта не правяраюць і не вывучаюць па сутнасці справу прыцягнутага да адказнасці таварыша, а часта абыякава, бяздушна і лёгка падыходзяць да пытанняў партспагнанняў, возьмем наступныя лічбы:

Сенненскі раён. Са 149 комуністаў прыцягнута да адказнасці 64 або 43 проц. усёй партыйнай арганізацыі. І гэта на працягу аднаго 1934 года. Пры чым на гэтых 64 комуністаў наложана ў агульнай

колькасці 103 партспагнанні, так што некаторыя комуністы раёна за мінулы год атрымалі ад 2 да 6 партспагнанняў.

Ёсць выпадкі, калі вымовы выносяцца амаль што кожны месяц. Старшыня аднаго з сельсоветаў Сенненскага раёна, член партыі з 1931 года, атрымаў на працягу года 5 спагнанняў, якія па месяцах размяркоўваюцца наступным чынам: 21/III суровая вымова за зрыў плана мясапаставак; 25/III—вымова з папярэджаннем за сабатаж у закупцы бульбы; 18/IV—вымова за ігнараванне якасці сяўбы; 8/VI—вымова за апартунізм і 26/V—вымова за зрыў ільназагатовак. Такім чынам гэты таварыш на працягу пяці дзён атрымаў два спагнанні, а наступныя тры спагнанні атрымліваў акуратна кожны месяц.

Другі старшыня сельсовета, член партыі з 1931 года, атрымаў на працягу года шэсць спагнанняў, з іх два на працягу дзесяці дзён.

Віцебскі раён. Старшыня сельсовета, член партыі з 1932 года, рабочы, атрымаў 10/II-34 г. два спагнанні на адным паседжанні: адну суровую вымову з папярэджаннем за зрыў мясапаставак і другую суровую вымову за зрыў лесазагатовак.

Ёсць раёны, дзе выключана ад 11 да 14,8 проц. членаў і кандыдатаў партыі ў адносінах да ўсёй партарганізацыі раёна.

Расонскі раён. Выключана 14,8 проц. да агульнага ліку членаў і кандыдатаў партыі, з якіх 17,1% членаў партыі да агульнага ліку членаў партыі і 10,2% кандыдатаў да агульнага ліку кандыдатаў партыі.

Плешчаніцкі раён. Выключана 13,3 проц. з іх 32,1 проц. кандыдатаў да агульнага ліку кандыдатаў партыі.

Паданыя факты і лічбы красамоўна гавораць аб тым, што кіраўнікі раду раёнаў часта лічаць за лепшае прымяняць адміністрацыйныя меры партыйнага ўздзеяння, замест мер папераджальна-выхаваўчага характару і не прыступілі яшчэ шчыльна да рэалізацыі ўказанняў правадыра нашай партыі тав. Сталіна аб узмацненні ідэалагічнай работы ва ўсіх звеннях партыі.

Рад кіруючых партыйных работнікаў не ўлічыў таго, што масавае прымяненне вымоў траціць, як мера ўздзеяння, сваё значэнне.

Партыйныя арганізацыі на месцах недастаткова займаюцца партыйна-выхаваўчай работай, асабліва выхаваннем маладых членаў і кандыдатаў партыі, недастаткова правяраюць работу партыйцаў, своечасова не ўказваюць ім на паасобныя памылкі, не папраўляюць іх, не дапамагаюць у рабоце, не вучаць як трэба выконваць тую ці іншую дырэктыву або рашэнне партыі. Рад партарганізацый недастаткова глыбока правяраюць абвінавачванні, якія прад'яўляюцца к паасобным партыйцам, механічна падыходзяць да пытання аб налажэнні спагнанняў або выключэння з партыі.

Раённыя кіраўнікі павінны больш уважліва вывучаць сваю партыйную арганізацыю, усебакова ведаць кожнага комуніста, асабліва работнікаў сельсоветаў, калгасаў, ведаць усе недахопы і поспехі іх штодзеннай практычнай работы і, выходзячы з гэтага, прывучаць кожнага комуніста да бальшэвіцкай партыйнай дысцыплінаванасці і высокай класавай пільнасці, своечасова ўказваючы яму на недахопы і дапамагаючы ў рабоце.

* * *

К пачатку работы парткалегіі па Беларусі прынята было 97. спраў. Разам з імі парткалегія разабрала за 10 месяцаў усяго 1634 справы, з іх 894 з'яўляюцца апеляцыямі на рашэнні райкомаў і гаркомаў.

Найбольшая колькасць разбіраўшыхся парткалегіяй учынкаў членаў партыі падае на парушэнне дысцыпліны і невыкананне дырэктыў партыі і ўрада—229 або 25,6 проц. да ўсіх апеляцый; на п'янку, парушэнне комуністычнай этыкі і іншыя недастойныя члена партыі ўчынкі—99 або 11,1 проц.

Гэтыя лічбы сведчаць аб тым, што адна з хваравітых з'яў у радзе партыйных арганізацый Беларусі—недысцыплінаванасць членаў партыі—звязана галоўным чынам з дэзэртырствам з раёнаў і адмаўленнем ехаць на работу ў вёску. Выпадкі парушэння комуністычнай этыкі, п'янка і іншыя недастойныя члена партыі ўчынкі паказваюць яшчэ раз, што райкомы і гаркомы не ўзнялі на патрэбную вышыню меры папераджальна-выхаваўчага характару, што райкомы не займаюцца распрацоўкаю даных аб партспагнаннях, не вывучаюць на іх падставе хваравітыя з'явы і не прымаюць практычных мер барацьбы з імі.

Прыводзім лічбы, з якіх відаць, хто з членаў партыі паводле партстажа больш за ўсё прыцягваецца да партспагнанняў:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| З X 1917 г. па 1920 г. | апеляв. | 49, | аднаўлена | 34 — 69,4 | проц. |
| З 1921 „ „ 1924 | „ | 20, | „ | 16 — 80.0 | „ |
| З 1925 „ „ 1929 | „ | 265, | „ | 183 — 69,1 | „ |
| З 1930 „ „ 1932 | „ | 294, | „ | 194 — 62,3 | „ |
| Кандыдатаў . . . . . | „ | 165, | „ | 83 — 50,3 | „ |

Такім чынам выключэнню падвергнуты ў большасці маладыя члены партыі і кандыдаты, са стажам з 1930—1932 г. Абедзве гэтыя групы складаюць 459 чалавек, адкуль відаць, што раённыя камітэты вядуць недастатковую партыйна-масавую, выхаваўчую работу. Некалі мы ўсе былі маладымі членамі партыі, партыя вучыла нас, выхоўвала ў духу большэвіцкай жалезнай дысцыпліны. Партыйныя арганізацыі на месцах маюць поўную магчымасць і абавязаны прывучыць да партыйнай дысцыпліны і гэтых людзей.

У радзе райкомаў і гаркомаў партыі партыйна-масавая, палітыка-выхаваўчая работа не займае яшчэ цэнтральнае месца. Замест аперацыйнага, канкрэтнага кіраўніцтва работай паасобных членаў партыі і нізавых партарганізацый, часта наглядаецца адміністраванне. Выключылі, далі вымову і хваляцца: «Мы нядрэнна працуем. Бачыце, колькі ў нас выключана, колькі далі вымоў». А самае галоўнае—унутрыпартыйная работа, работа па выхаванню маладых членаў і кандыдатаў партыі—часта ўпускаецца з-пад увагі.

* *
*

Парткалегіяй выяўлены выпадкі грубейшага скажэння дырэктыў і рашэнняў партыі, страты класавай пільнасці, сямейнасць і адрыў ад мас.

Сярод кіруючых работнікаў Ельскага раёна мелі месца выпадкі страты класавай пільнасці, поўнага адрыву ад мас, разлажэння і сямейнасці, абураючыя **факты грубейшага парушэння** рэволюцыйнай законнасці, голага адміністравання, расстраты і інш., на што раённыя арганізацыі не рэагавалі або проста замазвалі справу.

У выніку страты класавай пільнасці кіруючымі работнікамі раёна класавы вораг і яго агентура—кулацкі і крымінальны элемент—пралезлі ў сельсоветы, калгасы, совецкі апарат і «ціхаю сапай» тварылі сваю гнусную падрыўную работу.

Кулак Юзефовіч пралез на пасаду сакратара Скараднянскага сель-

совета. Пры садзейнасці і з удзелам старшыні сельсовета Брэля ён падрабляў дакументы і растраціў больш чатырох тысяч рублёў дзяржаўных сродкаў. Юзефовіч прыцягнут да судовай адказнасці, а яго апякун і саўдзельнік—старшыня сельсовета Брэль—застаўся без пакарання. Гэты-ж Брэль на пасаду сакратара Скараднянскага сельсовета высунуў жуліка Геймаха—актыўнага ўдзельніка растраты.

У Леспрамгас пралезлі: бухгалтарам былы дваранін баптыст; лесаводамі—сын арганізатара банды і сын царскага чыноўніка. Гэтыя растратчыкі і шкоднікі адводзілі малады лес пад вырубку.

У калгасе «Х з'езд советаў» доўгі час беспакарана арудвала група кулакоў, якая імкнулася разваліць работу калгаса. Падобныя факты былі і ў радзе іншых калгасаў і на іншых участках работы ў раёне.

Замест большэвіцкай барацьбы за ліквідацыю ўсіх гэтых недахопаў, выкрыцця і бязлітаснай барацьбы з кулацкімі, шкодніцкімі элементамі, з растратчыкамі, за лепшае выкананне важнейшых гаспадарча-палітычных задач і аздараўленне работы, сярод паасобных кіруючых работнікаў раёна і некаторай часткі нізавога партыйнага і советскага актыва квітнелі п'янка, дэбошы і элементы разлажэння.

Усё гэта магло мець месца толькі ў выніку страты класавай пільнасці, заціску самакрытыкі, голага адміністравання.

Райком партыі і райвыканком не кіравалі нізавымі партыйнымі арганізацыямі і сельсоветамі. Інструктары райкомаў не вялі сістэматычную работу з комуністамі-адзіночкамі, спачуваючымі, партыйным актывам. На бюро райкома не заслухоўваліся справаздачы парторгаў, комуністаў-адзіночак. Інструктары райкома выкарыстоўваліся найчасцей у якасці ўпаўнаважаных РК і РВК па розных кампаніях у сельсоветах. Як райком, так і яго бюро не давалі інструктарам ніякай дапамогі і ўказанняў. Жывое кіраўніцтва нізавымі партарганізацыямі, сельсоветамі і калгасамі ў большасці выпадкаў зводзілася да групавога гастралёрства двух-трох членаў бюро райкома і прэзідыума райвыканкома. Гэтыя прадстаўнікі раёна, заглядаючы ў сельсоветы і калгасы на пяць-дзесяць мінут, груба дапытвалі старшынь: чаму не выкананы тыя ці іншыя заданні, хто даў права не выконваць? і т. д. Такія допыты падмацоўваліся пагрозамі аб панясенні адказнасці.

Пры такім кіраўніцтве і стане партыйнай арганізацыі зусім натуральна, што Ельскі раён як летась, так і ў пачатку гэтага года знаходзіўся ў глыбокім прарыве па выкананню важнейшых гаспадарча-палітычных задач (мясазагатовак, малакопаставак, зернапаставак, закупкі хлеба, загатоўкі сена, саломы, лесавывазкі і т. д.).

Раённае кіраўніцтва не зрабіла для сябе ніякіх палітычных вывадаў і з факта зладзейскага забойства падонкамі контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай групы аднаго з лепшых большэвікоў—тав. Кірава, не мабілізавала партыйныя арганізацыі раёна на павышэнне палітычнай пільнасці, на барацьбу з прапагандай і працягваннем на культурным фронце контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага і нацдэмаўскага хламу.

Райком падышоў гніла-ліберальна да вырашэння справы двурушніка Вайсмана, які скрыў ад партарганізацыі сваю прыналежнасць у мінулым да контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі і актыўную барацьбу супроць партыі. Замест пастаноўкі пытання аб партыйнасці Вайсмана, райком абмежаваўся тым, што зняў яго з работы і з уліку ў партарганізацыі.

Усё гэта было выяўлена парткалегіяй, якая разам з ЦК КП(б)Б прыняла адпаведныя меры для аздараўлення Ельскай партарганізацыі.

Ельская справа павінна паслужыць урокам для ўсіх партарганізацый КП(б)Б, бо яна наглядна паказвае нам, што класава-варожы элемент знаходзіць удзячную глебу для сваёй падрыўной работы іменна там, дзе аслабла класавая пільнасць, дзе няма большэвіцкай работы па выхаванню партыйнай арганізацыі, барацьбы з класава-варожымі элементамі і іх агентурай.

* * *

Вялікае месца ў рабоце парткалегіі займаў разбор спраў, звязаных з антыпартыйнымі выступленнямі, працягваннем контррэволюцыйнай, зіноўеўска-трацкісцкай прапаганды, асабліва ў выпускаемай літаратуры, у навучальных установах і навуковых інстытутах, якія ўзбройваюць членаў партыі і моладзь марксісцка-ленінска-сталінскім вучэннем. Асабліва значнае месца занялі справы па выяўленню зіноўеўцаў і трацкістаў, якія яшчэ ўкрываюцца ў партыі.

Пры прапрацоўцы ліста ЦК нашай партыі ў сувязі з падзеямі, звязанымі з забойствам вырадкамі трацкісцка-зіноўеўскай банды аднаго з лепшых большэвікоў—тав. Кірава, выявілася, што ў партыйнай арганізацыі Беларусі частка антыпартыйных элементаў, прыкрываючыся двурушніцкімі заявамі і клятвамі ў вернасці партыі, здолела пранікнуць у нашы рады, каб весці разлагацельную работу.

Усе справы аб трацкістах, якія разглядае цяпер парткалегія, сведчаць аб тым, што ў радзе партыйных арганізацый прытаіліся контррэволюцыянеры трацкісты (Галендо, Фліор, Увадзьеў, Сапір, Разумоўскі, Руды, Матвеенко і т. д.).

Галендо—адзін з тых людзей, якія з 1921 года знаходзіліся ва ўсіх апазіцыях; Фліор—адзін з правадыроў зіноўеўскай апазіцыі—на XIV партз'ездзе падпісаў заяву «46» з патрабаваннем судаклада па справаздачы ЦК.

Неабходна асабліва спыніцца на завастрэнні рэволюцыйнай пільнасці ў нашай арганізацыі, улічваючы, што важнейшым сродкам для гэтага з'яўляецца веданне і разуменне гісторыі нашай партыі. Неабходна ведаць, хто і як дапамагае комуністам вывучаць і разумець гісторыю нашай партыі. Для гэтага патрэбны адпаведныя правераныя кадры.

З чым сустрэлася парткалегія пры разборы спраў выкладчыкаўлектароў, якім даручана выхаванне нашых кадраў?

Возьмем, к прыкладу, Рудага, які працаваў выкладчыкам у БІМЗО, Комвузе і ВПІ па гісторыі партыі і ленінізму. На групавых занятках у ВКСГШБ Руды даваў такія ўстаноўкі, што Окцябрская рэволюцыя вырашыла нацыянальнае пытанне толькі дэкларацыйна, што ў перыяд грамадзянскай вайны партыя расла за кошт чужых, кар'ерысцкіх элементаў. Праводзячы заняткі на заводзе «Большэвік», Руды заяўляў, што толькі са з'яўленнем трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі большэвікі па сутнасці пачалі вывучаць гісторыю партыі, а да гэтага часу вывучалі ўсякую бяссэнсіцу. Разглядаючы пытанне аб саюзе рабочага класа з працоўным сялянствам, Руды ўказваў, што сялянства карысна пабіць.

У сваіх рэцэнзіях завочнікам БІМЗО Руды абыходзіць барацьбу Зіноўева супроць партыі па пытанню дыктатуры пролетарыята і ў перыяд люты—кастрычнік. Руды прапагандаваў зіноўеўскія погляды нейтралізацыі сялянства, абыходзячы моўчкі ленінскі лозунг аб саюзе

пролетарыята з серадняцкім сялянствам. У тых-жа рэцэнзіях ён праводзіць ідэалізацыю люксембургіянства, утойваючы памылковыя погляды Розы Люксембург па пытанню імперыялістычнай вайны, характарызуючы яе ў гэты перыяд як паслядоўную рэволюцыянерку.

Хто-ж такі Руды? Член ВКП(б) з 1918 года, скончыў ленінградскі комвуз. У перыяд трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі прымаў у ёй актыўны ўдзел. У лістападзе 1926 года адкамандыроўваецца ў Вятку, дзе працуе на рабфаку, не парываючы сувязі з лідэрамі апазіцыі— Зіноўевым, Каменевым, Бакаевым і інш. У 1927 годзе падпісаў заяву «83» і платформу «13». У снежні 1927 года пастановай Вяцкай губКК быў выключан з партыі разам з іншымі апазіцыянерамі.

Другі прыклад,—Матвеёнак, інструктар-выкладчык Бімзо. Ва ўступнай лекцыі па дыямату, якую ён правёў у Барысаве для завочнікаў-прадметнікаў, даюцца наступныя ўстаноўкі:

1) Барацьбу з філасофскімі памылкамі Дэборына і Бухарына партыя пачала тады, калі іх філасофскія погляды пачалі праводзіцца на практыцы;

2) Ударнік мае лепшую кроў, чым няўдарнік. У крыві ўдарніка большая колькасць адрэаліна.

3) У сваёй рэцэнзіі завочніку тав. Вольфу ён дае контррэволюцыйную, трацкісцка-зіноўеўскую ўстаноўку па пытанню перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, нібы перарастанне магчыма толькі пасля завяршэння задач буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі (нацыяналізацыі зямлі і т. д.).

Аб чым гавораць паданыя прыклады? Аб тым, што падбор выкладчыкаў і прапагандыстаў як след не правяраецца, што трацкісты-зіноўеўцы, карыстаючыся прытупленнем пільнасці некаторых партыйных арганізацый, пралазяць у нашы навучальныя ўстановы, каб працягваць туды ўсякі зіноўеўска-трацкісцкі хлам.

Нельга забываць слоў тав. Сталіна:

> «Трацкізм ёсць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.
>
> Вось чаму лібералізм у адносінах трацкізма, хоць-бы і разбітага і замаскаванага, ёсць галавацяпства, якое мяжуе са злачынствам, здрадай рабочаму класу.
>
> Вось чаму спробы некаторых «літаратараў» і «гісторыкаў» працягнуць кантрабандай у нашу літаратуру замаскаваны трацкісцкі хлам павінны сустракаць з боку большэвікоў рашучы адпор» *).

Адным з асноўным прынцыпаў работы парткалегіі ў сучасны момант з'яўляецца выключная пільнасць пры разглядзе спраў аб былых трацкістах-зіноўеўцах, нацдэмах. У сваёй штодзеннай рабоце парткалегія вядзе бязлітасную барацьбу за чыстату радоў нашай партыі, выкрываючы яе ворагаў, асабліва ўсякага роду ўхілістаў, хістаючыхся, якія, каб скрыць свой сапраўдны твар, на словах абараняюць генеральную лінію партыі, а на справе вядуць антыпартыйную работу. Асабліва нельга гэтага забываць адносна тых, хто даўней удзельнічаў у розных апазіцыях і антыпартыйных групоўках. Да такіх людзей, якія ў якой-небудзь меры не згодны з лініяй партыі, павінна праяўляцца асабліва моцная пільнасць, іх трэба выкрываць і бязлітасна выганяць з партыі. На вопыце мінулых год мы бачылі, куды вядзе апа-

*) Сталін. Пытанні ленінізма, стар. 476.

зіцыя і яе барацьба супроць партыі. Трацкісцка-зіноўеўскі блок прывёў да забойства аднаго з лепшых кіраўнікоў партыі—тав. Кірава. Трацкісцка-зіноўеўская апазіцыя, з'яўляючыся агентурай класавага ворага ў радах партыі, перашла да прамой ідэйнай і матар'яльнай сувязі з інтэрвенцыяй, стала на белабандыцка-фашысцкі шлях барацьбы з партыяй.

* * *

Наша партыя як ніколі раней маналітна. Спроба контррэвалюцыйных белабандыцкіх падонкаў былой трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі выклікаць дэзарганізаванасць нашых радоў здрадніцкім забойствам з-за вугла аднаго з лепшых большэвікоў і бліжэйшага саратніка тав. Сталіна—Сергея Міронавіча Кірава—пацярпела поўнае паражэнне. Уся партыя, увесь рабочы клас, калгаснікі, усе працоўныя нашай краіны адказалі на здрадніцкі стрэл яшчэ большай згуртаванасцю вакол ленінскага ЦК ВКП(б), вакол правадыра нашай партыі і ўсіх працоўных—тав. Сталіна. Аўтарытэт нашай партыі сярод працоўных мас неймаверна вялікі і з кожным днём усё больш мацнее, бо шырокія масы працоўных нашай краіны навочна пераканаліся ў тым, што толькі комуністычная партыя з'яўляецца той адзінай партыяй, якая вядзе ўсіх працоўных да светлай будучыні.

У выніку паспяховага выканання плана першай пяцігодкі і двух год другой Расія нэпаўская ператварылася ў Расію соцыялістычную.

Усё гэта дасягнута ў бязлітаснай барацьбе з рэшткамі разгромленых капіталістычных класаў і іх агентуры, у бязлітаснай барацьбе з падонкамі контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, з правымі ўхілістамі і контррэволюцыйным нацыяналізмам усіх масцей і адценняў.

Аднак ні на мінуту нельга забываць, што чым буйней нашы поспехі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, тым люцей, адчайней робіцца супраціўленне класавых ворагаў і іх агентуры. Яны не пагарджаюць ніякімі сродкамі, каб затармазіць пераможны ход соцыялістычнага будаўніцтва. Разбітыя ў адкрытай барацьбе супроць партыі і совецкай улады, маскуючыся і двурушнічаючы, яны стараюцца пралезці на прадпрыемствы, у калгасы, у соўгасы, совецкія і навучальныя ўстановы, у комсамол і нават у рады партыі. Гэта ім удаецца на тых участках, дзе найбольш прытуплена класавая пільнасць, дзе слабей пастаўлена партыйна-выхаваўчая работа.

Для таго, каб падняць усю партыйную работу на больш высокі ўзровень, павысіць класава-рэволюцыйную пільнасць усіх членаў і кандыдатаў партыі, мабілізаваць усе партыйныя арганізацыі і кожнага комуніста на ажыццяўленне гістарычных пастаноў XVII партз'езда, наследуючых пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, райкомы і гаркомы партыі павінны разгарнуць партыйна-арганізацыйную і ідэйна-палітычную работу, забяспечыць сур'ёзнае палепшанне марксісцка-ленінска-сталінскага выхавання членаў і кандыдатаў партыі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на вывучэнне гісторыі партыі.

Партыйна-выхаваўчая работа павінна стаць у цэнтры ўвагі райкомаў і гаркомаў партыі. Без штодзеннай выхаваўчай работы, без глыбокага і ўсебаковага вывучэння гісторыі партыі нельга аўладаць ленінска-сталінскай тэорыяй, нельга падняць палітычную пільнасць, навучыцца своечасова па-большэвіцку выкрываць класавых ворагаў і іх агентуру, якія замаскавана, «ціхаю сапай» імкнуцца праводзіць сваю контррэволюцыйную работу.

Партарганізацыі павінны паставіць перад сабой задачу: не павінна

быць ніводнага члена і кандыдата партыі, які-б не вывучыў і не ведаў гісторыі нашай партыі. Кожны партыйны работнік, прапагандыст, кожны кіраўнік партыйнага, савецкага, гаспадарчага і ўсіх іншых участкаў нашага сацыялістычнага будаўніцтва павінен ведаць гісторыю партыі.

Выкладанне гісторыі партыі павінна быць пастаўлена на адпаведную вышыню. Неабходна вывучыць усе антыпартыйныя групоўкі ў гісторыі нашай партыі, іх метады, тактыку і спосабы барацьбы супроць партыі, звярнуўшы выключную ўвагу на вывучэнне тактыкі, прыёмаў і метадаў, якія прымяняла наша партыя ў барацьбе з усімі антыпартыйнымі групоўкамі і якія далі магчымасць нашай партыі выкрыць і разбіць іх на-галаву.

Трэба вывучыць і ведаць не толькі тое, як партыя выкрывала і перамагала контррэвалюцыйную сутнасць эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і тое, як партыя выкрывала і перамагала контррэвалюцыйную сутнасць трацкістаў, правых ухілістаў, права-лявацкага блока, контррэвалюцыйных нацыяналістаў усіх масцей і адценняў і рэштак трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, якія зрабілі двурушніцтва сваёй запаведдзю для сувязі з партыяй і скаціліся на шлях контррэвалюцыйных фашысцка-белабандыцкіх метадаў барацьбы супроць партыі і савецкай улады.

Рашаючае значэнне для правільнай пастаноўкі вывучэння гісторыі нашай партыі мае якасны падбор прапагандыстаў, выкладчыкаў і кіраўнікоў партыйных школ і гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі. Гэтай справе райкомы і гаркомы партыі павінны ўдзяліць самую сур'ёзную ўвагу. Адначасова яны павінны наладзіць праверку таго, як ідзе справа вывучэння гісторыі партыі і забяспечыць высокую партыйную вытрыманасць яе выкладання.

Побач з партыйна-выхаваўчай работай, важнейшая задача райкомаў і гаркомаў партыі—гэта карэннае палепшанне справы вырошчвання, вылучэння і размеркавання партыйных кадраў, правільная пастаноўка ўнутрыпартыйнай работы і праверка выканання рашэнняў партыі. Гэтай справай павінны займацца не другарадныя работнікі, як гэта часта практыкуецца ў паасобных партарганізацыях, а асноўныя кіруючыя работнікі райкомаў і гаркомаў партыі.

Неабходна рашуча пакончыць з такім падыходам да падбору і прызначэння работнікаў на тую ці іншую адказную партыйную або савецкую, гаспадарчую, прафесіянальную работу, калі выкарыстоўваюцца толькі фармальныя анкетныя даныя, без папярэдняга асабістага азнаямлення з работнікамі, без сур'ёзнай усебаковай праверкі іх на жывой справе, на практычнай рабоце.

На падбор, вылучэнне і вырошчванне кадраў райкомы і гаркомы партыі павінны звярнуць самую сур'ёзную ўвагу.

Мабілізацыя ўсёй бальшэвіцкай волі і энергіі на ўмацаванне партыйнай дысцыпліны, павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню кожнага камуніста, сур'ёзнае і ўважлівае вывучэнне гісторыі нашай партыі, тактыкі і метадаў яе барацьбы з усімі антыпартыйнымі групамі, вывучэнне ўсіх этапаў барацьбы нашай партыі, якая забяспечыла перамогу сацыялізма ў нашай краіне—важнейшы сродак павышэння рэвалюцыйна-класавай пільнасці і баяздольнасці членаў партыі.

П. Пасюкевіч

# Партгабінет—важнейшае звяно ў арганізацыі партыйнай вучобы

Апошні пленум ЦК КП(б)Б завастрыў асаблівую ўвагу на задачах арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы сярод членаў партыі. Пленум адзначыў, што для таго, каб падняць усю партыйную работу на больш высокі ўзровень, павысіць рэволюцыйную пільнасць і боездольнасць усіх членаў партыі, ліквідаваць элементы самасупакоенасці і дабрадушша ў паасобных звеннях партарганізацыі,—пярвічныя партыйныя арганізацыі, гаркомы і райкомы павінны забяспечыць сур'ёзнае палепшанне марксісцка-ленінскага выхавання комуністаў, асабліва вывучэння гісторыі партыі.

Пытанню правільнай арганізацыі партыйнай вучобы, падбору адпаведных і падрыхтаваных кадраў прапагандыстаў, методыкі і пастаноўкі партыйнай асветы надаецца цяпер выключная ўвага.

Ленінградскі пленум гаркома ВКП(б) у сваёй пастанове ад 29/III-35 г. зусім правільна адзначыў:

> «У рабоце культпропаў набылі пэўнае пашырэнне шкодныя для справы партыйнай асветы тэндэнцыі адрыву прапаганды ленінізма ад баявых палітычных задач, у прапагандысцкай рабоце моцны неўласцівыя большэвізму акадэмічныя і схаластычныя навыкі. У метадах прапагандысцкай работы празмерна вялікае значэнне набылі чыста вучэбна-школьныя метады работы, а гуртковыя метады работы і сугутаркі пасля лекцый аказаліся адцесненымі на другі план. Партыйныя камітэты абмяжоўваліся найбольш фармальнай праверкай колькаснага ахопу комуністаў сеткай партыйнай асветы, наглядам за наведваннем і тэхнічным бокам справы, не правяраючы ідэйнага зместу работы прапагандысцкіх кадраў, якія самі адчуваюць патрэбу ў вялікай рабоце па перавыхаванню і навучанню».

Пастановы партыі з усёй суровасцю патрабуюць, каб усе партарганізацыі павярнуліся тварам да партыйна-выхаваўчай работы наогул і ў прыватнасці да партыйнай вучобы, праверкі арганізацыйнай пабудовы і ўкамплектавання кожнай школы, гуртка, праверкі кіраўнікоў-прапагандыстаў, ліквідацыі акадэмізма і школярства ў сістэме партыйнай асветы. Асаблівая ўвага канцэнтруецца на вывучэнні гісторыі партыі ўсімі комуністамі.

Аднак многія нізавыя партарганізацыі ўсё яшчэ не паставілі належным чынам кіраўніцтва марксісцка-ленінскім выхаваннем. Не наладжана і не забяспечана поўнасцю дапамога комуністам у выву-

чэнні гісторыі партыі, асабліва ў вывучэнні пасляокцябрскага перыяда барацьбы нашай партыі з антыленінскімі групоўкамі.

«Тым самым аказаўся пакінутым без вывучэння важнейшы перыяд барацьбы партыі, што не магло не прывесці да аслаблення ідэйнай узброенасці членаў партыйнай арганізацыі, не магло не затрудніць выкрыцця ворагаў партыі» (з пастановы пленума ленінградскага гаркома ВКП(б).

Гэта здарылася таму, што рад партыйных арганізацый не ўлічылі ўсёй важнасці задач партыйнай асветы, падкрэсленых яшчэ на XVII з'ездзе нашай партыі тав. Сталіным:

«1. Падняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;
2. Узмацніць ідэйную работу ва ўсіх звеннях партыі;
3. Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;
4. Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;
5. Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;
6. Сістэматычна выкрываць ідэалогію і астаткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

З-за атсутнасці партыйна-выхаваўчай работы паасобныя комуністы забываюць свае абавязкі, якіх патрабуе статут партыі, прынятый XVII з'ездам:

«Нястомна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам».

Каб узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню, патрэбна карэннае палепшанне і перабудова работы партыйных арганізацый. Райкомы павінны канкрэтна заняцца пытаннямі партыйнай асветы, ідэйнай узброенасці комуністаў, кіраўніцтвам прапагандай ленінізма. Кожны інструктар адказвае за гэту справу на сваім участку.

Побач з гэтым, карэнным чынам павінна быць палепшана работа партгабінетаў, большасць якіх, хоць і маюць паасобныя дасягненні, працуюць усё яшчэ вельмі кепска, што выявілася на ўсебеларускай нарадзе загадчыкаў партгабінетаў, скліканай 2 красавіка аддзелам культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б, а таксама пры праверцы іх работы на месцы.

Многія загадчыкі партгабінетаў у сваіх справаздачах думалі адгаварыцца агульнымі фразамі, гэтым самым паказаўшы, што яны не працавалі канкрэтна, не дапамагалі выхаванню комуністаў ў раёне.

Калі тав. Лысенкову (Пухавіцкі раён) папрасілі расказаць, як партгабінет дапамагае малаграматным і адстаючым комуністам, яна назвала т. Ахрамовіча, старшыню калгаса «Бязбожнік», Новасёлкаўскага сельсовета, кандыдата партыі на працягу 7-мі год, але не магла сказаць ў якіх гуртках ці школах ён навучаўся, якую тэму прапрацоўвае цяпер. Тав. Лысенкова ўжо тры гады працуе ў Пухавіцкім раёне і не ведае аб вучобе гэтага найбольш адстаючага таварыша.

Другі таварыш—Лавысіта, член партыі з 1925 года, пры чыстцы пераведзена была ў кандыдаты за палітнягграматнасць і адставанне ў вучобе. Як-жа ёй дапамагае партгабінет? Са слоў самой загадчыцы тав. Лысенковай выявілася, наколькі няўмела і неабдумана падышлі да павышэння палітычна-тэарэтычнага ўзроўню Лавысіта. Прымацавалі да яе таварыша, каб падцягнуць па агульнаадукацыйных прадметах. Потым прыступілі да прапрацоўкі па Карпінскаму першай тэмы «Два светы—дзве сістэмы» і аб зараджэнні першабытнага грамадства. Аднак элементарных ведаў аб пабудове партыі і яе кіруючых органаў тав. Лавысіта не далі. Яна не ведае нават кіруючых работнікаў партыі. Загадчык партгабінета мяркуе, што, паколькі тав. Лавысіта сама ўдзельнічала ў Окцябрскай рэволюцыі як партызанка, сама перажывала гэтыя этапы барацьбы, з ёй можна пачаць вучобу ад першабытнага грамадства.

Замест таго каб канкрэтна дапамагчы адсталаму таварышу і пачаць з найбольш зразумелага, пачалі знаёміць яе з пытаннямі першабытнага комунізма. Нельга сказаць, што гэтага непатрэбна ведаць. Але найперш трэба пачаць з пытанняў сёнешняга дня, расказаць і даць некаторыя абагуленні аб грамадзянскай вайне, аб тым гераічным перыядзе, ў якім яна сама прымала ўдзел. Патрэбен іменна канкрэтны, індывідуальны падыход да кожнага члена партыі, а не фармальны «шкалярскі». Акадэмічны, мёртвы падыход да жывой справы—недапушчальны метад у сістэме партвучобы.

Многія партгабінеты скардзіліся ў сваіх справаздачах на тое, што мала хто звяртаецца да іх за кансультацыямі і парадамі. Гэта якраз і сведчыць аб тым, што яны не заваявалі папулярнасці сваёй работай, яе цікавым зместам. Загадам людзей не пагоніш у партгабінет. Неабходна так паставіць работу партгабінета, каб людзі адчувалі яго дапамогу і самі імкнуліся яго наведваць.

Частка загадчыкаў партгабінетаў загружаецца райкомам партыі іншай работай. Такім чынам арганізацыя партасветы, аказанне метадычнай дапамогі адыходзяць на задні план. Так, загадчык партгабінета Уздзенскага раёна адначасова з'яўляецца загадчыкам партгабінета, кіраўніком ВСПШ, дзе вядзе гісторыю партыі, дырэктарам райкалгаснай школы, у якой вядзе палітзаняткі, парторгам калгаса, у якім павінен праводзіць работу не менш двух раз на тыдзень, парторгам палітасветы, упаўнаважаным саюза палітасветустаноў і т. д. і т. п. Бясспрэчна, што такая загружанасць значна адбіваецца на рабоце партгабінета і партасветы.

З другога боку, многія райкомы думаюць, што толькі партгабінеты прызваны займацца партасветай і перадаюць у іх рукі функцыі былых культпропаў. Такі падыход з'яўляецца скажэннем лініі партыі і супярэчыць таму палажэнню, што іменна райком партыі павінен кіраваць партасветай ў раёне.

Даволі напомніць некаторыя факты.

Бабруйскі РК ў свой час вынес пастанову аб перадачы ўсіх функцый па прапагандзе ленінізма як у горадзе, так і вёсцы Дому комасветы, што было адменена бюро ЦК.

Былое кіраўніцтва Рэчыцкага раёна накіроўвала загадчыку партгабінета кіруючыя ўказанні аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б з рэзалюцыямі сакратара райкома ці яго намесніка.

Былы сакратар Буда-Кашалёўскага раёна склаў «праграму работы партгабінета» з 20 асноўных пунктаў, пры чым кожны быў разбіты

на больш дробныя. Сярод іх былі правільныя ўказанні, чым павінен займацца партгабінет. Але аб'ём работы намячаўся такі, што партгабінет падмяняў сабою не толькі былы культпроп, а культпроп і агітмас разам.

Прыводзім некаторыя з пунктаў гэтай праграмы:

«Клопаты аб ахове кожнага комуніста і спачуваючага»;

«Падрыхтоўка і перападрыхтоўка нізавога партактыва і назіранне за правядзеннем гэтай работы па комсамольскай лініі»;

«Райліт». (У гэтым лаканічным пункце разумеецца, як відаць, загадчык партгабінета ён-жа і райліт);

«Назіранне за ажыццяўленнем нацыянальнай палітыкі партыі» (?);

«Распаўсюджванне перыядычнага друку ў раёне»(?);

«Улік і інструктаж брыгадных агітатараў»(?);

«Хаты-чытальні і чырвоныя куткі» (?);

«Кіно» (!) і інш.

Гэта праграма-«максімум» прадстаўляе партгабінет нейкім не толькі двулікім, але шматлікім Янусам. Калі-ж прыняць пад увагу, што раённы партгабінет абслугоўваецца звычайна адным работнікам, прычым зачастую недастаткова кваліфікаваным, то стане ясна, што ўскладзеныя на яго задачы трэба размеркаваць паміж радам раённых арганізацый, што адказнасць за іх нясе райком у цэлым. Стала быць, справа ідзе тут не толькі аб празмернай нагрузцы таго ці іншага работніка. Пры палітычнай ацэнцы гэтай справы выходзіць, што пад выглядам партгабінета хочуць бачыць нейкі «сурагат» былога культпропа, што з'яўляецца скажэннем дырэктыў партыі.

Аб тым, што Буда-Кашалёўскі раён не ўлічыў яшчэ ўрокаў мінулага, сведчаць словы, сказаныя на нарадзе загадчыкам партгабінета тав. Галавачом:

«Я хачу прама сказаць, што мы, загадчыкі партгабінетаў, канкрэтна сваёй работай не займаліся. У прыватнасці я займаўся больш арганізацыйнымі пытаннямі. Калі я прыбыў у раён, на мяне ўсклалі камплектаванне партыйнай секі. Пытаннямі метадработы, зместам партвучобы, дапамогай прапагандысту, кансультацыяй, праверкай прыходзілася займацца менш за ўсё. Метадычная работа не вялася, хоць актыў для кансультацыі прыцягваўся».

Замест таго, каб даць партгабінету магчымасць заняцца непасрэднай работай, райком штурхае яго на выкананне зусім не ўласцівых яму функцый.

Канкрэтная дапамога партгабінету, клопаты аб ім, жывое кіраўніцтва падмяняюцца часта сухімі рэзалюцыямі. Загадчык партгабінета Клічаўскага РК паведамляе, што заслухаўшы яго даклад райком абмежаваўся рэзалюцыяй: «Палепшыць работу па абслугоўванню адзіночак і школ».

Разгорнутыя задачы марксісцка-ленінскай асветы патрабуюць безумоўна кваліфікаваных загадчыкаў партгабінетаў. Яны павінны быць здольнымі арганізатарамі і ў той-жа час прапагандыстамі, палітычна-асвечанымі і марксісцка-адукаванымі людзьмі. Як арганізатары, яны павінны весці вялікую работу сярод прапагандыстаў і слухачоў; як партыйна-адукаваныя людзі, яны павінны карыстацца сярод іх аўтарытэтам і здолець даць адказ на цікавячыя пытанні, або запрасіць для гэтага кваліфікаванага кансультанта.

Зусім сумна сустрэцца з такімі фактамі, як гэта было на нарадзе загадчыкаў, калі загадчык партгабінета не мог сказаць дакладна, да якога часу належаць вядомыя красавіковыя тэзісы В. І. Леніна.

Некаторыя партгабінеты праводзяць групавую і індывідуальную кансультацыю не па-казённаму, а сапраўды дапамагаюць партактыву. Так, напрыклад, партгабінет друкарні імя Сталіна за перыяд студзень-сакавік г.г. правёў 12 кансультацый па пытаннях:

Розніца паміж соцыялістычным і комуністычным грамадствам;

Тэорыя Леніна аб імперыялізме;

Тэорыя Леніна аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную;

Рухаючыя сілы і характар рэволюцыі 1905 года;

Ліквідатарства і адзавізм;

Советы ў 1905—07 г.г.;

Розніца паміж буржуазна-дэмакратычнай і пролетарскай рэволюцыяй;

Роля партыі ў сістэме дыктатуры пролетарыята і т. д.

Праўда, кожны раз прысутнічала невялікая група людзей, у сярэднім 7—8 чалавек, але гэта ўжо станоўчыя поспехі ў рабоце.

Партгабінет раз у месяц праводзіць метадычныя нарады для абмену вопытам работы ў школах паміж прапагандыстамі кваліфікаванымі і прапагандыстамі рабочымі.

Акрамя партвучобы, партгабінет аказвае вялікую дапамогу ў рабоце партактыву прадпрыемства.

Прыклад добрай работы паказвае партгабінет Слуцкага раёна.

Партгабінет мае бібліятэку з 4.300 кніг. Сярод іх: поўны збор твораў Леніна (1-е і 3-е выданне), 3 экз. шасцітомніка, 5 экз. двухтомніка Леніна, 4 экз. «Капітала» Маркса, 19 экз. поўнага збору твораў Карла Маркса і Энгельса, 6 экз. «Анты-Дзюрынг» Энгельса, з'ездаўскі матар'ял ЦК КП(б)Б і ЦК ВКП(б). «Гісторыя ВКП(б)» Яраслаўскага, Папова, Кнорына, Воліна, палітграмата Інгулава, Воліна, Карпінскага, стэнаграфічныя справаздачы, рэзалюцыі і іншыя матар'ялы з работы Комінтэрна, а таксама сельскагаспадарчая і мастацкая літаратура.

Для партгабінета выпісана 15 розных газет: «Правда», «Известия», «Комсомольская правда», «Звязда», «Рабочий», «Орка», «Коллективист», «Соцземледелие», «Калгаснік Беларусі», «Чырвоная змена», «Ленінскі шлях», «Эмес», «Окцябр», і «Труд» і часопісы: «Прапагандыст», «Партстроительство», «Спутник агитатора», «Большевик», «Большэвік Беларусі», «Комасвета», «Ком. Интернационал» і інш.

Пры партгабінеце арганізаваны тры пропсемінары для прапагандыстаў па асобных тыпах школ: кандыдацкіх, пачатковага ленінізма і комсамольскіх палітшкол. Перад заняткамі ў партшколе кожная тэма прапрацоўваецца на семінары і складаецца яе план.

У дапамогу прапагандысту падбіраецца мясцовы матар'ял да такіх тэм, як дыктатура пролетарыята, работа советаў у раёне, канстытуцыя СССР, становішча мясцовай прамысловасці, класы і класавая барацьба, класавая барацьба па раёну і інш. Адначасова рэкамендуецца і мастацкая літаратура.

З прапагандыстамі перыядычна праводзяцца нарады аб рабоце партыйных школ, дзе абгаварваецца ход вучобы і прымаюцца меры для ліквідацыі недахопаў.

Усе прапагандысты забяспечаны газетамі «Правда», Звязда» і часопісамі—«Прапагандыст», «У дапамогу партвучобе», «Большевик» і «Большэвік Беларусі».

Партгабінет арганізаваў кансультацыйны пункт для слухачоў партыйных школ, які працуе чатыры разы ў месяц. Комуністы выклікаюцца персанальна для кансультацыі.

Праводзяцца тэарэтычныя канферэнцыі слухачоў комвузаў і ВСПШ. Практыкуецца папярэдняя праверка на даму работы комуністаў над сабой, пасля гэта пытанне ставіцца на бюро райкома. Бюро заслухала ўжо персанальныя справаздачы 10 комуністаў, у тым ліку парторгаў і кіруючых работнікаў.

Перыядычна праводзяцца нарады слухачоў партыйных школ па пытанню якасці работы прапагандыстаў і саміх слухачоў.

Пры партгабінеце ёсць школа, дзе прапрацоўваюць гісторыю партыі 37 комуністаў-адзіночак. Заняткі адбываюцца два разы ў месяц па 7 гадзін у дзень. Усе слухачы забяспечаны падручнікамі, сшыткамі і алоўкамі і на дзень заняткаў забяспечваюцца харчаваннем. Акрамя таго, паасобныя слухачы атрымліваюць мастацкую літаратуру.

* * *

У чым заключаецца асноўная работа партгабінета ў раёне? Партгабінет павінен арганізаваць пропсемінар для прапагандыстаў паводле тыпу школы, якою яны кіруюць (гурток па гісторыі партыі, кандыдацкая школа, пачатковая школа ленінізма і інш.), і асноўных тэм, якія потым прапрацоўваюцца ў гуртках. Нарада паказала, што семінары не паспяваюць прапрацаваць кожную тэму. Гэты разрыў неабходна ліквідаваць і ўстанавіць адпаведную сувязь семінарскіх паседжанняў з тэмамі. Кіраўнікамі пропсемінараў павінны быць кіраўнікі раённай партыйнай арганізацыі: сакратар РК, намеснік, рэдактар і інш.

На семінарах прапагандысту растлумачваюць тэму і вучаць, як метадычна аформіць заняткі. Кіраўнікі семінараў не толькі павінны праводзіць заняткі з прапагандыстамі, але і бываць у іх на занятках. Паасобныя памылкі прапагандыста, няправільны падыход да слухача служыць потым тэмай чарговага семінара.

Кіраўнікі раённай партарганізацыі павінны наведваць заняткі ў школах і гуртках і ставіць свае заўвагі аб недахопах і памылках на абгаварэнне чарговых паседжанняў семінараў. Гэтым самым дасягаецца сувязь кіраўніка партарганізацыі (сакратара РК, яго намесніка) з усёй сістэмай партыйнай асветы ў раёне.

> «Партыйны кіраўнік павінен быць не толькі арганізатарам-адміністратарам у лепшым сэнсе гэтага слова, але прапагандыстам і выхавальнікам членаў партыі» **(Кагановіч).**

Хто-ж іншы як не сакратар райкома партыі павінен даваць напрамак партыйнай асветы ў раёне, займацца з прапагандыстамі і быць у курсе справы ходу партасветы.

Часта прапагандысты як след не рыхтуюцца да заняткаў. Так, выкладчык гісторыі партыі ў Мазыры т. Русанко, праводзячы гутарку на тэму «Партыя ў перыяд рэакцыі», пералічыў схематычна толькі гістарычныя падзеі і не даў іх аналіза. Добрая палова часу пашла на зачытванне з кнігі Яраслаўскага, а другая адведзена была пад канферэнцыю. Канферэнцыя прашла няпланава. З разгорнутай гутаркі заняткіператварыліся ў сістэму пытанняў і адказаў. На недахопах адказаў прапагандыст не спыняўся і пераходзіў да далейшых пытанняў. Слухачы так і не ведалі—правільна яны адказалі ці не.

Няправільная пастаноўка пытанняў выклікала адказы не па сутнасці. Ад усёй тэмы не склалася цэльнага ўражання, бо прапагандыст не браў заключнага слова па асобных яе раздзелах, не ўвязваў прапрацоўваемага матар'ялу з сучаснасцю, з нашымі канкрэтнымі задачамі.

Слухачы скардзяцца на тое, што чытка матар'ялаў, якую часта практыкуюць прапагандысты, праходзіць нецікава і нічога не дае. Так здараецца тады, калі прапагандыст ідзе на заняткі непадрыхтаваным і займае час чытаннем.

Вядома, ад правільнай і добра арганізаванай чыткі адмаўляцца нельга. Трэба толькі правесці яе ўмела, даваць належнае тлумачэнне паасобных абзацаў, найбольш істотных месц, падкрэсліваць найбольш важную думку, растлумачваць незразумелыя словы і т. д. Калі ўважліва падабраць для чыткі адпавядаючы тэме матар'ял і ясна вытлумачыць сутнасць пытання, то слухачы не могуць не зацікавіцца гучнаю чыткай найбольш характэрных месц.

У справе партыйнай прапаганды трэба зрабіць крок уперад. Пара прапагандысту перайсці ад «чытання на-хаду» да культурнай работы над сабою, ад схемы і догмы—да цікавай вучобы-гутаркі, ад саматужніцтва—да большэвіцкай прапаганды ўсімі адпавядаючымі сродкамі.

Выхаваннем такога тыпу прапагандыстаў павінен заняцца партгабінет з яго семінарамі.

Акрамя семінараў, неабходна склікаць канферэнцыі прапагандыстаў, нарады-аднадзёнкі для абмену вопытам выкладання, разгляду метадаў і арганізацыі вучэбнага працэса і т. д. Для прапагандыстаў трэба перыядычна арганізаваць лекцыі, асабліва па тэмах, якія праходзяць у партыйнай сеці, запрашаючы для гэтага кваліфікаваных лектараў з горада.

Вопыт паказаў, што прапагандысту трэба не толькі даць матар'ял, але і паказаць, як весці заняткі. Патрэбна мець адну-дзве паказальныя партыйныя школы, якімі кіруюць лепшыя, найбольш кваліфікаваныя прапагандысты раёна. Работу ў гэтых школах праводзіць не ў агульныя дні партыйнай вучобы, каб прапагандысты маглі наведваць заняткі.

Работнікі раду партыйных габінетаў сабралі вялікі матар'ял аб занятках палітшкол, з якога відаць, што прапагандыст мала цікавіцца слухачом, часта не ведае яго інтарэсаў, яго вытворчага твару, што падыход да слухачоў звычайна агульны. Наша задача—навучыць прапагандыста разумець чалавека і работу з ім. А для гэтага неабходна ўсебакова вывучаць слухача на вытворчасці, у быце, у грамадскім жыцці.

У партгабінетах павінны быць усе неабходныя прапагандыстам і слухачам падручнікі і літаратура для прапрацоўкі тэм у партсеці.

Прапагандысту патрэбна дапамога падручнікамі, слоўнікамі, правільнымі і цікавымі метадычнымі ўказаннямі.

«Методыкі», якія яшчэ год-два назад у вялікай колькасці выпускаліся к пачатку навучальнага года, прыпадносілі толькі голую схему заняткаў і мала давалі прапагандысту. Чаму-б не ўказаць, што ўзяць прапагандысту для ілюстрацыі заняткаў з сучаснай мастацкай літаратуры, класічнай і т. д.?

Акрамя літаратуры, неабходна мець у партгабінеце розны спраўвачны матар'ял: картаграмы, карты і нават дыяпазітывы. Трэба сабраць і размножыць мясцовы матар'ял, даныя па БССР і нават па

раёну для ілюстрацыі заняткаў. У выкладанні неабходна карыстацца матар'яламі гісторыі, эканомікі і культуры БССР.

Гэта непасрэдна выцякае з задач беларусізацыі ў марксісцка-ленінскім выхаванні, пастаўленых пленумам ЦК КП(б)Б:

«Асабліва важнае значэнне набывае пытанне беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання, большэвіцкага правядзення беларусізацыі, выкладання на беларускай мове, вылучэння беларускіх кадраў, павелічэння беларусізаваных школ і гурткоў у сеці партыйнай асветы, а таксама ўкаранення ў партыйную асвету гісторыі, эканомікі і культуры Беларусі».

Партыйныя арганізацыі павінны сур'ёзна заняцца справай большэвіцкага правядзення беларусізацыі ў марксісцка-ленінскім выхаванні.

Акрамя звычайных матар'ялаў, якія ёсць у распараджэнні партгабінета, неабходна практыкаваць на семінарах прапагандыстаў ці на спецыяльных нарадах даклады загадчыка райза, дырэктара банка і раду іншых кіруючых работнікаў совецкага і партыйнага апарата ў раёне на тэмы, блізкія тым, што праходзяць прапагандысты ў партыйнай сеці.

Партгабінет павінен арганізаваць як вусную, так і пісьмовую кансультацыю прапагандыстаў і слухачоў, звярнуўшы асаблівую ўвагу на кансультацыю комуністаў-адзіночак, якім даюцца індывідуальныя заданні.

Кваліфікаваныя кансультацыі ўзнімуць аўтарытэт партгабінета, у праціўным выпадку мала хто да яго звернецца.

Кансультацыі для прапагандыстаў і слухачоў трэба практыкаваць як індывідуальныя, так і групавыя. Прапагандыст часта мае патрэбу ў кансультацыі па цэламу раду пытанняў не толькі метадычнага парадку, але і па зместу выкладаемых лекцый.

Неабходна практыкаваць і скліканне канферэнцый слухачоў па тыпах школ. Абагулены на такіх канферэнцыях матар'ял ставіць на бюро РК.

Для ўсёй сеці парт-палітвучобы трэба складаць вучэбны план на кожны месяц, каб кожны прапагандыст і слухач ведалі праграму свайго гуртка, што дапаможа ліквідаваць безалабернасць і недысцыплінаванасць у рабоце. На падставе вучэбнага плана партгабінет збірае і распрацоўвае рабочы матар'ял для кожных заняткаў, указвае літаратуру для прапагандыста і слухача, падбірае газетны матар'ял, мастацкую літаратуру, наглядныя дапаможнікі і т. д.

Трэба зацікавіцца і адстаючымі слухачамі, сабраць іх у партгабінеце, правесці з імі гутарку, выясніць, чым яны цікавяцца, растлумачыць незразумелыя пытанні і т. д.

Вывучаючы слухачоў, партгабінет зможа падагуліць пытанні, якія задаюцца ў час заняткаў і дакладаў не толькі слухачамі школ, але і рабочымі, калгаснікамі і на падставе такога матар'ялу выявіць паасобныя недахопы партыйнай работы.

Нарада паказала, што партгабінеты амаль зусім не дапамагаюць кіраўнікам і прапагандыстам комсамольскай сеці. Трэба памятаць, што мы абавязаны ўсямерна дапамагаць прапагандыстам комсамола.

Партыйная арганізацыя павінна аказаць комсамолу сур'ёзную дапамогу кваліфікаванымі партыйнымі прапагандыстамі, правяраць вывучэнне гісторыі партыі комсамольскімі работнікамі і арганізаваць для комсамольцаў цыклы дакладаў кіруючых партыйных работнікаў па гісторыі партыі і іншых пытаннях, якімі цікавяцца комсамольцы.

* * *

У гэтым годзе неабходна асабліва ўпартая барацьба з усякімі спробамі згарнуць партыйную вучобу ў вясенне-летні перыяд. За апошні час мы маем значны зрух у разгортванні марксісцка-ленінскага выхавання. Гэты зрух неабходна ўтрымаць, замацаваць і развіваць далей. Усякая замінка ў разгортванні партыйнай вучобы ў вясенне-летні перыяд адмоўна адаб'ецца на нармальнай зімовай вучобе. Са «стадыйнасцю» і «сезоннасцю» у партыйнай асвеце неабходна рашуча пакончыць.

Вясенне-летні перыяд трэба скарыстаць для далейшага ўмацавання сеці партасветы, далейшай безупыннай, штодзеннай тэарэтычнай вучобы партыйцаў і комсамольцаў і пераключэння сеці на вывучэнне гісторыі партыі, цесна звязваючы яго з бягучымі баявымі задачамі.

Неабходна ўлічыць своеасаблівыя, спецыфічныя для вясенне-летняга перыяда ўмовы работы прадпрыемстваў, соўгасаў і калгасаў (адпускны перыяд на прадпрыемствах, палявыя работы). Формы і метады партыйнай прапаганды павінны быць разнастайны ў залежнасці ад вытворчых, тэрытарыяльных, бытавых умоў данай партарганізацыі, групы, брыгады.

Райкомы партыі павінны праявіць большы клопат аб партгабінетах, адвесці ім добрыя памяшканні, умацаваць кваліфікаванымі работнікамі, якія-б спалучалі ў сабе арганізацыйны, метадычны і прапагандысцкі вопыт.

З усяго сказанага мы павінны зрабіць такі вывад:

**Партгабінет павінен стаць важнейшым звяном у арганізацыі партыйнай вучобы і ў першую чаргу—лабараторыяй для прапагандыстаў, якія працуюць у раёне.**

Выканаць гэтыя адказныя задачы—доўг кожнага комуніста, бо адны загадчыкі партгабінетаў не справяцца з гэтай складанейшай часткай партыйна-выхаваўчай работы.

Работа партгабінетаў павінна праходзіць пад сталым кіраўніцтвам, кантролем і дапамогай сакратароў райкомаў, інструктароў і іншых адказных работнікаў раённай партарганізацыі.

М. Элькін

Інструктар Барысаўскага РК КП(б)Б

# Як партарганізацыя камбіната „Комінтэрн" рыхтуе і праводзіць партыйныя дні

У аснову правядзення і падрыхтоўкі партыйных дзён партком камбіната «Комінтэрн» паклаў указанні тав. Кагановіча на XVII партз'ездзе:

> «Бальшэвік—не школьнік, ён выхоўваецца палітычна, яго школьная вучоба павінна спалучацца з палітыкай і практыкай штодзеннай барацьбы. Яго трэба ідэйна ўзбройваць і ў школе і на партсходзе... Член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах бальшэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе».

Раённы камітэт партыі, праз сваіх інструктароў даў рад указанняў, як трэба рыхтаваць і праводзіць партыйныя дні. Раней партком недастаткова рыхтаваўся да партдзён, яны насілі агульны характар, падчас праводзіліся «кавалерыйскім наскокам». Значная група камуністаў трымалася заўсёды пасіўна. Такімі «маўчальнікамі» былі: Баранскі, Райхельсон, Бампей, Абрамовіч, Шыманскі, Сыртоў, Лібэрман, Грыбкова, Кноцька і інш.

2-га красавіка на нарадзе парторгаў партком паставіў пытанне аб тым, як перавыхаваць гэтых «маўчальнікаў», каб уцягнуць іх у актыўнае партыйнае жыццё. Абмяняліся думкамі і вырашылі правесці 17 красавіка адзіны партыйны дзень па ўсіх групах, на якім заслухаць справаздачы «маўчальнікаў» аб тым, як яны выконваюць другі пункт статута партыі, у якім сказана:

«Член партыі абавязан:

а) захоўваць стражэйшую партыйную дысцыпліну, прымаць актыўны ўдзел у палітычным жыцці партыі і краіны, праводзіць на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў;

б) безустанна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам;

в) як член кіруючай партыі ў Савецкай дзяржаве,—быць узорам захоўвання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, бесперапынна павышаючы сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю».

Тут-жа выпрацавалі план падрыхтоўчай работы да партдня.

4-га красавіка склікалі нараду ўсіх «маўчальнікаў» і разам з парторгамі абгаварылі прычыны іх палітычнай пасіўнасці на партыйных сходах. Партком пры гэтым выходзіў з таго прынцыпа, што прычыны маўчання бываюць розныя. Адны намерана маўчаць, каб не выкрыць свайго антыпартыйнага нутра; другія не жывуць партыйным жыццём, не цікавяцца партыйнымі справамі і трэція—нясмелыя па сваёй натуры і характару, малаграматныя палітычна, не ўцягнуты ў кіпучае партыйнае жыццё.

Пасля ўступнага слова сакратара парткома выступіла 15 чалавек, прыводзячы розныя прычыны свайго маўчання. Адны ўказвалі, што партарганізацыя імі не займалася, другія былі пакрыўджаны недастаткова чулымі адносінамі да іх бытавых умоў. Усе гэтыя прычыны былі сур'ёзна прааналізаваны парткомам, які з дапамогай раённага камітэта партыі намеціў рад канкрэтных мерапрыемстваў для ліквідацыі выяўленых недахопаў.

На нарадзе вызначаны былі з «маўчальнікаў» дакладчыкі к партыйнаму дню і прымацаваны да іх у дапамогу палітычна падрыхтаваныя таварышы. Адначасова па ўсіх партгрупах шырока разгорнута была работа па вывучэнню статута партыі. Па цэхах развешаны былі прысвечаныя гэтаму дню лозунгі, плакаты, аб'явы. На сходах партыйных груп загадзя абгаварылі, як лепш падрыхтавацца да партдня. У работу ўключыўся нізавы друк, выпусціўшы спецыяльныя бюлетэнь і некалькі насценных газет.

Значную ўвагу ўдзяліў партком падрыхтоўцы памяшкання, памятаючы, што адпаведная абстаноўка і ўтульнасць спрыяюць поспеху работы. Падрыхтавана была вешалка, расстаўлены крэслы, на сталах—папера, алоўкі, графіны з вадой.

Партсход пачаўся ў строга вызначаны час. Прысутнічалі не толькі ўсе комуністы, але многа беспартыйных рабочых. На высокім ідэйна-палітычным узроўні і як ніколі актыўна прашоў партдзень. У спрэчках выказалася звыш 30 чалавек. Па дакладу кожнага з «маўчальнікаў» прыняты былі канкрэтныя рашэнні.

У рэзультаце рэалізацыі прынятых рашэнняў значна ажывілася работа «маўчальнікаў». Партком перагледзеў партыйныя нагрузкі і дабіўся добрых вынікаў. Раней пасіўны т. **Абрамовіч** зараз вельмі добра вучыцца ў соўпартшколе, адказвае за інтэрнацыянальную, мопраўскую работу ў лесапільным цэху. А аб яго рабоце ў мопраўскай арганізацыі сведчыць заваяваны ёю чырвоны пераходны сцяг РК МОПР'а. **Трусаў Павел,** таксама былы «маўчальнік», палітычна вырас і карыстаецца аўтарытэтам сярод рабочых. Ён цяпер ударнік партвучобы, паліт-інфарматар, праводзіць чытку газет, гутаркі ў цэхах. Пра **Грыбкову Ганну** гаварылі, што яна з'яўляецца баластам. Але, калі ўзялася за работу, дык не пазнаць яе. Яна—лепшы арганізатар падпіскі на газету, шмат працуе над сабой. **Бампей Шолам** навучыўся не толькі выступаць, але нават рабіць даклады. Ён зараз прафарганізатар брыгады. Зусім пераменіўся і **Шыманскі Васіль** і інш.

Работа парткома дала станоўчыя вынікі таму, што ў правядзенне партдня была ўцягнута ўся маса комуністаў.

Возьмем для прыкладу яшчэ адзін партдзень, які праводзіўся парткомам крыху іншым спосабам. Замест адзінай павесткі дня, прапанавалі абгаварыць і падрыхтаваць яе, выходзячы з асаблівасцей і ўмоў кожнай партгрупы. Парторгі на спецыяльна скліканай нарадзе інфармавалі аб тым, якую павестку дня ставіць партгрупа. Так, парт-

група капыльнага цэха намеціла справаздачу двух комуністаў аб іх працы над сабой і аб выкананні партыйнай нагрузкі. Тав. Трусаў павінен быў расказаць, як ён працуе паліт-інфарматарам, а тав. Баранскі, як кіруе мопраўскай работай.

Партгрупа пастанавіла правесці партдзень. Вылучылі рад таварышоў для абследвання бытавых умоў комуністаў. На кватэры ў Баранскага правялі гутарку на інтэрнацыянальную тэму. Падрыхтавалі памяшканне для партсходу з адпавядаючай паспяховай рабоце абстаноўкай.

На партсходзе выявілася, што Трусаў нездавальняюча працуе над сабой, дрэнна рыхтуецца да паліт-інфармацый, амаль зусім не наведвае кіно, не чытае мастацкай літаратуры. Выявілі прычыны. Аказваецца, Трусаў звязаўся з хуліганствуючымі элементамі, п'яніцамі. Калі-б партыйная група не ўзялася за Трусава, то ў далейшым ён мог-бы аказацца згубленым для партыі.

Партсход таксама выявіў, што малаграматны тав. Баранскі зусім недастатков а працуе над сабой, і пастанавіў прымацаваць да Баранскага палітычна падрыхтаванага комсамольца тав. Шафіра, які-б дапамог яму ў падрыхтоўцы да лекцый, у чытанні газет і выкананні партыйнай нагрузкі. Узяты пад кантроль партыйнай групы, Баранскі наладзіў работу МОПР'а, стаў вучыцца, стаў расці. Трусаў таксама пачаў рыхтавацца да паліт-інфармацый і значна палепшыў вучобу.

Партгрупа мэблевага цэха правяла партыйны дзень разам з комсамолам. Партдзень прысвечан быў пытанню: як партгрупа кіруе комсамолам. Рад таварышоў наведаў некалькіх комсамольцаў на даму і праверыў, як яны вучацца ў школе. У выніку кіраўніцтва комсамолам значна палепшылася. Адначасова была заслухана справаздача комуніста Мініча аб яго вучобе ў комвузе. Партгрупа ўказала яму на рад недахопаў.

Партыйная група лесапільнага цэха правяла адкрыты партыйны дзень па пытанню, як пастаўлена профсаюзная работа ў цэху.

Спецыяльная брыгада дэталёва азнаёмілася з работай цэхкома і прадумала канкрэтныя мерапрыемствы, каб наладзіць работу ў профарганізацыі.

Умелая падрыхтоўка і арганізацыя партыйнага сходу забяспечыла высокую актыўнасць і яўку. Зараз адчуваецца значны зрух у рабоце профарганізацыі цэха. Усе рабочыя выпісваюць газеты, працуюць грамадскія арганізацыі, цэхком палепшыў кіраўніцтва профоргамі.

Вялікую ўвагу ўдзяліў партком пытанню аб тым, як комуністы выхоўваюць сваіх дзяцей. Каб лепш мабілізаваць комуністаў на гэту справу, партком намеціў правесці ў лютым спецыяльны партыйны дзень, на якім павінны былі зрабіць адпаведную справаздачу тт. Аўчук, Фейгін і Круглік.

На партыйных сходах абмяняліся думкамі аб тым, як трэба рыхтавацца да гэтага партыйнага дня. На нарадзе парторгаў зноў дэталёва абгаварылі пытанне справаздачы.

У парадку падрыхтоўкі разгарнулася самаправерка комуністаў, якой была ахоплена 28 чалавек. На кватэрах старых рабочых Лапыша, Дамброўскага і Шыла праводзіліся гутаркі на тэму, як трэба выхоўваць дзяцей. Такімі гутаркамі ахоплена было 670 рабочых і 160 хатніх гаспадынь.

Цэхавыя насценныя і брыгадныя газеты ўключыліся ў гэту справу. Шматтыражка выпусціла спецыяльны бюлетэнь. У цэхах арганізаваны былі вітрыны з матар'яламі аб выхаванні дзяцей (рашэнне райкома КП(б)Б, выступленне тав. Крупскай, газетныя артыкулы аб Серпухоўскай арганізацыі і інш.).

У шостай падшэфнай школе праведзена была гутарка на тэму: узаемаадносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Тут-жа дзеці і бацькі былі запрошаны прыняць удзел у сходзе.

На гэтым партком не спыніўся, паколькі ў практыку работы ўвёў праверку выканання сваіх рашэнняў. Напярэдадні партдня парторгі інфармавалі партком аб сваёй гатоўнасці. На партыйных групах праведзены былі гутаркі з комуністамі.

Партыйны сход прызначылі на выхадны дзень. Вялікая ўвага была звернута на афармленне клуба лозунгамі, плакатамі. На чыста накрытых сталах расстаўлены былі графіны з вадой, разложана папера, алоўкі. Працаваў ларок, дзе прымаліся заказы на дзіцячае адзенне, сшыткі, літаратуру і т. д. Быў і буфет.

На партсход сабралася каля 300 чалавек. Пасля ўступнага слова сакратара парткома выступілі са справаздачамі комуністы Аўчук, Фейгін і Круглік. Абследчыя брыгады зрабілі судаклады. Партдзень прашоў як ніколі актыўна. У спрэчках выступіла 18 чалавек.

Сход прыняў канкрэтныя пастановы па кожнаму дакладу. Кожны комуніст атрымаў канкрэтную праграму ўзмацнення выхаваўчай работы з дзецьмі. Далейшая праверка паказала, што пастановы сходу выконваюцца.

Гэты партдзень даў надзвычай многа. Даволі сказаць, што звыш 300 рабочых уключыліся ў конкурс на лепшае выхаванне дзяцей. На прыкладзе справаздач кожны комуніст убачыў, што ён павінен зрабіць для правільнага выхавання сваіх дзяцей. Усе вельмі былі задаволены рэзультатамі партдня.

Партарганізацыя камбіната «Комінтэрн» не супакойваецца на дасягнутым, памятаючы ўказанні тав. Сталіна аб тым, што «самае небяспечнае, калі супакойваюцца на поспехах і забываюць аб недахопах, забываюць аб далейшых задачах».

Ёсць яшчэ рад недахопаў у нашай рабоце. Партарганізацыі складу піламатар'ялаў і сталовай працуюць дрэнна, іх парторгі тт. Ермаловіч і Батвінік не навучыліся сур'ёзна арганізоўваць правядзенне партыйных дзён. Не ва ўсіх партыйных арганізацыях камбіната добра наладжана праверка выканання.

Маючы безумоўна значныя дасягненні ў разгортванні ўнутрыпартыйнай работы, партарганізацыя камбіната «Комінтэрн» павінна іх множыць у далейшым. Трэба дабіцца, каб адстаючыя партгрупы сталі на ўзровень перадавых, узмацніць палітычна-выхаваўчую работу сярод комуністаў, спачуваючых і комсамольцаў, паставіўшы ў цэнтр увагі павышэнне палітычна-тэарэтычнага ўзроўню і класавай пільнасці кожнага комуніста партарганізацыі на аснове вывучэння гісторыі нашай партыі.

Замацоўваючы дасягненні, партарганізацыя камбіната «Комінтэрн» будзе змагацца за далейшыя поспехі ва ўсёй партыйнай рабоце.

---

**Б. Перачынскі**

Сакратар парткома завода „Большэвік“

# Вопыт партыйнай работы на заводзе „Большэвік“

Лепшы саратнік нашага любімага правадыра тав. Сталіна—Лазар Майсеевіч Кагановіч, гаворачы ў сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі аб ідэйным узбраенні комуністаў, асаблівую ўвагу ўдзяліў ролі і значэнню партыйных сходаў:

«Член партыі навучаецца і павінен навучыцца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе».

Як-жа мы выконваем гэта ўказанне тав. Кагановіча? Калі раней партыйны сход у большасці выпадкаў нельга было адрозніць ад адкрытага сходу рабочых, бо ён ператвараўся ў звычайную вытворчую нараду, то цяпер партыйны сход стаў сапраўднаю школай для кожнага члена партыі.

Раней мы на кожнай нарадзе парткома, на партыйных сходах слухалі даклад дырэктара або начальніка цэха аб выкананні промфінплана і кожны раз выносілі адны і тыя-ж рашэнні. Цяпер на нашых сходах перасталі ставіць такія даклады, чым узнялася адказнасць дырэктара і начальнікаў цэхаў за выкананне плана.

Але гэта не значыць, што партарганізацыя зусім перастала займацца выкананнем плана.

Калі ў 2-ім хромавым цэху пагоршылася якасць прадукцыі, мы рашылі склікаць закрыты партыйны сход цэха. На гэты раз павінен быў зрабіць даклад не начальнік цэха, а парторг т. Запольскі. Падрохтоўка да гэтага сходу пачалася за 8 дзён. Далі заданне комуністам праверыць, як члены партыі забяспечваюць перадавую ролю ў выкананні якасных паказчыкаў плана. Адначасова праверылі, як партыйная арганізацыя цэха наладзіла партыйна-масавую работу і правялі сход партгруп.

У рэзультаце выявілася, што партарганізацыя цэха слаба працавала, не забяспечыла выкананння якасных паказчыкаў плана, што паасобныя комуністы—Пашкоўская, Данішэўскі—давалі дрэнную якасць, што комуністАроцкер (майстар аддзялення) мала звярачаў увагі на якасць прадукцыі.

Сход прашоў пры вялікай актыўнасці комуністаў цэха. КомуністамАроцкеру, Данішэўскаму і Пашкоўскай даны былі канкрэтныя ўказанні, а таксама ўказана было парторгу цэха і ўчастка на слабое разгортванне партыйна-масавай работы вакол якасці прадукцыі.

Пасля гэтага сходу 2-гі хромавы цэх і яго партгрупа сталі лепш працаваць і дабіліся таго, што план выконваецца па ўсіх паказчыках.

Для прапрацоўкі пастаноў ЦК ВКП(б) і рашэнняў пленума ленінградскага гарадскога камітэта партыі намецілі правесці партыйны дзень і пачалі да яго рыхтавацца.

2 красавіка на нарадзе парторгаў цэхаў і ўчасткаў прапрацоўвалі рашэнні ЦК і ленінградскага гаркома партыі. 4 красавіка склікалі партактыў і «пасіў», г. зн. членаў партыі, якія мала выступаюць і азнаёмілі іх з адзначанымі вышэй рашэннямі. Разбіўшыся на брыгады па 2—3 чалавекі, яны ўзяліся за праверку становішча партмасавай работы на заводзе: практыка правядзення партдзён, праца з паасобнымі членамі партыі, спачуваючымі і беспартыйным актывам, партыйная вучоба і інш. У праверцы прынялі ўдзел 35 чалавек.

Да партыйнага сходу выпусцілі спецыяльны бюлетэнь. 9 і 10 красавіка прапрацавалі з усімі комуністамі завода па групах у 8—10 чалавек даклад тав. Кагановіча на нарадзе аддзелаў кіруючых парторганаў, рашэнні ЦК ВКП(б) і ленінградскага ГК партыі і перадавую «Праўды» супроць недаацэнкі работы са спачуваючымі, аб большэвіцкім размаху партыйнай работы і клапатлівым вырошчванні партыйных кадраў.

Пасля шырокай падрыхтоўкі партдзень прызначылі на 11 красавіка ў 12 гадзіне дня. На сходзе выступалі больш за ўсё комуністы, якія выступаюць рэдка (запісалася 57 чалавек, а выказалася 35). Кожнае выступленне было дзелавое, канкрэтнае. Не гледзячы на тое, што сход зацягнуўся да 9 гадзіны ўвечары, не было ніводнага выпадку ўходу. На гэтым сходзе, упершыню за ўвесь час, прыняты былі і шырока абгавораны рашэнні на аснове прапаноў, унесеных самімі членамі партыі.

Партком склаў план рэалізацыі рашэнняў сходу. Ужо выканалі рад пунктаў: аб пераглядзе нагрузак, аб прымацаванні лепшых членаў партыі да пераведзеных у кандыдаты і спачуваючых, стварылі групу актыва для вылучэння і пачалі з ёй работу, ва ўсіх школах партсеці ўведзена вывучэнне гісторыі партыі, пачынаючы з Окцябрскага перыяда і т. д.

Трэба сказаць, што правядзенне партдзён з папярэдняй падрыхтоўкай, удумчывым падборам пытанняў спрыяе павышэнню актыўнасці кожнага члена партыі. Такі сход з'яўляецца для комуністаў сапраўднаю школай большэвізма.

Партарганізацыя завода «Большэвік» налічвае 95 членаў партыі і 38 кандыдатаў, з іх 73% працуюць непасрэдна ля станка. Па партыйнаму стажу арганізацыя маладая: 71% прыняты ў 1930—31—32 гг. Аднак на заводзе нядрэнны партыйны актыў з 45 членаў партыі. Партком вырасціў гэты актыў, аказваючы яму канкрэтную дапамогу ў палітычным росце, даючы паасобныя партыйныя заданні і дапамагаючы іх выконваць.

Тав. **Канапацкі**—у партыі з 1930 г., лепшы ізотавец завода, стаў адным з актыўных членаў партыі і прыкладам для іншых. Ён член парткома, член пленума гаркома і старшыня дэпутацкай групы. З работай спраўляецца добра.

Тав. **Аксельрод**—член партыі з 1932 года, працуе парторгам цэха. Раней тав. Аксельрод быў закінутым. Цяпер яму далі магчымасць папрацаваць над сабой. Ён нядрэнна разбіраецца ў палітычных пытаннях, добра займаецца ў марксісцка-ленінскім гуртку і працуе

парторгам цэха. Яго цэх, які ўвесь час не выходзіў з прарыву, пачаў добра выконваць план.

Тав. **Кажушко**—член партыі з 1932 года, працаваў увесь час на начных зменах і быў адарваны ад партыйнага жыцця. Калі з ім пачалі добра працаваць і дапамаглі, ён пачаў прымаць актыўны ўдзел у партыйным жыцці завода. Працуе цяпер парторгам механічнага цэха, з работай спраўляецца ныдрэнна.

Або ўзяць **Пятрова**—член партыі з 1924 года, лічыўся «маўчальнікам», пакуль не ўцягнулі ў актыўнае партыйнае жыццё завода. Калі з ім пагутарылі ў парткоме, далі некалькі раз заданні, дапамаглі падрыхтаваць выступленне да сходу,—зрабіўся актыўным, пачаў выступаць. Зараз тав. Пятроў з'яўляецца группарторгам аддзелачнага аддзялення 2-га хромавага цэха. Працуе добра. Такіх у нас многа: Запольскі, Рапапорт, Мірскі, Хвашчэўскі і інш.

Але не ўсё яшчэ зроблена для таго, каб сапраўды вывучыць кожнага члена партыі, дапамагчы яму ў палітычным росце, уцягнуць у актыўную партыйную работу і падрыхтаваць добрага партыйнага работніка. Зараз мы вылучылі 15 добра правераных і вывучаных членаў партыі і пачынаем удзяляць асаблівую ўвагу павышэнню іх палітычнага ўзроўню. Разгрузілі ад лішніх нагрузак, даем спецыяльныя заданні па прапрацоўцы матар'ялаў, арганізавалі кансультацыі ў партгабінеце. З гэтых членаў партыі мы будзем рыхтаваць добрыя партыйныя кадры.

Сказанае вышэй, як у адносінах правядзення партдня, так і работы з паасобнымі комуністамі,—толькі першыя крокі ў справе перабудовы ўсёй партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы. Перад намі стаяць яшчэ агромныя задачы—далейшае палепшанне партыйнай работы для сапраўднай рэалізацыі рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б.

**А. Каноіпк**

Сакратар парткома швейнай фабрыкі „Окцябр“.

# Аб перабудове партыйнай работы на фабрыцы „Окцябр“.

Рашэнне ЦК ВКП(б) аб стварэнні аддзелаў партыйных кадраў, пастанова красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, пастанова пленума ленінградскага ГК партыі—намячаюць разгорнутую праграму палепшання ўсёй арганізацыйна-палітычнай і выхаваўчай работы партыі.

У нашай практыцы быў рад фактаў, калі партыйная работа падмянялася гаспадарчай. Партыйныя сходы недастаткова падрыхтоўваліся, несур'ёзна падбіралася абвестка дня, у выніку яны не выконвалі сваёй ролі, як важнейшага сродку выхавання комуністаў.

Слаба наладжана была дыферэнцыяваная работа з паасобнымі групамі комуністаў для вырошчвання новага партыйнага актыва. Да апошняга часу ў нас больш цікавіліся колькасным ахватам комуністаў вучобай, чым пытаннем якаснага засваення імі гісторыі нашай партыі.

Мы прыступілі да перабудовы сваёй работы і праводзім ужо рад канкрэтных мерапрыемстваў, якія выцякаюць з рашэнняў пленума ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б. Перагледжана нагрузка комуністаў нашай партарганізацыі. 38 комуністаў—зборшчыкі АСО, МОПР, ОЗЕТ—вызвалены ад гэтых нагрузак, бо іх могуць выконваць і выконваюць чэсныя беспартыйныя рабочыя.

Тав. Смоляр—член партыі, быў зборшчык ОЗЕТ, а цяпер бяседчык у сваёй брыгадзе, Левіна была зборшчыца АСО—зараз яна бяседчык брыгады, Каменецкі выконваў нагрузку зборшчыка профузносаў, зараз прымацован да групы беспартыйных рабочых, з якімі вядзе сістэматычную растлумачальную работу і т. д.

Аслабаніўшы комуністаў ад раду нагрузак, якія могуць выконвацца беспартыйным актывам, мы маем магчымасць узмацніць палітычную работу непасрэдна ў цэхах і брыгадах, уцягваючы ў яе беспартыйных рабочых. З комуністамі праводзіцца дыферэнцыяваная работа па павышэнню іх палітычна-культурнага ўзроўню. Для вылучэння іх створаны ўсе неабходныя ўмовы. Тры разы ў месяц яны наведваюць заняткі, дзе праходзяць спецыяльны курс вучобы. Члены парткома і партыйнага актыва дапамагаюць ім у рабоце. Напрыклад, да тт. Левіна прымацаваны Карналеўская і Шабсон, да Фрыд (член парткома) прымацаваны Казак і Баравік, да Драгілева (член парткома) прымацаваны Каплан, Штэрн і т. д.

Вылучаным комуністам даем больш адказныя даручэнні. Напрыклад, тав. Зеленко даручана было зрабіць даклад на партыйна-цэхавым сходзе аб становішчы рабочага класа ў Германіі. Таксама—Гутману, Смоляру і інш.

Больш сур'ёзна падбіраем цяпер пытанні да партыйнага дня, асаблівую ўвагу ўдзяляем дакладам. Да аднаго з партыйных дзён рыхтавалі даклады: партыйная група т. т. Грыншпана і Перавозкіна па пытанню аб барацьбе кітайскай компартыі, Фрэнклах і Каплан—аб становішчы рабочага класа ў Германіі, тэхчастка—аб палітыцы японскага імперыялізма на Далёкім Усходзе і становішчы рабочага класа Японіі, партгрупа кіраўніцтва фабрыкі—аб Усходнім пакце і КУЧ. Характэрна, што да гэтага партдня рыхтавалася 17 дакладчыкаў, а зацверджаны партыйным камітэтам шэсць чалавек—тыя, хто лепш падрыхтаваўся.

Уся партарганізацыя і рабочы калектыў праявілі вялікую зацікаўленасць партднём. Члены партыі і рабочыя прывыклі слухаць штатнага дакладчыка, а ў гэты дзень на трыбуну з'явіўся новы дакладчык. І трэба сказаць, што радавыя комуністы, як Зеленко, Бурштейн, Меламед, Смоляр і іншыя, зрабілі нядрэнныя даклады. Гэты партыйны дзень мы правялі па-новаму. Рыхтавалася ўся партыйная арганізацыя. Падрыхтоўка асвятлялася ў заводскім друку і штодзёнках.

Асаблівую ўвагу пры перабудове партыйная арганізацыя ўдзяліла палепшанню марксісцка-ленінскай вучобы і павышэнню палітузроўню кожнага комуніста. Да адстаючых у вучобе тт. Кучук, Эрэнбург, Гінзбург прымацавалі комуністаў. Прымацаваныя таварышы дапамагаюць ім у павышэнні палітузроўню.

Перагледзелі склад комуністаў з пункту погляду лепшага забяспечання іх ідэйнага выхавання.

Для правядзення сістэматычна-растлумачальнай работы па цэхах і брыгадах і давядзення рашэнняў нашай партыі і ўрада створан інстытут бяседчыкаў і чытачоў з 17 чал.: Смоляр, Басіхес, Левін, Кацовіч, Меламед, Гехт і інш.

Раз у пяцідзенку праводзім палітгадзіну ў цэхах. Рабочыя адносяцца да яе з вялікай зацікаўленасцю. Яўка на 85—90 проц. Палітгадзіну праводзіў т. Марголін на тэмы: аб становішчы рабочага класа ў Германіі, аб КУЧ і інш. Дакладчык Левін праводзіў палітгадзіну тры разы па пытаннях, якія ў даны момант найбольш цікавяць рабочых.

Для сістэматычнай інфармацыі аб настроях паасобных груп рабочых створан інстытут інфарматараў з 21 чалавека. У план работы парткома і партыйных груп унесен рад змен, якія найлепш забяспечваюць выкананне пастаўленых перад намі задач.

Партком і ўся партарганізацыя ўключыліся ў справу рэалізацыі рашэння пленума ЦК КП(б)Б аб партрабоце і ў бліжэйшы час даб'юцца карэннага палепшання ўсёй партыйна-выхаваўчай работы на фабрыцы.

**Х. Сухаліцкі**

Сакратар парткома фабрыкі „КІМ“

# Некаторы вопыт перабудовы партмасавай работы на швейнай фабрыцы „КІМ“ (Менск)

У рашэннях пленума ленінградскага гаркома партыі ўказана:

> «Пленум падкрэслівае выключнае значэнне партыйных сходаў у справе большэвіцкага выхавання членаў партыі і прапануе ўсім партыйным арганізацыям пакласці ў аснову іх работы пытанне арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы, забяспечыўшы, на аснове разгорнутай самакрытыкі, уважлівае і ўсебаковае абгаварэнне пастаўленых пытанняў».

Яшчэ 3—4 месяцы назад на фабрыцы слаба рыхтаваліся да правядзення партыйнага дня. Але за апошні час справа наладзілася. Асабліва ўдачна прашлі ў нас два апошнія партыйныя дні па пытаннях: «Аб комуністычным выхаванні дзяцей» і «Аб прапрацоўцы рашэння ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў партыйных кадраў і рашэння ленінградскага пленума аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітыка-выхаваўчай работы».

Асабліва вялікую работу правялі мы ў парадку падрыхтоўкі да апошняга закрытага партыйнага дня. Да сходу пачалі рыхтавацца з 1 красавіка. На паседжанні парткома распрацавалі план падрыхтоўкі. Па пунктах і раздзелах добра прапрацавалі рашэнні пленума. Потым парторгі падрабязна прапрацавалі гэтыя рашэнні са сваімі комуністамі, абгаварылі кожны пункт паасобку. Пры прапрацоўцы комуністы высунулі рад каштоўных прапаноў, выцякаючых з пастаноў пленума. З 54-х такіх прапаноў партком і сход выбралі больш 20, якія павінны быць пакладзены ў аснову далейшай работы парт-арганізацыі фабрыкі.

У гуртках партасветы правялі нарады, выяснілі рад недахопаў іх работы. Выпусцілі спецыяльны нумар шматтыражкі, які паказваў рост раду таварышоў і недахопы ў перабудове партмасавай работы. За 4-5 дзён да сходу кожны комуніст ведаў абвестку дня, што ўнесла вялікае ажыўленне ў работу сходу, які працягваўся 6 гадзін. З 43-х прысутных—23 выступілі ў спрэчках і разгарнулі здаровую большэвіцкую крытыку і самакрытыку вакол недахопаў у рабоце парткома і парторгаў. Выступалі таксама і так званыя «маўчальнікі», якія раней слаба ўдзельнічалі ў партыйным жыцці фабрыкі. Т. т. Зісмановіч, Жэрніцкая, Розаў зусім правільна адзначылі, што іх маўчанне не з'яўляецца вынікам нежадання гаварыць, але рэзультатам слабой работы з імі.

Сход вынес каштоўныя рашэнні: перагледзець нагружанасць камуністаў, ставіць на парткоме і партгрупе справаздачы аб выкананні нагрузкі, вырошчваць і выхоўваць парткадры, добра рыхтавацца да партдзён, арганізаваць вывучэнне гісторыі нашай партыі, звярнуць асаблівую ўвагу на праверку выканання пастановы ЦК партыі і ленінградскага гаркома ў сваёй партыйнай арганізацыі. Асаблівы ўпор зрабіць на работу з кожным комуністам паасобку і палепшанне палітыка-выхаваўчай работы комсамола.

Можна сказаць, што гэты сход выкрыў многа недахопаў у рабоце парткома і партгрупоргаў. Сход—школа для комуністаў, яго рашэнні павінны быць пакладзены ў аснову далейшай перабудовы партмасавай работы на фабрыцы, як гэта ўказана XVII партз'ездам і правадыром нашай партыі—тав. Сталіным.

* * *

Пры чыстцы партыі за паліт-адсталасць у нас пераведзены з кандыдатаў у спачуваючыя 4 чалавекі і прынята ў спачуваючыя новых 9 таварышоў. Усе яны займаюцца ў партыйных гуртках, адпаведна з паліт-узроўнем кожнага. У гуртку па гісторыі партыі—4 чал., у кандыдацкім—6 чал. і 2 у гуртку палітграматы. Усе дзевяць таварышоў, прынятых у групу спачуваючых, маюць вялікі вытворчы стаж і з'яўляюцца лепшымі ўдарнікамі фабрыкі. Тав. Марголін з закройнага цэха мае вытворчы стаж—44 гады, Дукор—20, Лукаў—16 год, Карачун—7 год, Яноўскі—13 год.

Т. т. Дукор, Лукаў, Каган, Яноўскі і Яблонко пераведзены ў спачуваючыя з-за палітычнай няграматнасці. Тав. Яблонко падаў заяву аб пераводзе яго ізноў у кандыдаты партыі. Гэта чалавек, які працуе над сабой і падрыхтаваны для таго, каб быць членам партыі. Усе яны займаюцца ў партсецці і, акрамя таго, парторг праводзіць з імі асобую работу: прапрацаваў рад артыкулаў з «Праўды», статут і праграму партыі, гутарыць аб міжнароднай палітыцы і інш.

Безумоўна, што для далейшага росту і падрыхтоўкі да ўступлення ў партыю нам трэба многа яшчэ прапрацаваць з гэтай групай спачуваючых, асаблівы ўпор зрабіць на вывучэнне з імі гісторыі партыі, барацьбы партыі з апартунізмам на два фронты і інш. На фабрыцы ёсць стары касцяк рабочых, над якімі таксама трэба папрацаваць, каб падрыхтаваць іх да ўступлення ў групу спачуваючых.

* * *

Прашло 7 месяцаў, як на фабрыцы «КІМ» разгарнулася партыйная вучоба. Пры падрыхтоўцы да пачатку навучальнага года, забяспечан быў дыферэнцыяваны ахват комуністаў, комсамольцаў і спачуваючых, выходзячы з палітычнага ўзроўню кожнага. Партсеццю на фабрыцы і вячэрнім комвузам з пачатку навучальнага года ахоплена было 100 проц. членаў і кандыдатаў партыі. Усяго займалася 92 чалавекі, з іх: 26 членаў партыі, 20 кандыдатаў, 8 спачуваючых, 23 комсамольцы і 15 чалавек беспартыйнага профактыва.

У першыя два месяцы навучання мы мелі некаторы прыліў у партыйнай сецці беспартыйнага актыва. На сёння ахоплена партсеццю 139 чалавек. За 7 месяцаў вучобы ні разу не было зрываў, як гэта наглядалася ў мінулым годзе. Асноўнае, што забяспечвае нармальны

ход заняткаў, гэта наяўнасць шасці сваіх прапагандыстаў. Упершыню на фабрыцы рэдактар шматтыражкі кіруе кандыдацкім гуртком, парторг цэха тав. Ліпковіч—гуртком палітграматы, а я кірую гуртком гісторыі партыі. Свой фабрычны прапагандыст не толькі забяспечвае нармальны ход заняткаў, але добра ведае ўсіх таварышоў, з якімі займаецца, іх авангардную ролю на вытворчасці, асабісты быт, чытаемасць і т. д.

Наведванне партвучобы на фабрыцы, калі не лічыць паасобных спазненняў, здавальняючае. Заняткі пачынаюцца своечасова і пры поўнай аўдыторыі. Асноўную ўвагу партком звярачае на якасць вучобы. Слухачы цалкам забяспечаны навучальнымі прыладамі, падручнікамі і памяшканнем.

На паседжанні парткома сумесна з гуртком па ленінізму і кандыдацкім зроблен рад канкрэтных указанняў аб недахопах у рабоце, аб падрыхтоўцы да заняткаў і засваенні вучэбнага матар'ялу. На парткоме заслухалі справаздачу двух комуністаў і аднаго спачуваючага аб іх палітычнай паспяховасці. Наведалі некалькі раз музей рэволюцыі, дзе наглядна азнаёміліся з матар'ялам, звязаным з прапрацоўкаю тэм па гісторыі нашай партыі.

Па ўсёй сеці партвучобы прачытаны былі тры спецыяльныя лекцыі на тэмы: «Класавая барацьба на даным этапе», «Становішча Заходняй Беларусі і Украіны ў фашысцкай Польшы», «Советы, як органы дыктатуры пролетарыята». У гуртку па гісторыі партыі прапрацоўваецца матар'ял з газ. «Правда», часопіса «Большевик», паасобныя месцы з кнігі тав. Сталіна—«Пытанні ленінізма» і з працы Леніна «Ад лютага да Окцябра». Для слабых таварышоў наладжваюцца кансультацыі. Часта калектыўна наведваем кіно. Асабліва цікавяць фільмы, звязаныя з гісторыяй партыі: «Юнасць Максіма», «Маладасць», «Чапаеў» і т. д.

Добра прапрацован матар'ял па гісторыі партыі: 8 нумар «У дапамогу партвучобе»—орган культпропа ЦК ВКП(б); аб лютаўскай рэволюцыі.

Падводзячы некаторыя вынікі за 7 месяцаў вучобы, можна сказаць, што заўважваецца значны палітычны рост многіх комуністаў. Т.т. Жукава, Марочыкава, Лукава, Шніцэр, Яноўскі, Дрэйзін, Батвінік і інш. год таму назад не маглі падняць вытворчае пытанне на неабходны палітычны ўзровень. Цяпер гэтыя таварышы выступаюць на партыйнай мове, могуць палітычна правільна растлумачыць беспартыйным рабочым у цэху асноўныя партыйныя пастановы.

Пры наяўнасці многіх яшчэ недахопаў мы можам з упэўненасцю сказаць, што ў гэтым годзе дабіліся значнага зруху ў павышэнні палітычнага ўзроўню членаў і кандыдатаў партыі, комсамольцаў і спачуваючых. Ужо 7 месяцаў, як трымаем пераходны сцяг гаркома партыі за добрую пастаноўку партвучобы. Значна ўзрасла цяга да вучобы не толькі сярод партарганізацыі фабрыкі, але і беспартыйнага актыва. Паступова і ўпэўнена знішчаючы ўсе недахопы ў пастаноўцы партыйна-палітычнай і масава-выхаваўчай работы, разгарнуўшы вывучэнне гісторыі партыі, мы гэты пераходны сцяг замацуем за нашым калектывам.

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

А. Любовіч

## Апалітычнасць і гнілы лібералізм

**палітыка-эканамічны часопіс „Соцыялістычнае будаўніцтва"—орган Дзяржплана і Кіраўніцтва Наркамгасучота БССР Менск**

Велізарныя змены адбыліся ў гаспадарцы і культуры БССР. Самааддданасць, энтузіязм рабочых і калгаснікаў, дасягнуўшых пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало, вялікіх перамог у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, адзначаны нашай вялікай партыяй і ўрадам: БССР—ордэнаносная рэспубліка.

КП(б)Б, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, дабілася гэтых дасягненняў у барацьбе з класавым ворагам, з правымі і «левымі» апартуністамі, з контррэвалюцыйным трацкізмам, з белабандыцкім трацкісцка-зіноўеўскім ахвосцем, з контррэвалюцыйнымі буржуазнымі нацыяналістамі ўсіх масцей.

Узнагароджанне нашай рэспублікі ордэнам Леніна абавязвае нас да яшчэ большага ўдасканалення работы ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, да яшчэ большага ўздыму класавай пільнасці, да далейшай непрымірымай барацьбы з рэшткамі класавага ворага і яго агентуры.

Пагранічнае становішча Беларусі з асобай вострасцю высоўвае неабходнасць павысіць класавую рэволюцыйную пільнасць і большэвіцкую непрымірымасць у барацьбе з ухіламі ад генеральнай ліній партыі, са скажэннямі ў пытаннях ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Часопіс «Соцыялістычнае будаўніцтва» лічыцца палітыка-эканамічным. Па свайму месцу і назве ён павінен быў адлюстроўваць вялікія зрухі ў соцыялістычным будаўніцтве БССР, ажыццяўляць вядучую ролю ў пабудове плана народнай гаспадаркі, арганізоўваць масы на выкананне плана. Часопіс павінен быў садзейнічаць росту кадраў эканамістаў-планавікаў, узбройваць іх метадычна для барацьбы за план, за безупыннае яго ўдасканаленне, за ўкараненне планавасці ва ўсёй нашай рабоце.

Вострую зброю тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна часопіс павінен быў накіраваць супроць трацкісцкіх, зіноўеўскіх і ўсякіх іншых контррэволюцыйных гнёзд, аблюбаваных шкоднікамі і контррэволюцыянерамі ўсіх масцей, асабліва ў планавых органах.

Рэспубліканскі эканамічны часопіс «Соцыялістычнае будаўніцтва» павінен мець ярка выражаны партыйны твар, павінен быць цалкам прасякнуты большэвіцкай непрымірымасцю, сугуба класавай пільнасцю.

Часопіс павінен быў стаць баявым органам Дзяржплана ў барацьбе за партыйнасць тэорыі і практыкі планавання, за адпаведнасць народна-гаспадарчых планаў ленінскай генеральнай лініі партыі, за іх выкананне. Мабілізаваць гаспадарнікаў, планавікаў, навуковых работнікаў на барацьбу за выкананне колькасных і якасных паказчыкаў плана, за шырокі ўдзел мас у складанні і абгаварэнні плана, за ўкараненне масавых форм планавання. Удзяліць значнае месца пытанням размяшчэння прадукцыйных сіл, адшукання новых баз мясцовай сыравіны, абгрунтавання новых аб'ектаў будаўніцтва. Стаць органам абмену вопытам работы, асвятляць дасягненні і ўскрываць недахопы ўсёй сістэмы Дзяржплана, наркаматаў, раёнаў. Дапамагчы раёну, як важнейшаму звяну, у гаспадарчай і культурнай рабоце, у наладжванні планавай работы. Кансалідаваць усіх тэарэтычна-навуковых і практычных работнікаў на барацьбу за ўздым планавання на вышыню задач сучаснага этапа соцыялістычнага будаўніцтва.

Аднак, паміж задачамі, якія стаяць перад часопісам, і сапраўдным яго зместам—непраходнае бяздонне.

Часопіс з'яўляецца па сутнасці зборнікам выпадковых артыкулаў, без усякай мэтанакіраванасці, адарваны ад сучасных задач і патрабаванняў планавання.

Часопіс не выходзіў на шырокі прастор планавай соцыялістычнай гаспадаркі. Замкнуты ў канцэлярыях Дзяржплана і Кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку БССР, ён быў апалітычным, трухлявым часопісам і зусім не адпавядаў ўскладзеным на яго задачам.

Праўда, ў часопісе знашлі сабе месца паасобныя артыкулы, якія былі нядрэнна і палітычна правільна напісаны. Аднак, адарваны ад партыйнага жыцця, ад актуальных пытанняў соцбудаўніцтва, часопіс асноўнай сваёй задачы не выконваў і ў радзе выпадкаў з'яўляўся трыбунай для трацкісцкай кантрабанды.

Вядома, якія велізарныя задачы пастаўлены XVII з'ездам партыі, у дакладах тав. Сталіна, Молатава па пытаннях далейшага соцыялістычнага будаўніцтва, народна-гаспадарчага планавання соцбудаўніцтва ў паасобных абласцях і нацыянальных рэспубліках. Але дарэмна шукаць ў часопісе хоць-бы адзін артыкул, які-б асвятляў гэтыя задачы. Пытанні рамяшчэння прадукцыйных сіл, асваення тэхнікі, развіцця і стварэння ўласнай паліўнай і сыравіннай базы, развіцця мясцовай прамысловасці не знашлі сабе месца на старонках «Соц. будаўніцтва».

Часопіс не толькі не здолеў своечасова ўскрыць антыпартыйныя і шкодніцкія ўстаноўкі ў галіне планавання, паставіць важнейшыя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва БССР у святле рашэнняў XV з'езда КП(б)Б і XVII з'езда ВКП(б), але не здолеў нават адлюстраваць шырока разгорнутай соцыялістычнай будоўлі ў БССР. Паасобныя артыкулы носяць хутчэй інфармацыйны характар, чым сапраўдны паказ творчай работы працоўных БССР пад кіраўніцтвам партыі.

Са сваёй асноўнай задачай—абслугоўваць нізавыя органы планавання і дапамагаць ім правільна падыйсці да вырашэння іх задач—часопіс не справіўся. Багаты вопыт удзелу мас у планаванні зусім абойдзены моўчкі. Часопіс не стаў органам мабілізацыі рабочых, калгаснікаў ў барацьбе за план. Часопіс «Соцыялістычнае будаўніцтва» сваім зместам не адпавядаў запатрабаванням кваліфікаваных груп эканамістаў і гаспадарнікаў і зусім не разлічан быў на шырокія кадры працаўнікоў планавай і ўліковай сістэмы, на актыў пар-

тыйных, прафесіянальных і гаспадарчых арганізацый і ўстаноў, соўгасаў, МТС і калгасаў. Сувязь з рабкорамі і селькорамі, большэвіцкая самакрытыка не пакінулі ніякіх слядоў у рабоце часопіса. Не відаць у ім і сканцэнтраванага агня ў барацьбе за планавасць, тэарэтычнага ўзбраення чытача на выкрыццё і разгром контррэволюцыйных спроб класавага ворага падарваць план. У арганізацыі і пабудове часопіса, у падборы тэм і артыкулаў не было палітычнай завостранасці, насычанасці баявым матар'ялам. Праз меру прэсна і фармальна будаваўся часопіс, не меў сапраўды большэвіцкага нутра.

Якія ўстаноўкі меў часопіс пры выданні, на якое кола чытачоў разлічан?

Трудна адказаць на гэта пытанне нават пры самым уважлівым азнаямленні з усім камплектам нумароў. Праграма часопіса выразілася толькі ў аб'явах аб падпісцы на 1934 год і 1935 год. Але і гэтай праграме ні ў якім разе не адпавядае зусім выпадковы, стрыкаты набор артыкулаў, пісаных як відаць без усякай адпаведнасці чарговым задачам таго перыяда соцбудаўніцтва, калі часопіс павінен з'явіцца на свет.

Як у пераносным, так і ў прамым сэнсе часопіс выдаваўся па-за часам, па-за нашай вялікай эпохай. Толькі зрэдку ў паасобных выпадках і месцах з вялікім адставаннем закраналіся вострыя пытанні соцыялістычнай будоўлі.

Характэрна, што ні адзін з нумароў, акрамя 7—8, не дае магчымасці нават па друкарскіх адзнаках устанавіць дату, калі часопіс вышаў, да якога перыяда адносіцца, а тым больш—калі ён павінен быць у падпісчыка.

Вядома толькі адно: часопіс павінен быў выходзіць 8 раз у год. Але, як гэта ні дзіўна, а трэба прызнаць, што планавыя работнікі эканамісты, якія прымалі ўдзел у часопісе, не прывыклі дзяліць час на дні і нават месяцы, хоць такі ўлік часу цесна звязан з іх спецыяльнасцю. Часопіс выходзіў па-за часам. Чытач палітыка-эканамічнага часопіса, прызначанага абслугоўваць складаную планавую соцыялістычную гаспадарку, павінен знайсці ў ім тэарэтычнае ўзбраенне для барацьбы з рэшткамі класавага ворага.

Пацікавімся рэдакцыйным ядром, тэматыкай часопіса, складам яго аўтароў.

Ад пачатку 1934 г. рэдагуе часопіс Ракаў з 5-цю членамі рэдкалегіі, у тым ліку Галендо. № 4 падпісан рэдактарам Чорным і шматлікай рэдкалегіяй, знікшай цалкам у № 7—8 часопіса.

Да № 7—8 не было артыкулаў, выкрываючых класава-варожую тэорыю. Затое за 1934 год часопіс значнае месца адвёў артыкулам трацкіста Галендо, які скарыстаў яго старонкі для працягвання трацкісцкай кантрабанды.

У першым нумары часопіса Галендо пачынае з паклёпаў. Вось што ён піша на старонцы 8-й: «Мы павінны ўзяць пад асобы нагляд планавае развіццё і рост сеці народнай асветы і аховы здароўя, якія да гэтага часу зусім не планаваліся, а раслі стыхійна» і далей—«да 2-й паловы 1933 г. у пытаннях капітальнага будаўніцтва адсутнічаў які бы там ні было план».

У такой пастаноўцы пытання адразу відаць твар ворага, які стараецца аганьбіць усе нашы дасягненні і поспехі, аб'яўляючы іх рэзультатам стыхійнага росту, а не планава-соцыялістычнага будаўніцтва пад кіраўніцтвам партыі. Гэта тыповая контррэволюцыйная

трацкісцкая ўстаноўка—паклёпамі падарваць давер'е к кіраўніцтву партыі і ўрада.

У 3 і 4 нумарах часопіса Галендо, скажаючы сапраўднае становішча жывёлагадоўлі ў БССР, уводзіць у зман партыйныя органы і совецкую грамадскасць, усыпляючы іх рэволюцыйную пільнасць у барацьбе за сапраўдны ўздым жывёлагадоўлі. Такая манера скажэння нашай рэчаіснасці—звычайная зброя класавых ворагаў у барацьбе з партыяй.

У артыкуле «Чарговыя задачы планавай работы» («С. Б.» № 1) Галендо, вызначаючы задачы на 1934 год у галіне здабычы торфу і лесазагатовак, арыентуе планавікаў-гаспадарнікаў толькі на каня, як рычаг для выканання плана. Пытанні механізацыі, свядома, абойдзены, не гледзячы на прамую дырэктыву XVII з'езда партыі аб шырокай механізацыі гэтых галін народнай гаспадаркі.

Прыведзеным далёка не вычэрпваецца трацкісцка-контррэволюцыйны змест усіх артыкулаў Галендо.

Толькі пасля гнуснейшага забойства тав. Кірава зіноўеўскай агентурай, пасля выкрыцця трацкіста Галендо, у № 7—8 з'явіўся артыкул, прысвечаны XI усебеларускаму з'езду советаў, у якім была зроблена спроба ўзняць палітычную тэму. А да таго часу ў БССР нібы і не было лютай барацьбы з нацдэмаўшчынай, прышчэпаўшчынай, шматлікімі адценнямі шкодніцкіх контррэволюцыйных груп. Нібы агромныя перамогі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва БССР дасягнуты былі лёгка і плаўна, без напружанай барацьбы, без жорсткага супраціўлення класавых ворагаў.

Самасупакоенасць, адсутнасць большэвіцкай пільнасці, прымірэнцтва к трацкізму характэрны для работы часопіса.

Ёсць спробы апраўдацца тым, што часопіс вёў фактычна Галендо, які вытручваў з яго сапраўды большэвіцкія пазіцыі. Але дзе-ж былі сурэдактар, члены рэдкалегіі, нарэшце аўтары, рэгулярна пісаўшыя ў часопіс? Сярод аўтароў былі людзі, якія прашлі тэарэтычную падрыхтоўку і працуюць ў навуковых установах БССР, вучаць нашу моладзь у вышэйшых навучальных установах.

Як дазволілі яны ставіць свае прозвішчы, калі часопіс ні пабудовай, ні ўстаноўкамі сваімі не адпавядаў большэвіцкім пазіцыям, патрабаванням пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР.

У жыцці планавых органаў БССР вялікі зрух зрабіў першы з'езд райпланаў і выступленні на ім сакратара ЦК КП(б)Б тав. Гікало і старшыні СНК БССР т. Галадзеда. Яны паказалі, якую вялікую ўвагу ўдзяляе партыя і ўрад планавым органам, іх якаснаму ўздыму, каб яны лепш выконвалі вялікія і складаныя задачы соцыялістычнай будоўлі ў другой пяцігодцы, лепш складалі і змагаліся за выкананне плана, не адрываючы планавай работы ад непасрэднай творчасці на заводах і палях соцыялістычнай гаспадаркі.

Выступленне тав. Гікало абавязвае ўзняць на большую палітычную вышыню пытанні аб плане, яго складанні, аб планавых кадрах, аб барацьбе за план:

> «Трэба паставіць работу так, каб не адрывацца ад той агромнай баявой творчай работы, якая сёння вядзецца на палях калгасаў, ў МТС, зямельных органах, сярод аднаасобнікаў і т. д.».

Замест таго, каб шырока разгарнуць чоткую палітычную ўста-

ноўку, даную тав. Гікало, часопіс адарваўся ад баявой творчай работы, ад непасрэднага ўдзелу ў барацьбе з недабітым класавым ворагам.

* * *

Якім павінен быць часопіс?

Цэнтр цяжару нашых вывадаў з прагляду заключаецца ў тым, што ні ў якім разе нельга абмежавацца перабудовай паасобных частак часопіса, яго арганізацыйнымі зменамі. Трэба карэнным чынам перабудаваць часопіс,—пабудаваць яго нанова.

Часопіс павінен быць аперацыйным. Ён павінен дапамагчы ў аўладанні сістэмай социялістычнага планавання, у складанні планаў, выяўленні крыніц далейшага разгортвання прадукцыйных сіл кожнага раёна, найлепшым выкананні пастаноў XVII з'езда партыі аб другой пяцігодцы. Метадалогія і арганізацыя народна-гаспадарчага планавання і ўліку, кантроль за выкананнем планаў—вось стрыжань работы часопіса. Гэты раздзел павінен ясна і чотка ўкараняць большэвіцкую тэорыю планавання да раённых работнікаў уключна і разам з тым служыць крыніцай непасрэднай жывой сувязі з раённымі планавымі работнікамі, як карэспандэнтамі.

Планаваць—гэта значыць ведаць социялістычную гаспадарку, метады складання яе плана, ленінска-сталінскую тэорыю плана, спосабы барацьбы класавага ворага, які імкнецца падарваць план пабудовы бяскласавага грамадства.

Пытанні планавання социялістычнай гаспадаркі ў эканамічных і тэхнічных распрацоўках павінны быць узняты на агромную вышыню.

План социялістычнага будаўніцтва, як і выкананне яго, апіраецца на магутны энтузіязм, энергію і волю шырокіх мас рабочых і калгаснікаў стварыць социялістычнае грамадства. Часопіс павінен апірацца на шырокія кадры сапраўдных тварцоў социялістычнага грамадства, стаць зразумелым і блізкім усяму раённаму гаспадарчаму кіраўніцтву, якое стварае і выконвае план.

Часопіс павінен укараняць класавую пільнасць, вучыць як папярэджваць і выкрываць складаныя хады класавага ворага, які шалее тым больш, чым бліжэй яго канчатковая пагібель.

Побач з раздзеламі па асноўных галінах гаспадаркі, часопіс павінен даваць звязнае, комплекснае асвятленне структуры, напрамку і росту гаспадаркі раёнаў. Разам з асноўнымі паказчыкамі кан'юнктуры социялістычнай гаспадаркі БССР павінны быць даны асноўныя паказчыкі па СССР і тых рэспубліках і абласцях, з якімі паасобныя галіны нашай гаспадаркі вядуць социялістычнае спаборніцтва.

Патрэбна арганізаваць моцнае большэвіцкае ядро часопіса, стварыць аўтарскі актыў з людзей, якія ведаюць эканоміку і тэхніку народнай гаспадаркі БССР і непадзельна адданы вялікай социялістычнай будоўлі.

Палітычная пільнасць, мэтанакіраванасць павінны пранізаць змест часопіса, зрабіць яго аперацыйным, жывым органам—непасрэдным удзельнікам у стварэнні і выкананні планаў социялістычнай будоўлі БССР.

---

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**В. В. КУЙБЫШЭЎ.** (1888—1935). Пер. з рускай мовы. Партвыдавецтва ЦК КП(б)Б 1935 г. С. 93. Ц. 30 к.

У кнізе змешчаны матар'ялы і артыкулы правадыроў нашай партыі, прысвечаныя памяці слаўнага большэвіка, члена палітбюро ЦК ВКП(б), намесніка старшыні Соўнаркома СССР—Валер'яна Владзіміравіча Куйбышэва.

Аб слаўным шляху тав. Куйбышэва, яго ўдзеле ў рэволюцыі 1905 года, гадах царскай катаргі і ссылкі, нястомнай рабоце ў якасці выдатнага палітычнага кіраўніка Чырвонай арміі ў час грамадзянскай вайны, аб велізарнейшай і адказнейшай рабоце ў кіраўніцтве нашым дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтвам успамінаюць у гэтай кнізе саратнікі Валер'яна Владзіміравіча.

Успаміны ярка паказваюць, якога вялікага пролетарскага рэволюцыянера, паслядоўнага ленінца, непрымірымага да ворагаў партыі і рабочага класа, самаадданейшага барацьбіта за справу комунізма страціла наша краіна ў асобе В. В. Куйбышэва.

**ПОСТЫШЕВ П. О некоторых задачах марксистско-ленинского образования.**

Из речи на пленуме Киевского горпарткома 22 февраля 1935 г. Партиздат ЦК ВКП(б) С. 22. Ц. 20 к.

Прамова тав. Постышэва прысвечана асноўным задачам марксісцка-ленінскага выхавання на сучасным этапе.

Тав. Постышэў указвае, што зараз асабліва патрэбна яшчэ больш глыбокае веданне членамі партыі гісторыі ВКП(б), барацьбы партыі з рознымі антыленінскімі плынямі і групоўкамі, гісторыі міжнароднага рэволюцыйнага руху, гісторыі Комінтэрна.

Падкрэсліваючы, што цэнтральным звяном пастаноўкі марксісцка-ленінскага выхавання з'яўляецца прапагандыст, тав. Постышэў спыняецца на павышэнні культурна-тэарэтычнага ўзроўню прапагандыста, на ўменні выхоўваць слухачоў у духу беззаветнай адданасці партыі і ленінска-сталінскай непрымірымасці да яе ворагаў.

Аперуючы фактамі пастаноўкі партвучобы на розных прадпрыемствах, ён завастрае ўвагу прапагандыста на даступнасці і прастаце мовы, барацьбе супроць спрашчэнцтва і павярховасці ў партвучобе, уменні ўвязаць на занятках агульна-палітычныя праблемы і задачы з задачамі партыйных арганізацый на месцах.

Тав. Постышэў указвае на неабходнасць вывучэння украінскай мовы, гісторыі, эканомікі і культуры Украіны, вылучэння новых кадраў з лепшых людзей соцыялістычнай прамысловасці і палёў.

**ГЕКЕРТ Ф. Выратуем Тэльмана.** Менск ДВБ. 1935 г. С. 26. Ц. 20 к.

Брашура аб слаўным правадыру германскіх рабочых, перадавым змагару супроць фашызма, таварышу Тэльмане. Тав. Гекерт падрабязна паказвае, чаму германскі фашызм дамагаецца пакарання смерцю тав. Тэльмана, выкрывае гнусную правакацыйную тактыку гітлераўцаў, іх утончаную інквізіцыю над лепшымі прадстаўнікамі германскага пролетарыята.

Аўтар дае кароткую біяграфію тав. Тэльмана, апісвае ўвесь яго слаўны жыццёвы шлях і рэволюцыйную дзейнасць і раз'ясняе, чаму да гэтага часу фашысты не могуць адважыцца на забойства Тэльмана. Тав. Гекерт паказвае, што выратаванне Тэльмана—справа гонару ўсяго міжнароднага пролетарыята.

**БЕРНАР Л. Іспанія ў агні.** Пераклад з рускага. Менск. ДВБ. 1935 г. С. 31. Ц. 20 к.

Папулярная кніжка Л. Бернара коратка абрысоўвае асноўныя моманты іспанскай рэволюцыі, пачынаючы са звяржэння манархіі і канчаючы гераічнай барацьбой гарнякоў Астурыі ў кастрычніку 1934 года. Аўтар паказвае рост эксплаатацыі іспанскіх рабочых за апошнія гады і жудасныя ўмовы існавання сялянства, за кошт якіх растуць багацці буржуазіі, памешчыкаў і каталіцкай царквы.

Паказана разгортванне ўсеагульнай стачкі і ўзброенага паўстання іспанскіх працоўных, гераічная барацьба гарнякоў Астурыі, кіраўнічая роля компартыі ў паўстанні і раз'юшаны тэрор буржуазіі, якая святкуе сваю часовую перамогу. Аналізуючы урокі кастрычніцкіх баёў у Іспаніі, аўтар заклікае працоўных усіх краін на дапамогу іспанскім рабочым, якія, не гледзячы на часовае паражэнне, прадаўжаюць барацьбу за звяржэнне буржуазіі і ўстанаўленне ўлады советаў.

**СТАСАВА Е. Д. Адзіны фронт жанчын супроць вайны і фашызма.** Менск, ДВБ. 1935 г.

Аўтар апісвае падрыхтоўку, ход і значэнне сусветнага кангрэса працоўных жанчын, які адбыўся ў жніўні 1934 года ў Парыжы. Знаёмячы з рознымі прадстаўленымі на кангрэсе плынямі ў міжнародным жаночым руху, тав. Стасава паказвае, як соцыял-згоднікі імкнуліся раскалоць адзіны фронт жанчын усіх краін супроць пагрозы вайны і фашысцкай небяспекі.

Падкрэсліўшы значны ўплыў, якім карысталася совецкая дэлегацыя, выставіўшая чоткія лозунгі барацьбы за мір і вызваленне працоўных жанчын ва ўсім свеце, тав. Стасава ацэньвае кангрэс, як велізарнейшае дасягненне ў галіне стварэння адзінага фронта супроць вайны і фашызма.

**Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР імя Леніна**

# Пастановы пленума і бюро ЦК КП(б)Б

## Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў КП(б)Б

**Пастанова пленума ЦК КП(б)Б, прынятая па дакладу тав. Валковіча.**

1. Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што пры наяўнасці некаторых зрухаў у разгортванні партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў партыйных арганізацыях КП(б)Б, усё-ж да гэтага часу гэта работа не заняла яшчэ цэнтральнага месца ва ўсёй рабоце партыйных арганізацый. Партыйныя арганізацыі КП(б)Б дагэтуль не паставілі ў цэнтр сваёй увагі пытанні ідэйна-палітычнага выхавання комуніста, яго ўзбраення тэорыяй Маркса—Леніна—Сталіна. Той факт, што на працягу апошняга паўгоддзя рад райкомаў партыі ні разу не абмяркоўвалі пытанняў партыйнай работы, гаворыць аб тым, што партыйныя арганізацыі КП(б)Б яшчэ не зрабілі ўсіх неабходных практычных вывадаў з рашэння XVII з'езда партыі і ўказання т. Сталіна аб падняцці арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва і рашучага павышэння якасці ідэйна-палітычнага выхавання комуніста.

2. Буйнейшыя поспехі, дасягнутыя КП(б)Б у галіне гаспадарчай работы, знашоўшыя сваё выражэнне ў атрыманні БССР вышэйшай узнагароды—ордэна Леніна, асаблівая роля БССР, як фарпоста соцыялізма на межах капіталістычнага Захада—патрабуюць ад КП(б)Б настойлівай большэвіцкай работы па ліквідацыі існуючага адставання арганізацыйна-партыйнай работы ад узроўню палітычнага кіраўніцтва, патрабуюць такой арганізацыі палітычна-выхаваўчай работы, каб ператварыць кожнага комуніста ў большэвіцкага арганізатара беспартыйных мас рабочых і калгаснікаў. Пленум ЦК КП(б)Б зварачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што падняцце боездольнасці нашых партыйных арганізацый прама і непасрэдна залежыць ад вырашэння гэтай важнейшай палітычнай задачы.

3. Выкананне гэтай асноўнай задачы патрабуе карэннай перабудовы работы як раённых камітэтаў партыі, так і пярвічных партыйных арганізацый. Неабходна рашуча пакончыць з фактамі канцэлярска-бюракратычных метадаў кіраўніцтва, калі настойлівая штодзенная крапатлівая работа па вывучэнню людзей, іх выхаванню, вырошчванню і вылучэнню падмяняецца часамі адміністраваннем і загадам, калі штодзенная практычная дапамога комуністу ў яго рабоце, папярэджанне магчымых памылак падмяняецца партыйнымі спагнаннямі. Гэта асабліва важна ва ўмовах партыйнай арганізацыі Беларусі, дзе мы маем параўнаўча малады па партыйнаму стажу склад партыйнай арганізацыі, дзе праблемы выхавання нацыянальных пар-

тыйных кадраў патрабуюць упартай, настойлівай і ўдумчывай работы над вырошчваннем кожнага комуніста, яго выхаваннем і ідэйна-палітычным узбраеннем.

4. Пленум ЦК звярачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на буйнейшыя недахопы ў галіне арганізацыйна-партыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, якія былі выкрыты ў КП(б)Б у рэзультаце абмеркавання ўрокаў, звязаных са зладзейскім забойствам т. Кірава падонкамі зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы і на хутчэйшае зжыванне якіх (недахопаў) павінны быць мабілізаваны ўсе сілы КП(б)Б:

а) райкомы, гаркомы і пярвічныя партыйныя арганізацыі, адсунуўшы партыйную работу на другое месца, загрузіўшы сябе гаспадарчай работай і часамі падмяняючы гаспадарчы і совецкі апарат, пакідаючы часта на задворках арганізатарскую выхаваўчую работу, выпусцілі з поля свайго зроку асноўнае пытанне работы партыйнай арганізацыі—ідэйна-палітычнае выхаванне комуніста;

б) партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ не паставілі належным чынам кіраўніцтва марксісцка-ленінскім выхаваннем. Не наладжана і не забяспечана поўнасцю дапамога комуністам у вывучэнні гісторыі партыі, у асаблівасці ў вывучэнні пасляокцябрскага перыяда—барацьбы нашай партыі з антыленінскімі групоўкамі.

У прапагандысцкай рабоце моцны неўласцівыя большэвізму схаластычныя навыкі. Празмерна вялікае значэнне набылі чыста вучэбныя, школьныя метады, ва ўшчэрб гуртковым метадам і гутаркам. Ёсць у наяўнасці элементы аказёньвання партыйнай вучобы;

в) райкомы, гаркомы і пярвічныя партыйныя арганізацыі не аддавалі сур'ёзнай увагі пытанням падбору, вывучэння, вырошчвання і вылучэння комуністаў. Асноўным буйнейшым недахопам у рабоце партыйных арганізацый з'яўляецца няведанне людзей і, у прыватнасці, актыва. Адсюль—адсутнасць канкрэтнага падыходу да выхавання кожнага члена партыі, адсутнасць канкрэтнай і своечасовай дапамогі комуністу ў яго рабоце, у яго прасоўванні ў адпаведнасці з яго ростам, большэвіцкімі якасцямі і здольнасцямі. Няведанне людзей партыйным кіраўніцтвам не магло не сказацца на тым, што вырасшы ў барацьбе за пабудову бяскласавага грамадства новы актыў адданых партыі людзей аказваўся ў радзе выпадкаў прадастаўленым самому сабе, не будучы ўцягнутым ў актыўную работу. Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца тое, што арганізацыя груп спачуваючых і работа з імі не была разгорнута;

г) ГК, РК і пярвічныя партарганізацыі не зразумелі ўсёй выключнай палітычнай важнасці барацьбы за моладзь, не зразумелі таго, што паколькі моладзь хутчэй пападае на вудачку класавага ворага, бо яна не ведае мінулага, ёй цяжка раўнаць новае са старым—патрабуецца асаблівая неаслабная ўвага ўсёй партыйнай арганізацыі да пытанняў кіраўніцтва, выхавання і ідэйнага ўзбраення марксісцка-ленінскай тэорыяй. Гэтым неразуменнем тлумачыцца і тое, што дагэтуль аддаецца зусім недастатковая ўвага пытанням прыцягнення кіруючых партыйных кадраў да выхаваўчай і прапагандысцкай работы сярод моладзі;

д) большэвіцкія формы партыйнай работы, выхаванне, вырошчванне комуністаў, праверанных практыкай нашай партыі, як: асобныя заданні комуністу, справаздачы паасобных комуністаў аб выкананні партыйных заданняў і рабоце над сабою, прыцягненне комуністаў да падрыхтоўкі асобных пытанняў, разглядаемых пярвічнымі арга-

нізацыямі, райкомамі і гаркомамі, пастаноўка дакладаў паасобных комуністаў на цэхавых, агульназаводскіх і раённых партыйных сходах, прыцягненне актыва да ўдзелу ў практычнай рабоце парткомаў, райкомаў і гаркомаў, ператварэнне партыйных сходаў у сапраўдную школу па выхаванню комуністаў—усе гэтыя формы не знашлі дастатковага адлюстравання ў практыцы работы як пярвічных партыйных арганізацый, так і гаркомаў і райкомаў.

У рэзультаце гэтага пытанні выхавання комуністаў у значнай сваёй частцы былі прадастаўлены самацёку, што не магло не прывесці ў некаторых арганізацыях (Гарадок, Ельск, Мсціслаўль, шклозавод імя Сталіна) да паніжэння іх боездольнасці і аслаблення ролі партыйных арганізацый, як баявых арганізатараў рабочых і калгасных мас.

Пленум ЦК адзначае, што становішча партыйна-масавай, выхаваўчай работы на прадпрыемствах, якія знаходзяцца ў сельскіх раёнах (ільнозаводах, шклозаводах, спіртзаводах), з'яўляецца найбольш адсталым і патрабуе да сябе найбольш сур'ёзнай увагі з боку ГК і РК.

5. Пленум ЦК зварачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што большэвіцкая барацьба за рашучае зжыванне буйнейшых недахопаў у арганізацыйна-партыйнай і палітычна-выхаваўчай рабоце, мабілізацыя ўсіх сіл партыі на канкрэтнае ажыццяўленне рашэнняў XVII з'езда партыі і ўказанняў т. Сталіна аб падняцці арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва і рашучага павышэння якасці ідэйна-палітычнага выхавання павінны стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных арганізацый. Гэта асабліва важна ў сувязі з тым, што абмеркаванне ў партыйных арганізацыях КП(б)Б урокаў падзей, звязаных са зладзейскім забойствам т. Кірава, ускрыла рад буйнейшых недахопаў у пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў партыйных арганізацыях і наяўнасць у паасобных звеннях КП(б)Б праяўленняў апартуністычнага дабрадушша, самазаспакаення, выцякаючых з забывання таго, што чым мы хутчэй прасоўваемся наперад па шляху пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства,—тым больш вострa класавая барацьба.

У якасці практычных мерапрыемстваў пленум ЦК прапануе ажыццявіць наступнае:

### У галіне вырошчвання, падбору і вылучэння партыйных кадраў

1. Устанавіць, што сакратары райкомаў і гаркомаў павінны асабіста ведаць не толькі па ўчотных даных, але і па канкрэтнай практычнай рабоце ўсіх сакратароў пярвічных партыйных арганізацый, усіх парторгаў партыйна-комсамольскіх груп, а сакратары пярвічных партыйных арганізацый—кожнага комуніста данай партыйнай арганізацыі. Разам з тым, абавязаць сакратароў ГК, РК і пярвічных партыйных арганізацый устанавіць такую сістэму асабістага вывучэння і знаёмства з работай паасобных комуністаў, каб у рэзультаце гэтага сістэматычна выяўляліся растучыя актыўныя комуністы, якіх магчыма прасунуць і вылучыць на кіруючую работу.

Абавязаць ГК, РК і пярвічныя партарганізацыі паставіць спецыяльна работу з паказанымі таварышамі (зварачаць асаблівую ўвагу на іх ідэйнае выхаванне, прыцягненне да работы парткомаў, ГК і РК, спецыяльныя адказныя заданні і т. д.).

2. Асаблівае значэнне ў нашых умовах набывае пытанне аб вывучэнні комуністаў-адзіночак, якія складаюць да 50 проц. сельскай партыйнай арганізацыі. Пленум ЦК лічыць, што сакратары райкомаў і гаркомаў павінны, побач з інструктарамі райкомаў і гаркомаў, асабіста азнаямляцца з работай комуністаў-адзіночак, ведаць канкрэтна работу кожнага з іх і забяспечыць ім сістэматычную дапамогу, кіраўніцтва і прасоўванне растучых праверaных комуністаў-адзіночак на больш буйныя работы.

3. Пленум ЦК абавязвае ўсе ГК і РК усе пытанні прызначэння комуністаў на работу разглядаць толькі пасля асабістага азнаямлення кіруючых работнікаў гаркомаў і райкомаў з данымі комуністамі, пасля дакладнага знаёмства з іх работай не толькі па ўчотных даных, але знаёмства з усёй ранейшай работай комуністаў. Пытанне аб пасылцы комуніста на работу павінна ў кожным паасобным выпадку вырашацца бюро гаркома і райкома ў прысутнасці комуніста, кандыдатура якога абгаварваецца.

4. Пленум ЦК лічыць, што да работы па вырошчванню, падбору і вылучэнню партыйных кадраў павінны быць прыцягнуты ўсе члены райкомаў і гаркомаў шляхам асабістай сістэматычнай сувязі, знаёмства і дапамогі кожнага члена гаркома і райкома пэўнай групе комуністаў. Пленум папярэджвае, што за няўдалы падбор партыйных кадраў нясе адказнасць асабіста сакратар ГК і РК.

5. Пленум абавязвае Менскі, Гомельскі і Віцебскі ГК і Магілеўскі РК стварыць у сябе рэзерв для вылучэння ад 50 да 100 чалавек, а астатнія райкомы ад 10 да 35 чалавек з тым, каб гэтыя таварышы былі ўзяты на спецыяльны ўчот і сістэматычнае вывучэнне і з імі была пастаўлена асобая работа.

Лічыць неабходным выдзяленне ў ЦК рэзерва ў 100—150 чалавек для прасоўвання і вылучэння на кіруючую партыйную работу. Распрацаваць суму практычных мерапрыемстваў, забяспечваючых вывучэнне і прыцягненне іх да практычнай партыйнай работы.

Пленум лічыць неабходным больш шырокае прыцягненне членаў і кандыдатаў ГК і РК да штодзеннай практычнай работы ГК і РК (да справы праверкі выканання рашэнняў вышэйстаячых арганізацый, папярэдняй распрацоўкі пытанняў, якія абмяркоўваюцца на бюро ГК і РК і т. д.).

6. Пленум звярачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на зусім недапушчальнае становішча ўчоту комуністаў як у РК і ГК, так і ў пярвічных партыйных арганізацыях. Пленум абавязвае асабіста сакратароў РК забяспечыць такую пастаноўку ўчоту, якая садзейнічала-б вывучэнню комуністаў і адлюстроўвала-б сапраўднае становішча партыйнай арганізацыі.

Пленум даручае бюро ЦК у двухдэкадны тэрмін арганізаваць суцэльную праверку і інструктаж пастаноўкі ўчоту комуністаў як у РК, так і ў пярвічных партарганізацыях. Пленум папярэджвае ўсіх сакратароў РК, што яны нясуць персанальную адказнасць за пастаноўку ўчоту комуністаў.

Устанавіць, што ўчотчыкі РК і ГК зацвярджаюцца непасрэдна бюро ЦК. Забараніць зняцце з работы і перасоўку гэтых работнікаў без рашэння ЦК.

7. Пленум ЦК прапануе прыняць да няўхільнага выканання рашэнне ЦК ВКП(б) аб правядзенні партыйных актываў і абавязвае РК і ГК праводзіць раённыя і гарадскія партыйныя актывы для абга-

варэння важнейшых рашэнняў ЦК ВКП(б), ЦК КП(б)Б і буйных пытанняў раёна і горада.

8. Даручыць ЦК у месячны тэрмін распрацаваць канкрэтны план падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партыйных кадраў, забяспечыўшы сістэматычную падрыхтоўку і перападрыхтоўку партыйнага актыва.

Абавязаць ГК і РК у месячны тэрмін прадставіць у ЦК планы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі раённага партыйнага актыва.

## Аб партыйных сходах і рабоце з комуністамі-адзіночкамі

1. Пленум ЦК зварачае ўвагу ўсёй партыйнай арганізацыі на тое, што партыйныя сходы да гэтага часу ўсё яшчэ не ператварыліся ў важнейшую школу ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў. Партыйныя сходы збіраюцца нерэгулярна, дакладна не падрыхтоўваюцца, павесткі для сходаў вызначаюцца без сур'ёзнага прадумвання, без учота запросаў партыйных мас, без учота важнасці пытанняў для данай партыйнай арганізацыі.

Усё гэта з'яўляецца рэзультатам недаацэнкі партыйнымі арганізацыямі важнейшага значэння партыйнага сходу ў справе большэвіцкага выхавання членаў партыі.

Пленум ЦК указвае ўсім партыйным арганізацыям на тое, што да склікання партыйнага сходу партыйнае кіраўніцтва павінна аднесціся, як да важнейшай справы ў жыцці партыйнай арганізацыі, адсюль падрыхтоўка і правядзенне партсходу павінны быць пастаўлены такім чынам, каб кожны партыйны сход падымаў яго ўдзельнікаў на пэўную ступень.

2. Пленум ЦК, падкрэсліваючы станоўчы вопыт правядзення адзіных партдзён, указвае, аднак, усім партыйным арганізацыям на неабходнасць дыферэнцыяванага падыходу да падрыхтоўкі партыйнага дня на кожнай групе, прадпрыемстве, установе, у калгасах, асаблівага дасканалага, канкрэтнага, дыферэнцыяванага падыходу да падбору пытанняў, падлягаючых абгаварэнню на партыйным сходзе не толькі для групы прадпрыемстваў, але і для кожнага прадпрыемства, калгаса, соўгаса, установы паасобку.

Пленум асабліва зварачае ўвагу партыйных арганізацый на тое, што асноўнай умовай, забяспечваючай правядзенне партыйнага сходу на высокім палітычным узроўні, з'яўляецца прадуманы выбар дня, гадзіны, месца склікання партыйнага сходу, шырокае папярэдняе—за 2—3 дні—апавяшчэнне ўсіх комуністаў аб партыйным сходзе і павестцы дня сходу, дасканалая падработка павесткі дня партыйнага сходу, падрыхтоўка дакладчыка, прыцягненне комуністаў да падрыхтоўкі пытанняў к партыйнаму сходу, учот пры рашэнні пытанняў прапаноў, унесеных комуністамі і, нарэшце, дасканалы кантроль выканання партыйных рашэнняў.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі на кожным партыйным сходзе ставіць інфармацыю сакратара аб выкананні рашэнняў, прынятых папярэднім партыйным сходам. Пленум абавязвае партыйныя арганізацыі ў аснову работы партыйнага сходу палажыць пытанні арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы.

3. Пленум ЦК указвае РК і ГК, што падрыхтоўка і правядзенне партыйных сходаў з комуністамі-адзіночкамі пастаўлена зусім нездавальняюча. Пленум абавязвае ГК і РК збіраць партыйныя сходы комуністаў-адзіночак не менш двух раз у месяц, згуртоўваючы комуністаў-адзіночак на куставыя партсходы па характару работы апош-

ніх (адзіночкі, працуючыя ў сельсоветах, адзіночкі калгасаў, адзіночкі школы, лекавых устаноў і т. д.).

Падрыхтоўцы сходу і падбору пытанняў на куставыя сходы комуністаў-адзіночак павінна быць аддана выключная ўвага. Побач з агульна-палітычнымі пытаннямі на гэтых сходах павінны абгаварвацца пытанні партыйнай работы ў паасобных групах прадпрыемстваў і ўстаноў (аб партрабоце комуністаў-адзіночак у калгасах, аб партрабоце комуністаў-адзіночак у сельсоветах і т. д.).

Побач з гэтым, на агульных сходах комуністаў-адзіночак павінны заслухоўвацца справаздачы аб рабоце комуніста-адзіночкі на даным прадпрыемстве з папярэднім дасканалым абследваннем інструктароў ГК і РК.

ГК і РК павінны забяспечыць дапамогу і дасканалы кантроль за выкананнем комуністамі-адзіночкамі даваемых ім заданняў і рашэнняў агульных сходаў комуністаў-адзіночак.

4. Лічыць няправільным аб'яднанне комуністаў-адзіночак у пярвічныя партарганізацыі, што нельга інакш расцэньваць, як спробу РК і ГК замест сур'ёзнай крапатлівай работы па выхаванню комуністаў-адзіночак адмахнуцца ад гэтай работы.

Пленум ЦК асабліва падкрэслівае важнасць палепшання і неадкладнага разгортвання работы з комуністамі-адзіночкамі, у сувязі з тым, што пытанне аб арганізацыйна-партыйнай і палітычнай рабоце ў сельскіх партыйных арганізацыях ёсць у асноўным пытанне аб рабоце з адзіночкамі-комуністамі.

Пленум ЦК абавязвае РК і ГК і тэрытарыяльных інструктароў РК і ГК забяспечыць: асабістае штодзеннае знаёмства і вывучэнне работы кожнага комуніста-адзіночкі, увядзенне ў практыку канкрэтных заданняў і дапамогу кожнаму комуністу-адзіночцы як па лініі яго работы з беспартыйным актывам, так і па лініі работы комуніста-адзіночкі над сабой.

Інструктар абавязан весці асабістую работу па выхаванню кожнага комуніста-адзіночкі паасобку (растлумачэнне комуністу-адзіночцы рашэнняў партыі і ўрада, кіраўніцтва комуністам у чытанні газет і літаратуры, дапамога і інструктаж комуніста ў яго рабоце з актывам, правядзенні палітгутарак і т. д.).

## Інфармацыя і праверка выканання

1. Правільна арганізаваная інфармацыя павінна адыграць важнейшую ролю ў ажыццяўленні большэвіцкага кіраўніцтва пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі і комуністамі-адзіночкамі. Інфармацыя павінна спрыяць своечасоваму папярэджанню паасобных прарываў у рабоце партыйных арганізацый, абагульванню вопыту работы партыйнай арганізацыі і перанясенню гэтага вопыту ў другія арганізацыі, спрыяць выяўленню спецыфічных асаблівасцей работы паасобных партыйных арганізацый і, такім чынам, дапамагаць дыферэнцыяванаму кіраўніцтву паасобнымі партыйнымі арганізацыямі і групамі комуністаў.

Аднак, не гледзячы на выключна важнае значэнне правільнай пастаноўкі інфармацыі, работа гэта да гэтага часу пастаўлена зусім нездавальняюча. Пленум ЦК абавязвае РК і ГК забяспечыць праз інструктарскі апарат дасканалае вывучэнне пратаколаў пярвічных партыйных арганізацый, лістоў комуністаў, матар'ялы раённых газет аб партыйнай рабоце.

Абавязаць усе раённыя газеты арганізаваць аддзелы партыйнага жыцця з тым, каб у гэтых аддзелах у кожным нумары газеты асвятляліся пытанні партыйнай работы ў раёне (работа паасобных комуністаў пярвічнай партарганізацыі, парторга, партасвета і т. д.).

Даручыць бюро ЦК распрацаваць практычныя мерапрыемствы па ўзмацненню работы аддзелаў партыйнага жыцця цэнтральных газет («Звязда», «Рабочий»), умацаваўшы аддзелы партыйнага жыцця вопытнымі партыйнымі работнікамі.

У мэтах шырокай пастаноўкі абмену вопытам партыйнай работы і дапамогі кіруючым партыйным кадрам, пленум даручае бюро ЦК перабудаваць журнал «Большэвік Беларусі» у напрамку максімальнага асвятлення партыйнай работы і абмену вопытам з тым, каб не менш паловы журнала было аддана пытанням партбудаўніцтва.

2. Праверка выканання партыйных рашэнняў павінна пачацца неадкладна пасля вынясення рашэння, і асноўным зместам праверкі выканання павінна быць арганізацыя аперацыйнага выканання прынятага рашэння. Без сур'ёзна арганізаванай сістэматычнай праверкі выканання партыйных рашэнняў немагчыма наогул большэвіцкая барацьба з бюракратызмам і канцэляршчынай, немагчыма папярэджанне зрываў у рабоце, немагчыма арганізацыя аперацыйнай работы партыйнага апарата.

Пленум прапануе ўсім партарганізацыям ставіць на абгаварэнне і праводзіць на практыцы дырэктывы вышэйстаячых партыйных арганізацый, не дапускаючы механічнага перапісвання гэтых дырэктыў.

Пленум папярэджвае сакратароў ГК і РК, што адным з асноўных іх абавязкаў з'яўляецца кантроль за выкананнем партыйных рашэнняў і што яны нясуць персанальную адказнасць за своечасовае выкананне партыйнага рашэння. Асноўным зместам работы інструктара зрабіць кантроль за выкананнем партыйнага рашэння і арганізацыю аперацыйнага выканання прынятага рашэння.

Пленум абавязвае РК і ГК пашырыць практыку самасправаздач комуністаў як на пярвічных партыйных арганізацыях, так і на бюро РК і ГК аб іх рабоце, зрабіўшы так, каб асновай самасправаздач з'явілася роля комуністаў, як арганізатараў мас (удзел у партыйным жыцці, работа над сабой, работа сярод беспартыйных і т. д.).

Пастаноўцы самасправаздачы комуніста павінна прадшэстваваць праверка работы данага комуніста, у якую павінна быць уцягнута група актыўных комуністаў з тым, каб самаправерка з'явілася для правяраючых сур'ёзным элементам выхавання.

Пленум даручае бюро ЦК арганізаваць работу аддзелаў ЦК такім чынам, каб асновай іх работы зрабіць кантроль выканання прынятых бюро ЦК рашэнняў.

## Аб рабоце парткомаў і інструктароў

1. Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае РК, ГК і парткомы асноўным зместам сваёй работы зрабіць партыйна-арганізацыйную і палітычна-выхаваўчую работу. ГК і РК і парткомы павінны падыходзіць да вырашэння ўсіх гаспадарчых пытанняў з пункту погляду разгортвання партыйна-масавай палітычнай работы сярод комуністаў, іх арганізацыі на большэвіцкае выкананне пастаўленых задач, мабілізацыі комуністамі беспартыйнага актыва, рабочых і калгасных мас вакол ажыццяўлення задач партыі.

РК, ГК і парткомы павінны забяспечыць пераважнае месца ў па- вестках дня партыйных пытанняў, пытанняў работы партыйнай групы, пярвічнай партыйнай арганізацыі і кожнага комуніста паасобку. Неабходна дабіцца таго, каб да падрыхтоўкі гэтых пытанняў быў максімальна прыцягнут партыйны актыў, які на гэтай рабоце атры- маў-бы магчымасць палітычнага росту.

2. Увесці ў практыку рэгулярнае скліканне сакратарамі РК і ГК сакратароў парткомаў, парторгаў і цэхпарторгаў для абмеркавання важнейшых рашэнняў РК і ГК і вышэйстаячых партыйных органаў. Побач з гэтым, увесці ў практыку рэгулярнае скліканне сакратарамі парткомаў цэхпарторгаў. Нарады сакратароў парткомаў і цэхпарт- оргаў павінны быць прысвечаны распрацоўцы практычных мер па выкананню рашэнняў РК, ГК і вышэйстаячых партыйных органаў і палепшанню работы парткомаў, парторгаў і цэхпарторгаў.

Абавязаць РК і ГК забяспечыць сістэматычную справаздачнасць партыйных камітэтаў перад партарганізацыяй, справаздачнасць парт- оргаў перад партыйнай групай (прыцягваючы членаў пленума).

3. Пленум даручае бюро ЦК выдаць серыю бібліятэчак па парт- рабоце ў дапамогу цэхпарторгу, парторгу і сакратару парткома; арга- нізаваць сістэматычныя экскурсіі сакратароў парткомаў, цэхпарторгаў на буйныя прадпрыемствы Масквы і Ленінграда для абмену вопытам партыйнай работы, арганізаваць сетку каротка-тэрміновых курсаў для сакратароў парткомаў, парторгаў і цэхпарторгаў.

4. Пленум ЦК лічыць, што побач з партыйнымі сходамі, якія, як правіла, павінны быць закрытымі, трэба арганізаваць шырокую палі- тычную інфармацыю рабочых данага прадпрыемства па пытаннях: палітыкі партыі, міжнароднага і ўнутранага становішча і ўсіх мера- прыемстваў партыі і ўрада.

Адной з форм масава-палітычнай работы з'яўляецца знашоўшая шырокае прымяненне на радзе буйных прадпрыемстваў БССР прак- тыка правядзення рэгулярных палітдзён. Пленум ЦК даручае ГК, РК і парткомам шырока практыкаваць правядзенне палітдзён, забяспе- чыўшы прадпрыемствы высокакваліфікаванымі, праверанымі даклад- чыкамі; арганізаваць хуткае рэагаванне на ўзнікшыя ў ходзе правя- дзення палітдня пытанні, інфармуючы рабочых аб рэзультатах.

Асноўнай задачай інструктара павінна быць канкрэтная дапамога ніжэйстаячай партыйнай арганізацыі ў палепшанні партыйна-аргані- зацыйнай і палітычна-масавай работы, у пастаноўцы работы па вы- рошчванню і вылучэнню, абагуленню вопыту работы перадавых пар- тыйных арганізацый і перанясенне гэтага вопыту ва ўсе партыйныя арганізацыі, вывучэнне на практычнай рабоце партыйнага актыва, прадстаўленне РК і ГК у ЦК здольных, правераных і растучых тава- рышоў для іх далейшага прасоўвання, арганізацыя кантролю за вы- кананнем партыйных рашэнняў.

5. Пленум ЦК абавязвае сакратароў ГК і РК не менш аднаго разу ў дэкаду склікаць нарады інструктароў для заслухоўвання інфарма- цыі аб праводзімай інструктарам рабоце і для распрацоўкі канкрэт- ных мерапрыемстваў па палепшанню работы інструктарскага апарата.

Бюро ЦК арганізаваць сістэматычную перападрыхтоўку інструк- тарскага складу, забяспечыўшы пропуск адзін раз у год кожнага інструктара праз месячныя курсы. Лічыць, што два дні ў месяц па- вінны быць спецыяльнымі днямі партвучобы інструктара.

6. Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што наперакор рашэнню XVII з'езда ВКП(б) аб стварэнні партгруп у выбарных органах пазапартыйных арганізацый, да гэтага часу ГК і РК КП(б)Б у большасці выпадкаў нават не прыступілі да арганізацыі такавых. Пленум абавязвае ГК і РК у месячны тэрмін арганізацыйна аформіць партгрупы ва ўсіх выбарных органах пазапартыйных, грамадска-масавых арганізацыях, згодна статуту партыі. Увесці ў практыку рэгулярнае скліканне сакратароў партгруп па асобных галінах работы для абмеркавання важнейшых мерапрыемстваў партыі, падлягаючых ажыццяўленню ў данай галіне работы.

### Аб рабоце са спачуваючымі

7. Пленум ЦК звярачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што работа са спачуваючымі да гэтага часу пастаўлена зусім нездавальняюча. РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі не аддаюць дастатковай увагі пытанню ўцягвання ў групы спачуваючых «найбольш блізкіх да партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе на вытворчасці сваю адданасць партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю» (статут ВКП(б)), у рэзультаце чаго на значнай колькасці прадпрыемстваў і ўстаноў групы спачуваючых зусім не арганізаваны, там-жа, дзе гэтыя групы спачуваючых арганізаваны, работа пастаўлена выключна слаба. Асабліва недапушчальнае становішча з уцягваннем у групы спачуваючых найбольш блізкіх да партыі беспартыйных актывістаў мы маем у савецкіх установах, ВНУ, ВТНУ і т. д.

Пленум адзначае, што работа па ўзмацненню груп спачуваючых, іх ідэйна-палітычнаму выхаванню набывае важнейшае значэнне ў сувязі з тым, што групы спачуваючых, побач з комсамолам, з'яўляюцца адным з асноўных каналаў папаўнення партыі стойкімі, моцнымі большэвікамі. Важнейшай часткай выхаваўчай работы сярод спачуваючых павінна быць пастаноўка вывучэння імі гісторыі нашай партыі і большэвіцкіх традыцый.

Пленум абавязвае РК і ГК КП(б)Б вылучыць для работы са спачуваючымі лепшых праверных і палітычна падрыхтаваных комуністаў, уцягнуць спачуваючых у практычную грамадскую партыйную работу шляхам дачы ім партыйных даручэнняў, правяраючы спачуваючых на практычнай рабоце і выхоўваючы іх у духу большэвіцкай партыйнасці і дысцыпліны.

РК і ГК КП(б)Б павінны арганізаваць скліканне спачуваючых пры ГК, РК, парткомах і арганізаваць пастаянную праверку кіраўніцтва работай партыйных камітэтаў са спачуваючымі, маючы на ўвазе неабходнасць дыферэнцыяванага падыходу да паасобных груп спачуваючых.

8. Пленум ЦК лічыць важнейшай задачай партыйных арганізацый разгортванне работы па максімальнай дапамозе комсамолу. Пленум абавязвае РК і ГК разам з комсамольскімі арганізацыямі распрацаваць канкрэтныя планы дапамогі комсамолу ў разгортванні прапагандысцкай і палітычна-выхаваўчай работы. Пленум прапануе ГК і РК, пры заслухоўванні справаздач партыйных арганізацый, прадпрыемстваў, цэхпарторгаў патрабаваць ад іх у першую чаргу справаздачы аб тым, як яны дапамагаюць комсамолу арганізаваць партыйна-масавую работу сярод моладзі.

## У галіне партыйна-выхаваўчай работы

Для таго, каб узняць усю партыйную работу на больш высокі ўзровень, павысіць рэвалюцыйную пільнасць і боездольнасць усіх членаў партыі, ліквідаваць элементы самасупакоенасці і дабрадушша ў паасобных звеннях партарганізацыі,—пярвічныя партыйныя арганізацыі, ГК і РК павінны забяспечыць сур'ёзнае палепшанне работы па марксісцка-ленінскаму выхаванню членаў партыі, у асаблівасці па вывучэнню гісторыі партыі.

Кожны комуніст-актывіст абавязан быць большэвіцкім арганізатарам рабочых і калгасных мас і павінен быць у першую чаргу моцна ўзброен ведамі гісторыі партыі.

З гэтай мэтай трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі партыі сярод членаў партыі і ў першую чаргу сярод партыйнага актыва, вывучэнне ўсіх і ўсялякіх антыпартыйных груповак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмаў барацьбы з лініяй партыі, іх тактыкі і тым больш вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антыпартыйнымі групоўкамі, тактыкі і прыёмаў, даўшых магчымасць перамагчы, разбіць нагалаву гэтыя групоўкі. Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагала трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», правых ухілістаў, права-лявацкіх уродаў і зіноўеўцаў, гэтай бяспрыкладнай у гісторыі нашай партыі групы, якая зрабіла двурушніцтва сваёй запаведдзю і скацілася ў балота контррэволюцыйнага тэрарызма.

Пленум ЦК лічыць, што асноўнымі прычынамі буйных недахопаў у вывучэнні гісторыі нашай партыі з'яўляюцца слабая работа партарганізацыі з прапагандысцкімі кадрамі—адсутнасць дакладнага падбору, клапатлівага вырошчвання і праверкі прапагандыстаў, дапамогі і кантролю ў іх рабоце, выключна слабая работа прапагандысцкіх семінараў (яўна недастатковы разбор чарговай тэмы, па сутнасці, разрыў паміж тэмай, прахадзімай у семінары і ў гуртках, зусім недастатковае вывучэнне пачатковых крыніц марксізма-ленінізма (Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін), слабая метадычная прапрацоўка тэмы, слабое прыцягненне мясцовага матар'ялу, недастатковая ўвязка тэм з бягучай палітыкай і чарговымі задачамі партыі), а ў многіх раёнах прапагандысцкія семінары фактычна зусім не працуюць.

Важнейшая справа прапаганды ленінізма даручана ва многіх выпадках слаба падрыхтаваным кадрам, вельмі слаба прыцягнуты да прапагандысцкай работы раённы і рэспубліканскі партыйны актыў.

Пленум ЦК ставіць перад раённымі партыйнымі арганізацыямі наступныя задачы ў справе марксісцка-ленінскага выхавання:

1. Райкомы і нізавыя партыйныя арганізацыі павінны прыцягнуць да прапагандысцкай работы кіруючы партыйны актыў, лепшыя сілы партыйнай арганізацыі. ГК і РК павінны ўмацаваць кіруючы склад прапагандысцкіх работнікаў (заг. райпартгабінета, райпрапагандыст) кваліфікаванымі партыйнымі сіламі са складу райпартарганізацыі.

Бюро ЦК у найкарацейшы тэрмін укамплектаваць кіруючы склад прапагандысцкіх работнікаў у новаарганізаваных раёнах БССР і асабліва дапамагчы раённым партарганізацыям гэтых раёнаў у пастаноўцы на належную вышыню марксісцка-ленінскага выхавання.

Бюро ЦК рашуча ўзмацніць сваю работу па кіраўніцтву вывучэн-

нем гісторыі партыі. Неабходна стварыць пры культпропе ЦК пазаштатную прапагандысцкую групу не менш 70 чал. з праверадых таварышоў рэспубліканскага партактыва для кіраўніцтва гурткамі райпартактыва і арганізацыі сістэматычных лекцый і дакладаў для райпартактыва.

Стварыць пры культпропе ЦК пазаштатную метадычную групу для работы з прапагандыстамі, вядучымі гурткі райпартактыва, а таксама павялічыць групу пазаштатных інструктароў-арганізатараў партыйнай асветы, забяспечыўшы інструктарамі праверку работы партгабінетаў і нізавой сеці партасветы.

Абавязаць райкомы партыі дабіцца сістэматычнай і бесперабойнай работы прапагандысцкіх семінараў дыферэнцыявана для ўсіх відаў школ і наладзіць сур'ёзную вучобу і вырошчванне прапагандысцкіх кадраў. Даручыць культпропу распрацаваць пытанне аб арганізацыі партгабінетаў пры буйнейшых прадпрыемствах.

2. Усе партыйныя арганізацыі павінны дабіцца ў бліжэйшы час поўнага ахопу гурткамі гісторыі партыі партыйных кадраў—ад парторга калгаса, соўгаса, цэха да сакратара райкома. Для гэтага неабходна адпаведнае пашырэнне сеці гурткоў і арганізацыя ў дамах партактыва і партгабінетах кваліфікаваных кансультацый і лекцый для актывістаў і вывучаючых гісторыю партыі ў індывідуальным парадку.

Даручыць культпропу ЦК, Менскаму, Віцебскаму, Гомельскаму, Магілеўскаму, Бабруйскаму і Барысаўскаму ГК і РК арганізаваць пры дамах партактыва цыкл лекцый для актыва па гісторыі партыі, сканцэнтраваўшы асаблівую ўвагу на вывучэнні тактыкі і прыёмаў барацьбы партыі з усімі антыпартыйнымі групоўкамі, а таксама арганізаваць кансультацыю па іншых пытаннях, цікавячых актыў (партыйнае і гаспадарчае будаўніцтва, міжнароднае становішча), прыцягваючы да гэтай справы кіруючы партыйны актыў.

Партыйныя арганізацыі павінны дабіцца ўцягнення ў справу вывучэння гісторыі партыі ўсіх членаў і кандыдатаў партыі, для чаго арганізаваць сецць дадатковых гурткоў па гісторыі партыі і цыкл лекцый на прадпрыемствах, прыцягваючы ў гурткі і на лекцыі камуністаў, кандыдатаў партыі і спачуваючых, якія навучаюцца ў розных агульнаасветных школах.

Ведучы барацьбу за глыбокае і ўсебаковае вывучэнне гісторыі партыі, неабходна павесці рашучую барацьбу са спробамі аказёньвання, элементамі фармалізма, шаблона і спрашчэнства ў ідэйнавыхаваўчай рабоце і забяспечыць цяснейшую ўвязку ў вывучэнні гісторыі партыі з бягучымі баявымі задачамі партыі і растлумачэннем бягучай палітыкі партыі.

Пленум ЦК указвае ўсім партыйным арганізацыям і іх кіраўнікам, што яны нясуць прамую і непасрэдную адказнасць за становішча справы вывучэння гісторыі партыі ў комсамоле.

Партыйныя арганізацыі павінны аказаць комсамолу сур'ёзную дапамогу кваліфікаванымі партыйнымі прапагандыстамі, правяраць вывучэнне гісторыі партыі комсамольскімі работнікамі і арганізаваць для комсамольцаў цыклы дакладаў кіруючых партыйных работнікаў па гісторыі партыі.

Пленум даручае бюро ЦК і ГК і РК намеціць практычныя мерапрыемствы аб неабходнасці дапамогі комсамолу з боку партарганізацыі ў ідэйна-палітычным выхаванні комсамольцаў.

Пленум ЦК патрабуе ад усіх партарганізацый рашучага палепшання выхаваўчай работы сярод моладзі ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў.

Пленум абавязвае ГК, РК партыі і комсамола, аддзелы ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ шырока разгарнуць вывучэнне гісторыі партыі ў партыйных і комсамольскіх арганізацыях ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў, даручыўшы РК і ГК партыі замацаваць у якасці прапагандыстаў у навучальных установах рад выкладчыкаў-комуністаў, асабліва соцыяльна-эканамічных дысцыплін. Усе кіраўнікі па вывучэнню гісторыі партыі ў ВНУ, ВТНУ павінны зацвярджацца бюро ЦК.

Усе кіраўнікі гурткоў па гісторыі партыі і кіраўнікі пропсемінараў павінны абавязкова зацвярджацца раённымі камітэтамі партыі.

Ухваліць рашэнне бюро ЦК аб арганізацыі 2-гадовых вышэйшых курсаў прапагандыстаў.

Даручыць бюро ЦК зацвердзіць не пазней 20 красавіка канкрэтны план перападрыхтоўкі прапагандыстаў па партвучобе і асабліва па гісторыі партыі.

## Аб беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання.

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што за апошні час у некаторых комуністаў наглядаюцца небольшэвіцкія адносіны да пытанняў правядзення большэвіцкай беларусізацыі, калі паасобныя члены КП(б)Б, уладаючы мовай, перасталі гаварыць па-беларуску, што яўным чынам лье ваду на млын буржуазнага нацыяналізма.

Адзначаючы рост совецкіх беларускіх кадраў і вылучэнне іх на адказную работу ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры, значнае павелічэнне праслойкі навуковых кадраў у нашых ВНУ, ВТНУ і тэхнікумах непасрэдна з рабочых і калгаснікаў і стварэнне беларускай інтэлігенцыі, да канца адданай справе соцыялізма, справе комуністычнай партыі,—пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі яшчэ больш энергічна і смела адбіраць, рыхтаваць і вылучаць на адказную совецкую і партыйную работу кадры з рабочых-беларусаў, з перадавых людзей калгасаў, з беларускай совецкай інтэлігенцыі.

Асабліва важнае значэнне набывае пытанне беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання, большэвіцкага правядзення беларусізацыі, выкладання на беларускай мове, вылучэння беларускіх кадраў, павелічэння беларусізаваных школ і гурткоў у сеці партыйнай асветы, а таксама ўкаранення ў партыйную асвету гісторыі, эканомікі і культуры Беларусі.

Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад усіх партыйных арганізацый сур'ёзнай практычнай работы ў галіне сапраўднага большэвіцкага правядзення беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання.

Пленум ЦК КП(б)Б падкрэслівае выключна вялікае значэнне для падняцця партработы—пастановы пленума ленінградскага гаркома ВКП(б) ад 29-III—35 г. «Аб задачах арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы» і прапануе ўсім партарганізацыям КП(б)Б шырока скарыстаць вопыт партработы ленінградскай партарганізацыі ў арганізацыях КП(б)Б.

* * *

Пленум ЦК КП(б)Б звaрачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што толькі пры большэвіцкім выкананні рашэнняў XVII партз'езда і ўказанняў правадыра партыі тав. Сталіна на неабходнасць

узняцця якасці партыйна-выхаваўчай работы і ўказання аб тым, што людзей трэба клапатліва вырошчваць, выхоўваць, дапамагаць расці, толькі на аснове разгортвання шырокай бальшэвіцкай самакрытыкі, толькі пры ўмове ўзмацнення партыйнай пільнасці, рашучага палепшання партыйна-масавай, ідэйна-выхаваўчай і арганізацыйнай работы—КП(б)Б пераможа да канца элементы дабрадушша і самазаспакаення, якія маюцца ў паасобных звеннях КП(б)Б, забяспечыўшы далейшае ўмацаванне органаў дыктатуры пролетарыята, уздыме боездольнасць партыйных арганізацый і надасць арганізацыйнай і выхаваўчай рабоце бальшэвіцкую ідэйнасць і размах.

# Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б)Б

## па паведамленню т. т. Рубінштэйна, Хадасевіча і Клімчука аб ходзе выканання рашэння ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў партыйных кадраў Менскага і Гомельскага гаркомаў КП(б)Б

1. Пленум ЦК КП(б)Б цалкам і поўнасцю ўхваляе рашэнне ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў партыйных кадраў і сакратарыятаў, накіраванае на «ажыўленне арганізацыйнай і прапагандысцкай работы ў гарадах сярод рабочых і працоўных», і прапануе Менскаму і Гомельскаму гаркомам палажыць у аснову работы аддзелаў партыйных кадраў рашэнне ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў парткадраў і рашэнні пленума ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

2. Пленум прымае да ведама, што аддзелы кадраў Менскага і Гомельскага гаркомаў укамплектаваны работнікамі і прыступілі да работы.

3. Пленум ЦК зварачае ўвагу менскай і гомельскай партыйных арганізацый, што на іх партыяй, у сувязі з арганізацыяй у гэтых гаркомах аддзелаў парткадраў, ускладзена адказнейшая палітычная задача даць узоры ў пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, паказаць уменне большэвіцкай пастаноўкі работы па ідэйна-палітычнаму ўзбраенню, вырошчванню і выхаванню партыйных кадраў не толькі для сваіх арганізацый, але і для ўсёй КП(б)Б.

4. Пленум абавязвае Менскі і Гомельскі гаркомы замацаваць і забяспечыць далейшае развіццё палітычнай актыўнасці і класавай пільнасці партарганізацый, на аснове большэвіцкага разгортвання партыйнай работы і палепшання партыйнага кіраўніцтва. У цэнтры сваёй работы аддзелы парткадраў Менскага і Гомельскага гаркомаў павінны паставіць пытанне ідэйнага ўзбраення кожнага члена партыі тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна, канкрэтнае вывучэнне, веданне і кіраўніцтва кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыяй, кожным членам партыі, крапатлівая штодзенная работа па выхаванню, вырошчванню і вывучэнню партыйных кадраў,ператварэнне кожнага комуніста ў сапраўднага большэвіцкага арганізатара беспартыйных мас. Менскі і Гомельскі гаркомы павінны забяспечыць большэвіцкі размах у партыйнай рабоце і высунуцца ў перадавыя рады па пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

5. Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе аддзелы ЦК КП(б)Б і асабліва ОРПО аказаць усямерную дапамогу аддзелам парткадраў Менскага і Гомельскага гаркомаў у разгортванні партыйнай работы.

6. Пленум зварачае ўвагу ўсіх партарганізацый на тое, што арганізацыя аддзелаў парткадраў мае важнейшае значэнне для разгортвання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы не толькі для гаркомаў, дзе гэты аддзел арганізаваны, але і для ўсёй КП(б)Б, паколькі гэтыя аддзелы заклікаць даць узоры работы па падбору, вырошчванню і выхаванню партыйных кадраў, разгортванню партыйнай работы і, такім чынам, спрыяць яшчэ большаму ўзмацненню кіраўніцтва горада вёскай.

# Аб арганізацыі і правядзенні веснавой сяўбы 1935 г.

## Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

Пленум ЦК КП(б)Б, абмеркаваўшы становішча падрыхтоўкі да сяўбы па БССР і пытанні арганізацыі і правядзення веснавой сяўбы 1935 года, **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыняты СНК БССР і ЦК КП(б)Б і спушчаны на месцы дзяржаўны план яравой сяўбы 1935 года ў 2. 656. 400 гектараў (уключаючы шматгадовыя травы) з яго параённым размеркаваннем.

2. Зацвердзіць устаноўленыя параённыя заданні ўраджайнасці па кожнай культуры паасобку, абавязаўшы ўсе раённыя партыйныя і савецкія арганізацыі гэтыя параённыя заданні лічыць як мінімум, змагацца за безумоўнае іх выкананне з тым, каб сярэдняя ўраджайнасць па БССР у 1935 годзе была не ніжэй 11 цэнтнераў з гектара для зернавых, 3 цэнтнераў для ільнавалакна і 120 цэнтнераў для бульбы.

3. Пленум ЦК КП(б)Б лічыць, што для ажыццяўлення пастаўленай задачы павышэння ўраджайнасці і паспяховага выканання плана яравой сяўбы ёсць усе неабходныя ўмовы: тэхнічная база ўзмоцнена ў 1935 годзе 12 новых МТС і 400 трактарамі, у гэтым годзе зяблівы клін больш усіх папярэдніх гадоў, значна вырас процант калектывізацыі, арганізацыйна і гаспадарча ўмацаваны калгасы і ў руках калгасаў найвялікшая зброя—сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі. Усё гэта дае нам безумоўную магчымасць па-большэвіцку правесці сяўбу ў радах перадавых краёў, абласцей і рэспублік нашага вялікага Совецкага саюза як па якасці, так і па тэрмінах, рашуча не дапускаючы рэкардсменства ў тэрмінах сяўбы, таксама і адставання.

4. Пленум лічыць неабходным правядзенне наступных практычных мерапрыемстваў па раёнах:

а) дырэктары МТС павінны ў бліжэйшыя дні закончыць складанне вытворчых планаў і заключэнне дагавароў МТС з калгасамі;

б) ворыва і сяўбу пачынаць выбарачна, не чакаючы агульнай гатоўнасці да сяўбы ворнай плошчы, арганізаваўшы для гэтага ў калгасах пастаянны нагляд за гатоўнасцю кожнага паасобку ўчастка. Пракопванне канаў, спуск вады з палёў і іншыя працейшыя меліярацыйныя работы павінны паскорыць гатоўнасць нізкіх участкаў к сяўбе;

в) работа трактарнага парка кожнай МТС павінна з першых-ж крокаў работы даць поўнае выкананне нормы. Дырэктары МТС абавязаны так арганізаваць змену брыгад, запраўку трактароў, бягучы

іх рамонт, каб не дапускаць прастою трактароў, перарасходу гаручага і змазачных матар'ялаў і непрадукцыйнага прабегу, арганізаваўшы прэміяванне лепшых трактарыстаў, а таксама калгаснікаў, працуючых на прыцэпках, за выкананне і перавыкананне норм па колькасці і якасці.

Пленум ЦК абавязвае таксама дырэктароў МТС і заг. райза дабіцца правільнага выкарыстання і нагрузкі жывога цягла з тым, каб максімум годных для работы ў полі коней і валоў быў пастаўлен на сяўбу;

г) поўнасцю выкарыстаць усе сеялкі як трактарныя, так і конныя. План радковай сяўбы ў 250.000 гектараў, як мінімум, з параённым размеркаваннем павінен быць выканан і перавыканан за кошт перавыканання норм работы па паказчыках і нормах нагрузкі. Дырэктары МТС і загадчыкі райза абавязаны забяспечыць у калгаснай брыгадзе пільны нагляд за рэгуляваннем сеялак, бесперабойнай работай і поўнай нагрузкай іх, паставіўшы да сеялак вопытных і надзейных людзей.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае райза і мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі забяспечыць ручную сяўбу вопытнымі сейбітамі з лепшых калгаснікаў-ударнікаў.

5. Пленум ЦК папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі БССР, што спазненне з пачаткам сяўбы ў гэтым годзе ў параўнанні з мінулым годам (у 1934 г. на 5 красавіка пасеяна 10.000 гектараў) павінна быць кампенсавана сціслымі тэрмінамі сяўбы кожнай культуры з тым, каб веснавая сяўба ранніх зернавых, лёну і бульбы была скончана не пазней 20 мая.

Пленум лічыць, што пасеў зернавых культур (пшаніца, авёс і ячмень) павінен быць праведзен за 10—15 дзён, пасеў лёну—за такі-ж тэрмін, бульбы за 10—12 дзён, астатніх культур за 5—6 дзён з захаваннем усіх якасных умоў.

Абавязаць дырэктароў МТС і райза, дырэктароў соўгасных трэстаў распрацаваць і ўстанавіць для кожнага калгаса і соўгаса штодзеннае заданне па сяўбе і кантроль за яго выкананнем.

6. Пленум ЦК папярэджвае адстаючыя раёны—Мсціслаўскі, Горацкі, Дубровенскі, Чырванапольскі і ўсе астатнія раёны, што ў дні, якія застаюцца да пачатку сяўбы, яны павінны ліквідаваць усе прарывы па падрыхтоўцы да сяўбы ў кожным паасобку калгасе, закончыць ачыстку, засыпку і абмен насення, вывазку гною і мінеральных угнаенняў з тым, каб забяспечыць поўнае выкананне ў ліку іншых раёнаў свайго плана сяўбы.

7. Даручыць цэнтральным і рэспубліканскім арганізацыям—Наркамлегпрому, Наркамцяжпрому, Наркамлесу, Белкаапсаюзу і ЦСПСБ, пад персанальную адказнасць кіраўнікоў, праверыць падрыхтаванасць да сяўбы прыгарадных гаспадарак, каперацыі, ОРС'аў, фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў і далажыць ЦК, як яны гатовы да правядзення сяўбы.

Пленум патрабуе ад цэнтральных арганізацый і дырэктароў кожнага прадпрыемства і каапгаса дабіцца ў гэтым годзе высокага ўраджаю гародніны, рэзкага зніжэння сабекошту і ліквідацыі дэфіцытнасці прыгарадных гаспадарак. Гэтым-жа арганізацыям, а таксама ГК і РК КП(б)Б і горсоветам праверыць гатоўнасць да сяўбы індывідуальных рабочых агародаў (фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў і транспарта), аказваючы ім усялякую дапамогу цяглом, насеннем і саджанцамі.

8. Адзначаючы адставанне соўгасаў у веснавой сяўбе мінулага года і асабліва ў барацьбе за высокі ўраджай у выніку слабога кіраўніцтва работай з боку Упаўнаркамсоўгасаў і дырэктароў трэстаў, пленум абавязвае Упаўнаркамсоўгасаў, дырэктароў трэстаў, соўгасаў і начальнікаў палітаддзелаў дабіцца рашучага пералому ў рабоце соўгасаў у барацьбе за высокую якасць усіх сельскагаспадарчых работ і ў асаблівасці за высокі ўраджай і ўздым жывёлагадоўлі.

Прапанаваць Упаўнаркамсоўгасаў і дырэктарам трэстаў перагледзець усе заданні па ўраджайнасці соўгасаў і прывесці іх у адпаведнасць з устаноўленай сярэдняй ураджайнасцю па БССР—11 цэнтнераў.

Соўгасы ў бягучым годзе маюць усе магчымасці дабіцца вядучай ролі ў правядзенні сяўбы і ўздыму жывёлагадоўлі.

Пленум абавязвае райкомы і РВК устанавіць пастаянны кантроль за работай соўгасаў, адначасова арганізаваць штодзенную дапамогу ў рабоце соўгасаў.

9. Пленум ЦК патрабуе ад усіх партыйных, совецкіх і зямельных органаў, безумоўнага правядзення ў жыццё рашэнняў партыі і ўрада аб рабоце спецыялістаў сельскай гаспадаркі і палепшання іх матар'яльна-бытавога становішча. Кожны спецыяліст павінен праводзіць не менш 90 проц. свайго рабочага часу на вытворчасці, у калгасе, соўгасе, брыгадзе, скотным двары, канюшні і прымаць практычны ўдзел у справе пад'ёму ўраджаю і развіцця жывёлагадоўлі.

10. Пленум зварачае ўвагу партыйных, совецкіх арганізацый, Наркамзема, Наркамата аховы здароўя, Наркамасветы на тое, каб велізарныя заваяванні, прадстаўленыя жанчыне-калгасніцы новым статутам сельскагаспадарчай арцелі, сталі магутнаю зброяй далейшай арганізацыі ўсіх жанчын-калгасніц за справу ўмацавання калгаснага ладу.

Неабходна рашуча разгортваць далейшую арганізацыю новых яслей, дзіцячых пляцовак, хат-радзілень і паляпшаць становішча ўжо існуючых з тым, каб ужо непасрэдна ў пасеўную і на далейшыя работы ўцягваць большую колькасць жанчын, высоўваючы іх на адказную і кіруючую работу ў брыгадзе, у калгасе.

11. Пленум абавязвае ўсе ГК, РК і райза практыку перадавых калгасаў выдзялення інструктароў па якасці пашырыць на ўсе калгасы, намячаючы інструктарамі па якасці праверных, вопытных калгаснікаў-ударнікаў. Пленум абавязвае райза, дырэктароў МТС і ўсіх старшынь калгасаў правесці з інспектарамі па якасці папярэднюю растлумачальную работу і інструктаж. Як раённым газетам, так і цэнтральным даваць паказ на сваіх старонках работы лепшых інспектароў па якасці.

12. Пленум ЦК абавязвае Белкаапсаюз і асабіста тав. Баскіна ўзмацніць завоз хадавых тавараў у сельпо, асабліва неабходных прадметаў для абсталявання і снабжэння дзіцячых яслей, дзіцячых пляцовак, грамадскага харчавання (пасуда кухонная і сталовая, цукар, манная крупа і інш.); узмацніць таксама завоз махоркі ў сельпо і неабходных прадметаў сельгасвытворчасці (збруя, калёсная мазь, вяроўкі і т. д.). Пленум абавязвае старшынь райсаюзаў і сельпо арганізаваць на час сяўбы снабжэнне неабходнымі хадавымі таварамі паляводчых і трактарных брыгад на месцы іх работы.

13. Пленум ЦК ухваляе ўключэнне калгасаў БССР у сталінскі паход імя VII з'езда советаў за высокі ўраджай і ўздым жывёлагадоўлі і заключэнне соцдагавароў з Заходнім Сібірам, а таксама соцдагавора з Заходняй облацю на пяршынства ва ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, на лепшыя паказчыкі ў жывёлагадоўлі.

Пленум абавязвае ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі сапраўды па-большэвіцку разгарнуць спаборніцтва ўнутры раёна, калгаса, паляводчай, трактарнай брыгады і між паасобнымі раёнамі, ператварыўшы соцспаборніцтва ў адну з баявых умоў барацьбы за высокі ўраджай, за ўздым жывёлагадоўлі.

14. Пленум ЦК падкрэслівае, што асабліваe значэнне набывае пытанне аб расшырэнні ворных плошчаў шляхам асваення бросавых зямель, ворыва цаліны і правядзення ўнутрыкалгаснага зямлеўпарадкавання—увядзенне севазваротаў, накіраваных на рэалізацыю важнейшага ўказання тав. Сталіна аб расшырэнні пасеву пшаніцы і стварэнні ўстойлівай кармавой базы для жывёлагадоўлі. Гэтыя пытанні павінны ўвайсці сустаўною часткай прымаемых дадаткаў да Прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі; сам-жа Прыкладны статут, яго прапрацоўка і перавод калгасаў на новы статут павінны праводзіцца з неаслабнаю сілай, у цеснай сувязі з усёй падрыхтоўкай і правядзеннем сяўбы.

Пленум ЦК падкрэслівае асобую задачу—барацьбу за асваенне новых зямель, маючы на ўвазе невыкананне плана асваення новых зямель у 1934 годзе, што з'явілася вынікам няўважлівых адносін да гэтай справы з боку раённых арганізацый калгасаў і адсутнасці кантролю за правядзеннем гэтага плана.

15. Веснавая сяўба павінна праходзіць пад знакам большэвіцкага размаху партыйнай і масавай работы. РК КП(б)Б і РК ЛКСМБ, нач. палітаддзелаў соўгасаў, нам. дырэктароў МТС па палітчастцы і сакратары пярвічных партыйных арганізацый абавязаны расставіць партыйна-комсамольскія сілы ў раёне, у калгасах так, каб канкрэтным кіраўніцтвам кожнай пярвічнай калгаснай партыйнай, комсамольскай арганізацыяй і комуністамі-адзіночкамі дабіцца партыйнага ўплыву на рашаючых участках калгаснай вытворчасці ў перыяд веснавой сяўбы. Трэба забяспечыць выпуск ва ўсіх калгасных паляводчых і трактарных брыгадах палявых газет, штодзенна насценных газет, устанавіць практыку правядзення гутарак па бягучых рашэннях партыі і ўрада ў справе ўзняцця калгаснага ладу, сістэматычнага правядзення вытворчых нарад і інфармацый інспектароў па якасці аб недахопах сяўбы ў брыгадзе і т. д. Неабходна арганізаваць культурную абстаноўку для адпачынку, харчавання і начлегу ў трактарных і паляводчых брыгадах, у соўгасах і калгасах (чыстыя сталы, пасуда, тапчаны, ложкі і т. д.), набыць гармоні, струнныя інструменты і інш.

Пленум ЦК з асаблівай сілай падкрэслівае неабходнасць выкарыстаць велізарны ўздым калгасных мас у сувязі з новым статутам сельскагаспадарчай арцелі і ўзнагароджаннем Беларусі ордэнам Леніна на разгортванне яшчэ большай барацьбы за якасць работы, за рэкордны ўраджай, за развіццё жывёлагадоўлі ў Беларусі.

16. Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі, совецкія, зямельныя органы забяспечыць поўнае выкананне пасеўнага плана ўсімі аднаасобнікамі, не допускаючы ні аднаго незасеянага гектара яравога кліна аднаасобнага сектара. Да выхаду ў поле неабходна праверыць давядзенне плана да кожнай аднаасобнай гаспадаркі, арганізаваць супрагу і штодзенны кантроль і нагляд з боку сельсоветаў за выкананнем пасеву па кожнай паасобнай гаспадарцы. У сёлах, дзе ёсць значная колькасць аднаасобных гаспадарак, вылучыць спецыяльных упаўнаважаных.

Пленум лічыць, што веснавая пасеўная кампанія павінна праходзіць пад знакам далейшага росту калгасных радоў на аснове сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі.

17. Пленум ЦК заклікае ўсе партыйныя арганізацыі, сельсоветы, калгаснікаў і калгасніц, спецыялістаў сельскай гаспадаркі на аснове рашучай барацьбы супроць астаткаў класавага ворага яшчэ цясней згуртавацца вакол ленінскага ЦК ВКП(б) і вялікага правадыра— тав. Сталіна і правесці сяўбу такім чынам, каб дабіцца яшчэ лепшых паказчыкаў работы ордэнаноснай Беларусі ў правядзенні сельскагаспадарчых работ, яшчэ вышэй падняць якасць як у справе правядзення веснавой сяўбы, асабліва па забяспечанню павышэння ўраджайнасці, так і ў галіне ўздыму жывёлагадоўлі.

# Пастанова пленума ЦК КП(б)Б

**па паведамленню тав. Галадзеда аб мерапрыемствах у сувязі з узнагароджаннем БССР ордэнам Леніна.**

1. Пленум ЦК КП(б)Б, заслухаўшы паведамленне т. Н. М. Галадзеда аб мерапрыемствах у сувязі з узнагароджаннем Беларускай ССР ордэнам Леніна, з велізарным задаваленнем вітае пастанову Ўрада Саюза і нашага Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) аб узнагароджанні Беларускай ССР і яе кіраўнікоў т.т. Гікало і Галадзеда вышэйшай узнагародай нашай краіны—ордэнам Леніна.

Гэта знамянальная пастанова партыі і ўрада Совецкага саюза аб узнагароджанні Беларусі і яе кіраўнікоў з'яўляецца найвялікшым палітычным актам у адносінах усіх працоўных Беларускай саюзнай пагранічнай рэспублікі, будуючай социялізм на граніцы з капіталістычным Захадам, і ставіць БССР у шарэнгу перадавых рэспублік і абласцей Совецкага саюза. Гэта сведчыць аб гіганцкім росце соцыялістычнай гаспадаркі і пролетарскай культуры БССР,—сведчыць аб таржастве ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

2. Поспехі на працягу раду гадоў у галіне сельскай гаспадаркі, роўна як і ў галіне прамысловасці БССР, якія адзначаны ў пастанове прэзідыума ЦВК Саюза ССР, з'явіліся прамым рэзультатам штодзеннага клапатлівага і мудрага кіраўніцтва справай соцыялістычнага будаўніцтва БССР з боку вялікага правадыра нашай партыі і ўсіх працоўных—т. Сталіна і пастаянчай велізарнай матар'яльнай дапамогі з боку ўрада Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б). Толькі дзякуючы гэтаму мудраму сталінскаму кіраўніцтву і дапамозе ўрада Саюза—Беларусь, у мінулым прыгнечаная, жабрацкая і забітая, ператварылася ў соцыялістычную рэспубліку фабрык і заводаў, соўгасаў і калгасаў, школ і універсітэтаў, у якой, дзякуючы таржаству ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, выраслі і падняліся мільёны будаўнікоў соцыялізма з працоўных усіх нацыянальнасцей, насяляючых БССР.

3. Разграміўшы класавых ворагаў, змагаючыся за правядзенне генеральнай лініі нашай партыі, з усімі ўхілістамі і апазіцыянерамі, змагаючыся за ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, супроць беларускіх буржуазных нацыяналістаў і іх агентаў унутры КП(б)Б—нацыянал-апартуністаў, супроць шавіністаў усіх нацыянальнасцей, КП(б)Б пад кіраўніцтвам свайго ЦК ідэйна арганізоўвала рабочых і працоўных сялян Беларусі і вяла іх ад перамогі да перамогі, дасягнуўшы вялікіх поспехаў у справе індустрыялізацыі БССР, у справе ўмацавання калгаснага ладу ў беларускай вёсцы, ва ўздыме культурнага і матар'яльнага ўзроўню шырокіх мас працоўных.

Павышаючы якасць работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, райкомы і райвыканкомы, гаркомы і горсоветы, парткалектывы і сельсоветы пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і Соўнаркома

БССР дабіліся вялікіх поспехаў у справе падцягвання адсталых участкаў работы як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці.

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што напружаная работа партыйных арганізацый і советаў, гаспадарчых, совецкіх, профсаюзных і комсамольскіх арганізацый вывела БССР у шарэнгі перадавых рэспублік і абласцей.

4. Адначасова пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што ў нас яшчэ ёсць шмат недахопаў і нават прарываў на паасобных участках работы. Ордэн Леніна абавязвае ўсе партыйныя, совецкія, гаспадарчыя, профсаюзныя і комсамольскія арганізацыі па-большэвіцку, не шкадуючы сіл, выпраўляць недахопы ў рабоце, усямерна і пастаянна паляпшаць якасць работы, праяўляць яшчэ больш клопатаў аб патрэбах і запросах працоўных мас.

Пленум ЦК КП(б)Б асоба падкрэслівае неаднаразовыя ўказанні тав. Сталіна—не зазнавацца, не супакойвацца на дасягнутых поспехах. Зазнайства—гэта самы небяспечны вораг кожнага комуніста, кожнага работніка.

5. Перад усімі арганізацыямі Беларусі ўперадзе многа задач. Мы ўступаем у веснавую сяўбу, перад намі стаіць задача правядзення ў жыццё сталінскага статута сельгасарцелі, барацьба за высокі ўраджай, за жывёлагадоўлю, за лён. Выключна важная задача стаіць перад намі па ўмацаванню ўнутрыпартыйнай, арганізацыйнай і партыйна-выхаваўчай работы, задача далейшай барацьбы за промфінплан і т. д. Усе гэтыя важнейшыя задачы патрабуюць большэвіцкай мабілізаванасці, завастрэння рэволюцыйнай пільнасці і непрымірымасці да класавых ворагаў, упорнай і энергічнай работы ўсіх звенняў партыйнай арганізацыі і совецка-гаспадарчага апарата.

Пасеўная кампанія 1935 года павінна быць праведзена ўзорна, у найбольш кароткія тэрміны з захаваннем усіх якасных паказчыкаў. Пленум ЦК падкрэслівае ўсю важнасць разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі, раёнамі, сельсоветамі, соўгасамі і т. д. і на гэтай аснове раёны павінны змагацца за першынства ў ордэнаноснай рэспубліцы па сяўбе, па жывёлагадоўлі, па дасягненню высокіх ураджаяў усіх культур (зернавых, бульбы, лёну і т. д.). Метады соцспаборніцтва паміж прадпрыемствамі, гарадамі, цэхамі і брыгадамі павінны быць галоўнай задачай барацьбы за промфінплан.

6. Пленум ЦК КП(б)Б, адзначаючы выключна вялікае значэнне пытання ўзнагароджання Беларусі ордэнам Леніна, лічыць неабходным:

1) адзначыць дзень уручэння Беларусі ордэна Леніна **ўсенародным святам працоўных БССР** і прасіць урад Саюза прыўрочыць уручэнне ордэна Леніна да сканчэння веснавой сяўбы; 2) дзень уручэння ордэна Леніна па г. Менску правесці з удзелам лепшых ударнікаў прадпрыемстваў (фабрык, заводаў, калгасаў, соўгасаў) Беларусі з запрашэннем прадстаўнікоў суседніх абласцей і рэспублік.

7. Пленум ЦК КП(б)Б асабліва звяртае ўвагу ўсіх членаў партыі, рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных, што ордэнаносная Беларуская рэспубліка павінна быць узорам умацавання абароны СССР, таму наша задача заключаецца ва ўсямерным умацаванні совецкіх граніц. Трэба дабіцца, каб кожны калгас, соўгас, фабрыка, завод з'ўляліся непрыступнай крэпасцю соцыялізма, а ўсе рабочыя, калгаснікі БССР павінны стаць лепшымі байцамі за сваю соцыялістычную радзіму, за СССР.

## Аб падрыхтаванасці торфпрамысловасці да торфсезона 1935 г.

*Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б*

СНК БССР і ЦК КП(б)Б адзначаюць, што, не гледзячы на наяўнасць у гэтым годзе магчымасцей для больш арганізаванага правядзення торфсезона, торфаздабываючыя арганізацыі зусім недастаткова выкарыстоўваюць гэтыя магчымасці і не ўлічваюць вопыт мінулага года.

Падрыхтоўка да торфсезона 1935 года па ўсіх сістэмах, асабліва па торфзаводах «Осінторф», «Чырвоны сцяг», «Чырвоная Беларусь» і «Большэвік», праходзіць зусім нездавальняюча. Балотна-падрыхтоўчыя работы большасці прадпрыемстваў яшчэ не закончаны. Па Белторфу канаўныя работы выкананы на 73 проц., карчоўка на 75 проц., плінтоўка на 32 проц.; па заводу «Большэвік» выкананне балотна-падрыхтоўчых работ складае 80—85 проц., па Белпромторфсаюзу адпаведна—86—36—46 проц.

Арганізаваны набор рабочай сілы па ўсіх сістэмах яшчэ не скончан і асабліва ў пагражаючым становішчы знаходзіцца па торфзаводах нізавой прамысловасці райвыканкомаў (45 проц.) і заводу «Большэвік», дзе індывідуальнымі дагаварамі ахоплена 1.507 чалавек з ліку 3.378 завербаваных сезоннікаў. З боку паасобных РК і РВК наглядаецца месніцкі, дзяляцкі падыход да арганізаванага набору рабочай сілы, чым тармозіцца гэта важнейшая справа.

Капітальнае будаўніцтва разгортваецца недапушчальна маруднымі тэмпамі, асабліва па торфзаводах «Осінторф», «Большэвік» і нізавой прамысловасці райвыканкомаў, што стварае прамую пагрозу зрыву важнейшых мерапрыемстваў, абумоўліваючых выкананне плана здабычы торфу. Рэалізацыя фондаў будматар'ялаў, асабліва па кругламу і пілаванаму лесу, вядзецца надзвычай дрэнна і па раду аб'ектаў з-за адсутнасці лесаматар'ялаў да будаўніцтва нават не прыступлена («Осінторф», «Большэвік», імя Гея, «Чырвоны сцяг» і інш.).

Жылыя памяшканні да прыёму рабочай сілы не падрыхтаваны, рамонт і абсталяванне іх дагэтуль не скончаны, якасць рамонту і стварэнне культурных умоў яўна ігнаруюцца.

Разам з гэтым СНК і ЦК адзначаюць нецярпіма злачынныя адносіны кіраўнікоў некаторых торфзаводаў («Чырвоная Беларусь», «Грэбенева», «Осінторф» і інш.) і вышэйстаячых гаспадарчых арганізацый да карэннага палепшання жыллёва-бытавых умоў рабочых.

Галоўнейшымі прычынамі пералічаных важнейшых недахопаў з'яўляецца тое, што НК мясцовай прамысловасці, Белторфпромсаюз і райвыканкомы не кіруюць аперацыйна падрыхтоўкай торфсезона і не правяраюць сістэматычна дзейнасць торфпрадпрыемстваў. Кіраўнікі торфпрадпрыемстваў не пераключыліся яшчэ па-баявому на

своечасовае і поўнае завяршэнне падрыхтоўчых да торфсезона работ, праяўляючы нічым неапраўдваемую самасупакоенасць.

«Белторф», завод «Большэвік» і снабжаючыя арганізацыі, асабліва Лесбел і Белдрэў, праяўляюць безадказнасць у справе своечасовай і поўнай рэалізацыі выдзеленых фондаў матар'ялаў для торфзаводаў.

Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць НК мясцовай прамысловасці, Белторфпромсаюз, Упаўнаркамхарчпром, Упаўнаркамцяжпром, Упаўнаркамлес, інспекцыю наркамлегпрома, райвыканкомы і кіраўнікоў усіх торфпрадпрыемстваў забяспечыць не пазней 20 красавіка 1935 г. скачэнне па торфзаводах усіх неабходных падрыхтоўчых работ (падрыхтоўка балот, набор рабочай сілы, падрыхтоўка механізмаў, скачэнне будаўніцтва і рамонту жылля, сталовак, лазняў і пральняў) для поўнага разгортвання здабычы торфу.

Па торфзаводах «Большэвік», «Осінторф», «Чырвоны сцяг» устанавіць апошні тэрмін скачэння новых жыллёвых пабудоў 1 мая 1935 г.

2. Прапанаваць кіраўнікам торфпрадпрыемстваў сваім непасрэдным кіраўніцтвам забяспечыць такую мабілізацыю, падбор і расстаноўку сіл на вытворчасці, каб з самага пачатку сезона было дасягнута высокае асваенне вытворчага працэса: поўнае асваенне механізмаў, выкананне і перавыкананне норм выпрацоўкі, ліквідаванне вытворчых прастояў, ушчыльненасць рабочага дня, чоткая арганізацыя працы і сістэмы зарплаты, колькаснае і якаснае выкананне вытворчых заданняў.

У аснову гэтых гаспадарчых мерапрыемстваў павінна быць пакладзена ўстанаўленне на кожным прадпрыемстве чоткага размежавання правоў, абавязкаў і адказнасці кожнага работніка за даручаны яму ўчастак работы, ажыццяўленне жорсткай вытворчай дысцыпліны, узмацненне партмасавай работы сярод рабочых і ІТР, шырокае разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва за перавыкананне норм выпрацоўкі, асваенне тэхналагічнага працэса, беражлівыя адносіны і чоткую бесперабойную работу абсталявання, за масавую тэхвучобу, эканомію матар'ялаў і высокую якасць выпускаемай прадукцыі.

3. Прапанаваць НК мясцовай прамысловасці, Белторфпромсаюзу, упаўнаважаным НКЛеса, Наркамцяжпрома, Наркамхарчпрома і інспекцыі Наркамлегпрома да 15 красавіка прадставіць СНК календарныя планы торфздабычы на 1935 год у разрэзе паасобных прадпрыемстваў, выходзячы з устаноўленага для іх гадавога плана, з такім разлікам, каб асноўная маса здабычы торфу была разлічана на першую палову торфсезона.

4. Абавязаць сакратароў РК і старшынь РВК безадкладна праверыць выкананне ўстаноўленага па раёнах плана набору рабочай сілы для торфпрамысловасці, згодна пастановам СНК БССР ад 29/X-1934 г. №1695 і ад 12/XII-1934 года №2024, забяспечыўшы поўнае завяршэнне набору рабочай сілы для торфзаводаў і торфарцелей у бліжэйшыя-ж дні.

Указаць старшыням горсоветаў Віцебскага—т. Аверыну і Гомельскага тав. Малашонку і старшыням РВК раёнаў Бабруйскага—т. Царонку, Оршанскага—т. Міцькову, Магілеўскага—т. Пушчыну на зусім нездавальняючы ход вярбоўкі рабочай сілы для мясцовых торфзаводаў.

Указаць старшыням Чачэрскага РВК т. Падрэцкаму і Камарынскага РВК т. Гуцаву, дырэктару шклозавода імя Сталіна т. Адамовічу

на зусім нездавальняючы набор рабочай сілы па гэтых раёнах для торфзавода «Большэвік».

5. Папярэдзіць сакратароў РК і старшынь РВК, што яны нароўні з торфаздабываючымі арганізацыямі адказваюць не толькі за набор, а таксама і за своечасовую вывазку на торфзаводы завербаванай рабочай сілы.

Абавязаць райвыканкомы безадкладна даць указанне сельсоветам, у якіх рабіўся набор рабочай сілы для торфзаводаў, аб выдачы ад'язджаючым сезоннікам без затрымання неабходных даведак і афармленні дакументаў, згодна закону аб пашпартнай сістэме.

6. Надаючы выключнае палітычнае значэнне становішчу культурных умоў жыцця рабочых, устанавіць наступны мінімум для кожнага рабочага жылля на торфпрадпрыемствах: ложак, матрац, прастыня, коўдра, навалачка, тумбачка на 2-х чалавек, табурэтка на 3-х чалавек, вешалка, занавескі на вокнах, люстра, гадзіннік, радыё, газеты, бібліятэка, шахматы, шашкі, гармонь, балалайка.

СНК і ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе торфаздабываючыя арганізацыі, ЦП профсаюза тарфянікаў, трыкутнікі завода забяспечыць да сезона гэты мінімум, правесці ачыстку ўсіх пасёлкаў, падрыхтаваць для бесперабойнай работы лазні, дэзкамеры, арганізаваць пральні, правесці азеляненне пасёлкаў пры грамадскай дапамозе рабочых.

СНК і ЦК КП(б)Б папярэджваюць кіраўнікоў торфапрадпрыемстваў і вышэйстаячых гаспадарчых арганізацый, што вінаватыя ў ігнараванні справы карэннага палепшання жыллёвых і культурна-бытавых умоў рабочых-тарфянікаў, будуць прыцягвацца да найстражэйшай адказнасці.

7. Адзначаючы зусім нездавальняючы ход вывазкі і рэалізацыі торфаздабычы мінулага года, што тармозіць аслабаненне палёў сцеліва, абавязаць старшынь РВК і дырэктароў торфпрадпрыемстваў на працягу красавіка—мая месяцаў вывезці ўвесь торф, што застаўся на балотах, а дырэктарам прадпрыемстваў правесці падсушку гэтага торфу.

Указаць старшыням РВК раёнаў Менскага—т. Жарыну, Смалявіцкага—т. Хадаркевічу, Осіпавіцкага—т. Караленка, Оршанскага—т. Міцькову, Гомельскага (горсовет)—т. Малашонку, Быхаўскага—тав. Грынкевічу, Чашніцкага—т. Трызна, Шклоўскага—тав. Казінцову, Тэрахаўскага—т. Белякову, Барысаўскага—т. Баранчуку і Магілеўскага—т. Пушчыну, па якіх выкананне плана першага квартала па вывазцы торфу складае 48—77 проц. на недапушчальнасць ігнараванне імі неаднаразовых дырэктыў СНК і ЦК па гэтаму пытанню.

Прапанаваць гомельскай ДЭС і гомельскаму камбінату «Спартак» неадкладна заключыць дагаворы з торфарцеллю «Чырвоны Окцябр», Рагачоўскага раёна, а папяровай фабрыцы «Спартак» з торфарцеллю імя Сталіна, Оршанскага раёна, прыняўшы ад гэтых арцелей увесь кандыцыйны торф здабычы мінулых гадоў і зараз-жа прыступіць да ачысткі палёў сцеліва ад торфу. Папярэдзіць адзначаныя прадпрыемствы, што да поўнай рэалізацыі гэтага торфу іншых відаў апалу ім выдзелена не будзе.

8. Абавязаць Лесбел—т. Шапіра не пазней 15 красавіка 1935 года поўнасцю паставіць торфзаводам вызначаны ім па плану круглы лес.

Абавязаць Белдрэў, Белдзяржснаб, канторы Стальзбыта і Метызсбыта, пад персанальную адказнасць іх кіраўнікоў т.т. Поппэ, Арндта, Алесіна і Памеранца, забяспечыць поўную рэалізацыю фондаў матар'яльнага снабжэння торфпрамысловасці і адгрузку матар'ялаў

торфзаводам у тэрміны, якія забяспечваюць своечасовае завяршэнне падрыхтоўчых да торфсезона работ.

Абавязаць райвыканкомы забяспечыць будаўніцтва торфзаводаў нізавой прамысловасці патрэбнай колькасцю лесаматар'ялаў з мясцовых фондаў і распілоўку круглага лесу на мясцовых лесазаводах.

Даручыць Дзяржплану выдзеліць для будаўніцтва сталовак і інтэрнатаў па сістэме Белторфпромсаюза неабходную колькасць цвікоў і шкла, уключыўшы гэта будаўніцтва ў план снабжэння гэтымі матар'яламі на другі квартал 1935 года.

9. Абавязаць НК мясцовай прамысловасці т. Свірыдава асабіста прасачыць за своечасовым і поўным выкананнем заводамі Белметалтрэста заказаў на абсталяванне і запчасткі для торфпрамысловасці, згодна заключаным дагаварам.

10. Даручыць НК мясцовай прамысловасці т. Балціну і НК фінансаў т. Матусевічу ў двухдзенны тэрмін вырашыць пытанне аб давядзенні размеру зваротных сродкаў торфпрадпрыемстваў НК мясцовай прамысловасці да устаноўленых норматываў і фінансаванні торфпрамысловасці ў адпаведнасці з планам разгортвання вытворчасці.

Абавязаць горсоветы і РВК забяспечыць бесперабойнае і своечасовае фінансаванне ў рамках плана капіталаўкладанняў і зваротных сродкаў торфзаводаў нізавой прамысловасці.

11. Адзначаючы недапушчальнасць затрымання з боку некаторых спажыўцоў торфу разлікаў за адгружаны торф, што з'яўляецца незаконным і стварае фінансавыя труднасці для торфпрадпрыемстваў, катэгарычна забараніць усім спажыўцам торфу дапускаць запазычанасць і безадкладна разлічвацца за адгружаны торф.

Прапанаваць дырэктарам менскай ВЭС—тав. Абакуменка, Касцюковіцкага шклозавода—тав. Адамовічу і БелДРЭС—тав. Лабзараву неадкладна пакрыць наяўную запазычанасць торфзаводам.

12. Абавязаць НК унутранага гандлю тав. Гурэвіча прыняць па сваёй лініі патрэбныя меры да бесперабойнага забяспечання торфпрадпрыемстваў харчовымі і прамысловымі таварамі, устанавіўшы належны кантроль за своечасовай і поўнай рэалізацыяй па прызначэнню выдзяляемых торфпрамысловасці фондаў снабжэння.

Разам з гэтым распрацаваць і даць практычныя ўказанні гандлюючым арганізацыям аб абслугоўванні торфпрадпрыемстваў усіх сістэм у частцы гандлю харчовымі і прамысловымі таварамі.

Аб прынятых мерах паведаміць СНК БССР да 16 красавіка.

Абавязаць Мясазбыт т. Гравіта, Рыбзбыт—т. Пячорскага і Цукарзбыт—т. Шаевіча поўнасцю і своечасова рэалізаваць фонды торфарганізацый.

13. Даручыць НК аховы здароўя і НК асветы ў пяцідзенны тэрмін, з удзелам торфздабываючых і профсаюзных арганізацый, распрацаваць і прадставіць СНК БССР план медыка-санітарнага і культ-масавага абслугоўвання торфпрадпрыемстваў.

Абавязаць т. Сурта забяспечыць торфзаводы да 20 красавіка 1935 года ўрачэбным персаналам, медыкаментамі, абсталяванымі прыёмнымі пакоямі з ложкамі і неадкладна арганізаваць на месцах жыхарства рабочых медагляд і санапрацоўку прыбываючых сезоннікаў.

14. Склікаць у Менску 15 красавіка г.г. усебеларускі злёт рабочых тарфянікаў-ударнікаў. Арганізацыю злёта і вырашэнне пытанняў, звязаных з яго правядзеннем, ускласці на камісію ў складзе

т.т. Балціна (старшыня), Гершона, Млодэка, Кузняцова, Фонгауза і Стукалава.

15. СНК і ЦК КП(б)Б абавязаць сакратароў ГК і РК, старшынь РВК і горсоветаў у бліжэйшыя-ж дні праверыць падрыхтаванасць торфпрадпрыемстваў да сезона, узмацніць прадпрыемствы праверанымі кадрамі, аказаць ім практычную дапамогу ў паспяховым завяршэнні падрыхтоўчых да торфсезона работ, асабліва ў частцы ўкамплектавання рабочаю сілай, стварэння належных матар'яльна-бытавых умоў для рабочых і разгортвання партмасавай работы. Устанавіць сістэматычны кантроль і аперацыйную дапамогу ў рабоце торфпрадпрыемстваў.

Старшыня СНК БССР М. ГАЛАДЗЕД

Сакратар ЦК КП(б)Б Н. ГІКАЛО

# Аб партмасавай рабоце ў калгасах імя Калініна, „Комунар“ Мазырскага раёна і імя Войкава, Парыцкага раёна

**Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б**

Заслухаўшы комуністаў-адзіночак калгасаў імя Калініна—т. Хазановіча, імя Войкава—т. Батурына і парторга парткомсамольскай групы калгаса «Комунар»—т. Навіцкага, ЦК КП(б)Б адзначае, што названыя таварышы нядрэнна кіруюць арганізацыйна-гаспадарчым умацаваннем сваіх калгасаў, асабістым прыкладам, як комуністы і старшыні калгасаў, уцягваючы ў барацьбу за разгортванне калгаснай вытворчасці ўсіх калгаснікаў. Побач з гэтым вядзецца прапрацоўка сярод калгаснікаў усіх пастаноў партыі і ўрада, арганізован калгасны актыў, вядзецца работа паліт-гурткоў, аграгурткоў, чытка мастацкай літаратуры (калгасы імя Калініна і «Комунар»).

Аднак, якасць гэтай работы, як роўна і выхаваўчая работа сярод актыва і калгаснікаў, усё яшчэ астаецца на нізкім узроўні, перш за ўсё таму, што таварышы Хазановіч, Батурын і Навіцкі недастаткова працуюць над уласным палітычным развіццём і падрыхтоўкай. Так, напрыклад, т. Навіцкі зусім не выпісвае газет, а тт. Хазановіч і Батурын, хоць і выпісваюць газеты, але чытаюць іх нерэгулярна. Усе трое не чытаюць амаль зусім партыйнай, а таксама мастацкай літаратуры, не ахоплены партыйнай вучобай, мала наведваюць партыйныя сходы, хоць у апошнім выпадку гэта ў значнай меры залежыць ад Парыцкага і Мазырскага райкомаў, нерэгулярна арганізуючых куставыя партыйныя сходы і скліканні комуністаў-адзіночак.

У сваёй практычнай рабоце тт. Хазановіч, Батурын і Навіцкі ўпусцілі важнейшы метад масавай работы—соцспаборніцтва ў брыгадзе, звяне і паміж асобнымі калгаснікамі.

У калгасе імя Калініна зусім не выпускаецца насценгазета; у калгасе імя Войкава і «Комунар» насценгазеты выходзяць ад выпадку да выпадку.

**ЦК КП(б)Б лічыць:**

1. Што тт. Хазановіч, Батурын і Навіцкі павінны ў далейшым так размеркаваць свой рабочы дзень, каб штодзенна мець вольную гадзіну-дзве для чытання газет, партыйнай і мастацкай літаратуры (журналы, брашуры і кнігі).

ЦК абавязвае тт. Хазановіча, Батурына і Навіцкага акуратна наведваць усе правадзімыя РК партыйныя сходы—куставыя, раённыя і інш.

2. Згуртоўваючы ў калгасе актыў, неабходна лепш паставіць работу па яго выхаванню, уцягваць актывістаў у праведзімую ў калгасе культурна-асветную работу (гурткі, клубы), у работу хат-лабараторый, праводзіць часцей гутаркі па тых ці іншых пытаннях гаспадарчага і палітычнага жыцця калгаса. Старанна прапрацоўваць з актывам пастановы і рашэнні партыі і ўрада, даючы паасобным актывістам канкрэтныя даручэнні, у прыватнасці неабходна, каб прыкладны статут сельгасарцелі быў-бы цалкам абгаворан і прапрацован калгасным актывам з тым, каб кожны актывіст мог растлумачыць любы пункт статута калгаснікам.

3. Не камандаваць калгаснікамі, не адміністраваць. Цікавіцца жыццём і работай кожнага калгасніка, часцей бываць у брыгадах, на полі, канюшні, ферме і інш. месцах работы калгаснікаў, заходзіць да іх дамоў, прыслухоўвацца да іх запросаў і патрабаванняў. Асабліва ўважліва адносіцца да заўваг аб недахопах у калгасе, і гэтыя недахопы знішчаць.

4. Палітдні, праводзімыя ў калгасах, неабходна добра падрыхтоўваць, загадзя адбумваючы парадак, дня, падрыхтаваўшы матар'ял, добра з ім азнаёміцца, з тым каб сход праходзіў актыўна, ажыўлена, ператвараючыся ў шырокую гутарку па закранутых пытаннях.

5. Асобае значэнне набывае ў сучасны момант пытанне аб калгаснай дэмакратыі, павышэнні ролі агульных сходаў калгаснікаў, уцягванні іх у абгаварэнне ўсіх пытанняў калгаснага жыцця. Адсюль шырокае прымяненне павінна атрымаць практыка склікання брыгадных, агульнакалгасных вытворчых нарад, работа з паасобнымі групамі калгаснікаў (моладдзю, жанчынамі, старыкамі-практыкамі сельскай гаспадаркі і т. п.).

6. Тт. Хазановічу, Батурыну і Навіцкаму неабходна дабіцца таго, каб падрыхтоўка да сяўбы і веснавая сяўба ў іх калгасах праходзіла пад знакам соцспаборніцтва паміж брыгадамі, звеннямі і паасобнымі калгаснікамі, за высокі ўраджай.

7. Тав. Навіцкаму, як парторгу партыйна-комсамольскай групы, неабходна аказваць усялякую садзейнасць комсамольскай арганізацыі калгаса ва ўзмацненні яе ўплыву на калгасную моладзь, садзейнічаць разгортванню самастойнай работы і ініцыятывы комсамольцаў у калгасе. Асабліва комсамольцы павінны сябе праявіць у культурна-асветнай рабоце (клубы, гурткі, чытка мастацкай літаратуры і т. д.), у прыватнасці неабходна комсамольцам даручыць арганізацыю калгаснай насценгазеты. Яны таксама павінны стаць застрэльшчыкамі разгортвання соцспаборніцтва ў калгасе, уключэння калгасаў ў сталінскі паход імя VII з'езда советаў за развіццё жывёлагадоўлі і ўздым ураджайнасці.

8. Адзначыць, што Мазырскі і Парыцкі райкомы партыі недастаткова кіруюць работай комуністаў-адзіночак. Абавязаць гэтыя райкомы, як роўна і райкомы другіх раёнаў, сістэматычна заслухоўваць на бюро РК парторгаў і комуністаў-адзіночак, а таксама кіраўніцтва імі з боку інструктароў РК, склікаць паміма куставых нарад адзіночак партсходы не радзей 2-х раз у месяц. Практыкаваць скліканне ў райцэнтры раз у два месяцы 3-дзенных канферэнцый парторгаў і комуністаў-адзіночак па бягучых гаспадарча-палітычных і практычных пытаннях (пытанні міжнароднай палітыкі, прапрацоўка рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б і т. д.).

9. Даручыць культпропу ЦК, а таксама ДВБ укамплектаваць па патанёных цэнах спецыяльныя бібліятэчкі комуністаў-адзіночак, уключаючыя ў сябе:

а) праграму і статут партыі;

б) рашэнні XVII з'езда партыі і даклады тт. Сталіна і Кагановіча;

в) Сталін—«Пытанні ленінізма», «Аб рабоце ў вёсцы» і прамову на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў;

г) Якаўлеў—даклад на II з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў і на ленінградскім актыве;

д) мастацкая літаратура: Шолахаў—«Поднятая целина», Горкі—«Мать», Панфёраў—«Брускі» і асноўныя творы беларускіх пісьменнікаў.

Абавязаць райкомы для кожнага парторга і комуніста-адзіночкі выпісваць журнал «Партийное строительство».

10. Даручыць культпропу ЦК сумесна з БІМЗО распрацаваць спецыяльную праграму завочнага навучання парторгаў і комуністаў-адзіночак, ахапіўшы ёю мінімум 30 проц. комуністаў-адзіночак і 50 проц. парторгаў.

11. Абавязаць цэнтральныя і раённыя газеты сістэматычна асвятляць работу комуністаў-адзіночак і парторгаў калгасаў.

Уп. Галоўлітбела № 3305
Тыраж 10.110
467.840 друк. зн. ($9^1/_2$ арк.)
Здана ў набор 13/IV—35 г.
Падпісана да друку 25/IV—35 г.

*Рэдкалегія* К. Мінкін (адк. рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Друкарня ім. Сталіна. Менск, Энгельса, 2. Зак. № 346.



